

*Марыя Саўкевіч (Мацко)*, **лідар Лідскай суполкі “Рунь” у 1988 - 1991 гг.**

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 3-4 ( 43-44 ) ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2008 г.**


## *У НУМАРЫ:*



*На першай старонцы выкладкі здымак Лілеі Лапшынай*





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас:**
**Ліда-2, п/с 7, або передаваць у рэдакцыю.**


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1342 ад 27.03.2007 г.**

**ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ**
**Валеры Сліўкін,**
**старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук**

**РЭДАКТАР**
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, Лідскі р-н,
в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 300 асобнікаў**
**13 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 14**
**Часопіс падпісаны да друку 30. 12. 2008 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 2680 руб.**
**індывід. 6 мес.- 5360 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# КРОНіКА ЛіДЫ



## Перапіс звяроў у Лідскім лясгасе

Спецыялісты Лідскага лясгасу падлічылі, што ў першым квартале 2008 г. на тэрыторыі Лідскага раёна жыло:

ласёў - 119,
аленяў - 17,
казуляў -280,
дзікоў - 305,
зайцоў-русакоў - 3040,
зайцоў-белякоў - 18,
вавёрак - 583,
ваўкоў - 15,
лісаў - 274,
янотападобных сабак - 141,
куніцаў - 177,
тхароў - 396,
гарнастаяў - 329,
ласіцаў - 324,
баброў - 270.



ВОЛЬНАЯ Бярозаўка

Дзень Волі



ВОЛЬНАЯ Бярозаўка

Шаноўныя чытачы!

Наша мова для нас сьвятая...

З сакавіка 2008 года ў Бярозаўцы Лідскага раёна пачала выходзіць штомесячная газета “Вольная Бярозаўка”




Выйшла кніга “Лидским электрическим сетям 50 лет”. Аўтар-складальнік Дарафейчык Аляксандр Мікалаевіч.


***Аляксандра Мурына***

У ліпені 2008 г. Аляксандры Мурынай з в. Жамойдзі споўнілася 100 гадоў. Усяго ў Лідскім раёне жыве 15 чалавек, якія пераступілі 100-гадовы рубеж.








***3 жніўня ў Біскупцах***

У ліпені 2006 года выйшла кніга прозы Данута Бічэль "Хадзі на мой голас". Кніга выдадзена ў Вроцлаве (Польшча) у межах серыі "Гарадзенская бібліятэка". Прэзентацыя выдання прайшла 3 жніўня ў вёсцы Біскупцы, на радзіме паэтэсы. Мерапрыемства праходзіла ў двары дома сястры Д. Бічэль Рэні Супрэнь. На прэзентацыі прысутнічалі даўнія суседзі паэтэсы, жыхары вёскі Біскупцы, а таксама гарадзенскія літаратары, мастакі і грамадскія дзеячы.

10 жніўня 2008 г. група беларускіх альпіністаў ўзышла на пік Леніна (Заалайскі хрыбет, Таджыкістан, 7134 м.). Лідзянін **Дзяніс Штрыкаў** занёс туды сцяг Ліды.





25 жніўня 2008 года ў мікраараёне “Індустрыяльны” асвечаны касцёл у імя Юзафа Каласантага (заснавальніка ордэна піяраў).
Камень у падмурак гэтага касцёла асвяціў Папа Рымскі Ян Павел II.
Асвяціў касцёл Гарадзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч.





У жніўні 2008 г. у Лідзе выйшла кніга паэзіі Алесі Бурак “Прастора дабрыні”






*Старшыня Лідскага райвыканкаму А.П. Худык з узнагароджанымі “Ордэнам Маці”*

У верасні 2008 г. лідзянкі **Зоя Уладзіміраўна Касцюк, Вольга Юр’еўна Кібілда, Тарэса Ўладзіміраўна Сулікоўская, Наталля Міхайлаўна Сурвіла, Алена Францаўна Юшкевіч** узнагароджаны “Ордэнам Маці”.




У верасні 2008 г. у Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшаў фотаальбом “Слонім” лідскага фотамастака Ігара Пешахонава-Міцкевіча.
Наклад 2000 асобнікаў.



20 верасня каля гасцініцы “Ліда” ўстаноўлена скульптура камандзіровачнага.
Скульптар Уладзімір Жбанаў.



У верасні 2008 г. **Кацярына Масквіна** з Бярозаўкі стала “Міс Прынёмання - 2008”.

У канцы верасня каля лідскай лазні ўстаноўлена скульптура заўзятара класічнага лазневага працэсу з парылкай, венікам, півам і рыбкай.



## 28 верасня прайшлілі выбары ў Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь

### *Дэпутаты ад Лідчыны*



**Клебан Тамара Міхайлаўна.**

Намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па грашова-крэдытнай палітыцы і банкаўскай дзейнасці.

Нарадзілася 13 студзеня 1964 года ў в. Шасцілы Шчучынскага раёна Гарадзенскай вобласці. Адукацыя вышэйшая - скончыла Беларускі палітэхнічны інстытут, інжынер-эканаміст. З'яўляецца слухачом Інстытута дзяржаўнай службы Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці міжнародныя адносіны.

Працоўную дзейнасць пачала ў вытворча-эканамічных службах будаўнічых арганізацый г. Ліды. Працавала загадчыкам сектара па працы, намеснікам начальніка, начальнікам кіравання па эканоміцы і рынкавых адносінах, начальнікам кіравання эканомікі Лідскага гарвыканкаму, Лідскага райвыканкаму. Узнагароджаная Ганаровай граматай Міністэрствы эканомікі Рэспублікі Беларусь.

Замужам, мае сына.



**Арда Міхаіл Сяргеевіч.**

Намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце.

Нарадзіўся 28 верасня 1966 года ў гарадскім пасёлку Дзятлава Гарадзенскай вобласці. Адукацыя вышэйшая - скончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут - ветэрынарны лекар; Расійскую акадэмію дзяржаўнай службы пры Прэзідэнце Расійскай Федэрацыі па спецыяльнасці дзяржаўнае і муніцыпальнае кіраванне.

Працоўную дзейнасць пачаў слесарам у калгасе "Расія" Дзятлаўскага раёна. Служыў у шэрагах Узброеных Сіл. З'яўляўся Першым сакратаром Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі (2003 - 2006 г). Абіраўся дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання, быў намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенту. Узнагароджаны падзякай Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Ганаровай граматай Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Ганаровай граматай Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Жанаты, мае сына, дачку.



**Пранюк Віктар Францавіч.**

Абраны членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь чацвёртага склікання ад Гарадзенскай вобласці.

Член Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве.

Нарадзіўся 30 красавіка 1973 года ў в. Пескі Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт (настаўнік фізікі і інфарматыкі). Працаваў настаўнікам фізікі і інфарматыкі агульнаадукацыйнай школы № 11, дырэктарам агульнаадукацыйнай школы № 3 г. Ліды. Дырэктар дзяржаўнай установы адукацыі "Агульнаадукацыйны ліцэй № 1 г. Ліда". Дэпутат Лідскага раённага Савета дэпутатаў.

Член дэлегацыі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па ажыццяўленні кантактаў з Паўночнай Радай.

3 - 5 кастрычніка ў Лідзе прайшоў шэраг мерапрыемстваў да 685 угодкаў горада Ліды
*(Пасля кронікі - асобны рэпартаж.)*





11 кастрычніка 2008 г. асвечана жыватворная крыніца каля в. Феліксава Лідскага раёна.





У лістападзе 2008 г. Уладзімір Малец узнагароджаны медалём "За працоўныя заслугі".



**МАЛЕЦ Уладзімір Міхайлавіч.**

Нарадзіўся 18 кастрычніка 1955 года ў вёсцы Геранёны Іўеўскага раёна Гарадзенскай вобласці. Адукацыя вышэйшая - скончыў Беларускі палітэхнічны інстытут, інжынер-будаўнік; Інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання КПБ, паліталаг, выкладчык сацыяльна-палітычных дысцыплін у вышэйшых і сярэдніх навучальных установах. Працаваў інжынерам кіравання капітальнага будаўніцтва Ашмянскага райвыканкаму, інжынерам Лідскай майстэрні праектна-тэхналагічнага інстытута "Сельгастэхпраект", інжынерам, старэйшым інжынерам будаўнічага трэста № 19 у г. Лідзе, інструктарам, загадчыкам прамыслова-транспартнага аддзела Лідскага гаркаму КПБ, галоўным інжынерам кіравання капітальнага будаўніцтва Лідскага гарвыканкаму, старшынём Лідскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, старшынём Лідскага гарвыканкаму, намеснікам старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму, членам Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па жыллёвай палітыцы, будаўніцтву, гандлю і прыватызацыі, намеснікам міністра будаўніцтва.

Узнагароджаны Ганаровай граматай Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Жанаты, мае двух дачок.

З 10 па 14 лістапада 2008 года ў Маскве прайшла сельгасвыстава “Залатая восень - 2008”.
Гандлёвы дом “Ліда-рэгіён” атрымаў залаты медаль выставы і дыплом..
Генеральны дырэктар Вячаслаў Жылінскі.



***Вячаслаў Жылінскі***



У сярэдзіне лістапада 2008 г. у Лідзе каля паштамту ўстаноўлены знак “Нулявога кіламетра”.
На знаку ўказаны адлегласці да 39 гарадоў Беларусі і свету.
Аўтары Аляксандр Анціпін, Рычард Груша.



У лістападзе 2008 года шклозавод “Нёман” адзначыў сваё 125-годдзе.
Да юбілею створаны ўнікальны выраб - дакладная копія шклянога кубка Радзівілаў 18-га стагоддзя.
Аўтар Алена Ткачова.
Галоўны мастак завода Сяргей Шэцін.



Да 100 год з дня нараджэння беларускага паэта **Міколы Засіма** лідскі скульптар Рычард Груша вырабіў мемарыяльную дошку.
Дошка ўстаноўлена 19 лістапада 2008 г. у Пружанах.







У снежні 2008 года ў Лідзе - Варшаве выйшла кніга Ірэны Стасевіч-Ясюковай “Лідзянка. Пра Марыю Стасевіч - маю маму - успаміны”. (На польскай мове.)




У снежні 2008 года Лідскі дзіцячы дом выдаў кніжачку Станіслава Судніка “О, Лідскі край, табою ганаруся”.




Да 210-х угодкаў з дня нараджэння Адама Міцкевіча (25 снежня 2008 г.) лідскі скульптар Рычард Груша выканаў мемарыяльную дошку.
Барэльеф А. Міцкевіча выразаны з белага мармуру.
Дошка ўстаноўлена ў Наваградку.

# Лідзе - 685

3-5 кастрычніка 2008 года Ліда адзначыла 685 гадоў з дня заснавання. Пасля доўгага змагання на Лідчыну вернута гістарычная праўда, і адлік гадоў горад пачаў весці ад 1323 года, калі Вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Гедзімін загадаў заснаваць Лідскі замак.

Пра значнасць гэтай падзеі можна коратка сказаць наступнае. Барацьба лідскіх краязнаўцаў за вяртанне сапраўднай даты заснавання горада пачалася адразу пасля 1980 года, калі камуністычныя ўлады ні з таго - ні з сяго прызначылі дату заснавання Ліды на 1380 год. Але саматужных краязнаўцаў 80-х ніхто слухаць не збіраўся, ды і сказаць уголас яны што-небудзь не маглі. Гістарычныя веды пра Ліду, ды і пра Беларусь наогул былі крайне абмежаваныя. Камуністы сышлі. Але і за дзесяць гадоў незалежнай Беларусі ў Лідскім пытанні нічога не змянілася. Хіба што, загаварылі пра тры даты: 1180, 1323 і 1380 гады. Пры гэтым дату 1180 "падагравалі" з адной мэтай - каб не дапусціць наўпроставага сутыкнення датаў 1323 і 1380. Але яно было непазбежнае.

У 1999 годзе выйшаў 9-ты том "Беларускай Энцыклапедыі", дзе напісана: ***"Датай узнікнення Ліды лічаць 1323 - пачатак будаўніцтва Лідскага замка"***. Лічаць то лічаць, але хто лічыць? У 2003 годзе гэтае пытанне з усёй вастрынёй было пастаўлена ў "Лідскім летапісцы" (артыкул В. Сліўкіна і С. Судніка "Лідзе 680 гадоў"), калі стала зразумелым, што 680-годдзе Ліды ў горадзе ніхто святкаваць не збіраецца. Ды і не сабраліся. У 2004 годзе гэтае пытанне было пастаўлена ўжо на круглым стале паміж грамадскасцю і ўладай. Як бы ўдалося прыйсці да агульнай даты - 1323. І ў тым жа 2004 годзе выйшла кніга "Памяць. Ліда. Лідскі раён". Там запісана: ***"1323 - Заснаванне Ліды вялікім князем літоўскім Гедымінам"***. І вось велічнае святкаванне 685-годдзя Ліды ставіць кропку. Адлік ідзе ад 1323 года.

У горадзе праведзены грандыёзны аб'ём работаў па добраўпарадкаваннні, і выкананы яны з вялікім густам і якасцю. Былі задзейнічаны ўсе службы і прадпрыемствы горада. Зроблена столькі, колькі не рабілася ні ў адзін папярэдні год, можа ад Гедзіміна. Чаго варта толькі рэканструкцыя вуліц Энгельса і 1-й Навапрудскай. Праект быў непад'ёмны для гарадскога бюджэту, а паднялі. Яшчэ два такія ўдарныя гады і Ліду было б не пазнаць.

Пачаліся юбілейныя дні ў пятніцу, 3 кастрычніка, з унясення ў горад Дабрадатнага агню ад труны Гасподняй.

Архіепіскап Навагрудскі і Лідскі Гурый прыбыў у Ліду, каб асабіста прыняць удзел у гэтай важнай для горада падзеі. Святары Лідскага дабрачыння, вернікі сустрэлі ўладыку ў Шайбаках, адкуль з хросным ходам



адправіліся ў цэнтр горада. Па ходзе руху працэсіі ўладыкам Гурыем быў асвечаны памятны знак ваярам-чыгуначнікам.

У цэнтры горада, каля помніка загінулым за вызваленне Ліды, удзельнікі хроснага ходу спыніліся. Тут ад дабрадатнага агню, дастаўленага з Ерусаліма, быў запалены Вечны агонь.

У Архістратыга-Міхайлаўскім Кафедральным саборы адбылося святочнага набажэнства. Асабліва ўрачыстым момантам стала ўручэнне абраза Божай Маці, якую стршыня Лідскага райвыканкаму Андрэй Паўлавіч Худык перадаў у дарунак сабору.

Свецкая частка святкавання 685-годдзя Ліды ў той жа дзень пачалася з правядзення рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай гісторыі нашага горада, у працы якой прынялі ўдзел навукоўцы з Гародні, Менска, краязнаўцы з Ліды.

У праграму канферэнцыі былі ўключаны наступныя даклады:

**ПЛЕНАРНАЕ ПАСЕДЖАННЕ**

1. Горад Ліда на старонках летапісаў і хронік Вялікага Княства Літоўскага. *Марозава Святлана Валян-*



*цінаўна, доктар гістарычных навук, прафесар (г. Гародня).*

2. Православная жизнь города Лиды в XIX - начале XX вв. *Чарапіца Валерый Мікалаевіч, кандыдат гістарычных навук, прафесар (г. Гародня).*

3. Развитие г. Лиды в первое послевоенное десятилетие: страницы истории. *Верхась Уладзімір Паўлавіч, доктар гістарычных навук, прафесар (г. Гародня).*

4. Социально-экономическое и культурное развитие Лидского региона в контексте развития Республики Беларусь. *Худык Андрэй Паўлавіч - старшыня Лідскага раённага выканаўчага камітэта.*

**СЕКЦЫЯ 1**
**ЛІДА І ЛІДЧЫНА АД СЯРЭДНЯВЕЧЧА ПА НОВЫ ЧАС**

Кіраўнік: **Соркіна І.В.**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Сакратар: **Занеўскі С.В.**

1. Шляхта Лідскага павету. *Амелька Сяргей Уладзіміравіч, кандыдат гістарычных навук (г. Гародня).*

2. Гербы шляхты Лідскага павету ў XVI-XVIII ст. *Шаланда Аляксей Іванавіч, кандыдат гістарычных навук (г. Менск).*

3. Лідская шляхта ў палітычным крызісе Рэчы Паспалітай 1587 г. *Падалінскі Уладзімір Аляксеевіч, кандыдат гістарычных навук (г. Менск).*

4. Лідскі піярскі калегіюм. *Самусік Андрэй Фёдаравіч, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Менск).*

5. Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. *Лаўрэш Леанід Лявонцьевіч (г. Ліда).*

6. Хозяйственные реформы на Лидчине в XVI веке в освещении дореволюционной российской историографии. *Дземідовіч Анатоль Віктаравіч (г. Ліда).*

7. Пасольская дакументацыя Лідскага сойміка ў першай палове XVII ст. *Галубовіч Віталь Уладзіміравіч, кандыдат гістарычных навук (г. Гародня).*

8. Крыніцы з гісторыі Лідскай шляхты канца XVIII-XIX ст. *Занеўскі Сяргей Віктаравіч (г. Гародня).*

9. Мястэчкі Лідскага ўезда ў XIX пачатку XX ст. *Соркіна Іна Валер'еўна, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Гародня).*

10. З гісторыі гарадскога самакіравання г. Ліды (канец XIX ст.). *Грыбко Ірына Леанідаўна (г. Менск).*

11. Ліда па матэрыялах перапісу 1897 года. *Кітурка Ірына Фёдараўна, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Гародня).*

12. Лідчына ў нацыянальна-вызваленчым руху другой паловы XIX ст. *Радзюк Аляксандр Рыгоравіч, кандыдат гістарычных навук (г. Гародня).*

13. Участие населения Лидского уезда в восстании 1863 г. *Карповіч Алег Валер'евіч (г. Бярэсце).*

14. Проблемы истории Беларуси в научном творчестве А.С. Будиловича. *Курстак Юрый Іосіфавіч (г. Гародня).*

15. Римско-католическая церковь в Лидском уезде в 1864-1914 гг. *Ганчар Андрэй Іванавіч, кандыдат гістарычныхнавук (г. Гародня).*

16. З гісторыі Жымянскай Свята-Пакроўскай царквы Лідскага павету. *Васілючак Міхаіл Вікенцьевіч, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Гародня).*

**СЕКЦЫЯ 2**
**ЛІДА І ЛІДЧЫНА Ў НАВЕЙШЫ ЧАС**

Кіраўнік: **Крэнь І.П.**, кандыдат гістарычных навук, прафесар. Сакратар: **Ашмяна В.А.**

1. Город Лида в годы установления Советской власти (1919-1920). *Фёдараў Ігар Алегавіч, кандыдат гістарычыых навук, дацэнт (г. Гародня).*

2. Ліда і Лідчына ў складзе ІІ Рэчы Паспалітай (1921-1939 гг.). *Загідулін Аляксей Мікалаевіч, кандыдат гістарычных навук (г. Гародня).*

3. Польские политические партии на Лидчине в 1918-1926 гг. *Гецэвіч Андрэй Казіміравіч, кандыдат гістарычыых навук, дацэнт (г. Гародня).*

4. Дзейнасць БХД на Лідчыне. *Мазько Эдуард Аляксандравіч, кандыдат гістарычных навук (г. Гародня).*

5. 17 сентября 1939 г. - поворотный момент в жизни белорусов. *Кулеш Анатоль Фёдаравіч (г. Ліда).*

6. Сопротивленне немецко-фашистским оккупантам на территории Лидского района в годы Великой Отечественной войны. *Ярмусік Эдмунд Станіслававіч, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Гародня).*

7. Праваслаўная царква на Лідчыне ў гады Вялікай Айчыннай вайны. *Сілава Святлана Уладзіміраўна, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Гародня).*

8. Освобождение г. Лиды от немецко-фашистских захватчиков. *Іода Мікалай Віктаравіч (г. Ліда).*

9. Деятельность польского подполья на территории Лидского района в послевоенные годы (1944-1949). *Рыбак Наталля Аляксандраўна, кандыдат гістарычных навук (г. Гародня).*

10. Дзейнасць акаўскіх фармаванняў на Лідчыне (1939-1953 гг.). *Коўкель Іван Іванавіч, кандыдат гістарычных навук, прафесар (г. Гародня).*

11. Аграрные преобразования на Лидчине в 1939-1953 гг. *Белазаровіч Віктар Аляксандравіч, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Гародня).*

12. Горад Ліда - буйны цэнтр хімічнай прамысловасці Беларусі. *Крэнь Іван Платонавіч, кандыдат гістарычных навук, прафесар (г. Гародня).*

13. Развитие образования в Лидском районе в 1944-2007 гг. *А шмяна Вольга А натольеўна (г. Ліда).*

14. Развіццё пейзажнага жанру ў творчасці Браніслава Яманта - мастака Лідчыны. *Загідуліна Марына Аляксееўна (г. Гародня).*

15. Музейный маркетинг Лидского замка как часть белорусской экономики впечатлений. *Карэліна Надзея Уладзшіраўна (г. Менск).*

16. Михаил Минкевич. От учителя до министра. *Міханава Наталля Анатольеўна (г. Ліда).*

Асаблівая каштоўнасць выступаў, якія прагучалі на канферэнцыі ў тым, што пры іх падрыхтоўцы дакладчыкі не выкарыстоўвалі шырока вядомыя факты, ужо выкладзеныя ў друкаваных выданнях пра наш край. Паглыбіўшыся ў малавывучаныныя архіўныя дакументы (а такіх нямала!), можна вельмі могае запазычыць

з гісторыі Лідчыны, дагэтуль невядомага, не агучанага. Хоць крыніцамі цікавых звестак могуць быць не толькі летапісы, дакументы і перыёдыка мінулых гадоў. Сярод нас, што і пацвердзіла канферэнцыя, жывуць людзі, якія ў свой час апынуліся ў эпіцэнтры падзей, што адбываліся ў горадзе і сталі ўжо гісторыяй, і трэба спяшацца зафіксаваць успаміны гэтых жывых сведак.

Гісторыя, навука якая развіваецца, а гісторыя Лідчыны, у прыватнасці, мае шмат загадак, інтрыгаў, не да канца вывучаных фактаў...

Вынікам працы канферэнцыі стала рашэнне аб тым, што ўсе выступы, пасля неабходнай дапрацоўкі і дапоўненыя ілюстрацыйным матэрыялам, неўзабаве будуць сабраныя і выдадзеныя пад адной вокладкай. Можна не сумнявацца, гэтая кніга аб гісторыі Лідчыны не толькі зацікавіць многіх сёння, але і стане каштоўным дакументам для будучых пакаленняў. Рыхтуецца таксама і яе электронная версія.

Арганічна ўпісаўся ў тэматыку канферэнцыі памятны камень, устаноўлены да юбілею лідскім скульптарам Рычардам Грушвм. На камені выбіты словы з тастаманту Вялікага князя Гедзіміна, дзе Ліда ўпамінаецца сярод першых 14 гарадоў Вялікага Княства Літоўскага: ***“Тых всъх сынов за живота своего порядно подълив панствами удьльными Кестутови Троки Старые зо всъм князством Жамойтским з Гродном и Ковном, Упитом и Лидою аж до Подляша при границъ пруской идучиэ”.***



Россып творчых талентаў сабрала 3 кастрычніка вялікая зала музычнай школы. Вядомыя паэты Лідчыны і пачаткоўцы не маглі застацца сам-насам, калі ўвесь горад святкаваў свой юбілей. У адрозненне ад машынабудаўнікоў, кандытараў, прадаўцоў і іншых працалюбівых лідчан, што сваёй канкрэтнаю працай увасабляюць багацце роднай старонкі, літаратары мацуюць яе трапным словам, выявай лірычнага вобраза.

Да 685-годдзя Ліды лідскія літаратары няблага папрацавалі. Выйшла анталогія твораў лідскіх літаратараў пра беларускую мову “Шануйце роднае слова”. У зборнік увайшлі творы 47 аўтараў. Станіслаў Суднік выдаў зборнік вершаў “Лідскія скрыжалі”, куды ўвайшлі творы, прысвечаныя фрагментам лідскай гісторыі. Лідская цэнтральная бібліятэка імя Янкі Купалы выдала зборнік вершаў, прысвечаных Лідзе “Мой любы горад Ліда”.




У 2008 годзе прайшоў літаратурны конкурс у гонар Ліды, які абʼявілі райвыканкам і “Лідская газета”. Больш за 50 аўтараў даслалі на конкурс свае творы, і ўсе яны ўвабралі ў сябе любоў да роднага горада, вялікае пачуццё пяшчоты да роднага краю.




Як зазначыла на сустрэчы член журы, загадчыца вучэбна-метадычнага кабінета перыядычнага друку і фотажурналістыкі Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Л. Патракова, цяжка было вызначыць пераможцаў — настолькі ўзнёсла гучалі ў вершах вядомых і маладых паэтаў вобразнасць, пяшчота мовы, патрыятычны настрой творцаў.




3 нагоды ўручэння ўзнагарод пераможцам конкурсу, а імі сталі У. Васько, І. Масян, А. Бурак, С. Сліўко (пасмяротна), Іван Гушчынскі, старшыня райвыканкаму Андрэй Худык шчодра адарыў прысутных у зале творцаў цёплымі словамі падзякі за адданасць свайму гораду. Андрэй Паўлавіч зазначыў, што слава горада складаецца з дзвюх частак: матэрыяльных набыткаў і духоўных каштоўнасцей. Сёння Ліда моцная эканамічна, але і духоўнае жыццё віруе не менш плённа. Пацвярджэнне таму - высокія дасягненні нашых паэтаў, празаікаў, мастакоў, музыкантаў на рэспубліканскай творчай ніве.

Літаратурная ўдача на гэты раз выпала пецярым аўтарам. Аднак творчасць людзей не вымяраецца адным конкурсам. Лідскім паэтам адкрыта шырокая дарога да крыніц натхнення і новых творчых набыткаў, і маюцца ўсе падставы сцвярджаць: мы яшчэ не раз пачуем і



*Бальнымі танцамі пачынаецца літаратурная імпрэза*



*Лідскія паэты. На пярэднім плане У. Васько.*

прачытаем на старонках "Лідскай газеты" таленавітыя радкі Вольгі Цяслюк, Ігара Кудлы, Івана Гушчынскага, Міхася Мельніка і многіх іншых мясцовых літаратараў, якім у нашым славутым краі выпаў зайздросны лёс тварыць на радасць іншым.

**4 кастрычніка**, другі дзень святкавання, пачаўся з адкрыцця памятнага знака воінам-чыгуначнікам.

Паравоз, усталяваны на скрыжаванні вуліц Энгельса і Чаротавай, прывітаў лідзян, якія прыйшлі на мітынг, як бы ўсведамляючы ўсю ўрачыстасць моманту. Лёгкае хваляванне і гонар чыталіся на тварах людзей, апранутых па форме чыгуначнікаў і грамадскасці горада. Павіншаваў прысутных са знамянальнымі падзеямі -- 685-годдзем Ліды і адкрыццём памятнага знака -- і падзякаваў за праведзеную працу старшыня раённага Савета дэпутатаў Уладзімір Цімчанка. Начальнік транспартнага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі" Іван Каладзенка, крануўшыся старонак гісторыі, адзначыў праяўленыя ў гады вайны доблесць і гераічнасць калегаў, сярод якіх былі і лідзяне. Працягнуў дадзеную тэму, распавёўшы пра герояў-падпольшчыкаў лакаматыўнага дэпо машыніста Міхаіла Ігнатава і слесара Аляксандра Клімко, ветэран працы, былы начальнік лакаматыўнага дэпо Ліда Барыс Саяпін. Ім



*Адкрыццё памятнага знака*

таксама былі названыя імёны воінаў-чыгуначнікаў, якія пасля заканчэння вайны працавалі ў мясцовым дэпо. Гэта былыя машыністы калоны асобага рэзерву Міністэрства шляхоў зносін Фёдар Драздоў, Леанід Кукушкінін, Васіль Мухін, а таксама ардэнаносцы Віктар Жыватоў і Віктар Кардаш, якія ваявалі на некалькіх баявых франтах. Актыўны ўдзел у аднаўленні чыгуначнага вузла Ліда прымалі Аляксей Мітрафанаў, Аляксандр Князеў і іншыя.

Нажаль ніхто ні адным словам не згадаў сотні тых жанчын, якія ў 1914 годзе ўручную, цераз балота і пойму Лідзейкі цягнулі чыгуначну каляю, каля якой пастаўлены памятны знак, да Лідскага аэрадрома.

Але вось перарэзаная сімвалічная чырвоная стужачка, з мемарыяльнай дошкі знята пакрывала. У памяць аб воінах-чыгуначніках да пастамента ўскладзены вянкі і кветкі і абвешчана хвіліна маўчання.

Другую падзею 4 кастрычніка смела можна назваць ключавой ва ўсёй юбілейнай праграме. У Лідзе пасля працяглага рамонту быў адчынены Гістарычна-мастацкі музей.

У свой час лідскі музей размяшчаўся а будынку цяперашняга Кафедральнага сабора па вуліцы Савецкай, а затым, у 1998 годзе, пераехаў у будынак па вуліцы Перамогі. Паколькі будынак не быў прыстасаваны пад гэтую ўстанову культуры і ў дадатак патрабаваў рамонту, з 2002 года тут пачалі весціся будаўнічыя работы. Аднак працэс абнаўлення ішоў млява. Толькі ў 2007 годзе па патрабаванні старшыні райвыканкаму будынак музея пачаў капітальна рамантавацца. Грошы для гэтага былі выдзелены з раённага бюджэту. Але велізарную работу правялі і супрацоўнікі музея начале са сваім дырэктарам Ганнай Драб

...Адкрыццё музея прымеркавалі да юбілею Ліды. У чаканні гэтага ўрачыстага мерапрыемствы нямала жыхароў і гасцей горада сабралася на ганку абноўленага будынка. У працэсе тэатралізаванага дзейства права перарэзаць святочную стужачку было прадстаўлена старшыні райвыканкаму Андрэю Худыку і начальніку кіравання культуры аблвыканкаму Аляксандру Лойку. А высвянціў будынак архіепіскап Наваградскі і Лідскі Гурый.



*Лідскі музей*

На другім паверсе наведвальнікі музея з вялікай цікавасцю знаёміліся з выставамі, адмыслова падрыхтаванымі супрацоўнікамі музея да дня яго адкрыцця і прымеркаванымі да 685-годдзя горада. У першую чаргу - з выставай “Вядзём пачатак свой ад Гедзіміна”, якую рыхтаваў кандыдат геаграфічных навук Валеры Сліўкін. На выставе прадстаўлены ўнікальныя экспанаты, знойдзеныя ў розны час у Лідскім замку: сталёвы корд 15 стагоддзя, шпора, кінжал, цвікі, крукі, арбалет. Можна нават убачыць цагліну з сцяны замка з адбіткамі пальцаў майстра.

Унікальная і другая выстава, размешчаная ў адной з залаў, -- “Час і людзі”, якую рыхтавалі да адкрыцця Н. Каладзяжная і Н. Валынец. Гадзіннікі - сведкі шматлікіх гістарычных падзей. Ва ўсёй разнастайнасці яны прадстаўленыя наведвальнікам. Таксама можна ўбачыць прадметы, якія захоўваюцца ў фондах музея і кожны з якіх распавядае пра лёс чалавека, пра падзеі і нават пра цэлыя адрэзкі эпохі. А самымі неацэннымі супрацоўнікі музея лічаць фрагмент дзіцячага абутку і дзіцячы мячык, якія былі знойдзеныя пры правядзенні раскопак пахаванняў мірных жыхароў, расстраляных у гады вайны фашыстамі ў Лідзе ў раёне вуліцы Чырвонаармейскай. Мячык неўзабаве будзе адпраўлены ў Фларыду і прадстаўлены на сусветнай выставе, прысвечанай ахвярам халакосту.

Яшчэ адна з выставачных залаў музея стала карціннай галярэяй. У ёй да юбілею горада нашы мастакі выставілі свае работы. Выстава называецца “Натхненне”. Рыхтавалі выставу Т. Нікіфарава і В. Лук’ян.



***Фрагмент экспазіцыі “Прырода Лідчыны”***

Музей расхінуў дзверы для першых наведвальнікаў. А яны не маглі адразу не адзначыць выдатны інтэр’ер з выкарыстаннем сучасных матэрыялаў ва ўсіх памяшканнях. Тут няма дробязяў. Кожная дэталь падабраная да месца і густоўна. Ужо блакітнаваты хол наладжвае наведвальнікаў на адмысловы лад: з столі струменіцца мяккае святло, у нішах сценаў гіпсавыя работы мясцовага скульптара Вадзіма Вараб’ёва адлюстроўваюць гісторыю і прыроду нашага краю.

Наогул, залаў у музеі чатыры. На першым паверсе ў адной з іх размясцілася сталая экспазіцыя “Прырода Лідчыны”. Яна ўключае экспанаты, якія прадстаўляюць больш за 110 відаў жывёл і раслін. Экспазіцыя суправаджаецца гукавым і відэаматэрыялам.



***Лідскія мастакі ў музеі***

У музеі адчынена і зала для правядзення камерцыйных выстаў. Размешчана яна на першым паверсе будынка.

Работнікі музея заўсёды з адмысловым трапятаннем ставяцца да новых паступленняў у іх фонды, таму што ўпэўненыя: гэта выкліча цікавасць у наведвальнікаў, стане здабыткам лідзян. Новая экспазіцыя музея так і завецца - "Новыя паступленні". І цікавасць да яе адмысловая. Бо ўсе прадметы гэтай экспазіцыі перадаў музею старшыня райвыканкаму Андрэй Худык. А былі яны падораныя яму падчас наведвання Лідчыны шматлікімі дэлегацыямі гарадоў, раёнаў, амбасад Расіі, Украіны, Польшчы, Азербайджана, Казахстана, Турцыі, Індыі і іншых краін.

На ўрачыстым адкрыцці раённая ўлада зрабіла музею падарунак. Для плённай працы супрацоўнікаў ад імя райвыканкаму былі падораныя відэакамера і кампутар. Зрэшты, гэтае толькі дапаўненне да асноўнага вялікага і дарагога падарунку, як для супрацоўнікаў, так і для ўсіх лідзян, - да новага будынка музея.

Лагічным працягам музейнай выставы "Час і лёс" стаў сонечны гадзіннік, які да юбілею горада заняў сваё месца каля кінатэатра "Юбілейны".

Момант устаноўкі каменнай статуі вядомага лідскага скульптара Рычарда Грушы можна назваць урачыстым - гадзіннік пачаў адлік новага часу Ліды.

- *Такая задумка існавала ў нас даўно,* -заўважыў начальнік ЛГУП ЖКГ Сяргей Саўко. - *Спачатку планавалася ўсталяваць скульптуру ля возера, аднак, лічу, толькі тут самае прыдатнае месца для эксклюзіўнага твору з каменю (нічога падобнага няма ні ў адным беларускім горадзе). Побач сквер, лідзяне могуць пасядзець на зэдлях, тут шпацыруе моладзь, і, думаю, не памылюся, калі скажу, што ўжо ў бліжэйшы час ля сонечнага гадзінніка будуць спыняцца вясельныя картэжы, а традыцыяй лідзян-маладых стане пачатак адліку часу сваіх сем'яў.*



***Рычард Груша каля сонечнага гадзінніка***

Скульптура, якая ўяўляе сабой цыферблат, што ляжыць на трох кітах, выканана з натуральнага каменю і важыць 5 тон 250 кілаграмаў. Незвычайнае афармленне працы натхняе на разважанні аб вечным.

- Старажытныя верылі, што зямля трымаецца на трох кітах, - распавёў аўтар скульптуры Рычард Груша.— У маёй працы цыферблат - час - сімвалізуе вечнасць, якая трымаецца на тых жа пачатках. Сэнс нясуць і тры розныя колеры камянёў.

Як распавёў таксама скульптар, у сціснутыя тэрміны праца выкананая няпростая - амаль 20 дзён па многу гадзін у суткі майстар працаваў, каб паспець да свята горада, дапамагаў бацьку-скульптару і 15-гадовы сын Антон. Праца паспяхова выканана, нягледзячы на ўзніклыя цяжкасці: у першую чаргу, гэта разлікі вугла падзення сонечных прамянёў. І тут аўтару прыйшоў на дапамогу падпалкоўнік у адстаўцы Юры Сакаленка, які з дакладнасцю да градуса зрабіў разлікі і дапамог усталяваць сонечны гадзіннік.

- *Зараз мы ставім гадзіннік на летні час,* - распавёў Юры Мікалаевіч. - *З пераходам на зімовы каменны цыферблат будзе мець адну гадзіну розніцы з рэальным часам.*

У сонечны гадзіннік, як, дарэчы, і ў іншыя працы, скульптар Рычард Груша ўклаў сваё майстэрства, талент і, вядома ж, часцінку душы. *"Кожны чалавек павінен пакінуць пасля сябе плён уласнай працы,* - гаворыць скульптар. - *Я хачу, каб ён быў не на гады - на вякі".*

А афіцыйнае адкрыццё свята адбылося 4 кастрычніка на цэнтральнай плошчы горада. Гасцей і лідзян сустракалі вядоўцы папулярных праграм Ларыса Грынько (СТБ) і Аляксандр Сярэбраннікаў (АНТ), якія на час сталі гаспадарамі канцэртнай пляцоўкі. Надвор'е спрабавала ўнесці свае карэктывы, палохаючы ўдзельнікаў мерапрыемства шэрымі хмарамі і зрываўшымся з іх дажджом, але атмасфера свята нават у гэтую непагадзь была сагрэтая цеплынёй творчых калектываў, якія паказалі тэатралізаванае прадстаўленне. Разам з вядоўцамі праграмы і ўдзельнікамі мастацкай самадзейнасці гледачы перагарнулі старонкі летапісу горада.

Узнікненне горада з рамантычнай і прыгожай назвай... Прыгожая легенда, звязаная з яго імем... Вяселле Ягайлы і Соф'і, ад якіх паўстаў магутны род Ягелонаў... Атрыманне Лідай Магдэбургскага права ў сярэднявеччы... Будаўніцтва Фарнага касцёла па праекце архітэктара Глаўбіца... Ваеннае ліхалецце...

Маляўніча, эмацыйна і вельмі артыстычна прадставілі гледачам гісторыю горада вядомыя калектывы Лідчыны.

На юбілеі горада прысутнічаў старшыня Гарадзенскага аблвыканкаму Ўладзімір Саўчанка, які высока цэніць дасягненні жыхароў Ліды, кіраўніцтва горада начале з Андрэем Худыкам. Звяртаючыся да лідзян, Уладзімір Ягоравіч сказаў:

- *Ліда будуецца. Растуць новыя мікраараёны, добраўпарадкоўваюцца вуліцы, паркі і скверы, і сёння ваш горад - адзін з найпрыгожых населеных пунктаў Прынёманскага краю. Ён валодае высокім прамысловым, інтэлектуальным і кадравым патэнцыялам, і кожны лідзянін мае права ганарыцца, што жыве, вучыцца і працуе ў горадзе з багатай гісторыяй і добрымі традыцыямі.*

Старшыня райвыканкаму Андрэй Худык, якому

старшынём аблвыканкаму былі ўручаны вітальны адрас і памятны сувенір, у сваю чаргу прывітаў дэлегацыі Масквы, Літвы, Польшчы, Ізраіля, Украіны, якія прысутнічалі на юбілеі горада.

*- Гарады, як і людзі, маюць сваю біяграфію,* - сказаў Андрэй Паўлавіч, - *а Ліда - адно з найстарэйшых селішчаў Беларусі.*

Адзначыў Андрэй Худык і тое, што Лідская зямля спазнала нямала выпрабаванняў у розныя гады і панесла нямала страт, асабліва падчас вайны. Непазнавальна змянілася аблічча горада, набыло незвычайны каларыт дзякуючы стваральнай працы шматлікіх пакаленняў лідзян.

Святочны парад арганізацый, працоўных калек-тываў раёна пачаўся з шэсця вайскоўцаў авіябазы і Лідскага памежнага атрада. Урачыста ішлі прадстаўнікі Ўзброеных Сіл нашай краіны па плошчы, а за імі, дэманструючы патэнцыял маладосці, запалу і аптымізму, ішлі школы гарада і творчыя калектывы, банкі і прамысловыя прадпрыемствы.

Першым сярод працоўных калектываў ішоў калектыў найстарэйшай на Лідчыне арганізацыі - Раённага вузла паштовай сувязі. У першай палове 18 стагоддзя былі закладзеныя яе традыцыі, а сёння ў калектыве раённага вузла паштовай сувязі працуе больш за 300 працаўнікоў. Далей прадпрыемствы ішлі па гадах заснавання.

1876 - ААТ "Лідскае піва"
1884 - Лакаматыўнае дэпо
1884 - Лідская дыстанцыя каляі
1884 - Станцыя Ліда
1901 - ААТ "Лідсельмаш"
1922 - Беларусбанк
1922 - УАЗ "Лідская ЦРБ"
1927 - ААТ "Лідскі завод электравырабаў"
1929 - ААТ "Лідская абутковая фабрыка"
1939 - ГАУПП "Лідская друкарня"
1939 - Лідскае райпо
1940 - Лідская дыстанцыя сігналізацыі і сувязі
1944 - ГУП ЖКГ
1944 - Лідскі лясгас
1944 - АУП "Лідская мэблевая фабрыка"
1944 - ДРСУ №48
1944 - ААТ ГПФ "Ліда"
1944 - Лідскі раённы вузел электрасувязі
1944 - Нацыянальны банк
1944 - ААТ "Лідскія харчовыя канцэнтраты"
1945 - АУП "Лідскі мясакамбінат"
1945 - ААТ "Лідանафтапрадукт"
1952 - ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат"
1954 - Лідскі хлебазавод
1954 - Лідскія цеплавыя сеткі
1957 - Лідскія электрасеткі
1958 - ААТ "Лідаграпраммаш"
1959 - ПУ "Лідаміжрайгаз"
1960 - ААТ "Будвектар"
1961 - Аўтобусны парк №2
1965 - ААТ "Лакафарба"
1965 - ААТ "Будтрэст №19"



***Нясуць сцяг Ліды***

1965 - ААТ "Лідабудканструкцыя"
1966 - РУП "Лідскае ПМС"
1968 - ДРБУ №24
1970 - РУП "Завод "Оптык"
1970 - Белпрамбудбанк
1973 - ААТ "Лідаспецаўтатранс"
1974 - ДП "Лідская ПМК-169"
1976 - ААТ "Лідабудматэрыялы"
1982 - ПМК-170
1984 - ААТ "Лідахлебапрадукт"
1984 - ДЗ "Нёман"
1985 - ААТ "Ліцейна-механічны завод"
1985 - ААТ "Лідагазбуд"
1986 -УКП крама №1 "Дом гандлю"
1989 - УП "Лідская ДС ПМК-72"
1989 - ЗАТ "Каскад"
1990 - ААТ "Лідскае рамонтна-будаўнічае прадпрыемства №17"
1990 - РУП "Завод "Ізатрон"
1991 - ЗП "Белтэкс Оптык"
1991 - Белаграпрамбанк
1992 - СЗАТ "Ліпласт-СПб"
1993 - Пріорбанк
1994 - УКП ГЦ "Патсдам"
1995 - Белінвестбанк
1995 - Белзнешэканомбанк

Асобна трэба сказаць пра шэсце маладых. У белых сукенках маладыя нявесты, а дакладней, ужо жонкі, ішлі са сваімі выбраннікамі і свяціліся шчасцем.

Хай жа будзе шчасным і шчаслівым кожны дзень жыцця маладых і ўсіх жыхароў горада, і хай выканаюцца ўсе добрыя пажаданні, якія гучалі ў гэты дзень на галоўнай плошчы Ліды.

Урачыстую частку свята працягнуў канцэрт зорак беларускай эстрады. Цэлы "букет" вядомых і ўсенародна любімых выканаўцаў радаваў лідзян. Саліст дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі "Свята" Вячаслаў Статкевіч і тэлевядоўца канала СТБ (праграма "Лінія лёсу") Ларыса Грынько, дарылі лідзянам выдат-

ны настрой свята.

Першым на сцэне цэнтральнага пляца з'явіўся лаўрэат рэспубліканскіх фэстаў і конкурсаў, саліст Дзяржаўнага аркестра пад кіраваннем Міхаіла Фінберга Зміцер Качароўскі. Выступалі спявачка Вольга Плотнікава, спявак Зміцер Сяргееў, цыганскі ансамбль "Рада" і група "Беларусы", Гюнеш, Аляксей Жось (група "Верасы"), ансамбль "Чысты голас", саліст якога, Юры Рудзевіч, родам з Ліды, спявачка Вольга Вронская і многія іншыя зоркі беларускай эстрады.

У зале Раённага дома культуры адбыўся канцэрт знакамітых выканаўцаў, які падарыў гораду расійскі бізнесмен Андрэй Чыжык. Андрэй Станіслававіч доўгі час жыў тут, вучыўся ў школе №1. Засталося шмат сяброў, знаёмых, і самае галоўнае - лідская зямля навечна прытуліла яго бацькоў.

Падчас свята былі падведзены вынікі і яшчэ аднаго конкурса. У сваёй любові да роднага краю прызнаваліся не толькі паэты, але і кампазітары. Вынікі конкурсу на лепшую песню пра Ліду і Лідчыну падвяло кампетэнтнае журы.

1-е месца аддадзена песні кампазітара Вячаслава Пыпеця на словы Ганны Баборык.

Два 2-я месцы ў песняў Сяргея Герасімовіча і Антона Ракшына.

Два 3-я месцы ў песняў Марыі Цымосік і Мар'і Лябедскай.

З урачыстага набажэнства аб здароўі і дабрабыце лідзян у касцёле Ўзнясення Святога Крыжа пачаўся трэці дзень святкавання 685-годдзя Ліды. Плябан касцёла ксёндз Уладзімір цёпла прывітаў сабраных у храме лідзян і гасцей, а таксама старшыню Лідскага райвыканкаму Андрэя Худыка, начальніка аддзела па рэлігіі і нацыянальнасцях Гарадзенскага аблвыканкаму Ігара Папова і іншых прадстаўнікоў свецкай улады.

*- Тое, што ў касцёле прысутнічае адміністрацыя горада, гаворыць аб тым, што зараз надаецца вялікае значэнне духоўнаму адраджэнню,* - гаварыў ксёндз Уладзімір. *- Падчас святой імшы я буду маліцца за горад, яго жыхароў і адміністрацыю, за тых людзей, якія прыкладаюць максімум высілкаў, каб усе мы жылі лепш.*

Святочная літургія ў касцёле па традыцыі працягнулася чытаннем Евангелля. Незвычайна глыбокай і праніклівай была пропаведзь ксяндза Віталя, які звярнуўся да вытокаў узнікнення каталіцкай веры на Лідчыне.

У дарунак касцёлу А. Худык паднёс выдатную выяву абраза Маці Божай Лідскай, выказаўшы пажаданне, каб горад заўсёды знаходзіўся пад яе заступніцтвам. Абраз гэты створаны выкладчыцай Лідскай дзіцячай школы мастацтваў Тарэзай Кедык, родам з Дайнавы. Абраз не з'яўляецца дакладнай копіяй, бо пры стварэнні яго не быў дадзены дазвол на зняцце срэбнага акладу з арыгіналу. Таму гэты абраз можна назваць новым увасабленнем вобразу Маці Божай Лідскай.

Асвячэнне абраза ў завяршэнне набажэнства ў прысутнасці сотняў лідзян правёў ксёндз Уладзімір.

А сам трэці дзень святкавання 685-годдзя горада быў прысвечаны нацыянальным культурам. Пачаўся ён з сустрэчы старшыні райвыканкаму Андрэя Худыка з чальцамі беларускай грамады Львоўскай вобласці "Белая Русь". Львоўская беларуская дыяспара даўно жадала завязаць сяброўскія адносіны з прадстаўнікамі гістарычнай радзімы, таму з задавальненнем прыняла запрашэнне прыехаць у наш горад. Як распавёў Андрэю Паўлавічу старшыня грамады Сяргей Уладзіміравіч Кулікоў, на Львоўшчыне жыве 5 700 беларусаў. Гэта тыя, якія ў свой час прыехалі туды як маладыя адмыслоўцы, хто служыў на тэрыторыі вобласці ў вайсковых частках, і іншыя. Аб'ядноўвацца ў культурнае грамадскае аб'яднанне беларусы Львоўшчыны пачалі ў 1992 годзе. Да 1999 года гэта ўжо была цэлая грамада. Зараз беларуская дыяспара мае свой культурна-адукацыйны цэнтр, у якім ёсць нядзельная школа, дзе вывучаюцца мова, культура, гісторыя Беларусі, функцыянуе бібліятэка, выдаецца газета, працуе грамадская прыёмная. Пры цэнтры створаныя і з поспехам прадстаўляюць нацыянальную творчасць самадзейныя мастацкія калектывы. Словам, львоўскія беларусы асцярожна захоўваюць свае нацыянальныя традыцыі. Падчас сустрэчы была падпісана дамова аб супрацоўніцтве ў вобласці адукацыі, культуры, спорту паміж райвыканкамам і беларускай грамадой Львоўскай вобласці "Белая Русь".

Фэст нацыянальных культур Лідчыны праходзіў у Раённым доме культуры. У фэсце ўдзельнічалі як нацыянальныя грамадскія аб'яднанні нашага рэгіёна, так і прыезджыя калектывы. Яшчэ да пачатку адкрыцця фэсту прысутныя змаглі азнаёміцца з выставай, што распавядае аб асаблівасцях культуры і традыцыях нацыянальнасцяў.

Азнаёміўшыся з выставай, прысутныя на фэсце занялі месцы ў зале. Маляўнічым і велічным было ўрачыстае адкрыццё фэсту. Кожны адзначыў для сябе, што гэта сапраўды сузор'е сяброўства, калі на сцэну падняліся, прэзентуючы сваю нацыянальнасць, чальцы раённай арганізацыі "Саюза палякаў на Беларусі", "Таварыства польскай культуры на Лідчыне", рэгіянальнага мемарыяльна-культурнага аб'яднання, грамадскага аб'яднання літоўцаў "Рута", раённай арганізацыі ўкраінцаў "Трэмбіта", а таксама прадстаўнікі казахскай нацыянальнасці, якія жывуць у Лідзе.

Падчас гала-канцэрту прагучала шмат песняў, прысвечаных Лідзе. Зрэшты, прысвячалі іх нашаму гораду не толькі мясцовыя артысты, але і госці фэсту. Напрыклад, музычны калектыў з Польшчы "Пака з Граева" прадставіў песню "Ліда, Лідэнька".

*- Мы ўжо не першы раз наведваем ваш горад з канцэртамі,*- гаварыў потым кіраўнік калектыва Эдвард Шабат. *- Песня, якую напісаў наш вакаліст Міраслаў Сядлецкі, - гэты выраз нашых пачуццяў да прыгажуні Ліды.*

Свята нацыянальных культур Лідчыны на высокай ноце завяршыла святкаванне 685-х угодкаў слаўнага горада Ліды.

*(Па матэрыялах лідскага друку.)*

# *Кроніка айкумены*

**Лідскі гістарычны каляндар**

## *ліпень - снежань*

**1038 год.** Яраслаў Мудры хадзіў на яцвягаў.

**1388 год.** Папа Рымскі зацвердзіў Віленскую дыяцэзію.

**1478 год, 8 кастрычніка.** Соф'я Дыла падарыла парафіяльнаму касцёлу ў Новай Ваверцы (Дылева) ворную зямлю і два лугі.

**1508 год, 14 снежня.** Мажэйкава перададзена намесніку і старасту ўладзімірскаму, суддзі драгічынскаму князю Васілю Андрэевічу Палубенскаму.

**1508 год.** Уладальнік Дакудава Пётр Аляхновіч у якасці амбасадара караля Жыгімонта другі раз наведвае Маскву.

**1528 год.** Кароль Жыгімонт падарыў Ліпнішкі Альбрэхту (Войцаху) Гаштольду за зняцце аблогі з Полацка і заключэнне міру з татарамі.

Першае згадванне Несікоўшчыны, належала Ёську Няшыйку.

Першае згадванне Перапечыцы - належала Перапечыцкім.

Шляхціцу Ў.Трызне з вялікакняскага двара ў Лідзе быў выдадзены, як нявольны парабак, збеглы ад яго сын яго нявольнай жонкі.

**1538 год.** У Радуні - рынак, 7 вуліц, 210 хат хрысціянаў.

**1558 год, студзень.** Пачалася 25-гадовая Лівонская вайна.

**1558-1561 гады.** У ваколіцах мястэчка Жалудок пасаджаныя на валоках сёлы Яселевічы, Мянонцьевічы, Піпіраўцы, Талочкі, Вялікія і Малыя Буцілы, Панямонцы. З гэтых сёлаў створана войтаўства Панямонскае.

**1598 год.** Лідскі стараста Ян Станіслававіч Абрамовіч выдаў у Вільні евангелічны "Катэхізіс".

**1638 год.** У Лідскім замку пры сцяне дазволена пабудаваць склеп для захоўвання дакументаў Лідскага суда і актавых кніг.

**1648 год.** У Лідскім павеце жыло 94,9 тыс. чалавек : налічалася 11860 дымоў.

**1658 год.** Праваслаўныя вернікі Ліды напісалі ў Маскву скаргу на ўніятаў.

У акце абследавання Дзітвы Вялікай "енерал і возны Лідскага павету" пісалі: «были мы употреблены... на осмотр домов пустых... коие в году 1657... через поветрие являются вымершими ...видели мы по полям ржи массу несжатой осталось... через поветрие вымерло полностью в волости Дитвенской домов 29».

**1668 год.** Кузьмішкі перайшлі ва ўласнасць Аляксандра Вісьманта.

У гміне белагрудскай Хальшка Завіша аддала баяраў Банцэвічаў у заклад Рудзінскім.

**1688 год, 11 лістапада.** Прадстаўнікі лідскага кагала пазычылі ў дэкана лідскага 500 злотых пад 6 % гадавых.

**1718 год.** Троцкі падсудак Францішак Вянцковіч купіў маёнтак Голдава і перавёў Голдаўскую праваслаўную царкву ва ўніяцтва.

**1718 год.** У Шчучыне з'явілася першая піярская школа.

**1738 год.** Іосіф сын Яна Сцыпіён дэль Кампа (к.1700 - 1744) - становіцца лідскім старастам.

**1748 год.** Радзівонішскі ўніяцкі прасвітар Ян Герасімовіч з-за п'янства зрываў службы

**1758 год.** Іосіф Война пабудаваў цагляны Ішчалнскі касцёл Найсвяцейшай Сёмухі

Выхадзец Лідскага павету Мацей Догель выдаў у Вільні першы том "Дыпламатычнага кодэкса Польскага каралеўства і ВКЛ".

**1788 год.** Караліна Радзівіл па праекту архітэктара Падчашынскага пабудавала Жырмунскі касцёл Адшукання Святога Крыжа (Znalezienia Krzyza Sw.) на месцы згарэлага ў 1786 г.

**1798 год.** У інвентарызацыйнай кнізе Ліды згадваецца пошта, якая размяшчалася ў прыватнай хаце спадарыні Ёдкі на Віленскай вуліцы.


CODEX
DIPLOMATICVS
REGNI POLONIÆ
ET
MAGNI DVCATVS
LITVANIÆ
IN QVO
PACTA, FOEDERA, TRACTATVS PACIS,
CONVENTIONES, PACTIONES, CONCORDATA,
PACTA ETIAM
MATRIMONIALIA ET DOTALIA
MONVMENTA
EX ARCHIVIS PVBLICIS ERVTA
TOMVS I.
VILNÆ

***Тытульны ліст "Дыпламатычнага кодэкса..." Мацея Догеля***

**1798 год.** Сяляне Барцянскага, Цыбарскага, Лідскага староставаў і невялікіх дзяржаўных маёнткаў, такіх як Гарні, Кульбакі лічыліся казённымі.

Дуброўня канфіскавана ў віленскага біскупа.

Створаны план горада Ліды. У здымцы прымалі ўдзел вучні Лідскага піярскага калегіюма. На плане паказаныя: два прадмесці - Зарэчнае і будучая Слабада, 5 вуліц: Віленская, Палацавая, Замкавая, Крывая, Каменская; пазначаны замак, касцёл рымска-каталіцкі, касцёл і кляштар кармелітаў, кляштар піяраў, рымска-уніяцкая царква з шпіталем, царква прыходская з двума шпіталямі, ратуша, земская канцылярыя, млын, габрэйская школа, корчмы і каля 250 двароў.



***Касцёл у Жырмунах***

**1818 год.** Дарога праз Беліцу пазначаная як гасцінец для суправаджэння зняволеных у Сібір. У Беліцы пабудаваны этапны дом (невялікая турма) і паселена вайсковая каманда для канваявання зняволеных.

**1838 год, снежань.** Пры разборы архіву лідскага магістрата знойдзеныя прывілеі польскіх каралёў гораду.

**1838 год.** Ганчарскую царкву наведвалі 1230 вернікаў уніятаў, Голдаўскую - 1047, Дзікушскую - 614, Дакудаўскую - 922, Жыжмянскую - 725, Лябёдскую - 812, Зблянскую - 1135, Мытлянскую - 272, Баброўскую - 417, Маламажэйкаўскую - 497.

**1848 год.** У Лідзе халера, насельніцтва складала 3845 чалавек.

У Лідскім Дабрачынні 20 цэркваў: Міхайлаўская ў Лідзе, Праабражэнская ў Астрыне, Пакроўская ў Орлі, Мікалаеўская ў Глыбокім, Пакроўская ў Зблянах, Пакроўская ў Ганчарах, Багародзічная ў Голдаве, Багаслоўская ў Дзембраве, Пакроўская ў Сабакінцах, Багародзічная ў Дакудаве, Мікалаеўская ў Турэйску, Багародзіцкая ў Маламажэйкаве, Мікалаеўская ў Лебядзе, Пакроўская ў Жыжме, Святадухаўская ў Беліцы, Праабражэнская ў Дзікушках, Багародзічная ў Ракавічах, Узвіжанская ў Бабрах, Пакроўская ў Мыто, Ганненская ў Радзівонішках. У Астрыне - 3 класа, у Орлі, Глыбокім, Зблянах - 4 класа, у Ганчарах, Голдаве, Дзембраве, Сабакінцах, Дакудаве, Турэйску - 5 класа, у Малым Мажэйкаве, Лебядзе, Жыжме, Беліцы, Дзікушках - 6 класа, у Ракавічах, Бабрах, Мыто і Радзівонішках - 7 класа.

**1858 год.** У Лідскім павеце 90869 каталікаў, 24742 праваслаўныя, 4731 іудзей.

**1868 год.** У Лідзе пабудаваны габрэйскі шпіталь.

Для Ганчарскай царквы набыты звон вагой 5 пудоў 3 фунты.

**1868 год, 27 жніўня.** Мяшчане Эйля Айзікавіч Ландо і Давыд Юдзелевіч Камянецкі падалі імператару Аляксандру Мікалаевічу прашэнне дазволіць перарабіць піваварны завод на броварны, а для піваварнага зрабіць новую прыбудову.

**1878 год.** Лідскі павятовы маршалак шляхты ўзбудзіў хадайніцтва перад віленскім губернатарам аб зносе замка.

Адкрыта першая школа пісьменства ў Моцевічах ад Дзікушскага прыходу.

**1888 год.** Заснаваныя Дубровенска - Лідская і Лябёдская народныя навучальні.

Адкрыта Радзівонішская аднакласная царкоўна-прыходская школа.

Адкрыта школа пісьменства ў Дакудаве.

Князь Друцкі-Любецкі адкрыў у Шчучыне дрэваапрацоўчы завод, на якім выраблялiся паркет, фанера, шпон.

**1888 год.** У Лідзе адкрыта ваўняная вытворчасць, 40 працаўнікоў, выраблена прадукцыі на суму 8 тыс. рублёў.

**1898 год.** Створана Лідская спіртавая вытворчасць: 34 працаўнікі, паравы рухавік у 6 к.с.

**1898 год.** Створана добраахвотнае пажарнае таварыства.

**Сто гадоў таму назад.**

**1908 год.** У жаночай прагімназіі Навіцкіх адкрыты шосты клас.

**1908 год, 26 лістапада.** М.К. Навіцкая сканала ад разрыву сэрца.

**1908 год.** У Марсэлі на міжнароднай выставе піва піваварнага завода М. Пупко атрымала медаль.

Друкарскія рабочыя Ліды прынялі ўдзел у выданні першага нумара газеты "Сацыял-дэмакрат".

У Лідзе 54 фабрыкі і заводы, 614 працоўных, аб'ём вытворчасці -1331890 рублёў

На тытунёва-махорачнай фабрыцы ўсталяваны газа-бензінавы рухавік у 25 к.с.

На чыгунна-ліцейным заводзе Шапіры 28 працоўных, паравы рухавік у 25 к.с.

На спіртавым заводзе выпушчана 75 тысяч вёдраў спірту, прыбытак 366 тысяч рублёў.

Разабраны будынкі былога кармеліцкага кляштара і касцёла.

Завершана будаўніцтва Белагрудскага касцёла Святога Міхаіла-Арханёла.

Пакладзены пачатак хросным хадам.

Князь Сямён Андрэевіч Трубяцкі з публічных таргоў купіў маёнтак Беліца.

Уладзіслаў Марцоні спраектаваў палац у Жалудку.

Агульны сутачны здым шкломасы на заводах Столе дасягнуў 11 900 кг/суткі. На шклозаводзе "А" працавалі 552 чалавекі, выраблена лямпавага шкла, шклянога і крыштальнага посуду на 310 тысяч рублёў. На шклозаводзе "Б" працавалі 454 чалавекі.

Завершана будаўніцтва вузкакалейнай чыгункі ад шклозаводаў да ст. Нёман з паромнай пераправай. Яно абыйшлося ў 118,6 т. рублёў.

**1918 год, кастрычнік.** У Лідзе арганізаваная падпольная бальшавіцкая ячэйка. З Вільні ў Ліду на сталую працу прыбыў І. Чэхаў (Утроб). Ён узначаліў лідскіх бальшавікоў.

**Канец кастрычніка.** Падпаручнік Вацлаў Шукевіч, які вярнуўся з Расіі (з беларускага корпуса пад Адэсай) арганізаваў у Лідзе атрад Войска Польскага.

**11 лістапада.** Скончылася Першая Сусветная вайна.

**12 лістапада.** Рэгенцкая Польшча прызначыла Юзафа Пілсудскага "Начальнікам дзяржавы".

**13 лістапада.** Ўсерасійскі цэнтральны выканаўчы камітэт (ВЦИК) ануляваў Брэсцкі мір і звязаныя з ім дамовы.

**16 лістапада.** Германскае камандаванне аддае загад аб эвакуацыі войска з Усходняй Еўропы..

**18 лістапада.** У Варшаве сфармаваны ўрад А. Марачэўскага з прадстаўнікоў ППС, ППСД, ПСЛ-"Вызваленне", ПСЛ-"Левіца", групоўкі радыкальнай інтэлігенцыі. У той жа дзень урад Марачэўскага накіраваў ноту ўрадам усіх заходніх дзяржаў з прапановай аб усталяванні дыпламатычных адносін. Пілсудскі накіраваў начальніку штаба ўзброеных сіл Антанты маршалу Фошу радыёграму з просьбай акупаваць тэрыторыю Польшчы, якая пакідаецца немцамі, для абароны ад бальшавізму.

**1918 год, сярэдзіна лістапада.** У Лідзе арганізавана Таварыства Полек.

Акупацыйныя ўлады Ліды пагадзіліся на стварэнне Самаабароны Лідскай зямлі - Крэйсміліц.

**1918 год, канец лістапада.** У Лідзе арганізавана Таварыства Польскай Моладзі.

**1918 год, лістапад-снежань.** У Лідскім павеце арганізаваныя тры Самаабароны: Лідская - арганізатар **Вацлаў Шукевіч**, Шчучынская - кіраўнік паручнік кавалерыі **Баляслаў Лісоўскі**, Эйшышская - кіраўнік падкапітан **Казімір Ільцэвіч**.

**1918 год, лістапад-снежань.** Адчынены механічныя вытворчасці каўбасных вырабаў Андрэя Радовіча і каўбас Аляксея Вярсоцкага.

**1918 год, 12 снежня.** Войскам Чырвонай Арміі аддадзены загад аб працягу наступу ў Беларусі. Заходняй арміі загадана: працягваць далейшае пасоўванне на захад за адыходзячымі немцамі ў кірунках на Мітаву, Панявеж, Вільню, Ліду, Баранавічы і Пінск. Заходняй стралковай дывізіі (начдзіў Яршоў) у складзе 4-х палкоў, лятучага атрада т. Вянглінскага 4-га раёна 2-ой акругі памежнай аховы і 38-га авіяцыйнага атрада высунуўшыся ад Маладзечна на Ліду заняць і абараняць раён Гародня - Ваўкавыск - Ліда - Баранавічы - Маладзечна, склаўшы Лідскі баявы ўчастак. Кіраўніцтва дывізіі - Ліда, часова Менск. Зводны атрад 2-ой брыгады Заходняй дывізіі накіраваць ад Маладзечна на Ліду. Начальніку сувязі загадана ўсталяваць сувязь прамымі правадамі з Смаленска з Лідаю і падрыхтаваць сувязь з Менскам.

**1918 год, 15 снежня.** Немцы сцягнулі ўсе паліцэйскія ўчасткі ў Ліду.

**1918 год, сярэдзіна снежня.** На з'ездзе валасных прадстаўнікоў абрана "Народная Рада Лідскай Зямлі". Прэзідэнтам Рады абраны Станіслаў Здановіч, намеснікам - Б. Шаптуноўскі.

Палякі стварылі Рабочы Саюз (Рабочы прафсаюз).

Падобныя арганізацыі стварылі літоўцы ("Тарыба") і габрэі (Паалей-Цыён, Бунд).

Былы лідскі спраўнік Яўген Аляксандравіч фон Грота-дэ-Буко ўзначаліў арганізацыю Лідскага беларускага руху.

Абвешчаны прыём у бальшавіцкую партыю. Бальшавіцкія агітатары накіраваны на вёску, рассылаецца літаратура.

**1918 год, 21 і 23 снежня.** Мітынгі ў Лідзе.

**27 снежня.** На плошчы Славы нямецкая залога развіталася з Лідай у прысутнасці 16 кулямётаў.

**28 снежня.** Значная частка нямецкай залогі, вывозячы зброю і здабычу на вакзал, пакінула Ліду.

**29 снежня.** У Лідзе па прапанове Лазарава ўтвораны часовы Рэвалюцыйны камітэт з 9 чалавек: 5 камуністаў - Утроб (Чэхаў), Лазараў, Вацлаў Калясінскі, Адольф Сцяпанавіч Сегень, Камінскі, Камянецкі, і 4 сацыял-дэмакраты інтэрнацыяналісты.. Створаны атрад народнай міліцыі ў колькасці 100 чалавек і добраахвотныя дружыны па ахове гарадской гаспадаркі. Немцы перадалі зброю бальшавікам.

**1918 год, 30-31 снежня.** 6-ая Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б) у Смаленску абвясціла сябе першым з'ездам КП(б) Б і прыняла пастанову аб утварэнні БССР.

**31 снежня.** Штаб Лідскай Самаабароны і звяз падпаручніка Багаткі пакінулі горад. Лідская Самаабарона сканцэнтравалася ў Заполлі.

У гарадскім кінатэатры адбыўся мітынг. Выступалі бальшавікі Лазараў, Чэхаў, Калясінскі.

**1928 год.** На шашэйнай дарозе Ліда-Беліца ля в. Даржы пабудаваны мост цераз Дзітву.

На добраахвотныя ахвяраванні вернікаў у Беліцы пабудавана царква Ўзнясення Крыжа Гасподняга.

**1928 год, верасень.** Пабудавана левае крыло школы №1. Школе прысвоена імя першага Прэзідэнта Польшчы Габрыеля Нарутовіча.

**1928 год, кастрычнік.** Лідскае таварыства беларускай школы налічае 195 чальцоў, мае сувязь з 7 падраёнамі.

**1928 год, 9 лістапада.** Маламажэйкаўская царква перададзена каталіцкай парафіі.

**1928 год, 24 лістапада.** Протаіярэй Жданаў адхілены ад выканання абавязкаў Лідскага дабрачыннага.

**1928 год, 21 снежня.** На лідскім аэрадроме разбіўся лётчык 5 палка Павел Стэнцаль.

**1928 год.** Пачала выпускаць кафлю кафляная фабрыка "Тонур" Юзафа Руды і Беркема Рыбацкага на вул.

Вызвалення.

Приступіла да працы кафляная фабрыка “Рааф” Хаіма і Абе Куля, Ісака Цапевіча на вул. Гражыны

На ўсяпольскай выставе ў Познані каўбасныя вырабы фабрыкі Аляксандра Вярсоцкага атрымалі медаль і дыплом.

Закладзены падмурак Народнага акцыянернага банка ў Лідзе.

Юзаф Друцкі-Любецкі купіў Жырмуны ў Аляксандра Мяйштовіча.

**1948 год, лета.** Будуецца высакаводны мост цераз Нёман ля в. Агароднікі. Будаўніцтва вядзе будучастак №12, начальнік Фраленкаў.

**1948 год, верасень.** Бандгрупа пад камандаваннем Спургяша І. здзейсніла налёт на чыгуначную станцыю Гаўя, разграміла паштовае аддзяленне, парушыла дыспетчарскую, цягніковую і стрэлачную сувязь.

**1948 год, 10 верасня.** Група Маленчыка ў Ваверцы абакрала пошту (24 тыс. руб.), у сельсавеце спаліла дакументы, забіты працаўнік міністэрства нарыхтовак Тарасаў.

**16 верасня.** Арганізаваны саўгас “Тарнова”.

У в. Вангі арганізаваны калгас “Світанак”.

**27 верасня.** Тэргрупа “Олеха” здзейсніла забойства прадаўца крамы в. Серафіны Серафімовіча К.І.

**1948 год**, 15 снежня. У в. Паперня загінуў лейтэнант Лідскага гараддзела КДБ Наскоў Іван Міхайлавіч.

29 снежня. У в. Панямунцы арганізаваны калгас ім. Булганіна.

У в. Андрусоўшчына, Чэхаўшчына арганізаваны калгас “30 гадоў БССР”.

**1948, снежань- студзень 1949.** Знішчана банда Жамойцеля (забіта 3, арыштавана 15 чалавек).

**1948 год.** Адноўлена 136 жылых дамоў. 104 гандлёвыя кропкі. Арганізаваны рынак.

Пабудавана веернае дэпо, адноўлены дапаможныя цэхі.

На камбінаце харчканцэнтратаў абсталяваны цэх фруктовых кансерваў і марынадаў.

Райвыканкам выдзеліў сялянам на індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва 129,5 тысяч рублёў пазыкі і 3855 кубаметраў лесу. Інвалідам Вялікай Айчыннай вайны і сем’ям загінулых ваяроў бясплатна выдзелена 808 кубаметраў лесу.

Гарадская партарганізацыя налічае 620 камуністаў.

Уведзена ў эксплуатацыю 1622 м.кв. жылой плошчы.

**50 гадоў назад.**

**1958 год.** У калгасах - 55989 гаспадарак, у аднаасобным сектары - 855.

**3 ліпеня.** Рашэнне Лідскага гарсавета № 249 “Аб адводзе памяшкання пад краязнаўчы музей у г. Ліда”. Хадайніцтва аб адкрыцці музея з 1 студзеня 1959 г. Выдзелены 3 пакоі плошчай 45 м. кв. па вул. Савецкай у доме № 53 (цяпер № 24).

**8 ліпеня.** Арганізаваны Лідскі аўтарамонтны завод на базе МТС.

**1 верасня.** У музычнай школе прыступілі да заняткаў 75 дзяцей па класе фартэпіяна, скрыпкі і баяна.

**верасень.** Дзяржкамісія прыняла 8-кватэрны дом мясакамбіната. Кватэры атрымалі: Кляніцкі, Вільд, Кжэсяк, Леўчанка, Міхаіл Шмыгін.

**1 лістапада.** У горадзе 1746 га зямлі, у т.л. агароды - 73, калгасы, дапаможныя гаспадаркі - 250, сенажаці - 40, сухадолы - 34, забалочаныя - 6, скверы - 11, балоты - 25, вада - 5, дарогі (чыг.) - 298, пабудовы, вуліцы і завулкі 270, непрыдатныя да выкарыстання ў с/г - 594, пад спецпрызначэннем - 534, прысядзібныя землі - 172, пад раллёй і агародамі - 107, пад садамі - 39, пад пабудовамі - 27 га.

**снежань.** Злёт былых партызан Лідскага і прылеглых раёнаў.



***Партызаны Лідскай зоны***

**1958 год.** Торфапрадпрыемства “40 гадоў БССР” пачало выпускаць прадукцыю: дало за год 116 тыс. тон. фрэзернага торфу і 80 тысяч тон брыкету.

**1958 год.** Калгас “Слава працы” перайшоў на

грашовую аплату працы.

**1958 год.** У Лідскім раёне 49 пачатковых, 27 сямігадовых і 7 сярэдніх школ, у якіх вучыліся 5 297 школьнікаў; 15 кінаперасовак.

У Лідзе 5 сярэдніх і 3 пачатковыя школы, школа-інтэрнат, дзве вячэрнія і адна пазменная школа працоўнай моладзі.

**1958 год.** Завершаны поўны двухгадовы рамонт піярскага касцёла. Касцёл забраны ў піяраў і зачынены. Ксяндзы-піяры выгнаныя з кляштара.

Адкрыты 3-ці аўтобусны маршрут.

На камбінаце харчканцэнтратаў абсталяваны цэх кавы.

Скончана пабудова жалезабетоннага маста на вул. Міцкевіча.

**1958 год, 31 снежня.** У 15 гадзін адкрыты помнік У.І. Леніну.




***Блакнот, які выдаваўся ўдзельнікам злёту партызан Лідскай зоны ў 1958 годзе. На фатаграфіі партызанская пераправа цераз Нёман каля в. Бурносы Лідскага раёна. У блакноце змешчаны дзве песні "Ой, Нёман, бацька мой Нёман" (музыка Сакалоўскага) і "Лясная песня" (словы А. Русака, музыка В. Алоўнікава) - абедзве на беларускай мове.***

**1968 год, 6 ліпеня.** Мітынг у парку, выступілі Кабяк, Кавалёў, Дзямідаў, Оська. Канцэрт артыстаў клуба чыгуначнікаў.

**7 ліпеня.** Выезд у Сялец. Канцэрт на лясной эстрадзе, спартовыя спаборніцтвы.

**8 ліпеня.** 24 -годдзе вызвалення горада. Ускладанне кветак каля Кургана, каля "Лідсельмаша" і каля кінатэатра "Кастрычнік". На будынку Лідскага гараддзела КДБ на вул 7 лістапада ўсталявана мемарыяльная дошка ў памяць чэкістаў лейтэнанта І.М. Наскова і капітана А.Я. Стралкоўскага. Ганаровы чэкіст запасу М.К. Бутоўскі і ўпаўнаважаны КДБ М.А.Кірдзяшкін знялі белае покрыва з шэрай мармуровай дошкі. Выступілі М.А. Кірдзяшкін, В.М. Дзямідаў, М.К. Бутоўскі.

**1968 год.** Завершана будаўніцтва лакафарбавага завода - найбуйнейшага ў Еўропе па вытворчасці лакаў і фарбаў.

Адкрыты шырокафарматны кінатэатр "Юбілейны".

**1978 год, 27 жніўня.** На плошчы Леніна адбылося традыцыйнае тэатралізаванае свята працы. Выступілі Н. Папова, апаратчык лакафарбавага завода М.А. Іваноўскі. Сцяганосцы і лепшыя па прафесіі: Леанід Васюкевіч, Ян Гойка, Ігар Нялідаў, Рыта Доўнар, Яўгенія Жукель. 13 чалавек выканалі свае пяцігодкі, сярод іх Фокін, Ладыш, Кушык, Ніканенка. Больш за 300 лідзян завяршылі свае гадавыя планы.

**1978 год, 1 снежня.** 25-я гарадская партыйная канферэнцыя

**1988 год, 6 верасня.** Урачыстае святкаванне 600-годдзя абраза "Маці Божай Ружанцовай", прыязджаў і адслужыў імшу кс. прымас польскі, кардынал Юзаф Глемп.

**19 лістапада.** Дэпутаты ад Лідчыны Рэдзька і Стаўроўская абраныя ў пастаянную камісію па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах ВС БССР.

**1988 год.** МДБК перназваны ў ВА "Лідабудканструкцыя". На аб'яднанні больш за 1000 працоўных.

Будтрэст № 19 стаў пераможцам ва Ўсесаюзным сацыялістычным спаборніцтве і ўзнагароджаны пераходным Чырвоным Сцягам Савета Міністраў СССР.

Кааператывы выпусцілі прадукцыі на 400 тысяч рублёў.

**1998 год, 11 ліпеня.** Чальцы Аб'яднання лідскай моладзі імя Гедзіміна ў чацвёрты раз устанавілі крыж на магіле А. Фалькоўскага. Праз 3 дні крыж быў знесены.

**1998 год, кастрычнік.** Арганізаваны Лідскі клуб "Інтэлектуальныя гульні" беларускай лігі інтэлектуальных каманд.

**1998 год, снежань.** У Менску на Кубку Беларусі па боксе майстар спорту Валеры Янчы (трэнер А. Памаха) другі раз заваяваў Кубак Беларусі.

# Ліда ў 1938 годзе

70 гадоў назад Лідчына ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, Ліда была цэнтрам Лідскага павету.

Горад займаў тэрыторыю ў 2964 гектары, сумарная працягласць вуліц складала 90 км, 33 з іх былі з цвёрдым пакрыццём, гэта значыць з брукам, астатнія былі грунтавымі. Усяго было 110 вуліц: Агульная, Адзінаццатага Лістапада, Акопы, Алея Самаабароны, Балотная, Бальнічная, Баравая, Белагрудская, Боры, Бярозавая, Варшаўская, Віленская, Вішнёвая, Воўчая, Вузкая, Гандлёвая, Гарыстая, Гарнянская, Гедзімінаўская, Гражыны, 29 студзеня, Домб-Бярнацкага, Доўгая, Дубовая, Ёселевіча, Жалезная, Жалігоўскага, Жаромскага, Жвіркі, Жырмунская, Жураўліная, Завальная, Закрытая, Замкавая, Камерцыйная, Касцюшкі, Каштанавая, Казармавая, Кветкавая, Кілінскага, Кірмашовая, Крупаўская, Ксяндза Скарупкі, Легіённая, Лётная, Лідская, Ліпавая, Любоўная, Маладзечанская, Малапажарная, Мастоўская, Мацкевіча, Міцкевіча, Магілкавая, Моргі, Мяніцкага, Навасельская, Навінка, Нарбута, Нарутовіча, Новая, Няпоўная, Орліч-Дрэшара, Пагулянка, Пажарная, Палявая, Пастаўская, Пераца, Перацкага, Першага Траўня, Пілсудскага, Прыгожая, Птушыная, Пяскі, Радунская, Райнеса, Райская, Расплякі, Рачная, Рыдз-Сміглага, Садовая, Сакаліная, Сельская, Сойкішкі, Стругі, Сувальская, Сукурчэўская, Сыракомлі, Сядлецкая, 17 красавіка, Таполевая, Тартак, Трэцяга Траўня, Турэцкая, Фабрычная, Фалькоўскага, Халодная, Хваёвая, Цёплая, Ціхая, Чыгуначная, Чырвоная, Шавецкая, Шаптыцкага, Шкляная, Школьная, Шырокая, Эйшышская, Яловая, Ясная. Меліся таксама пляц Славы і сквер Збаўцы. У 1937-38 гг. на добраўпарадкаванне і рамонт вуліц было выкарыстана 86378 злотых, выбрукавана 1,433 км, выкладзена 2246 м2 тратуараў.

На цэнтральнай вул. Сувальскай (цяпер Савецкая) размяшчаліся канторы, касцёлы, гатэлі, кавярні, рэстараны, кінатэатры, купецкі ліцэй. Тут раніцай адчыняліся дзверы 20 галантарэйных крамаў, 14 з вырабамі тэкстыльнай вытворчасці, так званая мануфактура, 13 з таварамі харчовымі, 9 з таварамі каланіяльнымі, 6 піўных, 5 крамаў з абуткам, 5 кандытарскіх, 3 кнігарні, 3 з каўбасамі, 3 з алкагольнымі напоямі, 2 - з мэбляй і г.д. Свае паслугі прапаноўвалі краўцы, кушняры, шаўцы, цырульнікі, ювеліры, гадзіншчыкі, фатографы, бюро заяў і перакладаў.

У дні дзяржаўных святаў на Сувальскай праводзіліся парады, дэманстрацыі і шэсці. У гэтыя дні дамы ўпрыгожваліся сцягамі, вокны і балконы - зелянінай і партрэтамі дзяржаўных дзеячаў, вітрыны крамаў хораша ілюмінаваліся.

Сувальская была таксама любімым месцам шпацыраў жыхароў і сустрэч моладзі.

17 верасня 1938 г. быў праведзены перапіс. У Лідзе жыло 26 257 чалавек, у тым ліку палякаў - 17820, габрэяў - 7227, беларусаў - 450, рускіх - 400, іншых нацыянальнасцяў - 360. Занятых у прамысловасці і рамястве -3408, у гандлі-1249, у камунальнай гаспадарцы - 1198, у транспарце - 321, у сельскай гаспадарцы -598, у іншых галінах - 5942. Хатніх гаспадынь -5711, дзяцей - 7830 (29,8%). Католікаў - 17008, праваслаўных - 1847, іудзеяў - 7227, іншых хрысціянскіх вераванняў - 160, мусульман - 15.

У межах горада выраблялі прадукцыю 15 заводаў і фабрык, на якіх працавалі 2769 працоўных. Прамысловая вытворчасць была шырокай: дзве гумовыя фабрыкі - "Ардаль"- 900 працоўных і "Унігум", хімічная фабрыка "Карона", цвіковы завод "Друтіндустрыя" (200 працоўных), дзве фабрыкі сельска-гаспадарчых машын і прылад "Бенлянд" і "Полянд", тры цукеркавыя фабрыкі, адна з іх звалася "Рэкорд", тры кафляныя заводы "Рааф", "Тонур" і "Нешар", фабрыка спружын -"Звут", 6 тартакоў, 4 друкарні, 2 лямцавыя фабрыкі, дэрманцінавая фабрыка, 8 млыноў, 8 пякарань, дзве алейні, два піўзаводы і тры фабрыкі газаваных вод.

639 рамеснікаў у 36 рамесных аб'яднаннях: 75 слесараў, 45 столяраў, 35 цясляроў, 24 кавалі, 30 каменеўкладчыкаў, 113 краўцоў, 80 шаўцоў, 22 цырульнікі, 35 пекараў.

11 электрастанцый прыватных, 1 гарадская і 1 чыгуначная. 2903 абаненты на электрычнае святло, 63 абаненты на энергію, роўную 446,127 квт.

Дзяцей у школьным веку - 3788, у грамадскіх школах -3094, у прыватных - 659, не вучыліся -35. Шэсць школ з польскай мовай навучання (40 класаў, 78 настаўнікаў). Лепшай лічылася толькі што адчыненая ўсеагульная сямікласная школа № 1 на вул. Школьнай (цяпер Кірава). Школа ўсеагульная № 2 размяшчалася на вул. Чыгуначнай, 28 (цяпер Труханава). Школа ўсеагульная № 3 - на вул. Садовай 19, школа № 4 - на вул. Замкавай 21. Пачатковая школа № 5 імя Людвіка Нарбута таксама на Замкавай вуліцы. На Слабадзе для дзяцей чыгуначнікаў мелася чыгуначная школа.

На абавязковае вывучэнне рымска-каталіцкай рэлігіі адводзілася па 2 гадзіны ў тыдзень. Ва ўсіх школах хлопчыкі павінны былі быць пастрыжаны на нуль. У вялікіх колькасцях і часта скарыстоўваліся цялесныя пакаранні: бітццё лінейкай па далоні ("лапа"), маруднае выцягванне ўверх за валасы або за вуха, "каза" - пакіданне ў зачыненым памяшканні пасля ўрокаў на гадзіну альбо дзве, а таксама стаянне ў куце класа на каленах на гаросе. Кожны вучань за межамі школы лёгка ідэнтыфікаваўся. Вучні агульнаадукацыйных школ на рукавах насілі блакітныя нашыўкі з нумарам школы, а на фуражках і барэтах з левага боку - нумар класа.

Меліся таксама ўсеагульная габрэйская школа імя Шалома-Алейхема на вул. Школьнай, 10, навучанне вялося на ідышы; прыватная школа М. Дварэцкага на вул. Крывой, 16 і габрэйская школа "Тарбут", у якой навучанне вялося на іўрыце.

Тры гімназіі: агульнаадукацыйная (484 вучні), прафесійная купецкая - (261 вучань) і габрэйская

мужчынская гімназія. Існавала таксама дзяржаўная механічная школа (113 вучняў) і 2 дзіцячыя садкі. Дзяржаўная гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча размяшчалася ў будынку на вул. Школьнай (цяпер Кірава, Лідскі каледж). Дырэктар - Менцялевіч Казімір, выкладчыкі: польскай мовы - Маеўскі па мянушцы "Пацучок", нямецкай мовы - Сабаньскі (Сяміньскі) "Фальш" і Кляйндыест Юлій Юльевіч, лацінскай - Мастовіч Ядвіга, матэматыкі - Каляціньскі, фізікі - Яўген Шулакевіч, хіміі - Зігмунд Мане, геаграфіі - Руткоўскі "Кукса", гімнастыкі - Папко "Зэксуўна", катэхізіс выкладаў ксёндз Вітольд Нелюбовіч. Самай знакамітай была Ядвіга Мастовіч - 34-гадовая настаўніца лацінскай мовы, сястра вядомага пісьменніка Даленгі-Мастовіча, аўтара кнігі, па якой быў зняты фільм "Знахар", неўзабаве сталая жонкай польскага прэм'ер - міністра.

Дзве лякарні: дзяржаўная і прыватная. Дзяржаўная лякарня на 85 ложкаў, аддзяленні: тэрапеўтычнае, хірургічнае, акушэрскае, інфекцыйнае, рэнтгенаўскі кабінет, 2 лекары, 5 медсясцёр, 17 чалавек абслуговага персаналу. Прыватная габрэйская лякарня на 18 ложкаў. Паліклініка для працоўных. Кошт лячэння - 2,5-3,5 злотых у дзень, рэнтгенаўскі здымак - 8 злотых, аналіз крыві -2 злотыя, агляд на хаце - 3,75 злотых. Прыём ажыццяўлялі ў прыватным парадку лекары: Казубоўскі С., Галембіеўскі В., Гарневіч, Ялец Ю., Ястрэмбскі З., Ёдка Я., Кантар Р., Каплан Ш., Рэнерт Я., Зарцын Р., 5 дантыстаў: Радуньска-Навагродская, Бярловіч-Жыжэмская, Бор-Хвілявіцкая, Дварэцкая М., зубны лекар Мойжаш Дварэцкі, а таксама 4 фельчары. Жывёл лячылі 2 ветэрынары.

**Цэны:** гектар зямлі - 500 злотых, карова - 100 злотых, пуд збожжа - 2 злотыя, 1 кг цукру - 1 зл. 18 грошаў, 1 кг алею - 80 грошаў, 10 яйкаў - 10 грошаў, пачак запалак -10 грошаў.

**Заробкі:** Сярэдні дзённы - 2-3 злотыя, мінімальны -1 злоты, самы высокі -да 10. Кваліфікаваныя рабочыя на "Ардалі" атрымлівалі 5 злотых, майстар - 10. На жніве ў дзень плацілі 2 злотыя, на копцы бульбы 1 злоты. Зарплата настаўнікаў дасягала 200 злотых у месяц.

**У той год.** У сакавіку паміж Літвой і Рэччу Паспалітай былі нарэшце ўсталяваны дыпламатычныя адносіны. Камуністычныя партыі Польшчы, КПЗБ і КПЗУ рашэннем Выканкаму Камінтэрна былі распушчаныя. Паштова-тэлеграфная кантора пераехала ў новы паштамт. У траўні на будынку піярскага касцёла адкрытая мемарыяльная дошка ў сувязі з 75 -годдзем з дня смерці Л. Нарбута. Выдадзеная кніга Іосіфа Дзічканца "Samooborona Ziemi Lidzkiej". 26 лістапада ў Ньюкасле (Вялікабрытанія) урачыста спушчаны на ваду грузавы параход **"Ліда"** для перавозкі дрэва і іншых тавараў. Грузапад'ёмнасць 2110 тон, хуткасць - 10 вузлоў. Уласнасць Польска-Брытанскага таварыства "Польбрыт". У той жа дзень у гімназіі імя Хадкевіча адбылася першая краязнаўчая вечарынка, арганізаваная вучнямі 2 класа пад кіраўніцтвам прафесара Юзэфы Кляйндыест.

***В. Сліўкін.***

# Параход "Ліда"

У 1938-1950 гадах горад Ліда меў свайго цёзку, які плаваў па марах і акіянах. Быў гэта сучасны, прыстасаваны для перавозкі драўніны, карабель. Уладальнікам яго было польска-брытанскае карабельнае таварыства "Polbryt" ("Польбрыт") з сядзібай у Гдыні, якое будоўлю даручыла верфі Сван, Гунтар & Вігхам Рыхардсан у Ньюкастлі на Тыне.

Карабель меў змяшчальнасць 1568 БРТ /790 НРТ (БРТ - Брута рэгістраваны танаж, НРТ - Нета рэгістраваны танаж) і грузапад'ёмнасць 2110 тон. Пры даўжыні 77, 1м і шырыні 11,8 м. мог рухацца з хуткасцю 10 вузлоў. Быў абсталяваны 2 цыліндровай паравой машынай сістэмы Ленца (поршевай машынай з турбінай на выкідной пары) магутнасцю 1100 к.с. 26 чалавек каманды. Параход "Ліда" быў апошнім перадваенным набыткам "Польбрыту".

Стан польскага марскога гандлёвага флоту ў час напярэдадні выбуху II Сусветнай вайны быў сціплы. Таму наданне аднаму з караблёў назвы "Ліда" належыць прымаць як высокую павагу і як довад прызнання для нашага горада. Толькі тры караблі польскага марскога гандлёвага флоту насілі ў той час назвы гарадоў усходніх абшараў Рэчы Паспалітай. Былі гэта параход "Львоў", параход "Вільна" і параход "Ліда".




***"Ліда" падчас загрузкі дошак у Гдыньскім порце***

У момант выбуху вайны караблі ПМГФ згодна з палажэннямі эвакуацыйнага плану, распрацаванага вясной 1939 г. у большасці сваёй знаходзіліся па-за Балтыкай. 27 жніўня 1939 г. "Ліда" і некалькі іншых фрахтоўцаў, а таксама трансатлантычны лайнер "Касцюшка" атрымалі загад выйсці з Гдыні і ісці на захад. З-за разгрузкі "Ліда" пакінула Гдыню 29 жніўня перадапошняй. Таемную дэпешу, ў якой загадвалася выконваць толькі шыфраваныя распараджэнні або распараджэнні польскіх замежных базаў, усе польскія караблі атрымалі 30 жніўня.

Капітан Мацяеўскі накіраваў карабель на Сунд. 31 жніўня "Ліда" прыйшла ў Гётэборг. Тут польскі пасол са Стакгольма паўтарыў распараджэнне "ісці на поўнач, а потым на захад", і яшчэ ў той жа дзень "Ліда" пакінула Гётэборг.

1 верасня атрымалі інфармацыю аб нападзе Германіі на Польшчу. 4 верасня “Ліда” дайшла да порта Лервік у Шатландыі.

Пачаліся рэйсы польскіх караблёў на службе ў саюзнікаў. Бралі ўдзел у бітве за Атлантыку, у канвоях, дэсантах.

Капітуляцыя Францыі 17 чэрвеня 1940 г., пры якой французскі ўрад маршала Петэна прасіў Германію аб перамір’і, стала прычынай найцяжэйшых выпрабаванняў для польскіх караблёў. Многія з іх у гэты час знаходзіліся ў французскіх партах або ў заморскіх французскіх партах. Многа афіцэраў і матросаў польскіх караблёў, якія бралі ўдзел у выкананні эвакуацыйных заданняў, ратаванні Брытанскага экспедыцыйнага корпуса, польскіх аддзелаў і цывільных асобаў, атрымалі высокія адзнакі. Залежнасць ураду Вішы ад немцаў і выкананне нямецкіх загадаў выклікала апасенне англічан, каб паслухмяныя ўраду Вішы камандзіры французскіх марскіх сілаў не перадалі свае караблі немцам. Вялікабрытанія, якая на той час засталася адна, калі не лічыць эміграцыйных узброеных сілаў дзяржаў, заваёваных Германіяй: Польшчы, Нарвегіі, Галандыі і Бельгіі, адважылася на рэзкі крок. Перад французскай марской базай Марсель – Кебір, дзе размяшчалася большасць французскага вайсковага флоту, з’явілася моцная брытанская эскадра з патрабаваннем да французаў далейшай барацьбы супраць немцаў або дэмілітарызацыі ў брытанскіх партах ці французскай Заходняй Індыі. Брытанскі ультыматум быў адхілены, тады быў адкрыты страшны агонь, які нанёс французскаму флоту цяжкую паразу.

У адказ французскія самалёты разбамбілі Гібралтар, і ўрад Вішы разарваў адносіны з Вялікабрытаніяй. Распачалося інтэрнаванне караблёў Брытаніі і яе саюзнікаў у французскіх партах у Афрыцы.

З прымусовым знаходжаннем у Касабланцы звязана мала вядомая спроба найму “Ліды” групай мясцовых яўрэяў на падарожжа ў Амерыку. Капітан Е. Свянхоўскі так успамінае гэтае здарэнне: *“У міг усё было абдумана. З “Ліды” зрабіць пасажырскі карабель – ерунда, кошты – ерунда, грошы знойдуцца, дазвол мясцовых уладаў таксама ўдалося зрабіць, дазвол самога султана ўжо ёсць. Толькі вішы, усяўладныя вішы, без чыйго дазволу нельга тут зрабіць і кроку...”*

Той намер звяла на нішто нямецкая вайсковая місія, якая ў той час узяла фактычную ўладу ў Французскай Заходняй Афрыцы *(крыніца J.Micinski „Ksiega Statkow Polskich 1918-1945 str. 207)*

Капітанам і камандам польскіх караблёў удалося амаль ва ўсіх выпадках пакінуць французскую тэрыторыю і дабрацца да англійскіх партоў. Ва ўсіх выпадках гэта было звязана з небяспекай быць патопленымі. “Вільна” ўцякло з Сфаха, “Варшава” - з Бейрута, “Кракаў” - з Бені Саф, “Ражэва”, “Сталёвая Воля” і “Крамань” - з Дакара, “Пуласкі” - з Канакры, “Цешын”, “Шлёнск” - з Кааляку, “Ліда” - з Касабланкі. Толькі “Аксыве” не ўдалося вырвацца на волю. Але каманда таго карабля дабралася да Англіі.

Вычыны польскіх караблёў выклікалі здзіўленне англійскага Адміралцейства нязломнасцю духу і навігацыйнымі здольнасцямі польскіх маракоў. Тое. што ўдалося амаль усім польскім караблям, не спрабаў нават ні адзін брытанскі капітан і ні адзін капітан іншых саюзных караблёў, якія знаходзіліся ў той час у французскіх партах Афрыкі.

“Ліда” была апошнім караблём, уцёкі якога скончыліся поспехам. 3 жніўня было прынята рашэнне ўцякаць бліжэйшай ноччу. Паўплывалі па гэта добрае надвор’е і бязмесячная ноч. Каб не ўзбудзіць пададзрэнняў пастанавілі не выбіраць якар, а толькі перапілаваць ланцуг, а таксама не падымаць з вады выратавальную шлюпку. Паводле дакладу капітана Свянхоўскага ўцёкі адбываліся наступным чынам: *“Прыкладна поўнач – ланцуг перарэзаны. Старшы афіцэр Завада*



***Авіяцыйны здымак “Ліда” ў ваенным шэрым камуфляжы з замалёванай назвай і ілюмінаторамі. На цэнтральнай надбудове, слаба відны зенітныя кулямёты, а на карме – 75 мм гармата.***

*спускае яго ціха па ліні ў ваду. Даю знак машыне і паволі пачынаю выкручваць "Ліду" да выйсця. Раптам неспадзявана моцны парыў ветру пачынае нас зносіць на "Жуль Верн", карабель прыпісаны да французскіх падводных сілаў. На караблі бліснула святло электрычнага ручнога ліхтарыка. Струпянелі. Цудам аднак у апошнюю хвілю ўдалося выкруціць "Ліду" не зачапіўшы француза. Любімая "Ліда" была спрытная і мела шмат шчасця. Святло на "Жуль Верне" знікла. Відаць вахтавы матрос прайшоў да высновы, што небяспека мінула, і можна зноў драмаць.*



**Капітан "Ліды" ў 1940 г. Ежы Свянхоўскі**

*Павольна выходзім у мора.*

*На адлегласці каля мілі ад берага прыпыняемся, каб падняць выратавальную шлюпку, якая ўвесь час боўталася на ліні. У ходзе падняцца лодкі са здзіўленнем убачылі сілуэт патрульнага карабля. Даём распачлівыя знакі людям, якія падымаюць шлюпку, каб перасталі. Нічога не разумеем, ці не даганяюць нас у цемнаце ночы. Крычаць нельга. Толькі пасля ўмяшання афіцэра, які збег з мосціка, матросы прыпынілі сваю "скрыпучую "працу". Узамен наступае ўражлівая ціша, і чуваць толькі біццё сэрцаў. Хваля лёгенька плешчацца аб борт. Адна думка апаноўвае каманду: "Заўважылі... усё прапала...".*

*Сілуэт патруля расплываецца ў чарнаце ночы. Радасней заміргалі зоркі на небе. Зноў "Ліда" мела шчасце.."*

На поўным ходзе "Ліда" ўзяла курс на Азоры. Карабель, ідучы на поўнай хуткасці, 8 жніўня шчасліва дабраўся да Памта-Дэльгада на Азорскіх астравах, а далей - у Канаду.

Капітана "Ліды", а таксама чацвёра іншых чальцоў каманды прадставілі да ўзнагароджвання "Крыжам Заслугі з мячамі"



***Лесавоз "Ліда" зноў у цывільным уборы, толькі боны на вантах рулявога мосціка нагадваюць ваенныя часы. На коміне відзён надпіс Польска-брытанскага карабельнага таварыства "Польбрыт".***

Караблі ПМГФ і далей прымалі ўдзел у ваенных дзеяннях, найчасцей хадзілі ў канвоях.

Многія былі патоплены, сярод іх два пасажырскія караблі: "Пілсудскі" і "Храбры".

"Ліда " была вельмі шчаслівым караблём, нават калі 20 студзеня 1941 года ў IV грузавы адсек трапіла авіяцыйная бомба, карабель пазбег вялікіх пашкоджанняў, бо бомба саслізнула за борт, дзе ўзарвалася, учыніўшы толькі невялікія прабоіны.

"Ліда" плавала да канца вайны і пасля яе заканчэння вярнулася дадому. У Гдыню, даваенны порт прыпіскі, "Ліда" прыйшла амаль праз сем гадоў - 6 жніўня 1946 года.




***Экс "Ліда" прымае груз збожжа з прыбылага ў Гдыню суперсухагруза***

У 1950 годзе "Ліда" была набыта Польскім марскім параходствам (ПМП) у Шчэціне, а новы ўладальнік змяніў яе назву на "Gliwice" ("Глівіца"). У ПМП выканала 415 рэйсаў, пакуль 28 студзеня 1967 года не быў на ёй апушчаны сцяг.



***Экс "Ліда" - плывучы склад***

Некалькі гадоў "Глівіца", служыла плывучым складам "MP-ZPS - 1" у порце Шчэціне, каб канчаткова ў 1973 годзе закончыць сваё марское жыццё.

***Паводле Рышарда Ахвата (Шчэцін)***
***і Ю. Курыцына***
***матэрыял пераклаў і скампанаваў***
***Станіслаў Суднік.***

# Лідскія юбіляры 2008 года

# Станіслаў Каласанты Роек

## 100 год з дня нараджэння

**Роек Станіслаў (16.11.1908 - 6.10.1996) ксёндз, дэкан, нарадзіўся ў цэнтральнай Польшчы, скончыў Ягелонскі ўніверсітэт па спецыяльнасці "польская мова і літаратура", у 1925 г. уступіў у ордэн піяраў, у 1935 г. атрымаў капланскае пасвячэнне, у жніўні 1939 г. прыехаў у Ліду. Ён вытрымаў часы нямецкай акупацыі, ваяўнічага атэізму, спробы фізічнага ўздзеяння, абараніў сябе і Лідскую Фару. 57 гадоў прабыў ксендзам у Лідзе. Надпіс на магіле:** ***Ks. Dziekan Stanislaw Kalasanty Royek kaplan z zakonu pijarow ur. 16.X1.1908, zm. 06.X.1996. Dlugoletni paterz Lidzkiej Fary, jej obronca wierny syn sw. Jozefa Kalasancjusza, Milosnik bozego milosierdzia, Matki bozej i sluga wszystkich ludzi. Reguiescant in pace !***

Ксёндз **Станіслаў Роек**, манаскае імя якога было **Юзаф Каласанты**, нарадзіўся 15 лістапада 1908 года ў Грэнбоціне Келецкім, які належаў да Кракаўскага ваяводства. У ордэн айцоў-піяраў уступіў ва ўзросце 17 гадоў. Вечныя абеты склаў маючы 22 гады. Капланскі сан атрымаў у 1935 годзе з рук Кракаўскага Мітрапаліта ксяндза Адама Стэфана Сапегі. Атрымаў тэалагічную адукацыю, вучыўся таксама на факультэце паланістыкі Ягелонскага ўніверсітэта. Матэрыялы адносна кракаўскага перыяду жыцця маладога Станіслава Роека, якія апрацавалі айцы Герард Брумірскі і Анджэй Врубель, далі магчымасць уявіць частку ягонага жыцця, напоўненага навукай, а таксама перадачай здабытых ведаў клірыкам - малодшым за яго піярам, прывіццё ім захаплення навукай. Здаецца, ужо тады меў надзвычайную здольнасць уздзейнічаць на навакольных.

Калі б кс. Роеку лёс наканаваў застацца ў Кракаве, магчыма, што ён аб'яднаў бы душпастарства з навуковымі даследваннямі, якія яго вельмі цікавілі. Аднак жыццё маладога піяра пакіравалася зусім у іншым кірунку. Вось што піша наконт гэтага сам кс. Станіслаў Роек у сваіх успамінах пад назвай «*З крушынак памяці*», якія напісаў пад канец свайго жыцця. На шчасце, яны захаваліся ў рукапісе, які аўтар перадаў мне ў форме копіі падчас апошняй з ім сустрэчы ў Лідзе ў 1995 годзе.

*„Як я апынуўся ў Лідзе? Не з прымусу, а з уласнага выбару. Правінцыял кс. Херанім Стусіньскі быў заклапочаны, што няма каго выслаць у Ліду на месца кс. Генрыха Мішкуркі, які павінен быў кончыць спыненае навучанне на факультэце германістыкі. 29 ліпеня 1939 года я атрымаў распараджэнне выехаць у Ліду. І так пачалося. Замест года (так планаваў ксёндз правінцыял) знаходжуся ў Лідзе амаль пяцьдзесят чатыры гады."* ***(Рукапіс, арк. 1.)***

На самой справе кс. Роек знаходзіўся ў Лідзе пяцьдзесят сем гадоў, аднак свае ўспаміны пастанавіў замацаваць у часе, пераносячы іх на паперу, толькі за тры гады да смерці.

*„Сапраўды, з маленькіх крушынак памяці трэба складваць гэтыя ўспаміны, бо жылося ў Лідзе ў такім прыгнечанні і боязі, што невялікія пісьмовыя ўспаміны маглі стаць доказам віны. Не запісваў нічога альбо амаль нічога."* ***(Рукапіс, арк. 1.)***



***Ксёндз Станіслаў Роек, пачатак побыту ў Лідзе***

Ліда, жнівень 1939 года, дзень да пачатку Другой Сусветнай вайны. Першае ўражанне кс. Роека пасля знаёмства з горадам, у якім яму прыйдзецца застацца на ўсё доўгае жыццё. Пры параўнанні з Кракавам Ліда, хаця гэта і быў павятовы горад, здавалася невялікай, з тыповай для тагачасных крэсаў Рэчы Паспалітай разнароднасцю жыхароў: разам з палякамі вялікі працэнт яўрэяў, якія займаліся гандлем, і невялікі працэнт насельніцтва, якое акрэслівала сябе як «тутэйшыя» і размаўляла ў вёсках т. зв. простай мовай, г. зн. з ужываннем уперамешку польскай і беларускай моў. У цэнтры горада, на галоўнай вуліцы Сувальскай, знаходзіліся два касцёлы - гэта Фарны касцёл, дзе дэканам быў шаноўны кс. Гіпаліт Баярунец, а таксама касцёл пад назвай Св. Юзафа Каласантага, кляштар і школы айцоў піяраў на чале з рэктарам Мар'янам Клеменсам Чабаноўскім. Вялікую парулярнасць мела піярская Гандлёвая гімназія, у якой акрамя навучэнцаў палякаў вучылася таксама яўрэйская моладзь (так было і сярод настаўнікаў).

Калі 1 верасня 1939 года пачалася вайна, некаторыя настаўнікі з піярскага асяродку адмовіліся ад працы і пакінулі Ліду. Ксёндз Станіслаў Роек выкладаў два месяцы польскую мову, гісторыю і рэлігію. У заходнюю Беларусь увайшлі войскі Савецкага Саюза.

Вось знакамітае апісанне першага спаткання вучняў Гандлёвай гімназіі з прыбылым да іх энкавэдыстам, які спаткаўся з моладдзю для выступлення з прапагандысцкай лекцыяй.

*"Моладзь, сабраная ў спартыўнай зале, настроена патрыятычна. Калі гучаць словы абману і паклёпу пра Польшчу, моладзь хутка рэагуе. Шаруючы нагамі па падлозе, набліжаецца цэлай залай да сцэны. Настаўнікі напалоханы, энкавэдыст з рэвальверам чакае [...]. Моладзь дайшла да сцэны і ўсёй групай вярнулася на сваё месца. Такое відовішча паўтаралася два разы. Энкавэдыст выкрыкваў:*

*– Буржуі! Тут няма бедных дзяцей!*

*Выступае з першага раду Станіслаў Качынскі ў прыгожых портках галіфэ, у афіцэрскіх ботах, падымае нагу ўверх:*

*– Ці ў вас ва ўсёй Расіі ёсць такія боты? Няма! Я ж бедны і вучуся, дзякуючы ксяндзам, якія мне дапамагаюць.*

*Усе выбухнулі смехам. Афіцэр НКУС не ведаў, што мае зрабіць. Ноччу Станіслава Качынскага арыштавалі." **(Рукапіс, арк. 3.)***

Гэта было першае грознае папярэджанне з боку савецкага акупанта. А гэта ўжо наступная сцэна ў рукапісе кс. Станіслава Роека.

*„Прыпомніўся другі выпадак. На свята Кастрычніцкай рэвалюцыі збудавалі трыбуну за Лідай, на полі. Хтосьці стаіць на трыбуне і выкрыквае лозунгі. Падышла чарга да нашай гімназіі і настаўнікаў. Чуваць з трыбуны шум. Наша моладзь адварочвае галавы ад трыбуны і з усіх сіл прабягае моўчкі каля яе. Патрыятычная, баявая пазіцыя. Гэтыя пойдуць на ўсё." **(Рукапіс, арк. 4.)***

Трэці выпадак.

*„У першыя дні акупацыі прыйшлі ў кляштар тры афіцэры, і адзін з іх пытаецца ў ксяндза-рэктара Мар'яна Клеменса Чабаноўскага:*

*– Ці ёсць у вас аружые?*

*– Ёсць, шмат, – адказвае рэктар.*

*– Пакажыце!*

*Рэктар адвёў іх у агарод і паказаў дзве грады ружаў.*

*– Не! – крычыць афіцэр. – Аружыя гэта… і паказвае на сваю зброю.*

*– А, не, гэтага ў нас няма, – адказвае ксёндз-рэктар. І ўсе смяюцца са слоўнай памылкі, якая ўзнікла з падабенства дзвюх брацкіх, аднак розных моў. Больш ужо такога смеху не было, а толькі - цярпенне і слёзы." **(Рукапіс, арк. 4.)***

Ксёндз Станіслаў Роек працаваў у гімназіі толькі каля двух месяцаў. Звольнілі, як духоўную асобу, якая не павінна была мець кантактаў з моладдзю. Гімназію перанеслі з комплекса піярскіх будынкаў па вуліцы Сувальскай у ваколіцы гарадскога стадыёна, а пад канец 1939 года ўвогуле ліквідавалі. Рэквізавалі таксама кляштар, а пасля касцёл. Ксяндзы-піяры жылі ў доме лідзяніна – Асэйпуна, а Святыя імшы адпраўляліся ў Фарным касцёле. Такая сітуацыя працягвалася да канца першай паловы 1941 года - да пачатку вайны СССР з немцамі.

У чэрвені 1941 года немцы ўвайшлі ў Ліду, атакуючы з паветра савецкія войскі, размешчаныя на вуліцах горада, скідаючы з самалётаў запальныя бомбы. Узнік вялікі пажар, які вельмі хутка ахапіў галоўную вуліцу Сувальскую, на якой знаходзіўся касцёл айцоў-піяраў. Ксёндз Станіслаў Роек адразу пабег у касцёл, папхнуў з усёй сілы зачыненыя на засаўку дзверы і спаткаўся з прыбегшым ксяндзом-рэктарам Чабаноўскім. Тым часам касцёл пачаў гарэць. У рукапісе кс. Роека знаходзіцца падрабязнае апісанне пажару, якое паказвае драматычную сітуацыю і хутка арганізаваную акцыю выратавання.

*„Агонь, які разносіўся ветрам, дабраўся да даху касцёла праз адчыненыя вокны над хорамі. Наш касцёл пачаў гарэць. Прыступілі да тушэння. **Я** і ксёндз-рэктар **Чабаноўскі** ўзяліся за ручную помпу. Брат **Фелікс Урбаля**, надзеўшы маску, са шлангам пачаў тушыць агонь. Працаваў нядоўга, бо ад дыму ўпаў, не падаючы прызнакаў жыцця. З'явіўся тады садоўнік **Бадрых** і выцягнуў яго з дыму. Потым разарваў некалькі лістоў бляхі, і тады дым, маючы выхад, не перашкаджаў у тушэнні. Брат Фелікс, ачуняўшы, пачаў тушыць пажар разам з садоўнікам. Калі пажар быў патушаны, то брат Фелікс, абследуючы месца пажару, праваліўся разам з часткай спаленай столі на хоры. Яму нічога не сталася. Загінуў пазней ад асколкаў артылерыйскага снарада, падчас захопу Ліды нямецкай пяхотай." **(Рукапіс, арк. 5.)***

Манахі вярнуліся ў кляштар і хутка прыступілі да ўпарадкавання святыні. На жаль, ненадоўга. Немцы занялі ўвесь піярскі асяродак, дзе размясцілі вайсковую аптэку. Ксёндз Роек і яго кляштарныя браты ізноў павінны былі шукаць прыстанішча; знайшлі яго на вуліцы Школьнай, якая ўцалела ад пажару – недалёка ад вуліцы Сувальскай, дзе знаходзіўся касцёл Св. Юзафа Каласантага, ізноў недаступны для піяраў, якія – так, як і ў часы савецкай акупацыі, адпраўлялі Святыя імшы ў Фарным касцёле. Сітуацыя ў Лідзе тым часам станавілася ўсё больш драматычнай. Пачаліся гітлераўскія экзекуцыі яўрэяў і польскай інтэлігенцыі. Немцы расстралялі ксяндзоў Слабадской парафіі, што было прычынай прыняцця гэтай парафіі кс. Клеменсам Чабаноўскім, а кс. Станіслаў Роек быў прызначаны пробашчам фарнай парафіі, дапамагаў падчас нямецкай акупацыі кс. дэкану Гіпаліту Баярунцу. Змены наступілі толькі ў 1944 годзе, калі савецкія войскі ізноў ўвайшлі на Лідчыну.

У жніўні 1944 года 36-гадовы кс. Станіслаў Роек быў накіраваны дэканам Гіпалітам Баярунцам у піярскі касцёл у Шчучыне, дзе пробашчам да гэтага часу быў кс. Канстанты Канеўскі, які, баючыся савецкай улады, перабраўся ў Польшчу. Пяць год - да сакавіка 1949 года - быў кс. Роек у Шчучыне. Гэта быў перыяд незвычайна напружанай душпастырскай працы. Знешнія ўмовы спрыялі шчучынскаму пробашчу. Шчучын - невялікі гарадок з цудоўным гістарычным мінулым да пэўнага часу ў плане рэлігійным мала цікавіў савецкую ўладу. Ксёндз Станіслаў Роек змог цалкам выкарыстаць гэты час. Вось ягоныя ўспаміны з тых часоў, замацаваныя на лістках паперы кроплямі чарніла.

*"У 1943 годзе не было катэхізацыі дзяцей да першай споведзі і Святой камуніі. З маім прыездам запісалася 300 дзяцей. Я падзяліў іх на дзве групы:*

*першая мела заняткі з раніцы - тры гадзіны, а другая пасля поўдня - таксама тры гадзіны. Дзве гадзіны я праводзіў заняткі сам, а на трэцяй гадзіне 150 дзяцей былі падзелены на некалькі груп, і тады пададзены матэрыял мы замацоўвалі па памяці. Дапамагалі: брат Юзаф Нарушэвіч, Гэнавэфа Новік (настаўніца) і Браніслава Шот (тэрцыянка). Дзеці навучаліся праўд катэхізму, авалодвалі польскай мовай. Прыемна было глядзець, як 300 дзяцей у белым, са свечкамі ў руках прыступалі да Першай Святой камуніі. Пасля Святой імшы быў запіс у ружанец і шкаплеж. Узрушаныя людзі плакалі. Саветаў дражніла, калі дзеці, пасля заняткаў у школе, спатыкаліся са мною ў горадзе, падчас маіх вяртанняў дадому з касцёла. Убачыўшы мяне здалёк, беглі насустрач і выкрыквалі: «Хай будзе пахвалёны Езус Хрыстус!»*

*Саветы крыва глядзелі на ўсё гэта і гаварылі: «Вучыў іх толькі месяц, а як сапсаваў». Інакш на ўсё гэта глядзеў ксёндз-дэкан з Ліды, які дзякаваў мне і падкрэсліваў, што кірую парафіяй добра. Калі я ў 1946 годзе быў у Лідзе, ксёндз-дэкан прасіў мяне, каб я яго выспавядаў: «Гэта мая апошняя споведзь, – гаварыў, – мы ўжо болей не ўбачымся.» Калі ў 1947 годзе ён паміраў, я не быў нават на пахаванні, бо хварэў.”* ***(Рукапіс, арк. 6–7.)***

Тым часам над шчучынскім пробашчам збіраліся хмары. Мясцовая ўлада не магла ўжо болей цярпець ягонага ўзрастаючага ўплыву на жыхароў парафіі. Трэба было пазбавіцца ад нявыгаднага ксендза; для гэтага падрыхтавалі правакацыю, аб якой – разам з яе вынікамі – коратка распавёў кс. Станіслаў Роек у сваіх запісах.

*«Пад канец 1948 года нада мною пачало хмурыцца неба. Прыняў у гэтым удзел польскі настаўнік, п’яніца, які, ідучы з начальнікам НКУС Новікавым, затрымаў мяне і пачаў хваліць, а начальніка падгаворваць, каб са мною пазнаёміўся. Прадставіліся, але я іх да сябе не запрашаў. Адсюль нянавісць, якая магла закончыцца кратамі. Так мяне прыціскалі, што я вырашыў пайсці ў падполле. Ужо ўсё было агаворана, але да горшага не дайшло дзякуючы ксендзу Чабаноўскаму, які расказаў мне пра падобны выпадак. Хуткі пераезд папярэдзіў няшчасце: «Ты вернешся ў Ліду, а ксёндз Ежы Станіслаў Петрас пойдзе ў Шчучын». Ранкам грузавая машына прывезла з Ліды рэчы ксендза Петраса, а я са сваімі рэчамі паехаў у Ліду. Вернікі, прыйшоўшыя рана ў касцёл, засталі ўжо іншага ксяндза.”* ***(Рукапіс, арк. 8.)***

Кс. Станіслаў Роек апынуўся ізноў у Лідзе.

З 1951 года пачаліся ў жыцці каплана вельмі цяжкія гады. Хваля сталінскіх рэпрэсій, мэтай якіх было поўнае знішчэнне польскай інтэлігенцыі, ахапіла ўсю Беларусь, а асабліва яе заходнюю частку. Асабліва трагічным для душпастыраў Ліды аказаўся дзень 11 лютага 1951 года – шырокая хваля масавых арыштаў не абмінула таксама ксяндзоў: рэктара Клеменса Чабаноўскага, дэкана Казіміра Баневіча і многіх іншых. Хто застаўся? Нямногія ксяндзы, і нават тыя, як сцвярджае кс. Роек, былі падрыхтаваны да катаргі. Звернемся зноў да ўспамінаў з таго перыяду.

*„З таго дня* [г.зн. 11 лютага 1951 года – І.С-Я.]*я працаваў у фары. Праца напачатку складвалася добра. Але пачаліся новыя арышты. Устрывожаныя людзі думалі, што гэта канец свету. “Трэба яшчэ паспавядацца, пакуль усіх ксяндзоў не забяруць”, - так гаварылі і масава ішлі да споведзі. Больш за паўгода мы спавядалі па дзесяць гадзін у дзень. Я спавядаў, удзяляў Святую камунію, наведваў хворых. Цалкам быў змардаваны. Пазней умовы для працы пачалі нармалізавацца, і нейкае жыццё склалася.”* ***(Рукапіс, арк. 9.)***

Сцвярджэнне кс. Роека, што на працягу дзесяці гадоў „жыццё нейкае склалася” трэба зразумець, хіба так, што часамі за дабро трэба прызнаць меншае зло. А тое сапраўды вялікае зло дало пра сябе знаць у 1963 годзе.

Фрагмент рукапісу пад назвай *«Пахавалі жывога»*, які дае ўяўленне аб падзеях 1963 года:

*„Я іду ў касцёл, каб адправіць Святую імшу. На прыкасцельным пляцы, каля другой захрыстыі, бачу кучу галін, а наверсе развіваецца чырвоны штандар, а віднеецца невялікая таблічка з надпісам на рускай мове: «Тут знаходзяцца парэшткі ксяндза Станіслава Роека». Жывога пахавалі альбо хочуць пахаваць. Кірунак атакі вызначаны цудоўна. Пачне баяцца і будзе паслухмяны не Богу, але ім! Па ўсіх магілках былі раскіданы ўлёткі, напісаныя дзіцячай рукой. Знявагі ксяндзоў, Касцёла, веры – усё гэта вельмі груба. Я сказаў, каб гэтыя „шэдэўры мастацтва” былі знішчаны, а частку картак занёс у міліцыю. Ніякага выніку. Карткі мне вярнулі. Вечарам прыходзіць да мяне намеснік начальніка міліцыі і просіць, каб аддаў яму тыя карткі, бо прыехаў начальнік з Гародні і зрабіў яму вымову. Гэтыя ж карткі могуць трапіць за мяжу. Толькі гэтага яны яшчэ баяцца.”* ***(Рукапіс, арк. 11.)***

Наступны этап – гэта разбіванне вокнаў касцёла. Працягвалася яно да той пары, пакуль не схапілі на гарачым учынку дачку начальніка гарвыканкаму. Калі спрабавалі яе затрымаць, вырвалася, пакінуўшы гузікі ад плашча, як доказ злачынства. Аднак гэта быў толькі кіраваны працэс для застрашвання кс. Роека. Спроба пазбаўлення каплана жыцця была зроблена пад канец 1964 года. Сцэны, як у крымінальным фільме. Станіслаў Роек апісаў іх так цудоўна ў сваіх рукапісных успамінах, што чытач адчувае сябе відавочцам драматычнага здарэння.

*„Пад канец снежня 1964 года было запланавана расправіцца з ксендзам. 30 снежня 1964 года, у 2.30 пасля абеду, прывезлі хворага на споведзь. Пасля споведзі і ўдзялення яму памазання чую свісты і галасы ў касцёле. Адчыняю дзверы захрыстыі і пытаюся:*

*– Чаго хочаце?*

*– Шукаем цябе!*

*Уваходзяць у захрыстыю двое і пачынаюць біць хворага. Я забараняю ім гэта рабіць. У той жа час пасылаю дачку хворага, каб паклікала міліцыю. Неда-*

*лёка ад касцёла знаходзілася плошча, міліцыя была там заўсёды. Тлумачаць, што не маюць права ўвайсці ў касцёл. Тыя, што засталіся ў захрыстыі, пытаюць:*

*– Ці веруючы?*

*– А ці хацелі б, каб каплан быў няверуючы?*

*– Ты паляк?*

*– Я каплан і паляк. Хлопцы, – пытаю, – а можа, вам патрэбны грошы?*

*– Як маеш, то давай, – здаецца, што яны п'яныя.*

*Я пайшоў у другі канец захрыстыі і быццам бы шукаю ў століку грошы, і думаю, як выбраць момант, каб уцячы. Трэба было прабегчы восем метраў, я быў у футры і меў ужо немаладыя гады. Заўважылі мае рухі і падышлі да дзвярэй. Яны не п'яныя, а толькі прыкідваюцца, падумаў я. Закрылі ручку дзвярэй, адзін скочыў на мяне, другі падсёк мне ногі – павалілі і пачалі біць нагамі і душыць. Я аднаго ўкусіў за руку. Перастаў мяне душыць, я падпоўз і схаваў галаву пад лаўку. Прыкінуўся забітым. Доўга з мяне здзекаваліся, а пачуўшы ў касцёле галасы, выскачылі і ўцяклі. Па дарозе паўтаралі: «Мы забілі тога святога». Пачула гэта дзяўчынка і сказала маці: «Забілі нашага ксендза» [...] Маці склікала людзей і натоўп пачаў пагоню* [за ўцекачамі – І.С-Я.],*хочучы ўчыніць самасуд. Уцекачы схаваліся ў магазіне. Зачынілі дзверы і не пускалі людзей. Жонкі вінаватых, апавешчаныя аб усім, прыбеглі ў касцёл. Узрадаваліся, што я жыву. Просяць, каб заступіўся за іхніх мужоў перад людзьмі. НКУС цікавіцца справай, ім вельмі важна, каб усё замяць. Каб выратаваць касцёл, трэба было зрабіць так.*

*– Няхай мужы прыйдуць заўтра, – гавару я тым жанчынам, – і што будзе магчымым, то зробім.*

*Раніцай поўная захрыстыя людзей. Прыйшлі і вінаватыя. Просяць прабачэння, а я ім кажу:*

*– Хлопцы, хто вас паслаў?*

*Маўчаць. Абдымаю малодшага за шыю і пытаюся:*

*– Хто цябе паслаў? Ксёндз табе выбачыць, але хоць гэта скажы....*

*Пасля доўгага маўчання той ціха сказаў:*

*– Дзядзя мяне паслаў.*

*А ягоны дзядзя – гэта палкоўнік НКУС.*

*Пайшоў ім насустрач і ўсю справу закрыў. Прыціскалі мяне і потым і моцна, але на жыццё не замахваліся. Гэтым выйграла справа Касцёла."* ***(Рукапіс, арк. 12–15.)***

У прыведзеным фрагменце рукапісу былі названы прозвішчы двух віноўнікаў, як іх называе кс. Станіслаў Роек. Я прапусціла іх свядома. Можа, жывуць яшчэ іх дзеці ці іншыя нашчадкі. Навошта будзем ім рабіць непрыемнае?

Пад датай 17 красавіка 1965 года знаходзіцца наступны запіс.

*„Я падслухаў, што ў Вялікую Суботу [...] рыхтуецца напад на ксендза падчас асвячэння агню. Парафіяльны камітэт, паінфармаваны аб небяспецы, павінен быў быць чуйным падчас літургіі. Я папрасіў яшчэ Стрыбуця, адважнага чалавека з Ліды.*

*– Дам рады, – сказаў ён, – дайце мне толькі пяць мужчын, няхай ходзяць са мною спераду і ззаду.*

*Праца д'ябла падчас асвячэння агню пачалася. Люд акружыў ксендза, і, нягледзячы на перашкоды, абрад асвячэння ўдалося шчасліва закончыць. У люд, які маліўся на дварэ бо не мог змясціцца ў касцёле, кідалі бутэлькамі, на жанчын запаленымі грабянямі, каб пачалі гарэць валасы; ганьбілі словамі, перашкаджалі рознымі спосабамі. Вышэй памянёны Стрыбуць схапіў аднаго хлопца, які кідаў бутэлькі на людзей. Зараз жа падбеглі мужчыны і хацелі перакінуць яго цераз касцельны мур на ходнікі. Касцельны камітэт гэтага не дапусціў [...] Брамы касцельнага муру былі зачынены, а п'яны хлопец трапіў у памяшканне і шукаў таго мужчыну, які зусім нядаўна яго злавіў, а калі яго знайшоў, то кінуўся ззаду з фінкай. Паколькі ён быў п'яны, нож стукнуўся не ў плечы, а завіс праз плячо ў паветры. Заатакаваны Стрыбуць схапіў хлопца за руку, выкруціў яе, фінка і выпала, а п'яны круціўся ад болю пад нагамі ў пераможцы. Хутка знайшоўся збаўца, падскочыў, паказаў дакументы і забраў п'янага. На гэты раз усё магло закончыцца трагічна."* ***(Рукапіс, арк. 15–17.)***

А як усё закончылася? Пасля дакладнага расследавання справы, якое працягвалася каля месяца, кс. Станіслаў Роек выслаў ліст да Лідскага гарвыканкаму, інфарміруючы аб нападзе на касцёл падчас абрадаў з нагоды Вялікадня. Гэты ліст быў вельмі старанна апрацаваны, аднак уладам не было пададзена іменнага спісу сведкаў, каб яны не былі загадзя застрашаны праз НКУС. Сведкі – па плану пробашча – павінны былі раскрыцца толькі падчас суда. Хто ж можа лепей за кс. Роека перадаць атмасферу той судовай расправы, у якой ён не толькі ўдзельнічаў, але і быў адначасова галоўнай мэтай нападаў? Вось ягоная выдатная справаздача, безканкурэнцыйная ва ўменні перадачы рознага віду напружанняў і зменаў настрою ў судовай зале.

*„Сабралі ў вялікай зале каля ста чалавек, яны павінны былі прыглядацца сацыялістычнай справядлівасці суда. Суд быў фарсам справядлівасці.*

*– Згноім вас за кратамі. Патрэбен быў цэлы месяц, каб сабраць гарадскія плёткі. Ці немцы вас не праследавалі? Гэта Савецкі Саюз павінен быць горшы за фашыстаў? Паклёпнікі, з-за кратаў не выйдзеце! Нават не маеце сведкаў.*

*– Маем, – і намеснік старшыні касцельнага камітэту падае прыгатаваны намі спіс. Паказанні сведкаў пацвердзілі, што мы напісалі праўду. У нас папрасілі прабачэння, абышлося без арышту.*

*- Просім вас не баяцца, падчас вашага свята будзе дзяжурыць міліцыя, – сказана было нам.*

*Выйшла добра, бо дзяржаўная ўлада не мела часу, каб падвучыць сведкаў, якія сведчылі."* ***(Рукапіс, арк. 17–18.)***

1966 год не прынёс вялікіх зменаў – працягвалася імкненне да атэізацыі грамадства рознымі спосабамі. Напрыклад, вучням школ было забаронена хадзіць у касцёл. Гэта забарона не датычылася толькі малых дзяцей. Тым больш, патрабавалі, каб самі ксяндзы не пускалі школьнікаў у святыню. Найбольш старанныя

настаўнікі дзяжурылі каля касцёла падчас набажэнства, запісваючы прозвішчы непакорных і прыцягваючы іх да адказнасці. Тых настаўнікаў кс. Станіслаў Роек у сваіх успамінах не назваў. 12 траўня таго ж года паехаў ён у Маскву, каб асабіста праверыць, ці правамерныя дзеянні лідскіх улад. Яго прыняў намеснік упаўнаважанага па справах рэлігіі па прозвішчы Бутаў. Лічачы, што Лідская і Гарадзенская акругі з'яўляюцца найбольш актыўнымі цэнтрамі каталіцызму ён падкрэсліў, што трэба дзейнічаць асабліва дыпламатычна і асцярожна, хаця не забараняецца хадзіць у касцёл дзецям школьнага ўзросту. Справа была выйграна дзякуючы рашучасці і адвазе кс. Станіслава Роека. А якой была рэакцыя мясцовай улады? З аднаго боку, адпомсцілі Бутаву, а з другога – запланавалі знішчыць Фарны касцёл. Вось фрагмент рукапісу з запісам на гэтую тэму.

*„Нашыя ўпаўнаважаныя па справах рэлігіі са злосці не ведалі, што рабіць.*

*– Хто вам дазволіў ехаць у Маскву? Справа з дзецьмі была амаль што закончана, а Масква нам усё сапсавала!*

*Адпомсцілі Бутаву. […] Упаўнаважаныя з Гародні, Берасця і Вільні, будучы на камуністычным з'ездзе, выгрызлі Бутава з працы".* ***(Рукапіс, арк. 20).***

А якія былі прыняты меры, каб знішчыць непаслухмянага каплана? Цытую працяг аповесці кс. Станіслава Роека.

*„Калі я вярнуўся ў жніўні 1967 года пасля лячэння, то даведаўся, што Ярашэвіч, кантралёр з Менска, быў некалькі дзён у Лідзе і нешта задумаў. Пазней мы даведаліся, што ён паслізнуўся пры якойсьці нячыстай справе.*

*– Выбачым табе тое, калі ліквідуеш фару ў Лідзе.*

*Той ахвотна згадзіўся, бо да пенсіі яму заставалася яшчэ некалькі месяцаў."* ***(Рукапіс, арк. 20.)***

Першая атака датычылася быццам бы неадпаведнасці ў метрыкальных запісах. Была спроба перамяшаць нумарацыю метрык з Ліды з нумарамі метрык з ваколіц. Падман быў выкрыты, і справа, якая пагражала закрыццём Фарнага касцёла, дзякуючы пробашчу была выйграна. А менскі чыноўнік так быў упэўнены ў перамозе, што аднекуль дастаў дакумент з пячаткай міністэрства, у якім інфармавалася пра ліквідацыю лідскай парафіяльнай супольнасці.

Вось як коратка гаворыць пра перамогу Касцёла кс. Станіслаў Роек:

*«Уся атмасфера і ўсе ячэйкі камуністычнай улады імкнуліся да таго, каб Ліда засталася без касцёла і абрынулася духоўна, каб стала тварэннем новага ладу, пазбаўленым каталіцкай і чалавечай годнасці. Аднак, практыкуючы каталіцызм і польская культура акрылялі народ на вялікія справы. Не ўпала духоўна Ліда!"* ***(Рукапіс, арк. 22.)***

**«Знішчыць будынак Фарнага касцёла – апору каталіцызму.»**

Гэты план рыхтаваўся доўга і дасканала. Было прынята рашэнне пабудаваць недалёка ад Фарнага касцёла найбольш высокую гасцініцу ў Лідзе, якая павінна была размяшчацца так, каб парушыць фундамент касцёла і быць пагрозай касцельнаму муру.

Падчас трох візітаў у Ліду, я са сваім мужам жыла менавіта ў гэтай гасцініцы пад назвай „Ліда", і хаця муру, які аддзяляў бы прыкасцельную тэрыторыю ад гасцінічнай плошчы, не было, мы не думалі, што з гэтым звязана пэўная гісторыя, якая пачалася дваццаць пяць гадоў назад. Як пазней аказалася – запісаў гэтую гісторыю ў сваім рукапісе кс. Станіслаў Роек. Паміж пабудаванай гасцініцай і касцёлам была вуліца, якую вырашылі зліквідаваць. Навошта?

*„Было вырашана прыблізіцца на дваццаць пяць метраў да касцельнага муру, каб падвергнуць яго небяспецы. Гэтаму перашкаджаў дом аднаго чыгуначніка. Чыгуначнік абараняўся эфектыўна. Але навошта ж тады подкуп?*

*– Пабудуем табе цагляны дом на новым участку. А свой дом можаш прадаць. Раней ці пазней і так цябе з яго выганім. Згаджаешся?*

*Чыгуначнік на такія ўмовы пагадзіўся, і дамова была падпісана. Вось ёсць і джала, каб укусіць Касцёл, збурыць мур, далучыць касцельны пляц да плошчы Леніна* (? плошча Леніна далекавата). *Касцёл не ўтрымаецца. Вынесены прыгавор. Малымі крокамі, ды зрабіць сваё. Але няўдача напаткала іх ужо на самым пачатку. Участак чыгуначніка не быў даследаваны. Палажылі фундамент, збудавалі мур, будынак пачаў трэскацца. Для ўмацнення фундаменту трэба было аддаць шмат грошай і часу.*

*13 красавіка 1970 года пачалі разбураць мур вакол касцёла. Былі выкарыстаны вайскоўцы і цяжкая тэхніка. Павыкідвалі крыжы. Місійны крыж паставілі на могілках. Наша заява ў Маскву выклікала нянавісць […] першага сакратара партыі, які павінен быў тлумачыць, чаму выкарыстаў вайсковую сілу для такіх мэт. Тлумачыў, што вайсковая сіла не была выкарыстана, а заява – гэта паклёп ксяндза. Шэсць месяцаў Масква не дазваляла, каб ксендза перавялі ў Жалудок, цяпер згадзілася. Можаце перавесці ксендза па касцельных каналах. Ліда радуецца, знесены мур, пачаліся работы на плошчы Леніна. Ліквідуюць ксендза, паваляць касцёл, а на месцы табэрнакулюм стане помнік смяротнаму чалавеку.*

*Спрабавалі ліквідаваць ксяндза сваімі спосабамі. 7 ліпеня 1970 года завезлі мяне ў Менск. Упаўнаважаны Кавалёў сказаў мне, што ў Лідзе я працаваць ужо не буду, бо пераведзены ў Жалудок.*

*– Я стары, хворы, – адказаў. – Увесь час я працаваў у Лідзе, пабудаваў дом, і хаця яго забрала дзяржава, я, як асоба, якая будавала гэты дом, маю права ў ім жыць да смерці.*

*- Не будзеш у ім жыць, – пачуў я.*

*20 ліпеня ў мяне забралі дазвол на працу ў лідскай парафіі. Улада была пераканана, што ў хуткім часе забяруць таксама і касцёл, бо каталікі-дабраахвоты іх запэўнілі, што абараняць касцёл будуць толькі пятнаццаць кабет. 25 ліпеня павінен быў прыехаць Панамароў, каб на месцы даследаваць сітуацыю."* ***(Рукапіс, арк. 22–24.)***

І на гэтым заканчваецца храналагічны запіс

успамінаў, замацаваных на картках рукой кс. Станіслава Роека. Захаваўся дастаткова характэрны запіс з апошніх дзён ягонага жыцця, г.зн. з 12 лютага 1996 года, у якім ён вярнуўся да справы Жалудка, дзе інфармаваў, што, хочучы яго перавесці з Ліды, быў актывізаваны таксама касцельны канал. Ксёндз Станіслаў Роек быў запрошаны ў Гародню ксяндзом-дэканам Міхалам Арановічам, які яго прасіў (сам знаходзячыся ў нязручнай сітуацыі), каб згадзіўся пераехаць у Жалудок. Гэты запіс адносіцца да канца жыццёвага шляху лідскага пробашча і паказвае, што ён доўга вагаўся ці расказваць пра гэта клапатлівае для абодвух бакоў спатканне. А як гэта часам бывае, інфармацыя выпадкова трапіла ў мае рукі, калі тэкст пра ксяндза Станіслава ўжо перадала ў друк. Вырашыла, што Ягонай воляй з'яўляецца тое, каб гэтая звестка ўбачыла дзённае святло як яшчэ адно сведчанне разнароднасці хітрых метадаў дзеяння савецкай улады ў працэсе атэізацыі грамадства брэжнеўскіх часоў.

Далейшае жыццё няўступлівага каплана я змагу раскрыць толькі на падставе запісаных альбо запомненых фрагментаў размоў, якія вялі з ім я і мой муж у 1992–1994 гадах, калі ён прымаў нас у сваім доме ў Лідзе, які прамяніўся крэсавай дабразычлівасцю да прыяцеляў. А з гэтым домам звязана расказаная кс. Станіславам гісторыя, якая датычыцца яго трохразовага куплявня. Пасля знішчэння фарнай плябаніі падчас ваенных дзеянняў, ксяндзы-піяры Роек і Чабаноўскі разам пабудавалі недалёка ад касцёла дом, які мясцовыя ўлады канфіскавалі, абвінавачваючы яго ўладальнікаў у фінансавых злоўжываннях. Расказваў з усмешкай, што тройчы купляў той самы дом, які падчас маіх прыездаў у Ліду быў плябаніяй і асяродкам айцоў-піяраў. У невялікім агародзе, які знаходзіўся каля дома, загароджаны шчыльнаю сеткаю, жыў сабака-ваўчак Чэрчыль, які беспамылкова адчуваў намеры наведвальнікаў. З намі хутка пасябраваў, хаця ў адносінах да чужых быў недаверлівы і агрэсіўны.

Сярод яскравых апавяданняў кс. Станіслава Роека я дасканала запомніла ягоныя ўспаміны з 1970 года, калі яму было забаронена адпраўляць Святую імшу. Падчас набажэнстваў каплан раскладваў на алтары арнат, сядаў у крэсла і ціха маліўся. Парафіяне рабілі тое самае альбо спявалі рэлігійныя песні. Так працягвалася чатыры месяцы. Парафіяне, ездзячы кожны месяц з петыцыямі ў Менск і Маскву, дабіліся таго, што забарона была адменена. Восень-скімі і зімовымі вечарамі амаль кожны дзень закідвалі вокны плябаніі камянямі. Касцельны камітэт арганізаваў каля дома кс. Станіслава Роека начное дзяжурства, варта была з пробашчам таксама падчас наведвання хворых ці калядных візітаў, каб у выпадку нападу абараніць яго. У перыяд самых цяжкіх пераследаванняў непахіснага каплана інтэрвеніраваў у амбасадара Савецкага Саюза ў Польшчы кардынал Стэфан Вышыньскі.

У сваіх аповедах ксёндз Станіслаў шматразова падкрэсліваў, што самыя цяжкія моманты змог перажыць дзякуючы верным і адважным парафіянам, якія не пакідалі яго – нягледзячы на тое, што ставілі пад пагрозу сябе і свае сем'і.

З незвычайна цікавых аповядаў кс. Роека запомніўся мне яшчэ адзін – пра ўніяцкіх ксяндзоў, якія знаходзіліся ў Лідзе падчас кіравання Брэжнева. Ім было забаронена выконваць капланскія абавязкі, і ў выніку яны не мелі сродкаў на жыццё. Дапамаглі ім айцы-піяры, якія далі ім магчымасць адпраўляць т.зв. інтэнцыяяльныя імшы, звязаныя з грашовымі ахвярамі. Тыя карткі са спіскам інтэнцый імшальных трапілі падчас рэвізіі ў доме аднаго з уніяцкіх ксяндзоў у рукі НКУС. Гэта было матэрыяльным доказам, які абцяжарваў таксама і піяраў.

З бегам гадоў адбываліся змены – мяняліся часы, абставіны, настроі. У 1991 годзе, калі Беларусь стала незалежнай, кс. Станіслаў Роек меў 83 гады, а я пазнаёмілася з ім на год пазней, падчас майго першага наведвання Ліды. Сітуацыя цалкам змянілася. Айцы-піяры аднавілі свае асяродкі ў Лідзе і Шчучыне.

Вызвалены ад штодзённай барацьбы за існаванне, ад боязі за сваё жыццё і жыццё Касцёла, ксёндз Станіслаў Роек пачаў намагацца вярнуць піярскі касцёл пад назваю Св. Юзафа Каласантага, дзе знаходзіўся планетарый. Гэта справа не была простай, тым больш, што святыню хацелі таксама пераняць і праваслаўныя. У часы маіх лідскіх падарожжаў і знаёмства з ксяндзом Станіславам менавіта гэтая цяжкая справа паглынала яго цалкам. Ён лічыў, што гэта ягонае апошняе вялікае заданне, якое павінен выканаць, пакідаючы пасля сябе ў Лідзе вернуты піярскі касцёл. Патрэбна была дапамога вышэйшых кіраўнікоў Касцёла. 9 жніўня 1994 года ксёндз Роек высылае ліст Апостальскаму нунцыю ў Беларусі ад католікаў-жыхароў Ліды. У гэтым лісце ён вельмі



***Ксёндз Станіслаў Роек з лідзянамі. Працэсія на Свята Божагга Цела. Пачатак 90-х гадоў***

звязна і асэнсавана раскрывае гісторыю касцёла з часоў яго заснавання. 5 траўня 1990 года перадаў вялікі матэрыял па той жа справе першаму ў тыя часы біскупу ў Гародні – Тадэвушу Кандрусевічу, а пазней ягонаму наступніку – ксяндзу-біскупу Аляксандру Кашкевічу. У чэрвені 1991 года прасіў яго, каб не дачыніўся да перадачы піярскага касцёла праваслаўным і каб дабраславіў ягоныя дзеянні. Пачынаючы ад пераводу піяраў у 1756 годзе з Воранава ў Ліду, а заканчваючы цяперашнім часам, кс. Станіслаў Роек палічыў, што кляштар быў уласнасцю каталікаў у 1756–1845 гадах, а таксама ў 1919–1958, або – 128 гадоў; а пад уладай праваслаўных – з 1863 да 1919 года, або – 46 гадоў. Акрамя таго, піяры адрамантавалі будынкі, знішчаныя падчас Другой Сусветнай вайны. Усе гэтыя падлікі – на думку кс. Роека – даказваюць прававую прыналежнасць касцёла пад назвай Св. Юзафа Каласантага і кляштара айцам-піярам.

Аднак не толькі барацьба за вяртанне касцёла напаўняла апошнія дзесяць гадоў жыцця легендарнага каплана Лідчыны. Былі таксама эфектныя перамогі, якім спрыяў перыяд значнай лібералізацыі рэлігійнага жыцця ў Беларусі. Так, у 1985 годзе адбыліся ўрачыстасці, звязаныя з залатым юбілеем капланства кс. Станіслава. 1988 год – візіт у Ліду кардынала Юзафа Глемпа і ўрачыстае яго прывітанне на вуліцах горада натоўпамі вернікаў. Урачыстая вандроўка абраза Маці Божай Зямлі Гарадзенскай, шматлюдная працэсія ў Лідзе падчас Свята Божага Цела – цяжка было паверыць у рэальнасць гэтых падзей. І ўрэшце, у 1993 годзе, наведванне Польшчы, без боязі немагчымасці вяртання на Лідчыну. Я была сведкай гэтага вяртання, бо кс. Роек ехаў з Варшавы аўтобусам Камітэта гісторыі навукі і тэхнікі Польскай акадэміі навук, калі Камітэт ехаў з навуковай выправай па Лідчыну. Падчас шматгадзіннага падарожжа ксёндз Станіслаў мала гаварыў. Быць можа назаўсёды развітваўся з Польшчай, з кракаўскай маладосцю, з краем дзяцінства, з Радзімай і сябрамі, якіх ужо ніколі не ўбачыць. Быў як крэсавы дуб – пусціў свае карані на Лідчыне так моцна, што павінен быў застацца там да канца свайго жыцця. Усе апошнія развітанні заўжды вельмі складаныя, настрой кс. Станіслава Роека я дасканала адчувала – перадалася мне ягоная настальгія, якая правакавала роздум; адсюль узнікла адчуванне прыязных пачуццяў, якія аб'ядноўвалі мяне з тым замкнёным у сабе духоўнікам, зацвярдзелым падчас шматгадовай барацьбы за выжыванне, з якім пазнаёмілася год назад, г.зн. у 1992 годзе.

Ксёндз Станіслаў Роек не вярнуў, на жаль, нягледзячы на стаpанні, піярскі касцёл у Лідзе па вуліцы Савецкай (былой Сувальскай) – пасля ліквідацыі планетарыя будынак быў перададзены праваслаўнай царкве. Гэта перажыванне падарвала арганізм каплана, стомленага шматгадовай барацьбой і гадамі. Скарыўся лёсу, лічачы, што яму не пакінулі магчымасці рэалізаваць апошняе заданне ягонага жыцця.

Але вера і вернасць ксендза Станіслава Роека былі нязломнымі, і апошяе жаданне яго было пачута: у нябёсах і на зямлі. 25 жніўня 2008 года ў Лідзе ў мікрараёне Індустрыяльны быў асвечаны піярскі касцёл у імя ўсё таго ж Святога Юзафа Каласантага. Яшчэ раз нагадаю, што піярскае імя ксендза Роека - Юзаф Каласанты. Шляхі Божыя неспазнавальныя.



***Ксёндз Станіслаў Роек, 31.12.1989 г.***

Нажаль ксёндз Станіслаў Роек пра гэта ўжо не даведаўся. Ён пакінуў сваіх лідскіх парафіянаў і супольнасць манаскіх братоў 6 кастрычніка 1996 года –сонечнай восеньскай раніцай, у нядзелю. Быў пахаваны недалёка ад Лідскага Фарнага касцёла, які некалі выратаваў ад знішчэння – так, як і некалькі іншых касцёлаў на Лідчыне. Перш за ўсё, захаваў многіх жыхароў тых земляў ад атэізму. Быў цвёрды і нязломны, але разам з тым успрымальны да людской крыўды і людскога цярпення. Такім застаўся, такім застанецца ў гістарычнай свядомасці каталікаў не толькі Лідчыны.

Жыхары Ліды і яе ваколіц ярка выявілі свае сардэчныя пачуцці да пробашча, масава ўдзельнічаючы ў ягоным апошнім шляху, разам з прыбылымі на гэтую цырымонію піярамі з Польшчы на чале з ксяндзом-правінцыялам Збігневам Янічкам. Канцэлебраванай Святой імшой кіраваў біскуп Гародні Аляксандр Кашкевіч, цудоўнае казанне прамовіў сябар кс. Станіслава Роека айцец Герард Брумірскі. Амаль усе капланы з Гарадзенскай дыяцэзіі аддалі даніну павагі таму, хто быў для іх і павінен застацца прыкладам, вартым пераймання.

***Паводле Ірэны Стасевіч-Ясюковай.***

*(Тэкст скарочаны. У архіве Ордэну айцоў піяраў у Кракаве знаходзіцца падрабязная біяграфія ксяндза Станіслава Роека Sch.P., апрацаваная кс. Герардам Брумірскім Sch.P. пры супрацоўніцтве з кс. Анджэем Врублем Sch.P. і кс. Стэфанам Дэнкевічам Sch.P.)*

# Антоні Масьлінскі

## 90 гадоў з дня нараджэння



**Антоні МАСЬЛІНСКІ**, 13 ліпеня 1917 г. (1918 г.), Вільня – 14 траўня 1994 г., Люблін.

Антоні Маслінскі выпускнік Дзяржаўнай гімназіі імя Караля Хадкевіча ў Лідзе і Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні, прафесар, доктар звычайны гуманітарных навук Люблінскага Каталіцкага Ўніверсітэта, доктар габілітаваны Гістарычнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта, вядомы ў свеце спецыяліст у антыцы, рэнесансе, маньерызме і барока, прадэкан факультэта гуманітарных навук Люблінскага Каталіцкага Ўніверсітэта, шматгадовы чалец Камітэта гуманітарных штогоднікаў, заснавальнік і рэдактар выдавецкай серыі “Даследванне мастацтва рэнесансу і барока”, чалец Камітэту мастацтвазнаўчых навук Польскай акадэміі навук, сябар Таварыства імя Вінпольмана ў Стэндалі, сябар Люблінскага навуковага таварыства Люблінскага Каталіцкага Ўніверсітэта, шматгадовы старшыня Таварыства гісторыкаў мастацтва, выкладчык Веймарскай палітэхнікі і, перш за ўсё, знакаміты выхаваўца моладзі.

Пасля прыезду ў 1945 г. з Вільні ў Люблін прафесар Антоні Масьлінскі разам з прафесарам Мар’янам Маралоўскім прадоўжыў у Люблінскім Каталіцкім Ўніверсітэце працу кафедры гісторыі мастацтва Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні, а ў 1966 прыняў кіраўніцтва кафедрай, поўная назва якой тады гучала як “Кафедра гісторыі сярэднявечнага і найноўшага мастацтва”.




*Антоні Масьлінскі*

# Ліда – край гадоў дзяцiных

Ліда размешчана за 100 км на поўдзень ад Вільні. Налічвае зараз падобна каля 37 000 жыхароў, у тым ліку каля 20 000 палякаў.

Найважнейшым у тым горадзе помнікам старыны, як з погляду архітэктуры, так і мастацкай разьбы, ёсць парафіяльны касцёл Узнясення Святога Крыжа.

Пабудаваў яго, найбольш дакладна, выбітны віленскі архітэктар. Ян Крыштаф Глаўбіц (вел. Глаўбіч) у шэсцідзесятых гадах ХУІІІ ст.

Касцёл стаіць блізка ад замка Гедзіміна, павернуты фасадам да галоўнай вуліцы горада. Некалькі адсунуты ад яе і аддзелены грунтоўным мурам з вы-

штукованай брамай, стаўшай дамінантай мураванай агароджы прыкасцельных могілак.

Касцёл пабудаваны ў стылі позняга барока, арыентаваны на падоўжным плане трохнефавы і трохпралётны, перакрыты без трансэнту, з прэзбітэрыюмам роўнай вышыні і шырыні з галоўным нефам, закончаным сегментавай аркай. Касцёл мураваны з цэглы, пакрыты дахам з чырвонай глінянай дахоўкі, атынкованы знадворку і ўнутры, знадворку пабелены вапнай.

Унутры касцёл падзелены на тры нефы і тры пралёты з дапамогай апілястраваных калонаў, завершаных прыгожымі карнізамі, якія выдатна выступаюць наперад і ўтвараўць квазі-капітэль калоны. Кожная калона трымае чатыры паўкруглыя гурты (тры з іх у бакавых нефах на паднятай арцы), якія расходзяцца ў розных кірунках і падтрымліваюць крыжовыя скляпенне. Вокны прамавугольныя, завершаныя паўкругам Арганныя хоры абапіраюцца на адну арку, парапет хораў выгінаецца да праходу ўвагнута-выпуклай лініяй.

У касцёле ёсць некалькі алтароў. Усе архітэктурныя і мураваныя, пакрытыя маляваным алебастрам. Усе бакавыя алтары без скульптур. Вялікі алтар у двухпавярховай абсідзе, у плане выпукла-увагаўты, вырашаны прасторава, з нахіленай устаноўкай калон на фоне пілястраў. Паміж калонаў у капітэлях карынфска ракаковых, пазалочаных, стаяць шэра-белыя драўляныя статуі святых Пятра і Паўла. памераў большых за натуральную велічыню. Абодва ў кантрпосце. Вопратка ўзлахмачана, як бы ўздута ветрам, як бы была з мокрага матэрыялу, які загінаецца ў ненатуральныя геаметрычныя целы, нагрувашчаныя вулканічнай сілай, манументальнай і ўрачыстай.

Св. Пётр, які стаіць з боку Евангелля (г.зн. з левага боку, калі глядзець з нефа касцёла) выцягвае лёгка сагнутую левую руку з ключамі на пальцах улева і ўвысь да Хрыста на крыжы, выкананага ў тэхніцы поўнай разьбы, шэра-белага колеру, так як і крыж, натуральнай велічыні, які разам з крыжам утварае галоўную, сярэднюю плоскасць алтара.

Хрыстос пададзены ў тэхніцы ідэалізаванага рэалізму. Яго твар прыгожы, у класічных рысах, без следу пакуты.

Руцэ з ключамі св. Пятра адпавядае выстаўленая ўперад улева левая нага і адпаведны левы паварот галавы, што выклікае напругу ў шыі мускула грудзіна ключыцава-сасковага (musculus sternoc-leidomastoideus). Такі паварот галавы ў некаторых месцах называюць “жэстам Брута” з тым жэстам святы Пётр мае ў сабе штосьці ад арла, які ўчапіўся за горную скалу. Насупраць яго стаіць святы Павел з мячом, які вісіць паміж пальцамі правай рукі, у той час, як у левай трымае адкрытую кнігу. Твар аскетычны, выцягнуты, з выпуклымі скуламі. Святы пагружаны ў містычнае сузіранне.

Верхні ярус алтара аздабляе пара анёлаў. На скляпеннях галоўнага нефа, на фасаднай сцяне арганных хораў і на скляненні прэсбіторыюма фрэскі, якія паказваюць цыкл стварэння Свету і чалавека.

Калоны (філяры) касцёла пакрыты фрэскавай імітацыяй мармуру ў жылкі ў колерах бела-охравых Падлога з мармуровых пліт, пакладзеных у шахматным парадку, у колерах шаравата-бялявым і шаравата-ружаватым. Лаўкі і канфесіяналы барокавыя. Такі ж і амбон на баку Евангелля. Арган 19-га стагоддзя ў неарэнесансавых формах з вельмі прыгожым гучанне.

Касцёл мае вялікае мастацкае значэнне, як з-за сваёй архітэктуры, так і з-за скульптурнай разьбы. Фасад трохі пазнейшы, бязвежавы, двухярусны, з ярусамі няадпольнавай шырыні, па тыпу фасада касцёла святых Пятра і Паўла ў Кракаве, але без нішаў і статуяў. Архітэктура гэтага касцёла дачакалася толькі кароткай, але важнай змены, яго скульптуры, яго дэкор з’яўляюцца зусім арыгінальнымі.

Ёсць у Лідзе і другі касцёл, тады айцоў-піяраў, пры той самай, галоўнай тады, Сувальскай вуліцы. Ён уяўляе сабой ратонду, увянчаную купалам з калонным порцікам і двума скразнымі бакавымі парталамі .

Пабудаваны ў неакласічным стылі на пераломе 18 і 19 стагоддзяў. У час расейскай акупацыі перароблены на царкву, у незалежнай Польшчы вернуты касцёлу рымска-каталіцкаму.

Ёсць яшчэ і малютная драўляная цэркаўка на працягу той самай вуліцы, на могілках ужо на прадмесці. Была, а можа і ёсць сінагога пры бакавой вуліцы ў цэнтры горада.

У касцёл піяраў мы хадзілі ў нядзелю на гімназічную святую імшу ў 10 гадзін. Гімназія была васьмікласная, гуманітарная, імя гетмана Караля Хадкевіча – сучасны гмах, але збудаваны разумна, без нонсенсаў сённяшняга “будаўніка-прамысловага пластызму”, шыкоўна абсталяваная, дар маршала Юзафа Пілсудскага. Збоку ўсеагульная школа (па-сучаснаму базавая) семікласная, сапраўдны палац імя прэзідэнта Габрыеля Нарутовіча.

Пры папярэднім ксендзу – прэфекту ў нядзелю быў збор у гімназіі, адкуль парамі ішлі да касцёла. Новы выкладчык катэхізму адмяніў гэта на нашу радасць – гімназія была ад касцёла з кіламетр. Цяпер мы павінны былі прыходзіць да касцёла непасрэдна, хто часусьці не быў, меў абавязак сумлення сказаць гэта на найбліжшым уроку рэлігіі. Сярод тых, хто прапусціў імшу, устае і мой найбліжшы калега (сядзелі на крэслах, кожны пры асобным століку, на нагах лямцавыя тапачкі, паркет быў нацёрты).

- А ты, Уладзімір, чаму не быў на імшы? - пытаецца ксёндз – прэфект з пунцовым, налітым крывёй тварам, з галавой паголенай да скуры, трапна празваны “памідорам”, пра што, зрэшты, ведаў і з гумарам некалі пра тое ўспамінаў, шчыры каплан, чалавек вельмі высакародны і інтэлігентны, але з невялікімі выхаваўчымі здольнасцямі.

- Часу не меў, - адказаў мой калега, хлопец культурны і акуратны, з тэхнічнымі здольнасцямі, але не філалагічнымі (сам напрыклад пабудаваў байдарку, на якой навучыўся веславаць на Нёмане). На такі адказ выпуклыя вочы блізарукага “Памідора” сталі за яго біноклямі яшчэ больш выпуклымі, але сам ён маўчыць. Збянтэжыла гэта Уладзіміра ці Воўку, ён спрабуе тлумачыць, чым на відавоку тоне яшчэ хутчэй.

- Бо... павінен быў прыбіраць залу для спаборніцтваў па пін-понгу, мы з Кунцэвічам прыбіралі (клас трасяцца ад смеху) і .. я не меў часу паведаміць (спазматычны смех вучняў дасягае апагею).

- Дык, каму ты не меў часу паведаміць, таму

Кунцэвічу, ці як яго там? – пытаецца "Памідор".

- Не, ксендзу, - гучыць адказ лагодным, ціхім голасам (у класе ўжо рогат).

Шапнуў тады яму: "Ты гавары, што не меў часу папрасіць ксендза-прэфекта аб вызваленні ад школьнай імшы, бо меў намер пайсці на іншую."

Сказаў. На гэта "Памідор":

- А, дык, гэта зусім іншая справа. Бачыш Уладзімір, я не сумняваюся, што той ваш пінг-понг -- гэта рэч вельмі важная, без гэтага жыццё сабе нельга ўявіць, але ёсць на свеце і іншыя рэчы не менш важныя, напрыклад, імша школьная ў нядзелю.

Аднаго разу клас не вывучыў урок рэлігіі. У кару "Памідор" сказаў нам перапісаць 10 разоў адну старонку з падручніка. Клас абразіўся. Што, праз год выпуск, а тут нам кажа, як дзецям, перапісваць. Не, не будзем перапісваць. Прыходзіць тэрмін. На лекцыі рэлігіі "Памідор" пытаецца:

- Ці перапісалі?

- Не, не перапісалі, ніхто не перапісаў.

- Ага. Добра. – адказаў спакойна ксёндз. Адкрыў журнал і пачаў у алфавітным парадку вычытваць прозвішчы "вучняў". Да гэтага мы не былі гатовыя, таму што кожны "вырваны" ў паасобку трациў упэўненасць у сабе.

"Памідор"

- А ты, N. N. чаму не перапісаў?

- А, бо, бо ... быў хворы, -выкручваецца выклікаты.

- Добра, быў хворы, - гаворыць "Памідор", які відавочна ў тую хваробу не верыць, - а тады, на калі перапішаш?

- А, ну, ... можа за два тыдні, - капітулюе вучань і так даходзіць да нашага Воўкі

- А ты, Уладзімір, чаму не перапісаў?

- Бо я чакаў, што сёння будзе.

- Ты, пане дабрадзою, не павінен быў чакаць, што сёння будзе, але ты павінен быў на сёння перапісаць.

- Прашу прабачэння ў ксендза-прэфекта. Калі б я на сёння перапісаў, то я не меў бы часу вывучыць іншыя ўрокі, і тады іншыя выкладчыкі задалі б мне перапісваць (смех у зале). А каб я так пачаў перапісваць, то я да канца жыцця перапісваў бы (рогат у класе)...

**СЭРЦА І ГЕКСАМЕТР**

Верасы гуляюць пчоламі,
У здранцвелым пачаканні
Дрыжыць ліловае паветра,
Купаючы разагрэтую зямлю,
Калі дрыготкія цені
Прыплюшчваюць вочы.
А водар хвалюе
І шаты сосен
Павевам калыша --
Душу растапляе пылкае сонца,
Каб з конікаў стрэкатам
У небе стуліцца.
Не аблачынай, што вее расою.
А Божым, з Апакаліпсу
Зіхценнем абрамована,
Песціць велічнасць сонца
Грывай абтрэпанай.
Ягова на слупе воблака -
Творца як у дні Хаосу -
Тут зямля, якая дыхае раскошай,
Гулам аваднёў напоўненая --
Пасярод – сэрца чалавека
Замалое для Бязмернасці,
А мера яго гняце
А журбота цісне...

***Антоні Масьлінскі.***

*(Напісаны ў Лідзе, у лесе, позьнім летам 1936 г., надрукаваны ў Вільні ў літаратурным дадатку часопіса "Адкрытыя справы" ў 1937 або ў 1938 г.)*

***Пераклад Станіслава Судніка.***

---

**ПЯТАКІН Яўген Сяргеевіч** , нарадзіўся 14 кастрычніка 1928 года ў г. Мурам Уладзімірскай вобласці. Скончыў у Рыбінску школу і рамесную навучальню па спецыяльнасці слесар-зборшчык. Працаваў на Рыбінскім авіяцыйным заводзе. Вайсковую службу праходзіў у Нямеччыне, там захапіўся фатаграфіяй. У пачатку 60-х гадоў пераехаў у Ліду. Працаваў на заводзе "Лідсельмаш". З 1963 г. фотакарэспандэнт газет "Сцяг працы"- "Уперад"- "Лідская газета". Фотаработы Яўгена Сяргеевіча друкаваліся ва ўсесаюзных, рэспубліканскіх і мясцовых друкаваных выданнях - у часопісе "Огонёк", у газетах "Знамя юности", "Кіеўская газета", "Сельская газета", "Гарадзенская праўда".



*Пятакін Я.С.*

**СУРВІЛА Альбін Вікенцьевіч** (2.12.1928 - 27.08.1994) Нарадзіўся ў в. Вангі Лідскага раёна. Працоўную дзейнасць пачаў на гаспадарцы бацькоў. Скончыў няпоўную сярэднюю школу. Працаваў у Жалудку інспектарам дзяржстраху (1948-50), сакратаром Парэцкага сельсавета (1950-52), намеснікам старшыні калгаса імя Куйбышава (1952-61). У 1960 г. скончыў Менскую вышэйшую партыйную школу, у 1961 г -- курсы падрыхтоўкі кіраўнічых кадраў пры Гарадзенскім с/г інстытуце. Старшыня калгаса "Вярхоўны Савет" (1962-75), імя Жданава (1975-88). Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Знак Пашаны, медалямі, Ганаровай граматай ВС Рэспублікі Беларусь.



*Сурвіла А.В.*

***Валеры Сліўкін***

# Лідскі замак

## Выдумкі і міфы

*У 2009 г. спаўняецца 170 гадоў з моманту з'яўлення першай гістарычнай працы пра Ліду і Лідскі замак - Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. Wilno, 1839, T. 5. Dodatek I. Cokolvek z historyi miasta Lidy. З тых часоў Лідскі замак стала прыцягваў да сабе ўвагу. У ХІХ стагоддзі матэрыялы аб Лідскім замку друкаваліся ў слоўніках, энцыклапедыях і абагульняльных працах: М. Балінскі, Т. Ліпінскі (M. Balinski, T. Lipinski, 1846), Ф Сулімерскі (F. Sulimerski, 1884), П.Н. Бацюшкаў (П.Н. Батюшков, 1890), Ф.У. Пакроўскі (Ф.В Покровский, 1893). У ХХ стагоддзі да вывучэння гісторыі Лідскага замка звярталіся М.І.Шымялевіч (М.И. Шимелевич,1905, 1906), І.Літвіновіч (И. Литвинович, 1910), А. Палеес (1947), Ю.А. Ягораў (Ю.А. Егоров, 1954), А. Міцянін (1965), М.А. Ткачоў (1971,1977, 1978, 1987, 1991), А.А. Трусаў (1990) і А.К. Краўцэвіч (1991).*

*У апошняе пяцігоддзе, у сувязі з актыўнай турыстычнай цікавасцю, артыкулы і нататкі пра замак з'яўляліся штомесяц. Дзесяткі аўтараў - сотні навуковых, газетных і часопісных артыкулаў, прысвечаных гэтаму выдатнаму будынку XIV стагоддзя.*

*Назбіраліся памылкі, выдумкі і міфы, якія ўвайшлі ў даведнікі і энцыклапедыі. З'явіліся два ідэнтычныя артыкулы А. А. Трусава ў "Лідскім летапісцы" (2007) і ў "Беларускім гістарычным часопісе" (2008), якія гэтыя памылкі і выдумкі ў чарговы раз паўтараюць. Гэты артыкул - спроба рэвізіі ўяўленняў, якія склаліся .*

### Як доўга будаваўся Лідскі замак?

Наконт часу заснавання Лідскага замка спрэчак амаль няма - 1323 год. Рознагалоссі выяўляюцца ў даце завяршэння будаўніцтва. Адмыслоўцы па архітэктуры лічаць, што замак пабудавалі за тры гады: *"Цвярдыня ў Лідзе была пабудаваная каля 1325 г." (Егоров, 1954, с. 24)*; *"Цвярдыня пабудаваная ў 1323-1325 г." (А. Міцянін, 1965)*; *"Цвярдыня была пабудаваная ў 1323-1325 гг." (Чантурыя, 1986, с. 155)*. Археолагі тэрміны расцягваюць*: "Новы абарончы фарпост прынёманскіх зямель будаваўся каля пяці гадоў" (Ткачоў, 1971, с.14; 1977 с. 27)*; *"Розныя пісьмовыя крыніцы сведчаць, што работы вяліся 5-7 гадоў" (Трусаў, 1990, с. 10; 2007, с. 15; 2008, с. 22)*.

Ні адны, ні другія не маюць ні доказаў, ні першакрыніц, і адны і другія варожаць на кававай гушчы. Але адмыслоўцы па архітэктуры *(Чантурыя, 1985; Габрусь, 2001)* звярнулі ўвагу, што замак нясе ў сабе рысы і раманскага стылю, і готыкі. Не дзіўна, замак будаваўся ў два этапы: у 1320-х гадах і 1400-х, але пра гэта пазней.

### Хто будаваў?

Т. Нарбут напісаў адназначна: *"Budowali go rzemieslnicy kijowscy i jency z Wolynia uzuci byli.- Будавалі яго майстры кіяўляне і палонныя з Валыні выкарыстаныя былі" (1839, T.5, Dod. 1, s.2)*. І. Літвіновіч *(1910)* першым гэтую думку давёў да рускіх чытачоў: *"Строили Лидский замок киевские мастера и волынские пленные. -Будавалі Лідскі замак кіеўскія майстра і валынскія палонныя"*. Ю.А. Ягораў гэтае меркаванне падтрымаў: *"Крепость в Лиде была построена ... под наблюдением киевских мастеров. - Цвярдыня ў Лідзе была пабудаваная ... пад наглядам кіеўскіх майстроў" (1954, с.24).* Зыходзілі з таго факту, што ў 1321-1322 гг. Вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Гедзімін хадзіў ваяваць Валынь і Кіеў і прывёў адтуль палонных. У.А. Чантурыя *(1985, с. 63)*, ускосным чынам пацвердзіў гэтае меркаванне, адзначыўшы, што Лідскі замак па сваёй архітэктуры блізкі да Луцкага замка.

М.А. Ткачоў таксама не сумняваўся: *"Няма сумнення, што замак у Лідзе будавалі перш-наперш самі гараджане, а таксама сяляне бліжніх і дальніх ваколіц. ... для нарыхтоўкі жвіру, каменню, вапны і цэглы прыцягваліся, трэба думаць, рабочыя рукі з іншых тэрыторый" (1971 , с. 17; 1977, с. 30) "... замак у Лідзе будаваўся у першую чаргу самімі гараджанамі, а таксама сялянамі навакольных вёсак" (1978, с. 33)*. І катэгарычна пярэчыў супраць удзелу кіяўлян і палонных валынян.

А.А. Трусаў схільны кіраўніцтва будоўляй аддаць заходнім майстрам: *"Ёсць меркаванні, што ганзейскія майстры прынялі непасрэдны ўдзел у пабудове Лідскага замка" (1990, с. 10; 2007, с. 15)*. Перадумовай для "меркаванняў" з'яўляюцца пасланні Вялікага князя Гедзіміна 26 траўня 1323 г. да жыхароў гарадоў Любека, Штральзунда, Брэмена, Магдэбурга, Кёльна, Ростака, Грэйфсвальда, Шчэціна і Готланда з запрашэннямі на працу. Ці адгукнуліся майстра і каменячосы на запрашэнні, дакладна невядома.

Будаўнікі безумоўна былі палоннымі - аб'ёмы работ такія, што мясцовых жыхароў ніяк не хапіла б, і праваслаўнымі - у замку адразу ж была ўладкаваная праваслаўная капліца *(Нарбут, 1839, T.5, Dod. 1, s. 2).*

Аб прафесійнай падрыхтоўцы майстроў і будаўнікоў Лідскага замка пытанне не стаіць. Сцены, якія прастаялі 685 гадоў, гавораць самі за сябе. Тым не менш,

аднойчы было агучана падазрэнне: *"Магчыма, што ў 14 ст. яшчэ не ўмелі разбіваць на мясцовасці дакладна, геаметрычна акрэслены план будучага замка".* Т.У. Габрусь таксама не ўтрымалася: замак *"мусіў быць квадратным, але з-за вельмі значных памераў і недасканаласці будаўнічых прыладаў і прыёмаў, атрымаўся больш падобным да трапецыі" (2001, с. 93).* У тыя часы, ды і ў наступныя стагоддзі таксама, калі не было зборных будаўнічых канструкцый, да прамых вуглоў і не імкнуліся - у Лідзе да сённяшняга дня стаяць будынкі, пабудаваныя ў пачатку 20 ст., з вугламі да 120 градусаў.

**Штучны пясчаны груд, пясчаны востраў або пясчаная выдма?**

20 снежня 1837 года лідскі гараднічы палкоўнік Стугін у рапарце гарадзенскаму губернатару Допельмайеру выказаў меркаванне, якое пратрымалася да сённяшніх дзён: *"... покорнейше Честь Имею донести что въ Городе Лидъ есть древнеъ Каменное укрепленіе называемое Замокъ коего описаніе въ дълахъ Городового комитета почерпнутое изъ Существующихъ преданій Слъдующеъ: якобы сіе Каменное укрепленіе имъеть быть построенное Великимъ Княземъ Литовскимъ Гедиминомъ около 1323 года на вознесенной Нарочно Насыпанной горе…. - ... найпакорней Гонар Маю данесці што ў Горадзе Лідзе ёсць старажытнае Мураванае ўмацаванне, якое называюць Замак і якога апісанне ў справах Гарадавога камітэта запазычанае з Існых паданняў Наступнае: нібыта гэтае Мураванае ўмацаванне мае быць пабудаванае Вялікім Князем Літоўскім Гедзімінам каля 1323 года на ўзнятай Знарок Насыпанай гары…".*

А. Кіркор, які напісаў "Літоўскае і Беларускае палессе" для шматтомнай "Маляўнічай Расіі" паўтарыў здагадку палкоўніка: Лідскі замак стаіць *"на насыпной гары да 4 сажаняў вышынёю" (1882, с. 169).* Ю.А. Ягораву сумняваецца не выпадала: *"Лідская цвярдыня пабудаваная на штучным грудзе вышынёй каля 8 метраў" (1954, с. 26).* Яго падтрымаў У.А. Чантурыя, трохі знізіўшы вышыню: *"Цвярдыня закладзеная на насыпным грудзе вышынёй 5-6 м у акружэнні рова і вадаёмаў" (1986, с.155).*

Меркаванне палкоўніка Стугіна за подпісамі Ю.М. Кішыка, М.А. Ткачова і А.А.Трусава забіта намёртва ў энцыклапедыі - БЕЛСЭ, БССР-КЭ, ЭЛіМ, АіНБ, ЭГБ: *"Замак пастаўлены на насыпным пяшчаным узгорку".*

Хоць сам М.А. Ткачоў (1971, 1977, 1978, 1987) лічыў, што замак пабудаваны на штучным востраве: *"Дойліды ўдала скарысталі рэльеф мясцовасці, узвёўшы замак на штучнай пясчанай выспе (на штучнай выспе, насыпанай з пяску і жвіру - 1977, с.27; из песка и глины – 1987, с.36) насыпанай на балоцістай нізіне ў сутоцы рэк Лідзеі і Каменкі" (1978, с.28).*

А.А. Трусаў ж наогул быў упэўнены, што замак пабудаваны на пяшчанай выдме: *"Доследы паказалі, што замак пабудаваны на невялікай песчанай дзюне, якая пашыраецца на ўсход. На гэтую дзюну будаўнікі замка насыпалі слой жвіру з прымесямі гліны і камянеў таўшчынёй ад 2,5 да 5 метраў і больш" (1979 с.). "Для забудовы была абрана невялікая пясчаная выспа (дзюна) ў балоцістай сутоцы дзвюх рэк –Лідзеі і Каменкі. Выспу пераўтварылі ў штучную прамавугольную пляцоўку і месцамі яе дасыпалі жвірам, камянямі, буйной рачной галькай да вышыні 5-6 м" (1990, с. 10)* і застаўся ў гэтай упэўненасці да сённяшняга дня *( 2007, с.15).*

У студэнцкія гады мне прыйшлося вывучаць геамарфалогію, чацвярцічную геалогію і вучэнне аб фацыях. Набытыя веды дазвалялі думаць, што меркаванне, якое склалася, памылковае, але доказы былі тэарэтычнымі. Улетку 2005 г., калі замкавы двор чысціўся ад смецця, і экскаватарам утоплівалі ўніз вялікія кучы бетону, была ўскрыта аснова, і я ўбачыў тыповыя флювіягляцыяльныя пясчана-жвіровыя адкладанні з рознанакіраванай крыжаванай касой слаістасцю. Замаляваўшы спехам сценку траншэі, я звярнуўся да дакументацыі археалагічных справаздач 1977-1987 гг. і са здзіўленнем выявіў, што замалёўкі зробленыя вельмі прымітыўна і для аналізу непрыдатныя.

У верасні - кастрычніку 2007 г. і ў траўні 2008 г. вытворчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства "Геасервіс" па замове ЎП "Мінскпраект" правяло інжынерна-геалагічныя пошукі ў замку і вакол яго. Выкананыя свідравальныя і шурфовачныя работы (45 выпрацовак) паказалі, што Лідскі замак збудаваны на борце флювіягляцыяльнай даліны, на кантакце гляцыяльных і флювіягляцыяльных адкладанняў сожскага гарызонту, заходняя сцяна - на гляцыяльных (ледніковых) глiністых і суглінкавых адкладаннях, астатняя частка замка - на надмарэнных флювіягляцыяльных (водна-ледніковых) пясчана-жвіровых адкладаннях. Аснова замка - натуральная прыродная, без усякіх падсыпак і падушак.

У справаздачах археолагаў і разрэзах геолагаў не праглядваецца нават намёку на пахаваны глебавы гарызонт, які ў абавязковым парадку быў бы, калі б будаўнікі 14-га стагоддзя рабілі падсыпку.

Земскі спраўнік Тумінскі ў 1827 г. у рапарце губернатару М.Т. Бабацінскаму з пашанай даносіў і цалкам меў рацыю, што замак знаходзіцца *".. на довольно возвышенномъ изъ Земли бугре" (".. на даволі ўзнятым з Зямлі грудзе").* Замак пабудаваны на сухім добра дрэніраваным міжрэччы паміж далінамі рэк Каменкі і Лідзейкі, поблізу іх зліцця. На большай частцы замкавага двара аснова пясчана-жвіровая, што і забяспечыла шматвекавую ўстойлівасць паўночнай, паўднёвай і ўсходняй сценаў. Заходняя ж сцяна была збудаваная на глiністай аснове, схільнай да набракання і зрухаў, што спрыяла разбурэнню сцяны. У цяперашні час вялікая частка заходняй сцяны навароблная, збудаваная ў 20 стагоддзі і мае патрэбу ў рамонце і падпорцы контрфорсамі, альбо ў пракладцы дрэнажнай траншэі.

Астраўное становішча замак набыў у пачатку 15 стагоддзя, калі па распараджэнні Вялікага князя Вітаўта з паўночнага боку замка быў пракапаны роў, даліна р. Лідзейкі перагароджана плацінай, і вакол замка паўстала шырокае вадасховішча.

**Колькі валуноў, вапны і цэглы пайшло на будаўніцтва Лідскага замка?**

*"Для ўзвядзеня Лідскага замка спатрэбілася каля 23 000 м3 валунов і каля паўтара мілёна штук*

*цэглы, мноства пяску, жвіру і вапны, якая прывозілася з-пад Жырмун" (Ткачоў, 1978. с. 32)*. *«Всего для сооружения Лидского замка потребовалось около 23 тыс. куб. м валунов, около 1,5 млн. кирпичей, огромное количество извести и песка. Вымощены также были двор и откосы замковой возвышенности» (Ткачев, 1987 с. 37-38)*. А.А. Трусаў пацвярджае гэтыя лічбы *(1990, с.10; 2007, с.15; 2008, с.22)*. Журналіст С. Бараннікава *(2000, с.50)* не драбязніцца - колькасць цаглін павялічвае да 31 з паловай мільёна.

Давайце палічым, задача нескладаная - для разлікаў трэба ведаць толькі 4 арыфметычныя дзеянні. Разлічым для пачатку аб'ём сценаў замка. Вышыня сценаў 12 м. Таўшчыня сценаў у ніжняй частцы 2 м, у верхняй 1,5 м, сярэдняя 1,75. Агульная працягласць сценаў замка: 93,5+ 84+80+83,5 = 341 м. Аб'ём сценаў замка складае 341х12х1,75 = 7161 м3.

Паўднёва-заходняя вежа будавалася разам са сцяной. Разлічваем па максімуме: вышыня 25 м, таўшчыня сценаў 3 м, даўжыня сценаў 11.3 х4 =45,2 м. Разам: 25х3х45,2= 3390 м3. Але паколькі дзве сцяны вежы будаваліся адначасова як сцены замка, у разліках мы павінны з гэтага аб'ёму выключыць 22.6 х12х1.75 = 474,6 м3. Разам 3390- 474,6= 2915,4 м3.

Паўночна-усходняя вежа прыбудоўвалася да сцяны замка. Таксама разлічваем па максімуме: вышыня 25 м, таўшчыня сценаў 3м, працягласць 12+12,5+12,3+ 12,15 =48,95 м. Разам 25х3х48,95 = 3671,25 м3. Ізноў жа адымем сцены замка 24.45х12х1.75= 513,45 м3. Разам аб'ём паўночна-усходняй вежы 3671,25-513,45 = 3158 м3.

Такім чынам, агульны аб'ём сценаў замка і вежаў пры разліках па максімуме складае 7161+2915,4 +3158 = 13234,4 м3. Насамрэч і таго менш, паколькі вышыня вежаў была меншай за 25 м, уверсе сцены звужаліся, працягласць сценаў мы бралі па знешнім абводзе, а не па сярэдзіне, ды і да таго ж гэта агульны аб'ём сценаў, валуны ў гэтым аб'ёме складаюць не больш 90 %, там жа яшчэ вапнавы раствор. Увогуле, як ні лічы, больш 12 тыс м3 валуноў не атрымліваецца. Нават калі ўвесь унутраны двор замка выбрукаваць пластом валуноў (6600м2х0,5= 3300 м3), то і тады ў суме ледзь 16 тысяч м3 набіраецца.

Зараз палічым, што такое 1,5 мільёна цаглін. Асноўны памер цагліны 31х14х7 см. Аб'ём адной цагліны роўны 0.003038 м3. Памнажаем на 1500 000 штук. Гэта дае 4 557 м3 або 34 % ад аб'ёму ўсіх сценаў, чаго і блізка няма.

Палічым колькі цаглін пайшло на парапет і аркатурны пояс. Аб'ём парапета 341х3 х0.7 =344.7 м3. З гэтага аб'ёму парапета трэба адабраць аб'ём байніц, гэта каля 25 м3 (тры тыпы байніц вышынёй ад 60 да 85 см, шырынёй ад 20 да 45 см, таўшчынёй у 70 см, агульным лікам каля 120). На парапет сыйшло (344.7-25): 0.003038 = 105 233 цагліны.

Аб'ём аркатурнага пояса: 341х1.5х0,31= 158.6 м3. На аркатурны пояс пайшло 158.6: 0.003038= 52205 цаглін. Выкажам здагадку, штоабедзве вежы на 20 % былі складзеныя з цэглы: (2915+3158)х 0.2 = 1518 м3, атрымаем 1518 м3 : 0,003038 =399 802 цагліны. І пры самым максімальным варыянце выкарыстання цаглянага мура атрымліваем: 105 233 + 52205 + 399802= 557 240 цаглін. Разлікі з матэматычнай дакладнасцю даказваюць, што на будаўніцтва Лідскага замка пайшло не больш за 12 тысяч м3 валуноў і каля 550 тысяч цаглін.

**Ці была забрукоўка?**

Пасля першых невялікіх шурфовачных работ у замку М.А. Ткачоў прыйшоў да высновы, што: *"... замкавы двор (дзядзінец) цалкам забрукаваны. Ды не ў адзін, а ў тры ярусы" (1971, с.17)*.*"Забрукаваны таксама ўсе схілы замкавай выспы" (1977, с.30)*. Пазней ён некалькі скараціў аб'ёмы забрукоўкі: *"Замкавы двор забрукаваны. З вуліцы выкладзены каменнем усе адхоны замкавага ўзвышша і схілы рова" (1978, с. 32)*. Па меры павелічэння плошчы археалагічных раскопак у замкавым двары плошча бруку скарачалася. *"Сярэдзіна замкавага двара была таксама выкладзеная каменем" (Трусаў, 1990, з.23)*. Апошнім раскопкі ў замку рабіў А.К. Краўцэвіч - пра выбрукоўку ён нават не згадвае. *"Магутнасць культурнага слоя Лідскага замка вагаецца ад 0,2 – 0.4 м у сярэдзіне двара, да 1,5-2 м ля сцен. ... У раскопах, закладзенных пасярэдзіне замкавага двара і на адлегласці каля 20 м ад сцен, культурны слой аднастайны, цёмна-шэрага колеру, сустракаюцца нязначныя праслойкі пяску, вапны, даволі многа камянёў" (1991, с.48)*. Даволі шмат камянёў - і не больш таго.

Здавалася, якая розніца - быў брук або не было? Заклаў М.А.Ткачоў шурфы бліжэй да сценаў, патрапілі яны на шматслойныя каменныя развалы - адгэтуль і паўстаў трох'ярусны брук. Але ж потым ніхто ясна не сказаў - не было бруку. Праектыроўшчыкі "Мінскпраекта", азнаёміўшыся з працамі археолагаў па Лідскім замку, з чыстым сумленнем праектуюць па ўсёй плошчы замкавага двара брук. Ніхто і не сумняваецца - *"двары замкаў , як правіла, брукаваліся" (Ганецкая, 2006, с.11)*, гэта настолькі агульнавядома, што С. Ліцкевіч (2006), паведамляючы аб рознагалоссях паміж архітэктарамі і *"некаторымі прадстаўнікамі гістарычнай грамадскасці"* па будучым уладкаванні замкавага двара ў Лідскім замку так і не зразумела прычыны рознагалоссяў і звяла яе да колькасці гаспадарчых пабудоў.

Не было бруку ў Лідскім замку, ды і не магло быць. У Выбаргскім замку зрабілі ў 20-ым стагоддзі брук - на першым жа рыцарскім турніры двое коней паламалі ногі.

**Колькі было студняў?**

У 1990 г. А.А. Трусаў прапанаваў навуковай грамадскасці сваё разуменне агульнага выгляду замка ў 15-16 стагоддзі. На гэтай рэканструкцыі на замкавым двары паказаны дзве студні. З тэксту артыкула выцякае: *"Ва ўсходняй частцы двара знаходзіліся два калодзежы. Адзін, меншых памераў, - непадалёку ад паўночнаўсходняй вежы. Другі, вялікі, відаць, прызначаўся для таго, каб паіць жывёлу, бо да вады вяла брукаваная сцежка. Пры раскопках прасочаны рэшткі драўляных калодзежных зрубаў" (1990, с. 23; 2007, с.17)*. Алег Анатолевіч чамусьці забыўся пра тое, што пісаў у археалагічнай справаздачы аб палявых даследаваннях, праве-



***Лідскі замак. Рэканструкцыя паводле А. Трусава.***

дзеных Лідскім замку ў ліпені-жніўні 1978 г. А там сказана, што пры раскопках у ніжняй частцы паўночнай студні на глыбінях 2.5-4 м *"сустракалася толькі грубая кухонная кераміка XIV-XV стагоддзяў" (Кніга 1. С. 28)*. У той час як у другім калодзежным зрубе пераважалі артэфакты 17 стагоддзя.

Гэта азначае, што студня ля паўночна-усходняй вежы дзейнічала ў 14 -15 стагоддзях і была засыпана, а заміж яе была выкапаная другая студня, якая існавала да 17 стагоддзя. Разам яны не існавалі і не выкарыстоўваліся. Брукаваную сцежку да студні для жывёлы мог прыдумаць толькі гарадскі жыхар.

**Колькі было ўваходаў ?**

А.А.Трусаў: *"Замак меў тры ўваходы. У паўднёвай сцяне ... знаходзіўся невялікі паўцыркульны праём на вышыні 4 метры ад першапачатковага ўзроўню двара. Гэты праём, відаць, выкарыстоўваўся як запасны (для разведкі або уцёкаў). Трапіць туды або выйсці с замка можна было толькі з дапамогай доўгай прыстаўной альбо вяровачнай лесвіцы. Два ўваходы існавалі ва ўсходняй сцяне: малы, зроблены на ўзроўні абрэза падмуркаў сцяны, і вялікі (які, відаць, быў зроблены пазней), ... на вышыні 2,5 м. Трапіць у замак праз вялікі ўваход можна было толькі па пад'ёмнаму масту" (2008, с.23)*.

На малюнку - рэканструкцыі А.А. Трусава гэтыя тры праёмы і паказаныя: два ўсходнія - вялікі з мастом да яго, маленькі, да якога з маста спускаецца нешта рашэцістае, і паўднёвы, да якога прыбудавана ступеньчатае збудаванне з пляцоўкай.

Аб гэтым праёме ў паўднёвай сцяне М.А.Ткачоў выказаўся спачатку ў меркавальнай форме: *"Можна меркаваць, што праём быў як бы запасным выхадам для гарнізона ў крытычныя моманты абароны" (1971, с.16; 1977, с. 27)*; а затым у сцвярджальнай: *"Праём з'яўляецца нічым іншым, як запасным выхадам для раптоўных вылазак гарнізона, або для скрытага выхаду с замка ў крытычныя моманты абароны" (1978. с.29)*. У ЭГБ праём патрапіў як запасны ход *"для раптоўных вылазак гарнізона або скрытага выхаду ў крытычныя моманты абароны" (Т. 4, с.364)*. Хацелася б пацікавіцца, што гэта за таемнае выйсце на вышыні 4 метраў, на якія трэба залазіць па лесвіцы, а потым саскокваць без лесвіцы, пажадана яшчэ і з канём.

У рэчаіснасці ў розны час у замак былі розныя ўезды і ўваходы. Да пачатку 15 ст. у замку было два ўезды - паўночны і паўднёвы. У пачатку 15 ст. паўночны ўезд поўнасцю заклалі, ад яго засталася толькі цагляная абліцоўка, паўднёвы ўезд быў закладзены часткова. Тады ж быў прабіты ўваход, менавіта ўваход, ва ўсходняй сцяне. У студзені 1422 г. перад вясельным балем караля Ягайлы і Соф'і Гальшанскай у той жа ўсходняй сцяне быў прабіты каралеўскі ўезд. Падрабязна пра гэта выкладзена ў артыкуле "Будаўніцтва Лідскага замка і ўладкаванне прылеглай тэрыторыі (14 -15 стагоддзі)" *(Сліўкін В. 2006)*.

**Колькі раз штурмавалі Лідскі замак крыжакі?**

У гістарычнай літаратуры агульнапрызнана, што крыжакі тройчы бралі Лідскі замак - у 1384, 1392 і 1394 гадах. Нават шасцікласнікі гэта ведаюць *(В. Ракуць. С. 58).* Адважваюся сцвярджаць, што гэта было толькі аднойчы.

Напад на Лідскі замак у 1384 г. у навуковае абарачэнне ўвёў А. Палеес *(1947. с.30)*: *"У 1384 годзе на замак напалі псы-рыцары, разграбілі яго і часткова разбурылі, асабліва яго ўнутраныя драўляныя будынкі"*; паўтарыў доктар мастацтвазнаўства, прафесар Ю.А. Ягораў *(1954, с. 24-25)*: *".. в 1384 г, после продолжительной осады и штурма, ее взяли и частично разрушили псы-рыцари"*. Пры гэтым А.Палеес А. і Ю.А.Ягораў пакінулі ў няведанні ўсіх наступных даследчыкаў, адкуль ж ім гэта стала вядома. Мяркую, што аўтарам выдумкі быў мастак К. Вейерман, які да ўласнаручнага малюнка "Развалiны Лідскага замка" склаў невялікую гістарычную анатацыю, дзе напісаў: *"Через три года после того* (як Кейстут павесіў Вайдылу - ВС) *замок подвергся разграблению со стороны крестоносцев» (Батюшков П.Н., с.129).*

М.А. Ткачоў са спасылкай на Ю.А.Ягорава некалькі раз пацвердзіў: *" У 1384 г пасля працяглай аблогі і штурму крыжакі захапілі замак", " ўзялі замак і часткова яго разбурылі" (1971, с.14; 1977, с.30; 1978; 1987, с.38 ).* Пасля М.А.Ткачова ўжо ні ў каго сумневаў не ўзнікала: узялі, захапілі, вядома пасля штурму, вядома пасля працяглай аблогі, вядома разбурылі, як жа інакш. Напад на Лідскі замак у 1384 г. на правах падзеі, якая безумоўна мела месца, ўвайшло ў энцыклапедыі *(ЭГБ. Том 4, с. 363-364).* Аб ім ізноў напісаў А.А. Трусаў *(2007, с.17, 2008, с. 24).*

Разам з тым, ні адзін з беларуска-літоўскіх летапісаў аб паходзе на Ліду ў 1384 г. не паведамляе. Крыжакам у 1384 г. было не да паходаў на Літву - увесну яны будавалі цвердзь Новы Марыенбург ля ўпадзення Віліі ў Нёман. У пачатку ліпеня князь Вітаўт - Віганд, васал Ордэна, сыйшоў да Вялікага князя Ягайлы, а ўвосень стрыечныя браты Ягайла і Вітаўт захапілі Новы Марыенбург і спалілі *яго (Lietuvos istorija. Kaunas. 1936. s.101; Jasienica P. 1985, s. 47*).

Усе даследчыкі згодныя з Т. Нарбутам, што крыжакі ў студзені 1392 г. авалодалі Лідскім замкам: *"... Маршалак прапанаваў Вітаўту далёкі паход: за сумеснай пагэтаму дамоўленасцю, прыбылі пад Аліту аддзелы крыжакоў у студзені 1392 г., Яна Румпенхайма, камандора з Рагніты, войта Самландскага, Конрада Ліхтэнштэйна і правіцеля Інстэнбургскага, з некаторымі гасцямі замежнымі. Князь Вітаўт, каб пазбегнуць усякага падазрэння, сабраў сваіх узброеных людзей і пайшоў у гэты паход. Калі ўжо выходзілі з Аліты, ангельцы пабіліся з немцамі за права нясення паміж сабой харугвы Святога Юрыя, з-за чаго дайшло да крывавай бойкі; з двух бакоў былі людзі вядомага паходжання, першымі кіраваў Персі, сын графа Нартумберлендскага, другімі Рупрэхт з Шакендорфа. Мэтай паходу быў горад Ліда - месцазнаходжанне ў тую пару князя Карыбута, пакінутага для аховы краю з войскам Северскім; праз змёрзлыя балоты крыжакі наблізіліся нечакана, запалілі падзамча; але князь той, насуперак вельмі добра ўмацаванаму замку, аднаму тады з найлепшых у Літве, абараняцца ў ім не жадаў, выйшаў паспешна з усім дваром і войскам, пакінуўшы ўсё, што было ў замку і горадзе на здабычу непрыяцелю. Забралі склады зброі і вайсковага правіянту не малую колькасць". (Narbutt. T. 5. S.482).*

Аб паходзе крыжакоў на Ліду ў 1394 г. напісаў Ян Длугаш (1415-1480): *"Магістр Прусіі Конрад фон Юнінген, ... паслаў у зімовы час у Літву маршала Ордэна Вернера Тэтынгера з войскам уласных і іншаземных рыцараў (бо шмат рыцараў прыбыло на дапамогу з краін Францыі і Нямеччыны). Маршал спачатку падступае да замка Наўгардэну* (Наваградку - ВС)*, але знаходзіць яго спаленым літоўцамі. Адтуль ён ідзе да Ліды, але і жыхары Ліды, застрашаныя яго прыходам, падпальваюць замак і разбягаюцца. Тады маршал, здзейсніўшы значныя спусташэнні (бо ніхто ў ранейшы час не ўрываўся так глыбока ў Літоўскую зямлю), зганяе мноства палонных абоега полу і адводзіць іх у Прусію". (Длугаш, с. 33).*

Т. Нарбут праз 350 гадоў дапоўніў паведамленне аб паходзе геаграфічнымі і літаратурнымі дэталямі: *"Сабраліся ў зімовую пару ў Прусіі новыя госці: граф Лейнінген з Нямеччыны, граф Бэдфорд з Англіі, а таксама знакамітага паходжання рыцары з Францыі. Маршалак заклікаў усе прыморскія гарады і правінцыі да яўкі ўзброеных людзей у адпаведнасці з іх чарговасцю. Незвычайна лютыя маразы давалі магчымасць дасягнення асаба адаленых і найменш даступных краёў. Таму прадметам набегу была абраная частка ўнутранай Літвы, у прыватнасці яе рускі бок. Аддзел выйшаў напярэдадні свята Трох каралёў, перабраўся праз замёрзлую наднарвінскую багну, абыйшоў Гародню і наблізіўся да Наваградка. Але горад быў знойдзены спаленым самімі гараджанамі, якія перасяліліся часткова ў замак, часткова ў аддаленую пушчу. Адтуль, спустошаючы вёскі, якія трапляліся, пасля пераправы праз Нёман, ваяўнікі дайшлі пад Ліду, дзе знайшлі магутны замак, які стаяў таксама сярод папялішчаў. Мелі намер зрушыцца на Салешнікі, а можа і бліжэй да Вільні, але нечакана аслаблі маразы, пацяплела, і напэўна пачулі пра літоўскае войска, якое падходзіла дарогай з Вільні, і ад Гародні з'явіліся пагрозы ад узброенай сілы. Як б там ні было, але з-пад Ліды крыжакі змушаныя былі прабірацца праз Дзітвянскія балоты, як лічым у адпаведнасці з апісаннем дарогі вяртання і веды геаграфічнага становішча селішчаў на гэтай дарозе пералічаных; захаваліся нават да цяперашняга часу выразныя сляды той пераправы пад ваколіцай Нанішак, на поўнач ад Ліды. Мясцовая легенда сцвярджае што быў мост нейкага ўжо забытага непрыяцеля, збудаваны калі змушаны быў гэтым шляхам пераходзіць. Гэта тоўстыя драўляныя бярвёны каля трох сажняў даўжыні, высланыя па прамой на вельмі топкай нізіне на працягу некалькіх сотняў сажаняў, некаторыя скамянелыя дрэвы ляжаць да цяперашняга часу ў цэласці і паказваюць кірунак таго насланага па балоце маста. Ведаем таксама аб*

*працягу таго паходу праз пяць тыдняў: час незвычайна працяглы на тую пару года; такім чынам мелі перашкоды, апушчаныя ў хроніках, якія звыклі няўдачы замоўчваць. Вельмі магло быць, што крыжакі паспяшаліся адыйсці гэтай дарогай з-пад Ліды, знайшоўшы дрэнна змёрзлае балота каля Дзітвы, адважыліся на такі спосаб пераправы, маючы пад рукой лес і людзей у вялікай колькасці. Пасля пераадолення Дзітвы накіраваліся да Канява праз месцы, дзе толькі парафіяльныя гарадкі Радунь і Нача, прыбылі пад невялікі замак Драгерын (у храністаў, зараз сяло Дрысміны), які захапілі, адтуль пад Мерач, тамтэйшы замак таксама пакарыўся лёсу. Напрыканцы, знайшоўшы Нёман ужо блізкім да крыгаходу, пераправіліся на левы бераг і спешна пайшлі ў Прусію. Здабыча склала дзве тысячы дзвесце палонных, 1400 коней і мноства быдла". (Narbutt. T. 5. S.513-515.)*

З тэкстаў Я. Длугаша і Т. Нарбута відавочна, што крыжакі пасля няўдалага паходу на Навагрудак вышлі да Лідскага замка, які стаяў сярод папялішчаў, пасля чаго пайшлі ў Прусію праз Дзітвянскія балоты.

Ф. Сулімерскі (1884, s. 216) ссоўвае акцэнты: замак у яго вельмі ўмацаваны, але крыжакам нецікавы: *" ...najazd na Lide powtorzyli Krzyzacy r. 1394, ...ale znalazlszy zamek mocno obsadzony a miasto spalone, cofneli sie stad raptownie nic tu nie zrobiwszy - наезд на Ліду паўтарылі крыжакі ў 1394, ... але знайшлі замак моцна ўмацаваны, а горад спаленым, адступілі адтуль раптам, нічога яму не зрабіўшы".* Ю.А. Ягораў вобраз *"моцна ўмацаванага замка"* разгортвае ў дзеянне: *"тут была адбітая атака крыжакоў"(1954, с. 26).* М.А. Ткачоў уключае сваё творчае ўяўленне на поўную магутнасць: *"Але на гэты раз чужынцам пажывіцца не ўдалося: жыхары Ліды самі спалілі горад і, запёршыся ў замку, мужна адбілі ўсе варожыя штурмы" (1971, з.14; 1977, з.31).* А.А. Трусаў, як звычайна, паўтарае: *"...але на гэты раз замак выстаяў. Пры падтрымцы жыхароў горада воіны гарнізона (залогі) мужна адбілі ўсе атакі непрыяцеля" (1990, с. 24; 2007, с. 18).* Віцьбіч Ю., эсэ якога лепш не чытаць, гэтулькі там памылак і выдумак наваррочана, "творыць" ярчэй за ўсіх: *"У 1384 г. Лідскім замкам пасля доўгае аблогі ды толькі ўжо ў напаўразбураным стане авалодалі Немцы крыжакі, але затое ў 1394 г, пры другім сваім нападзе, яны панеслі пад ім вялікія страты і адышлі" (2000, с. 192).*

Уключым таксама ўяўленне. У студзені 1392 г. крыжакі разам з князем Вітаўтам і яго дружынай без адмысловых высілкаў узялі замак, спалілі горад Ліду, адвялі ў палон усіх, каго маглі злавіць, і забілі ўсіх, каго павінны былі забіць. Відавочна, што замак яны не маглі і не павінны былі пакінуць у цэласці - разбурылі ўсё, што маглі разбурыць і спалілі ўсё, што магло гарэць. *"Праз адносна невялікую колькасць часу пасля збудавання замак перанёс моцны пажар. Праслойка вугаллю прасочана амаль па ўсяму двару" (Краўцэвіч,1991, с. 49).*

Якімі б гераічнымі вартасцямі не валодалі загінулыя мясцовыя жыхары, але за два гады адбудаваць і засяліць горад яны не маглі. У жніўні 1392 г. Ягайла і Вітаўт сустрэліся і падпісалі Астроўскую дамову ў Востраве, а не ў Лідскім замку. Лічу, што не па прычыне згрызот сумлення ў Вітаўта, які ўдзельнічаў у студзеньскім паходзе на Лідскі замак, а таму, што замак быў у развалінах. У 1392-96 гг. займацца рамонтам замка Вітаўту не было калі - ён уцягнуўся ў барацьбу з удзельнымі князямі. Толькі ў 1397 г. Вітаўт засяліў наваколлі Ліды татарамі, але татарскі хан Тахтамыш не жыў у замку, а *"жыў у адмысловым доме, які стаяў на тым месцы, дзе цяпер (у 1906 г.- ВС) размешчаныя дамы плябании рымска-каталіцкага касцёла. Мясцовасць гэтая доўгі час насіла назву Тахтамышавага двара" (Шимелевич, 1906, с.40).*

У 1394 г. крыжакі прыходзілі да гарадскога папялішча і пустога спаленага замка. Такім чынам адзіным паспяховым для крыжакоў паходам варта прызнаць паход у студзені 1392 г.

І ўсё было б зразумела, калі б не ўзятая ў дужкі фраза Я. Длугаша: *"ніхто перш не ўрываўся так далёка".* Яна ставіць пад сумнеў усе паходы крыжакоў да 1394 г. на поўдзень ад Ліды, у тым ліку паход на Навагрудак у 1314 г., паход на Беліцу ў 1377 г. і паход на Ліду ў 1392 г.

**Напад 1406 г.**

Аб нападзе на замак у 1406 г. Т. Нарбут піша просценька: *"5 жніўня 1406 г. Юрый Святаслававіч, князь смаленскі, з вялікай бандай гайдамакаў ...штурмаваў замак, але дарэмна. (1839, T.5. Dodatek I. S. 2).*

М.А. Ткачоў і А.А.Трусаў дадаюць жару: *"Пасля некалькіх марных (беспаспяховых) штурмаў смаляне асаду знялі" (1971, с.14; 1978, с.32). "Смаляне спалілі горад, некалькі разоў штурмавалі замак, але ўзяць яго не змаглі" (1990, с. 28; 2007, с.18).* Аднаразовага штурму замала, смаляне ў Ткачова і Трусава штурмуюць замак некалькі разоў, можа 3, можа 5, гэта нявызначанае *"некалькі разоў"* узмацняе значнасць банды і сур'ёзнасць намераў. Хоць Т. Нарбут крыху далей па тэксце пісаў, што неўзабаве лідскі староста Якуб з Селіцы *"прыбег з Голдава і гайдамакаў паразіўшы адпэндзіў".* Сілаў лідскага старасты хапіла, каб гэтую банду адагнаць.

**Штурм Лідскага замка ў 1434 г.**

З летапісаў вядома, што ў 1433 годзе Свідрыгайла ў барацьбе за вялікакняскую шапку паліў ліцвінскія гарады, у тым ліку Ліду. І ўсім пры гэтым зразумела, што замак быў асобна, горад асобна, акрамя А. Міцяніна (1965): *"У 1434 годзе, у час міжусобнай вайны паміж літоўскімі кнзямі, князь Свідрыгайла спаліў горад, які знаходзіўся ў сярэдзіне крэпасці, але цытадэль узяць не змог".* Ён, дарэчы, адзіны з усіх быў перакананы, што *"... з моманту заснавання і да канца XVI стагоддзя горад увесь размяшчаўся ў сярэдзіне крэпасці".*

**Ці падыходзілі татары да замка ў 1506 годзе?**

А.Міцянін (1965) без спасылак на крыніцы пісаў: *" У 1505- 1506 гадах Ліда падвергласяжорсткім набегам татара-мангольскіх орд Койдана".* Яму

даравальна, ён усё ж адмысловец па архітэктуры. Аднак і гісторыкі, у прыватнасці М. Ткачоў і А. Трусаў не да канца дакладныя ў гэтым пытанні.

Падзеі 1506 г. М.А.Ткачоў і А.А. Трусаў выкладаюць так, быццам татары маглі ўзяць замак, але ці-то не захацелі, ці-то не сталі рызыкаваць. *"... у 1506 г. пад сценамі Ліды паказаўся (з'явіўся) адзін з загонаў крымскіх татар, аднак пачаць штурм крэпасці (замка) яны не рызыкнулі" (1971, с.14; 1977, с.31; 1978, с.33; 1987, с.39). "... да замка падышлі орды крымскіх татараў. ... Аднак штурмаваць умацаваны замак татары баяліся. У гэты час было сабрана народнае апалчэнне колькасцю ў дзесяць тысяч чалавек, якое разбіла прышэльцаў у ваколіцах Ліды, на адлегласці адной мілі ад яе" (1990, с. 30-31; 2007, с. 19). "У 1506 г. да Ліды дайшлі атрады крымскіх татар, аднак штурмаваць замак яны не рызыкнулі" (ЭГБ. Том 4, с. 363).*

Я найуважлівейшым чынам перачытаў летапіс Быхаўца, у якім выкладаюцца гэтыя падзеі: *" W leto semoie tysiaszczy piatnadcatoho, a od bozyiaho narozenija tysiacza piatsot semoho posle plenenija zemli Litowskoie ot bezboznych tatar, y pryiechal korol y weliki kniaz Alexandro do Wilni z Lachow nemocon welmi nemocoiu paralitykowoiu, y wczynil seim w horode Lide. Y buduczy iemu so wsimi pany w Lide, pruszla ko nemu west, ize carewiczy perekopskiie Bity-Kirey soltan a Burnasz soltan pryszli z dwadcatma tysiaczma ludey ko Slucku, idut k Nowohorodku; korol ze buduczy wo welikoy chorobi y ne wedaiuczy, szto poczaty, pryzwal k sobi panow-rad swoich y hetmana swoieho pana Stanislawa Petrowicza Kiszku, y lubimaho swojeho marszalka dwornoho kniazia Michayla Lwowicza Hlinskoho, y wse delo swoje hospodarskoie y sprawu zemskuiu dast w ruki ich, sebe ze poweli otnesty na nosilicach do Wilni; panowe ze rada y hetman, y marszalok kniaz Michaylo Hlinski so wsimi ludmi ostali w Lide. Tatarowe pryszedsky k Nowhorodku, y skoro pryszli za Nemow y ne dochodiaczy Lidy, okolo horoda, ot wsich storon w mili y w polumili ot horoda, wojewali cerkwi bozyie y dwory welikie, y wesi zazyhali, y ludey imali y zabiwali. Widiaczy tj panowe litowskije oczyma swoimi, iz pohanstwo z takowym welikim okrutenstwom pryszli na nich, y wzemszy boha wsederzytela na pomocz, zjechalisia, y zopolczylisia desiat tysiaczey ludey perebranych, konnych y zbroynych, szto na tot czas mohlo byt, bo tak woskore ne mohlo ludey bolsz sobratysia, y malol mnohol wsi odyn podle druhoho, odnu radu a wmysl polozyli: wzemszy boha na pomocz, tolko polko poyty a bitysia s nimi. Y se twerdo a krepce utwerdywsze, izbrawszy sia nekolko ludey i echali dowedatysia a widety ich, y u odnoy mili ot Lidy naszli na nich, y bozyiu milostyiu pobili ich, nekolko zywych poymali, a innych golowy otsekaiuczy w taystra klali. Widiaczy ze tatarowe, szto ne mohut protywitysia im, pobehli. Oni ze wiaznew zywych do panow pryweli, a golowy otseczen-nych w taystrach prynesli; syia widywsze panowe weselilisia y radosty napolnilisia, y toho czasu sami wseli na koni, y wsemu woysku kasali poyty z soboiu k Nowuhorodku. Tatarowe ze wbaczywszy to y porazumeli, ize lude chodiat pod nimi, a chotiat s nimi boy postawity, y poczali z zahonow woroczatysia za Nemow; panowe ze so wsim woyskom pryszodszy k Nowuhorodku y stoiali w Nowehorodce try dni, y poslali dobywaty jazyka pewnoho, chotiaczy wedaty istynno, hde carewiczy koszom stoiat" (ПСРЛ Т. 32, М., 1975, с. 171-172).*

Тое ж самае на кірыліцы: *«В лето 7015, а от божего нарождения 1507 после пленения земли литовской от безбожных татар, и приехал король и великий князь Александр до Вильни з Лахов немоцон велми немоцою паралитиковою, и вчинил сейм в городе Лиде. И будучи ему со всими паны в Лиде, пришла к нему вест, иже царевичи перекопские Бити-Кирей солтан а Бурнаш солтан пришли з двадцатма тысячма людей ко Слуцку, идут к Новогрудку; корол же будучи во великой хороби и не ведаючи, што почати, призвал к соби панов-рад своих и гетмана своего пана Станислава Петровича Кишку, и любимаго своего маршалка дворного князя Михаила Львовича Глинского, и все дело свое господарское и справы земские даст в руки их, себе же повели отнести на носилицах до Вилни; панове же рада и гетман, и маршалок княз Михаило Глински со всими людми остали в Лиде. Татарове пришедши к Новгородку и скоро пришли за Немов и не доходячи Лиды, около города, от всих сторон в мили и полумили от города, воевали церкви божие и дворы великие, и веси зажигали и людей имали и забивали. Видячи то панове литовские очыма своими, иж поганство с таковым великим окрутенством пришли на них, и вземши бога вседержителя на помоч, зъехалися, и зополчилися десят тысячей людей перебраных, конных, и збройных, што на тот час могло быт, бо так воскоре не могло людей больш собратися, и malol mnohol wsi один подле другого, одну раду а вмысль положили: вземши бога на помоч, толко полко поити а битися с ними. И се твердо а крепце утвердивше, избравши сиа несколько людей и ехали доведатися а видети их, и у одной мили от Лиды нашли на них, и божию милостью побили их, несколько живых поймали, а иных головы отсекаючи в тайстра клали. Видячи же татарове, што не могут противитися им, побегли. Они же вязнев живых до панов привели, а головы отсеченных в тайстрах принесли; сие видывше панове веселилися и радости наполнилися, и того часу сами вседи на кони, и всему войску казали пойти з собою к Новугородку. Татарове же вбачывши то и поразумели, иже люде ходят под ними, а хотят с ними бой поставити, и почали с загонов ворочатися за Немов, панове же со всим войском пришодши к Новугородку и стояли в Новегородце три дни, и послали добывати языка певного, хотячи ведати истинно, где царевичи кошем стоят».*

Сярэдневечная міля раўнялася 7,5 км. У летапісе паведамляецца аб тым, што атрад татараў, перабраўся цераз Нёман і рабаваў за 1 -1,5 мілі ад Ліды, гэта значыць за 7-10 км ад замка, і нават не думаў аб штурме. Ліцвінская выведка з некалькіх чалавек за 7,5 км ад Ліды знайшла татараў, пабіла іх і некалькіх злавіла, галовы адсекла - вось і ўся бітва з татарамі ля сцен Лідскага замка.

У летапісе Рачынскага *(ПЗРЛ. Т.35. с.167)* сітуацыя выглядае значна прасцей - кароль Аляксандр вельмі

хворы *«рушылся з Вилни до Лиды, и оттуль з Лиды до хоробы свое далеи ехати не могучы, противу татар отправил войско литовское»*.

**Калі праваслаўная царква была вынесеная з замка ў 1533 або 1553 годзе?**

М. Шымялевіч (1906, с.47) ясна і зразумела выклаў сітуацыю з праваслаўнымі цэрквамі ў Лідзе, некалькі, праўда, пераблытаўшы паслядоўнасць: *"Па словах Т. Нарбута праваслаўная царква першапачаткова змяшчалася ў адной з вежаў Лідскага замка. Царква гэтая ў 1553 г. была перанесеная ў горад і асвечаная ў гонар Святога Георгія Пераможца* (спасылка на гісторыка-статыстычныя нарысы Віленскай губерні. *1852. с. 218*). *Другая царква ў Лідзе згадваецца пад 1524 г., а трэцяя была пабудаваная тут у 1533 г."* (спасылка на *Бацюшкава, 1890, заўвага 276* і на *Balinskego, Lipinskego, 1846, Т. 3, с 253*).

У Іпацьеўскім летапісе *(ПЗРЛ. Масква, 1965. Т.13, с. 66)* я знайшоў кароценькае паведамленне пад 1533 г. у пацверджанне вышэйсказанаму: *«...освященіе церкви иже въ Лидъ»*.

Усё быццам бы ясна і зразумела - з замка праваслаўная царква была вынесеная ў 1553 г.

Насуперак гэтай яснасці М.А. Ткачоў выносіць царкву ў горад у 1533 г. *(1971, с.16; 1977, с.28; 1987 с.37),* і ўсе паслядоўнікі, акрамя А.А. Трусава і Т.У. Габрусь, услед за ім - 1533, 1533... Вялікая сіла аўтарытэту - дата пракралася ў энцыклапедыі *(ЭГБ, АІНБ, БЭ)*.

**Хто камандаваў рускімі войскамі ў 1659 г. Мікіта Хаванскі або Іван Хаванскі?**

У М. Шымялевіча (1906) захопам Ліды і Лідскага замка кіраваў Мікіта Хаванскі: *"Улетку 1659 г. князь Мікіта Хаванскі з 30 тысячным аддзелам, рухаючыся з Вільні на Гародню, падступіў да Ліды. Лідскі замак, нягледзячы на адчайную абарону, быў узяты, а горад разрабаваны і спалены" (1906, с.50,* са спасылкай на *Балінскага, 1846, Т.3, с. 256)*. Павінен сказаць, што спасылка на М. Балінскага ў дадзеным выпадку некарэктная, у Балінскага, няма ніводнага слова ні пра Хаванскага, ні пра штурм: *" Dla zniszczenia jakiemu Lida ulegla, sejm r. 1676 uwolnil ja od stanowisk, ugod i ciezarow, ze wszystkiemi juryzdykami. -У сілу разбурэння, якому Ліда падвергнулася, сойм 1676 г. вызваліў яе ад пастою войскаў, дамоваў і павіннасцяў, з усімі юрыдыкамі" (1846, Т. 3, с. 255)*.

У М.А. Ткачова меркаванне аб камандуючым рускага войска мянялася: *"Улетку 1659 г. узброенае артылерыяй 30-тысячнае войска князя Мікіты Хаванскага нарэшце ўзяло замак прыступам" (1971, с.15)*; *"Летам 1659 г. 30-тысячнае войска князя І.А. Хаванскага з дапамогай артылерыі ўзяло замак прыступам". (1978, с.33). "После продолжительной осады и артиллерийского обстрела летом 1659 г. 30-тысячное войско воеводы Никиты Хованского взяло замок штурмом» (1987, с. 40)*.

У А.А.Трусава спачатку шкодзіць Мікалай: *«Замак і горад руйнуюць войскі царскага ваяводы князя Мікалая Хаванскага" (1980, с.26)*, а потым Мікіта: *"Улетку 1659 года замак з усіх бакоў атачыла 30-тысячнае войска царскага ваяводы Мікіты Хаванского і пасля гарматнага абстрэлу і доўгай аблогі ўзяло яго. Усе драўляныя будынкі былі спаленыя, а студні засыпаныя" (1990, с. 50; 2007, с. 22)*.

І нарэшце ў энцыклапедыях *(АіНБ і ЭГБ)* думка становіцца агульнай: *"30 тысячнае рус. войска кн. І.А. Хаванскага летам 1659 захапіла штурмам Л. з."*

Камандаваў рускімі войскамі пад Лідай у 1659 г. Іван Андрэевіч Хаванскі па мянушцы "Таратуй-Пустамеля". Але Ліду ён браў не ўлетку, а ўвосень 1659 г.

**Калі шведы падарвалі вежы замка і ці падрывалі іх наогул?**

У 19 стагоддзі падрыў веж замка на шведаў яшчэ не вешалі: *"...zamek przed r. 1710 spalony zostal, i juz sie wiencej nie podniosl - замак перад 1710 г. быў спалены, і ўжо больш не падняўся" (Balinski M і Lipinski, 1846, с.256)*. Думка ясная і выказаная пэўна - яшчэ да шведаў замак спалілі. Хто? - не пішуць, цэнзура, мабыць, не прапусціла.

Абвінавачанне ў адрас шведаў высунуў Міхал Шымялевіч *(1906, с.51)*: *"У 1702 г. адзін з атрадаў шведскіх войскаў разрабаваў і спаліў частку горада і падарваў замкавыя вежы. У Лідзе была пакінута шведская залога, а ўтрыманне яе ўскладзенае на жыхароў. У 1706 г. шведы другі раз разрабавалі горад і наваколлі, паўтарылі тое ж самае і ў 1708 г, рухаючыся з Гародні праз Ліду па Івейскім гасцінцы, пад начальствам самога караля Карла XII"*.

М.А. Ткачоў пагадзіўся з М. Шымялевічам: *"... быў разбураны ўшчэнт у 1702 г., калі адзін са шведскіх атрадаў падарваў замкавыя вежы" (1971, с.15; 1987. с.40-41)*.

А.А. Трусаў год падрыву вежаў шведамі абышоў бокам: "*Моцны ўдар лідскім мурам нанеслі шведы, якія ў пачатку XVIII стагоддзя ўзарвалі абедзве вежы, і ўмацаванне страціла сваё стратэгічнае значэнне" (1990, с.51).* У выніку пытанне аб часе падрыву засталося нявырашаным, што атрымала адлюстраванне ў гістарычнай энцыклапедыі: *"У 1702 і 1710 (паводле іншых звестак у 1706) шведскія войскі Карла XII узарвалі яго вежы" (ЭГБ. Том 4 з.363-364)*. Згадваць у энцыклапедыі 1710 год як год падрыву вежаў неяк непрыстойна, яшчэ да Палтаўскай бітвы шведы зніклі з тэрыторыі ВКЛ.

А ці падрывалі шведы наогул вежы Лідскага замка? - спытаў я сябе аднойчы. Што вядома напэўна?

У 1659 г. рускія войскі "Таратуя-Пустамелі" ўзялі замак, ці была ўжытая пры гэтым артылерыя, ды і ці быў штурм сцвярджаць не адважваюся. Пасля гэтага вайсковая залога ў замку не стаяла, казармаў не было, студня была засыпана, археалагічныя астаткі 18 стагоддзя адсутнічаюць. Дзеля чаго шведам падрываць замак, пагуляць - пастраляць па Мураванцы з Жалудка гэта цікава: патрапіць - не патрапіць, а тут, ну стаіць сярод возера мураваы пусты будынак, які з шведскіх гармат



*Лідскі замак Малюнак І. Пешкі.*

можна разваліць за дзень, хай сабе стаіць. Везці з Швецыі порах, а гэта вялікі дэфіцыт у гады Паўночнай вайны, і гэтак бессэнсоўна яго выкарыстаць?

У 1977 годзе, пры археалагічных раскопках студэнты адкапалі поўначна-усходнюю вежу з пад кучы валуноў. У ніжняй частцы раскопа ў квадраце 13 на глыбіні 480 см у пласце пажарышча былі знойдзеныя дзве срэбныя манеты другой паловы 17 стагоддзя. Тады ж было ўстаноўлена, што вежа захавалася да вышыні ў 4 м і яшчэ падмурак на глыбіню ў 70 см. У сценах вежы добра захаваліся шэсць ніш з трох бакоў, уваход і лесвіца з чацвёртай. Слядоў падрыву няма.

Звернемся да карціны І. Пешкі "Лідскі замак" канца 18 стагоддзя - стагоддзе пасля шведаў прайшло: вежы без дахаў, часткова разбураныя, але два паверхі над сценамі ўзвышаюцца.

Яшчэ праз тры дзесяткі гадоў, 9 сакавіка 1827 г. лідскі земскі спраўнік Тумінскі ў рапарце да губернатара Бабацінскага М.Т. піша: *"башни бывшие по Угламъ разрушились, и Углы отъ Запада развалившиеся изображаютъ довольно обширные отверстіи. Сіе разрушеніе какъ полагать можна произвесть могла самая древность».*

Разбурылі замак, вядома, рускія ў 1659 г., драўляныя канструкцыі згарэлі, а пасля гэтага дождж, снег і вецер паступова справу давяршылі. Дарма, думаю, на шведаў нагаварылі.

**Дзе адбылося сутыкненне паўстанцаў і рускіх войскаў у 1794 годзе?**

Падзеі 1794 г. - яркі прыклад нарастання гістарычных падрабязнасцяў па схеме сапсаванага тэлефона.

М. Шымялевіч: *"Улетку 1794 г. гэтыя* (паўстанцкія) *войскі былі пабітыя каля Ліды, а горад канчаткова заняты рускімі войскамі. Пры гэтым Лідскі замак быў разбураны..." (1906, с. 51)*.

М.А. Ткачоў: *"Канчаткова замак быў разбуран у 1794 г., калі засеўшыя там паўстанцы Т. Касцюшкі, маючы 18 гармат, вялі бой з царскімі войскамі" (1978, ст. 33)*.

А.А. Трусаў: *"Амаль канчаткова замак парушыўся летам 1794 года: у яго руінах вялі бой з царскім войскам паўстанцы Тадэвуша Касцюшкі, узброенныя 18 гарматамі" (1990, с.51, 2008, с.27)*.

*"Апошняя бітва тут адбылася у 1794 паміж паўстанцамі Т. Касцюшкі, што заселі ў руінах замка, і царскімі вайскамі" (ЭГБ . Т.4 с. 363)*.

С. Бараннікава сітуацыю драматызуе прысутнасцю самога Т. Касцюшкі: *"Апошні раз замак выкарысталі як абароннае ўмацаванне ў 1794 г. За надзейнымі сценамі хаваліся польскія паўстанцы на чале з Тадэвушам Касцюшка" (2000, с.51)*.

І як апафеоз вершаваныя радкі Д. Бічэль-Загнетавай:

*... Сцены замка*
*народу верныя служкі*
*не лічылі смяротных страт,*
*як паставілі тут*
*салдаты Касцюшкі*
*васемнаццаць сваіх гармат.*

Як гэта не горка, але ўсё было зусім па-іншаму.

Вось што рапартуе ў Цэнтральную раду парадкавы камісар Лідскага павету лідскі рэктар ксёндз Фларыян Крушэўскі 15 ліпеня 1794 г.: *"300 расійскай кавалерыі разам з казакамі і 2 гарматамі польнымі прымаршыравалі ад Дварышч пад Ліду і, убачыўшы спераду месца Ліды каля 100 коней шыкоўнай кавалерыі пад камандай абывацеляў Александровіча і Дамініка Шалевіча, некалькі разоў грымнулі з гармат. Тым часам казацтва счапілася з ротмістрамі Вілбекам і Сцыпіёнам. Ледзь толькі яны рэціраваліся па масту пры піярскім млыне, як тут абывацель*

*Шалевіч зблізіўся з маскалямі і загадаў вярнуцца, што вельмі выратавала ад няшчасця, бо маскалі падаліся налева і, рассыпаўшыся перад месцам, выпусцілі 12 гранат. Хаця тыя падалі ў месце, але ўсё ж такі нікому не шкодзілі, толькі месца запалілі, а тым часам павятовая кавалерыя адступіла да Мыта" (Анішчанка. 2004, № 29).*

А вось як гэтая ж падзея выкладзена ў рапарце генерала Б. Кнорынга М. Рапніну ад 7 ліпеня (26 чэрвеня ст. ст.): *«Вчерась прибыл я в Дворище, где имею теперь мой лагерь. ... Выслан был пикет по лидской дороге, коим встречен сильный пост мятежников, в Лиде собиравшихся, под командою генерала Цицианова* (Сцыпіёна дэ Кампа - ВС), *но был разбит. А вслед тому сделан был отряд из драгун, козаков и егерей в Лиду в ту же минуту под начальством господина полковника Чесменскаго, где те мятежники и бывшие там конфедераты им разбиты, прогнаны и разсеяны, коих, как напоследок объявили пленные, до двух тысяч пятьсот человек, в том числе до трехсот конницы, и Лида очищена с положением на месте убитыми из них трехсот двадцати пяти, да в плен схвачено сто сем, а прочие разбежались» (Восстание и война 1794 года в литовской провинции. № 98. Минск. 2001 с. 113).*

Графу Салтыкову ён напісаў без перабольшанняў: *«Вчера прибыл в Дворище и только войско развернуло обоз, как до 30 конных и столько же пеших повстанцев напали на наш пикет по лидской дороге и начали сжимать со стрельбой; высланные для поимки нападавших казаки сразились с ними и вынудили их к отступлению, причем гнали почти до самого местечка Лиды, уложив до 20 убитых и взяв несколько в плен. В конце эскадроны полка драгун конницу их и пехоту, находившихся в Лиде под командованием генерал-майора Сципиона, победили, вытеснили и рассеяли способом необычайно для нас счастливым" (Szymielewicz M. Dzieje pijarow lidzkich. //Ziemia lidzka. 1937. № 3. s.32).*

Як відаць, ні ў рапарце Ф. Крушэўскага, ні ў рапарце Б. Кнорынга, ні ў яго асабістым лісце замак нават не згадваецца. Сутычка паміж паўстанцамі і расійскай кавалерыяй адбылася ў раёне цяперашняга лакафарбавага завода, за 2 -2,5 км ад замка. У рускіх было ўсяго 2 гарматы, у паўстанцаў гармат наогул не было.

Цяжка сказаць - адкуль з'явіліся 18 казачных гармат. Адзіны намёк - гэта просьба Лідскай правінцыйнай камісіі ад 23 чэрвеня 1794 г. аб вяртанні шчучынскіх гармат: *"6 гармат, забраных у абывацеляў Сцыпіёнаў з добраў Шчучын, што ў Лідскім павеце, пры назначэнні абывацеля Сцыпіёна лідскім генерал-маёрам адпраўлены пры іншай зброі генерал-маёрам Гродненскага павета абывацелем Ельскім у Гродна, то лідская камісія моцную заносіць просьбу аддаць іх на патрэбы Лідскага павета і генерал-маёра Сцыпіёна па загаду ЦД." (Анішчанка. 2004. № 26).*

Праз 3-4 гады пасля гэтай сутычкі Лідскі замак замаляваў мастак Іосіф Пешка. Вакол возера, да замка вядзе масток. Ну схаваліся б у замку паўстанцы - і што? Адтуль выйсце толькі адно - у палон па мастку, а так яны рассеяліся ў бок Мыта.

Дык адкуль жа такія настойлівыя рэфрэны пра 18 лідскіх гармат?

**Паданне аб лідскім архіве**

Гісторыя з лідскім архівам наогул унікальная. На яе прыкладзе студэнтаў вучыць трэба.

Першым "спаліў" лідскі архіў А. Кіркор: *"...во время шведской войны, Лида подверглась новому разорению. В это время старинный архив, заключавший много важных грамот, был взят из замка и перевезен в Смоленск, где сгорел в 1812 г. - ...падчас шведскай вайны, Ліда падвергнулася новаму спустошэнню. У гэты час старадаўні архіў, які ўключаў шмат важных грамат, быў узяты з замка і перавезены ў Смаленск, дзе згарэў у 1812 г." (Живописная Россия. 1882. С.170)*. Класічны, дарэчы, прыклад вялікадзяржаўнай падтасоўкі фактаў: шведы разбурылі замак у пачатку 1700 -х гадоў, але архіў дзіўным чынам апынуўся ў рускіх у Смаленску ў 1812 г.

Аўтары кнігі Бацюшкава П.Н. "Беларусь і Літва" таксама амаль даслоўна паўтарылі гэтае дзіўнае дзейства: *"В начале 18 в., во время войны со шведами, Лида и замок подверглись новому разорению, причем древний архив был взят из замка и перевезен в Смоленск, где и сгорел в 1812 г. - У пачатку 18 ст., падчас вайны са шведамі, Ліда і замак падвергнуліся новаму спусташэнню, прычым старажытны архіў быў узяты з замка і перавезены ў Смаленск, дзе і згарэў у 1812 г." (Перавыданне 2004 г., с.129).*

М. Шымялевіч на шведаў віну не валіць: *"Летом 1794 г. ... Лидский замок был разрушен, а хранившийся в нем древний архив вывезен в Смоленск, где сгорел в 1812 г. - Улетку 1794 г. ... Лідскі замак быў разбураны, а старажытны архіў, які захоўваўся ў ім вывезены ў Смаленск, дзе згарэў у 1812 г." (1906, с.51).*

М.А. Ткачоў сумневаў не выказваў: *"Старажытны архіў горада Ліды, што захоўваўся у замку, быў вывезены у Смаленск, дзе згарэў у 1812" (1978, с. 33* са спасылкай на М. Шымялевіча).

А.А. Трусаў ужо без спасылак, як пра факт, які не патрабуе доказаў: *"Гарадскі архіў з усімі старажытнымі дакументамі быў вывезены з замка ў Смаленск, дзе ў час Айчыннай вайны 1812 года згарэў" (1990, с.51, 2008. с.27).*

А Лідскі архіў у цэласці і захаванасці, практычна не чытаны, ляжыць сабе ў Нацыянальным архіве Беларусі ў Менску, у чым лёгка можна пераканацца, замовіўшы справы наступных фондаў:

**Лідскі магістрат 1644-1801**. Ф. 1718, воп. 1, справы 1-17: актавыя кнігі (спр. 1-4), вопісы дакументаў актавых кніг за 1696-1799 гг. (спр.5-7), пратакол дэкрэтавы (спр. 8), пратакол паточны (спр. 9), пратаколы паседжанняў (спр. 10-11), рэестры ардынарыйныя (спр. 12-15), выпіскі з актавых кніг (спр. 16-17).

**Лідскі гарадскі суд 1666-1831 гг.** Ф. 1722, воп. 1, справы 1-82: актавыя кнігі за 1666-1831 гг. больш за 15 тысяч лістоў (спр.2-11, 13-67), дэкрэтавыя кнігі (спр.68-81).

**Лідскі гарадскі суд 1757-1792 гг.** Фонд 1767, воп.1, больш за 300 спраў: кніга рэгістрацыі актаў

продажу, закладу, нерухомых маёмасцяў, міравых угод, рашэнняў трацейскага суду, даверанасцяў, пазыковых абавязальніцтваў, выплаты мыт у колькасці больш за 4 тысячы лістоў.

**Лідскі эксдывізарска-таксатарны суд 1778 - 1836 гг.** Ф. 1863, воп.1, справы 1-47: пратаколы дэкрэтавыя за 1784-1839 гг. амаль 2 тысячы лістоў (спр.1-11, 13-25), дэкрэтавая кніга за 1810 г. (спр.2), пратаколы судовыя (спр. 26-43), асобныя судовыя справы (спр. 44-47).

**Лідскі падкаморскі суд 1753-1829 гг.** Ф. 1840, воп. 1, справы 1-13: дэкрэтавыя кнігі (спр. 1-2), пратаколы дэкрэтавыя за 1756 -1815 гг. (спр. 4-9), рэестры дэкрэтавыя (спр. 10-12), судовая справа 1828-29 гг. (спр. 13).

**Лідскі кампрамісарскі суд 1761-1839 гг.** Ф. 1915, воп. 1, справы 1-18: пратаколы дэкрэтавыя (спр. 1-13), пратаколы судовыя (спр. 14-17), дэкрэт кампрамісарскі ад 1765 г. (спр. 14).

**Лідскі каптуровы суд 1733-1764 гг.** Ф. 1971, воп. 1, справы 1-4: актавыя кнігі 1734 і 1764 гг. агульным аб'ёмам 1748 лістоў (спр. 1 і 3), актавая і дэкрэтавая кнігі ў 920 лістоў за 1693 - 1701 гг. (спр. 4).

**Лідскі канфедэрацкі суд 1792-1793 гг.** Ф. 1990, воп. 1, справы 1- 5: актавая кніга (спр. 1) на 1290 лістоў, пратаколы судовыя (спр. 2), рэестр (спр. 3), выпісы з актавых кніг (д.4), пратаколы прэтэнзій гр. Паца (спр. 5).

Дзесяткі тысяч лістоў інфармацыі. А напісана ўсюды: архіў згарэў у Смаленску ў 1812 г., не шукайце. Як тут не ўспомніць знакамітае: "Не вер вачам сваім".

*(Працяг будзе.)*

**Літаратура.**

1. Анішчанка Я. Камісары Касцюшкі. Том 1. Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі. Мінск. 2004.
2. Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993. С. 263
3. Баранникова С. Если б замки могли говорить... // Служба спасения. 2000. № 3 с. 50-51
4. Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. Минск, 2004. С.129. Переиздание книги 1890 г.
5. Беларусь. Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1995. С. 425-426
6. Бічэль-Загнетава Д. Што ж спрадвеку тварылася...// Полымя. 2008. №3.
7. Восстание и война 1794 года в литовской провинции. Минск. 2001. № 98 с. 113.
8. Віцьбіч Ю. Горад ільва, а не князёўны Ліды. // Спадчына. 2000. № 5-6 с. 191 -195.
9. Габрусь Т. Замак на рэчцы Лідзея. // Роднае слова. 2000. № 1. с. 93-95.
10. Ганецкая І. Каменная варта. // Мастацтва. 2006. № 5. С. 10-11.
11. Длугош Ян. Грюнвальдская битва. М-Л., 1962. С.ЗЗ.
12. Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии. М.1954, с. 24-26
13. Живописная Россия. Литовское и Белорусское полесье. Переиздание 1882. С.170.
14. Кішык Ю.Н.. Лідскі замак. Беларуская Савецкая энцыклапедыя. Мінск. Т.6. 1972. С. 365
15. Кішык Ю.Н. Белорусская ССР. Краткая энциклопедия. Мн., 1981. Т. 4. С. 311.
16. Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIУ- XУІ1 стст. Мінск, 1991
17. Литвинович Н. Лидский замок. // Вестник знания. С-Петербург. 1910. № 3 с. 68-69
18. Лнцкевнч С. Тнхая обнтель.//Советская Белоруссня. 2006. 7 июля.
19. Міцянін А. Лідская крэпасць. // Літаратура і мастацтва. 1965 ад 10 жніўня.
20. Палеес А. Замак у Лідзе. // Беларусь. 1947. № 10.
21. Покровский Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893.
22. ПСРЛ. М. Т.13. 1965. с.66.
23. ПСРЛ. М. Т.32. 1975. С.171-172.
24. ПСРЛ. М. Т.35. С.167.
25. Ракуць В. Старажытныя замкі Гродзеншчыны.// Беларускі гістарычны часопіс. 2008. № 6 с. 58.
26. Сліўкін В.В. "Будаўніцтва Лідскага замка і ўладкаванне прылеглай тэрыторы (14-15 стагоддзі" // Лідскі летапісец. 2006. № 36.
27. Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск. 1987, с. 35-41.
28. Ткачоў М.А. Лідскі замак. // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1971. № 2. с. 13-18.
29. Ткачоў М.А. Замкі Беларусі. Мн, 1977, с.26-31.
30. Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XІ1-XУ111 стст. Замкі-кастэлі. Мн. 1978. с.28-34
31. Ткачоў М, Трусаў А. Лідскі замак. // Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мінск. 1993. С. 368-369
32. Ткачоў М.А, Трусаў А.А. Лідскі замак. // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск. Т.4. 1997. С. 363-364
33. Ткачоў М.А, Трусаў А.А. Лідскі замак. // Беларуская энцыклапедыя. Мінск, Т.9. 1999. С.250.
34. Трусаў А. Архітэктурна-археалагічнае даследаванне Лідскага замка.// Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1979. № 4. с.16-19.
35. Трусаў А.А. Зброя Лідскага замка.//Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1990. №2, с. 26-27.
36. Трусаў А.А., Ткачоў М.А. Рэшткі замка. // Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. 1986. С.236-237.
37. Трусаў А. Лідскі замак 14 ст. // Мастацтва Беларусі. 1987. № 1 с.47-48.
38. Трусаў А.А. Старадаўніх муроў адраджэнне. Мінулае і сучаснасць Лідскага замка. Мн., 1990.
39. Трусаў А. Мінулае і сучаснасць Лідскага замка. // Лідскі Летапісец. 2007. №2. С. 14-29
40. Трусаў А. Мінулае і сучаснасць Лідскага замка. // Беларускі гістарычны часопіс. 2008. №2. С. 14-29.
41. Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Мннск. 1985, с.63.
42. Чантурия В.А. Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии. Минск, «Полымя», 1986,с.155-156.
43. Шимелевич М. Город Лида и Лидскнй замок. // Вильна. 1905.
44. Шимелевнч М. Город Лида и Лидскнй замок. // Внленский календарь. Вильна. 1906.
45. Balinski M., Lipinski T. Starozytna polska pod wzgledem historycznym, jeograficznym i statystycznym opisana. Warszawa. 1846. C.252-257.
46.Jasienica P. Polska Jagiellonow. 1985, s. 47.
47. Lietuvos istorija. Kaunas. 1936. S.101.
48. Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. Wilno, 1839, T. 3. S.482, 513.
49. Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. Wilno, 1839, T. 5. Dodatek I. Cokolvek z historyi miasta Lidy. S. 1-5.
50. Sulimerski F. Lida. Slownik geograficzny krolestwa polskiego I innych krajow slowianskich. T.5. Warszawa. 1884. S 215-216.
51. Szymielewicz M. Dzieje pijarow lidzkich. //Ziemia lidzka. 1937. № 3, s.32.

# Пачатак беларускага адраджэнцкага руху ў Лідзе ў канцы XX стагоддзя.

# *Суполка “Рунь”*

**Памяцi Валянцiна Ляцецкага,
Валерыя Тузiна,
Вiктара Шымановiча**

Гарбачоўская перабудова пры ўсёй яе палавінчатасці, непаслядоўнасці, утапічнасці зрабіла такі адну рэч. Яна разбудзіла найбольш актыўныя сілы савецкага грамадства, разбудзіла людзей з актыўнай жыццёвай пазіцыяй. Не важна, пра што вухкае сыч у начы, важна, што чалавек прачынаецца. Не важна, пра што гаварыў Гарбачоў, важна, што стала магчымым гаварыць усім, што за размовы пераcталі саджаць і расстрэльваць. Людзям вярнулі слова, і яны з бязмоўнага быдла ператварыліся ізноў у народы, у нацыі.

Сацыяльна актыўныя людзі былі заўсёды і ва ўсіх пластах грамадства, але іхнія памкненні і зацікаўленні не ўкладваліся ў савецкія рамкі. Таму тыя аб’яднанні сацыяльна актыўных людзей, якія ўзнікалі за савецкім часам, або хаваліся ў глыбокім падполлі, або іх удзельнікі ператвараліся ў лагерны пыл. Але як толькі гэтыя рамкі крыху пашыралі, да людзей пачала вяртацца свядомасць, людзі пачалі думаць і шукаць тых, хто думае так жа.

Значны ўплыў на фармаванне беларускай нацыянальнай свядомасці ў той час зрабілі творчасць У. Караткевіча і стварэнне Народных франтоў у Прыбалтыйскіх рэспубліках. Пачалі задаваць пытанне сабе і беларусы, хто ж мы такія, якая наша гісторыя, адкуль нашыя карані, і няўжо мы горшыя за іншых. На гэтыя пытанні шукала адказу нацыянальна свядомая моладзь канца 80-х гадоў.

Пра што маглі думаць і гаварыць людзі? Перш за ўсё - пра сваё, пра роднае, пра блізкае, пра тое, што кранала сэрца і грэла душу. І для беларусаў у каторы ўжо раз на пярэдні план ізноў выйшлі пытанні мовы, культуры, нацыянальнага адраджэння. А за імі непазбежна павінна было ісці пытанне незалежнасці. Аднак, як у пачатку ўсяго светатварэння было слова, так у пачатку беларускага адраджэння была мова.

Як стала можна гаварыць, беларусы загаварылі на мове і пра мову.

На жнівеньскай нарадзе настаўнікаў Гарадзенскай вобласці 1987 года пытанне занядбання беларускай мовы ў школах і грамадстве падняла гарадзенская паэтэса Данута Бічэль-Загнетава, нараджэнка вёскі Біскупцы Лідскага раёна. Данутата заклікала адраджаць беларускасць цераз вучняў. Аднак яе палымяная прамова была сустрэта многімі ўдзельнікамі канферэнцыі ў штыкі. Пачалі шумець, галдзець, накінуліся на паэтэсу з традыцыйнымі абвінавачваннямі ў нацыяналізме.

Тады ў абарону вядомай паэтэсы і зямлячкі выступіла настаўніца гісторыі Лідскай школы № 6 Марыя Саўкевіч. У перапынку Данута і Марыя пазнаёміліся, пагаварылі пра тое, як бы і што трэба было рабіць для адраджэння Беларушчыны. Данута пачала перадаваць у Ліду літаратуру, кніжкі (пра Вацлава Ластоўскага і інш.)

Поўная ўражанняў і ідэй Марыя Саўкевіч вярнулася ў Ліду. Неўзабаве ў Лідскай СШ №6 быў створаны клуб “Крывіч”. Хутка клуб выйшаў за межы школы, да яго пачалі далучацца прадстаўнікі лідскай інтэлігенцыі. Паседжанні “Крывіча” перамясціліся ў клуб абутковай фабрыкі. На адно з іх прыехалі з Гародні Міхась Ткачоў, Данута Бічэль-Загнетава, Часлаў Колышка (мастак, лідзянін, брат кіраўніка Таварыства



***Міхась Ткачоў.*** *Здымак з архіву “Руні”*



***Марыся Саўкевіч***

польскай культуры на Лідчыне Аляксандра Колышкі). Паседжанне было прысвечана 150-м угодкам Кастуся Каліноўскага. Вісеў вялікі партрэт Каліноўскага. Гаварылі ўсе: Ткачоў, Бічэль-Загнетава, вучні старэйшых класаў. Данута Бічэль-Загнетава расказвала між іншым і пра Ларысу Геніюш. Быў выкладчык музычнага вучылішча, які іграў на фартэпіяна, тое фартэпіяна ўсёй грамадой цягалі з адной залы ў другую, але потым пад акампанемент спявалі беларускія песні. Гэта адбывалася ў пачатку лютага 1988 года. Пад час гэтай імпрэзы сябры клуба “Крывіч” звярнуліся да моладзі і да ўсіх наогул з прапановай далучацца да клуба.

Зварот быў пачуты. Актыў клуба папоўніўся настаўнікамі, мастакамі, інжынерамі БС’ТУ “Конус” і іншых прадпрыемстваў. Школьны клуб непазбежна мусіўператварыцца ў сур’ёзную адраджэнцкую суполку нацыянальнай моладзі. Першапачатковымі мэтамі суполкі былі: ахова гістарычных помнікаў, распаўсюджванне ведаў па гісторыі краіны, пашырэнне ўжытку беларускай мовы і яе абарона, экалагічныя акцыі, а таксама выступы супраць усялякіх дурнот улады. Пачалі збірацца невялікімі групамі на кватэрах. Потым дзеля больш эфектыўнага ажыццяўлення статутных дзеянняў было вырашана зарэгістраваць суполку. Афіцыйны ўстаноўчы сход адбыўся 26 лютага 1988 у клубе будтрэста №19. Зала ў клубе была амаль поўная. Прысутнічалі прадстаўнікі гарвыканкаму, журналісты гарадской газеты “Уперад”. Было сказана шмат слоў пра неабходнасць адраджэння беларускай мовы і культуры. Адным словам суполка была ўтвораная і першым старшынём суполкі быў абраны Алег Усціновіч, мастак-афармляльнік лідскага лакафарбавага завода.

Была прапанова назваць арганізацыю “Звон”. Дэвізам павінны былі стаць словы Янкі Купалы:

*“Бом! Бом! Прачынайся ад сну Беларусь!*
*Годзе стагнаць ды жаліцца,*
*жальба нічога не дасць табе!*
*Уставай!*
*Ідзі будаваць зруйнаваную Бацькаўшчыну!”*

Як відаць адразу браўся даволі рэзкі тон і рабіўся шырокі замах.

Аднак на сходзе было вырашана назваць арганізацыю “Рунь”. Назва крыху спакайнейшая. Але на-

## Адзін з першых спісаў сяброў суполкі “Рунь”*

| № | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Год нараджэння | Месца працы | Адрас | Тэлефон |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Усціновіч Алег Ігаравіч | 1964 г. | ЛФЗ, мастак | Паўднёвы гарадок | 2-80-74 |
| 2. | Жалкоўскі Аляксандр Васільевіч | 1933 г. | рэдакцыя газеты “Уперад” | | 2-52-25<br>2-06-94 |
| 3. | Каранюк Тамара Анатольевна | 1961 г. | ЛІТ, настаўнік | вул. Р. Люксембург, 30 | 2-44-31 |
| 4. | Макарэвіч Лізавета Антонаўна | 1961 г. | СШ. № 6, настаўнік | вул. Перамогі | 3-88-93 |
| 5. | Матэйка Вацлаў Іванавіч | 1954 г. | мастацкія майстэрні | вул. Ленінская | 2-76-72 |
| 6. | Ляцецкі Валянцін Іванавіч | 1955 г. | | вул. Перамогі | |
| 7. | Масян Іосіф Іосіфавіч | 1960 г. | Будтрэст № 19 | вул. Перамогі | |
| 8. | Круцікаў Уладзімір Уладзіміравіч | 1956 г. | | | 2-31-93 |
| 9. | Тузін Валеры Сяргеевіч | 1961 г. | | | 2-52-59 |
| 10. | Стралкова Ірына Серафімаўна | 1964 г. | Абутковая фабрыка, інжынер | вул. Чапаева 11/68 | 2-65-25 |
| 11. | Саўкевіч Марыя Юзэфаўна | 1958 г. | СШ. № 6 настаўнік | вул. К. Цэткін, д. 10 | 3-12-85 |

*Неўзабаве да іх далучыліся: інжынер-электроншчык Валера Пільчук, бард Сяргей Чарняк, выкладчык Лідскай педнавучальні Міхась Мельнік, мастак Алесь Судар, настаўніца школы №4 Святлана Канапацкая, настаўніца школы №3 Антаніна Залеская, інжынер-электратэхнік Леанід Лаўрэш, інжынер Анатоль Мілюць, паэт Юрась Карэйва, мастак Іван Красачка, настаўніца Рэгіна Лапко, Андрэй Цішук, Часлаў Васілеўскі, Галіна Саўкевіч ...




**Харугва "Руні" - малады парастак жыта выбіваецца з патрэсканай ад засухі зямлі**

строі былі тыя самыя. У гэты час у Менску ўжо дзейнічалі "Талака", "Тутэйшыя". Лідская "Рунь" станавілася ў фарватар гэтых арганізацый.

Алег Усціновіч быў з Менска, меў сувязь з "Тутэйшымі". Быў вельмі энергічны, падмацоўваў і зараджаў усіх. Ён стварыў сімволіку "Руні".

Будтрэст № 19 выдзеліў для дзейнасці "Руні" памяшканне. Вацлаў Матэйка – будучы галоўны архітэктар г. Ліды – стварыў нават праект, якое павінна быць гэтае памяшканне: сцягі і інш.

Паседжанні было вырашана праводзіць кожную 2-ю і 4-ю сераду месяца ў 19.30, і яны праходзілі даволі рэгулярна, пісаліся пратаколы. Была падрыхтавана першая праграма суполкі.

### *I. Мэты і задачы.*

*1) Патрыятычнае аб'яднанне (суполка) створана на падставе агульнай зацікаўленасці удзельнікаў сучасным станам беларускай мовы, гісторыі і культуры ў рэспубліцы. Дзейнасць суполкі будзе спрыяць патрыятычнаму, камуністычнаму выхаванню, развіццю грамадскай актыўнасці, пашырэнню гістарычных ведаў, культурнага далягляду, карыснай арганізацыі вольнага часу.*

*2). Суполка аб'ядноўвае прадстаўнікоў гуманітарнай і тэхнічнай інтэлігенцыі, рабочых, служачых, камсамольскіх работнікаў г. Ліды! Устаноўчае паседжанне адбылося ............ 1988 года.*

*3). Асноўным напрамкам дзейнасці суполкі з'яўляецца: вывучэнне і прапаганда гістарычнай і культурнай спадчыны беларускага народа, яго воінскіх і працоўных подзвігаў, дзейнасці выдатных прадстаўнікоў Лідчыны, Гродзеншчыны і наогул Беларусі, папулярызацыя беларускай мовы, фальклору, звычаяў, традыцый. Знаёмства і прапаганда з сучаснымі дасягненнямі беларускай літаратуры (і культуры наогул), музыкі, мастацтва.*

### *II. Агульная праграма дзейнасці.*

*Асноўны прынцып дзейнасці – паседжэнне.*

*1) Знаёміцца і вывучаць гістарычныя падзеі краю, помнікі архітэктуры, літаратуры, музыкі, фальклору, звычаі, традыцыі.*

*2) Вывучаць жыццё і творчасць выдатных прадстаўнікоў мінулага і сучаснага.*

*3) Ладзіць вандроўкі па гістарычных мейсцах Беларусі, па магчымасці дапамагаць у раскопках і рэстаўрацыі помнікаў.*

*4) Дасканала азнаёміцца з гістарычным мінулым Лідчыны і пры магчымасці ушанаваць памяць аб тых ці іншых падзеях ці гістарычных асобах.*

*5) Прымаць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці рэспублікі, шляхам падтрымкі ўсебеларускіх лістоўных кампаній.*

*6) Уважлліва сачыць за беларускамоўнай прэсай і прапагандаваць беларускамоўныя выданні цераз насельніцтва.*

*7) Наладзіць і падтрымліваць сувязі з іншымі патрыятычнымі суполкамі Беларусі.*

*8) Рабіць усё магчымае для ўзнікнення новых патрыятычных суполак.*

*9) Супрацоўнічаць з мясцовым друкам і радыё, змагацца за чысціню мовы, але самае першае і асноўнае: дасканалае вывучэнне беларускай мовы, з мэтай ідэальнага валодання ёй !*

### *III. Мерапрыемствы.*

*1. Знаёмства і абмеркаванне матэрыялаў і пастаноў усебеларускага з'езду аматарскіх аб'яднанняў гістарычна-культурнага напрамку, які адбыўся 26-27 снежня 1987 г. Сакавік.*

*2. Вечар-размова, прысвечаны памяці рэвалюцыянера – дэмакрата Кастуся Каліноўскага.*

*3. Сустрэча з маладымі беларускімі пісьменнікамі з т-ва "Тутэйшыя". Красавік.*

*4. Наладзіць шэраг вандровак па Лідскім раёне з мэтай знаёмства з мясцовымі, фальклорнымі традыцыямі рамёстваі. Май.*

*5. Наладзіць фальклорнае свята Купалле. Чэрвень.*

*6. Наладзіць вандроўкі па гістарычных мясцінах Беларусі. Ліпень – жнівень*

*7. Апрацоўка матэрыялаў вандровак і знаёмства з імі школьнікаў і грамадства г. Ліды.*

*8. Вечар-размова прысвечаны 71-й гадавіне кастрычніцкай рэвалюцыі. Кастрычнік.*

*Тэма: "Рэвалюцыянеры- дэмакраты Лідчыны.*

*9. Вечар - размова, прысвечаны ахвярам 1937*

*года з запрашэннем беларускіх пісьменнікаў і паэтаў з Мінска і Гродна. Лістапад.*

*10. Святочнае паседжанне, прысвечанае 70-годдзю ўтварэння Беларускай ССР.*

*11. Наладзіць фальклорнае свята – “Каляды”. Снежань - студзень.*

Першыя месяцы дзейнасці “Руні” займелі шырокі розгалас. Аўтарытэт суполкі рос. Пра яе пачулі ў Гародні і Менску. 5 красавіка 1988 года Марыя Саўкевіч была запрошана на паседжанне Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР, хаця сябрам Саюза не была. На гэтым паседжанні абмяркоўвалася дзейнасць літаб’яднанняў вобласці, і Марыя Саўкевіч павінна была распавесці пра дзейнасць “Руні” на паседжанні абласнога аддзялення, бо хаця “Рунь” па сутнасці не была літаб’яднаннем, але ў яе склад уваходзілі ўжо многія лідскія паэты: Міхась Мельнік, Іосіф Масян... Лідскі паэт Юра Карэйва ў гэты час жыў у Гародні і ўваходзіў у гарадзенскую “Паходню”. Але Юру цягнула дадому, ён часта бываў у Лідзе і на паседжаннях “Руні”. У адзін з прыездаў Юра Карэйва прысвяціў “Руні” свой верш:

*Мы “Рунь”, нам зерня новым плёнам*
*На гэтай чорнай глебе стаць...*
*Нас ні пагрозай, ні праклёнам*
*Ніхто не здолее дастаць.*
*Нам жыць!!!*

Адным з першых мерапрыемстваў “Руні” была вечарына, прысвечаная Уладзіміру Караткевічу. Яна адбылася 27 красавіка. Быў пастаўлены спектакль па Караткевічу “Калыска 4-х чараўніц”. Прыехала Данута Бічэль-Загнетава, якая распавядала пра Ўладзіміра



***Рунёўцы***



***Юры Карэйва і Марыя Саўкевіч***




ГРОДЗЕНСКАЕ АБЛАСНОЕ АДДЗЯЛЕННЕ
САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

г. Гродна, БССР, вул. Элізы Ажэшкі, 17, 230023, т.44-83-75 ммммммм

5 . красавіка 88 г. №

Паважаны: Марыя Саўкевіч!

Запрашаем Вас на чарговае паседжанне, якое адбудзецца 15-IУ-88г. у 13 г. 00 мін. Павестка дня:

1. Абмеркаванне работы літаб"яднанняў вобласці.
2. Рознае.

Просім вывучыць дзейнасць даступных Вам аб"яднанняў і выказаць свае каштоўныя думкі.

сакратар

Гродно, облтипография, з. 935, т. 3000—7.2-86

***Запрашэнне для Марыі Саўкевіч на бланку Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР***

Караткевіча, у якой кашулі ён хадзіў па Гародні, якія вершы чытаў, чым захапляўся, пра такія мілыя дробязі, пра тое, як моцна любілі яго. З яе аповедаў паўставала такая магутная фігура Караткевіча, якой дагэтуль не відно ні з адной яго біяграфіі. Менавіта з аповядаў Дануты Уладзімір Караткевіч увайшоў у горад Ліду, як найгалоўны і найвялікшы дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння. Вечарына праходзіла ў зале будтрэста №19. У гэтай сустрэчы брала ўдзел і Хрысціна Лялько.

Наступнай акцыяй суполкі быў удзел у водным раллі «Прыпяць-88», разам з падобнымі суполкамі з Менска, Гародні, Віцебска, Гомеля, Мазыра і іншых гарадоў, супраць абвалоўвання ракі Прыпяць. Быў у той час такі праект, дзе ў мэтах барацьбы з павадкамі на Палессі, прапаноўвалася абвалаваць раку Прыпяць валам з абодвух бакоў вышынёй два метры, што вы-

## *Рунёўцы на Прыпяці*












*Рэгіна Лапко і Алег Усціновіч*




*Рэгіна Лапко і Валяр'ян Пільчук*

клікала б вялікія змены экалагічнага становішча навакольнага асяроддзя. Дарэчы, як ні дзіўна, дапамагаў арганізоўваць акцыю рэспубліканскі ЛКСМБ. Акцыя праходзіла наступным чынам: сябры грамадскіх аб'яднанняў плылі на байдарках па плыні Прыпяці, а ў вёсках што знаходзіліся па берагах ракі прадстаўнікі ЛКСМБ наладжвалі сустрэчы з мясцовымі жыхарамі на тэму патрэбна ці непатрэбна меліярацыя. Зразумела думкі палешукоў былі самымі рознымі І ўсё ж вынікі акцыі былі ўдалымі, бо была прыцягнута ўвага грамадскасці да дадзенай праблемы, і пасля выступаў навукоўцаў у друку выкананне праграмы было спынена.

14 траўня 1988 года лідская газета "Уперад" апублікавала вялікае інтэрвію з кіраўніцтвам суполкі "Рунь", якое ўзяў карэспандэнт газеты Тадэвуш Чарнавус.

***“НЕ СТАЦЬ ПЯСКОМ НА ШЛЯХУ ГІСТОРЫІ***
***Пра суполку гістарычна-культурнана напрамку “Рунь”***

*Усе апошнія дзесяцігоддзі наша моладзь ішла як бы ўніз, зашмат заглядвала ў чарку, шукала цяплейшых месц, прывыкала жыць па разліку. Адным словам, спакваля траціла высокую мараль. Усё гэта, напэўна. і прымусіла народнага паэта Беларусі Пімена Панчанку напісаць пра яе такіх прадстаўнікоў суро-выя, але да аголенасці праўдзівыя радкі:*

*Спачатку пазбавіцца рад ад бацькоўскае хаты,*
*А маці — у горад, даюць на яе трэці светлы пакой.*
*На хатчыны грошы,*
*на матчыны грошы абставіць кватэру багата,*
*А потым і маці цішком —*
*у Дом Састарэлых — на вечны спакой.*
*А там і ад мовы сваёй адцураецца:*
*родная мова не ў модзе —*
*Даволі той бульбы! Бывай, журавінавы гай!*
*Крышталь. Дываны. А дзеці ў англійскую ходзяць.*
*Прыстойна. Прэстыжна. О’кэй і гуд бай!*
*А там адрачэцца ад нашай Савецкай Радзімы,*
*Бо сэрца ўжо прагне вітрынаў з раскошнай лухтой.*
*О, бедныя маці; нашто вы такіх нарадзілі?*
*І горкае рэха якоча: а хто вінаваты? А хто?*

*Сёння можна сказаць ужо іншае: перабудова ўскалыхнула народ. Мала-памалу стала падаваць свой голас, займаць актыўную грамадзянскую пазіцыю і моладзь. Усё больш і больш адчуваецца яе неабыякавасць да свайго месца ў жыцці.*

*Кола пытанняў, якія хвалююць, напрыклад, удзельнікаў (а сярод іх настаўнікі, мастакі, рабочыя, інжынеры, сакратар камсамольскай арганізацыі, лабарант, дойлід і іншыя) суполкі «Рунь», што ўзнікла нядаўна ў нашым горадзе і зарэгістравана пры будтрэсце № 19, датычыцца перш за ўсё захавання культурна-гістарычнай спадчыны. а таксама многіх экалагічных і іншых злабадзённых праблем. Кіруюць суполкай настаўніца гісторыі СШ № 6 Марыя Саўкевіч і мастак-афарміцель вытворчага аб’яднання «Лакафарба» Алег Усціновіч. На пасяджэннях «Руні», якія адбываюцца па серадах у 9-павярховым інтэрнаце па вуліцы Рыбіноўскага, часта птрысутнічаюць загадчык аддзела культуры гарвыканкома М. Ёрш, іншыя адказныя асобы. Нядаўна на іх пабываў і наш карэспандэнт, які папрасіў руньцаў расказаць аб сваёй дзейнасці чытачам газеты «Уперад» больш падрабязна.*

***— Скажыце, калі ласка, якія задачы ставіць суполка?***

*— Ініцыятывы аб’ядна.ння патрыятычныя. Мы, як і ўсе савецкія людзі, цалкам падтрымліваем курс партыі на перабудову грамадства і імкнёмся з дапамогай культуры абудзіць павагу да роднай спадчыны. Часта здзіўляюцца: наша моладзь перастае спачуваць, успрымаць чужы боль, быць спагадлівай, далучаецца да п’янства, наркаманіі, прастытуцыі. Многія ўзялі на ўзбраенне цяжкі рок. А ці не ад таго ўсё, што на нейкай стадыі развіцця аслабла патрабавальнасць, стала зніжацца агульная культура нашых народаў. Без ведання сваёй гісторыі народ нямы. Страшна падумаць, што будзе. калі нашы дзеці, давучыўшыся да трэцяга класа і далей, будуць пісаць у заявах: прашу вызваліць мяне ад роднай мовы.*

*Руская мова — мова міжнацыянальных зносін. Праз яе мы далучаемся да бессмяротных твораў Пушкіна, Гогаля, Горкага, іншых вялікіх пісьменнікаў, у тым ліку і замежных. Але дапамагчы зрабіць першы самастойны крок у жыцці, зблізіць нас з далёкімі продкамі і блізкімі родзічамі, аб’яднаць у цэлы народ пад сілу толькі роднаму слову. Таму, як—некалі пісаў Францішак Багушэвіч, «яно добра, а нават і трэба знаць суседскуго мову, але найперш трэба знаць сваю». Калі У. І. Леніну паведамілі, што прыбыла дэлегацыя з’езда беларускіх бежанцаў, сярод іншых пытанняў ён задаў і такое:*

*— На якой мове гавораць дэлегаты?*

*— Многія на беларускай, — адказалі яму.*

*— Гэта вельмі добра, — падкрэсліў У.І. Ленін.*

***— Задачы, якія вы ставіце перад сабой, высакародныя. але ці не здаецца, што іх цяжка рашыць намаганнямі невялікай групоўкі энтузіястаў?***

*— Так, многія людзі яшчэ далёкія ад актыўнасці, жывуць па прынцыпах: мая хата з краю, мой дом — мая крэпасць... Нямала яшчэ тых, хто трасецца толькі за свае сцены, свае дываны, свае машыны, дачы, прэстыж. Тюлькі не пра захаванне спадчыны. У цэнтры Ліды маем вуліцы Міцкевіча і Таўлая. Але дзе бюсты паэтаў? Вуліцы ж Каліноўскага, Цёткі, іншых герояў вынесены ўвогуле на ўскраіны. А ўзяць удзельніка паўстання 1863 года Людвіга Нарбута, сына вядомага беларускага гісторыказнаўцы і дойліда. На планетарыі ёсць шыльда, прысвечаная гэтаму герою — кіраўніку паўстанчага атрада на Лідчыне. Але ў свой час яна замуравана толькі таму, што была створана на сродкі прыхаджан.*

*А колькі будзе паглядаць пустымі аканіцамі Лідскі замак? Мы гатовы прыняць удзел у рэстаўрацыі гістарычных помнікаў, выйсці на суботнікі, а заробленыя грошы пералічыць на помнікі. Спачатку — Кастусю Каліноўскаму ў Гродна, а затым і вядомым асобам, якія маюць дачыненне да нашага горада і раёна.*

***— Якія практычныя крокі ўжо зроблены?***

*— Па-першае, кожны член суполкі не саромеецца размаўляць па-беларуску. Адны глядзяць на нас са здзіўленнем, другія — з цікавасцю. Скажам, у магазіне мы звяртаемся да прадаўца на беларускай мове, а ён адказвае нам на рускай. І гэта натуральна. Ва ўмовах двухмоўя чалавек абавязаны ведаць дзве мовы — сваю і рускую.*

*Па-другое, «Рунь» наладжвае сувязі з фальклорнымі гурткамі. Стварае такі гурток свой. Будзе ў нас і самадзейны тэатр, дзе пойдуць п’есы беларускіх і іншых аўтараў. Адновім і правядзём такія народныя святы, як гуканне вясны, Купалле, каляды, дзяды, і іншыя. А ўзяць фальклор, традыцыі мясцовага насельніцтва, здабыткі народных умельцаў Лідчыны. Мяркуем усё гэта збіраць для этнаграфічнага музея, які б*

*хацелася размясціць у капліцы, што на могілках непадалёку ад рынку. На жаль, у гэтым памяшканні пасля зносу могілак мяркуецца адкрыць магазін рытуальных прыналежнасцей. Хіба наша прапанова горшая? Ды думаецца. што і могілкі нельга зносіць цалкам. Трэба захаваць тыя месцы, дзе пахаваны паўстанцы 1863 года, а таксама загінуўшыя ў барацьбе з фашызмам, стэлу, некалькі іншых цікавых помнікаў. Якую, скажыце, гістарычную перспектыву можа мець народ, адарваны ад сваіх каранёў, ад таго, што стварылі многія пакаленні нашых продкаў, калі ён занядбае памяць аб тых, хто змагаўся за іх светлую будучыню? Без каранёў, без асноў — мы толькі пясок на шляху гісторыі: падуе вецер — і нічога няма.*

— ***Чуў, што ў аддзеле народнай адукацыі гарвыканкома вамі ставілася пытанне ад адкрыцці ў горадзе напачатку хаця б беларускамоўнага класа?***

*— Перш чым адказаць на гэтае пытанне, напомнім, што дыскусія наконт беларускай мовы даўно ідзе ў штотыднёвіку Саюза пісьменнікаў БССР «Літаратура і мастацтва». Пра гэта пішуць таксама іншыя перыядычныя выданні, у тым ліку і газета «Звязда». Хочацца прывесці словы першага намесніка міністра асветы БССР М. М. Круглея, які ў «Звяздзе» піша: «Выдаць загад і дэкрэтыўным шляхам зрабіць некалькі школ беларускамоўнымі — не выйсце. У прынцыпе менавіта бацькі вырашаюць, на якой мове будуць вучыцца іх нашчадкі. Так прадугледжвае і нядаўна прыняты Закон БССР аб народнай асвеце». Нельга не пагадзіцца з гэтым меркаваннем, як і з тым, што павінны быць, як рускія, так і беларускія школы. Што датычыцца бацькоў, то па далёка няпоўных апытаннях толькі ў раёне шостай сярэдняй школы нашага горада ўжо больш як 20 сем'яў пажадалі аддаць сваіх дзяцей у першы клас з беларускай мовай навучання, некаторыя ў гэтым мікрараёне хацелі б аддаць сваіх дзяцей у беларускі садзік. Так што жадаючыя ёсць. У аддзеле народнай адукацыі гарвыканкома, куды мы звярнуліся, таксама нічога супраць не маюць.*

*Сапраўды, шмат праблем накапілася ў нашым грамадстве за гады застою. Сёння ўжо нельга лічыць нармальным, што ва ўмовах двухмоўя толькі на адной мове афармляюцца назвы вуліц, шыльды ўстаноў, вядзецца справаводства. Хвалююць руньцаў і экалагічныя пытанні, такія, як спрамленне рэк, забруджванне паветра, перанасычэнне некаторых прадуктаў харчавання нітратамі і нітрытамі. Дарэчы, члены «Руні» нядаўна пабывалі на нарадзе па лініі ЦК ЛКСМБ, АН БССР, іншых высокіх інстанцый, якая прысвячалася праблемам Палесся, у прыватнасці, абвалаванню Прыпяці. Туды яны ехалі спачатку поезда.м, а затым — на байдарках. У канцы мая ў парку ля Кургана Бессмяроцця мяркуецца правесці свята песні, танца і спорту, у якім залрасілі прыняць удзел і фальклорную групу «Руні».*

*...Нефармальныя аб'яднанні, падобныя лідскаму, існуюць і ў іншых гарадах рэспублікі. На вялікі жаль, у іх руху ёсць нямала недахопаў, пра што не раз вельмі падрабязна гаварылася ў рэспубліканскай перыёдыцы. «Падчас прасвечваецца слабая палітычная выхаванасць некаторых членаў суполак, недакладнае веданне гісторыі, — чытаем у трэцім нумары часопіса «Беларусь» за гэты год. — Многія размовы пра мінулае не-не ды зводзяцца да спрэчак пра памылкі, трагедыі. Здараецца і захапленне гульнёй у змагароў. Слухаеш падобных прамоўцаў і адчуваеш іх нездаровае спаборніцтва ў смеласці гаварыць «праўду», рабіць псеўдаадкрыцці, вылучыцца або стаць героем хоць на час.*

*Ад усяго гэтага хочацца засцерагчы лідскую суполку. Аналізуючы мінулае, мы павінны глядзець на яго з пазіцыі інтэрнацыяналізму, шукаць у першую чаргу тое, што ўзбагачала б народы, збліжала іх."*

19 траўня 1988 года суполка была зарэгістравана і атрымала пашпарт. Паводле пашпарту арганізацыяй заснавальнікам суполкі "Рунь" выступаў будтрэст №19. Суполка была зарэгістравана па адрасу: г. Ліда, вул. Рыбіноўскага, 22, пакой 618 (інтарнат будтрэста №19). На момант выдачы пашпарта ў суполцы лічылася 12 чалавек, хаця на гэты час было ўжо значна больш. Кіраўніком суполкі значыцца Усціновія Алег Ігаравіч, 1966 г.н., адукацыя сярэдняя спецыяльная, мастак-афармляльнік ВА "Лакафарба", член ВЛКСМ.



ПАСПОРТ

«Рунь» гістарычна-культурнага

напрамку

БУДТРЭСЦЕ №19

БУДТРЭСТ №19

231300

г. Ліда вул. Рыбіноўскага 22

пакой 618

***Тытульны аркуш пашпарта суполкі "Рунь"***

Вясной 1988 года менскай «Талакой».пасля выхаду у друку артыкула Зянона Пазьняка "Курапаты - дарога смерці" быў арганізаванм першы масавы мітынг у Менску. Збор на мітынг быў прызначаны каля канцавога прыпынку аўтобусаў №13 і №30 на вуліцы Каліноўскага. Уладзімір Круцікаў з лідскай "Руні" ўдзельнічаў у мітынгу ў дружыне, якая сачыла за парадкам. На мітынг сабралася каля 6-8 тысяч чалавек.

ЛКСМБ спрабаваў сарваць мітынг. Да сабраўшыхся людзей былі падагнаны аўтобусы з прапановай ехаць на афіцыйны мітынг, які на той жа час прызначылі ўлады ў іншым месцы Аднак у тыя аўтобусы амаль ніхто не сеў, а людзі рушылі за моладдзю на Курапаты. Над калонай былі ўзняты транспаранты: «Сталін-кат», ”Жыве Беларусь” і іншыя. Мітынг праходзіў на Курапатах, запомніліся выступы Зянона Пазьняка, Кастуся Тарасава, Юрася Хадыкі, Вінцука Вячоркі і шмат каго іншых. Слова давалася ўсім ахвочым, таму прайшоў ён даволі сумбурна,аднак зрабіў вялікае ўражанне на менчукоў, бо ў горадзе шмат пра яго гаварылі





***Адзін з першых мітынгаў у Курапатах***

Рунёўны дапамагалі археолагам раскапваць могілкі на Курапатах у той час, як там працавалі супрацоўнікі пракуратуры. Гэта была цяжкая фізічная праца, бо пахаванні знаходзіліся на значнай глыбіне, каля 1,5-2,5 метраў. Раскопваліся пахаванні да той пары пакуль штых рыдлёўкі не натыкаўся па чалавечыя косці. Потым пласт зямлі раўнялі і ў магілу з пэндзлікамі апускаліся работнікі судмедэкспертызы і археолагі. Самае цяжкае ўражанне заставалася менавіта пасля расчысткі пэндзлікамі, бо захавапіся рэшткі вопраткі і было відаць, што ў магіле ляжалі пластом, забітыя звычайныя мірныя людзі.

Пачынаючы з вясны “Рунь” вяла змаганне за стварэнне хаця б аднаго беларускага класа ў горадзе, бо ў 80-х гадах у гарадах Беларусі не было ніводнага беларускамоўнага класа, наш горад не быў выключэннем. Нават былі сабраны неабходныя подпісы бацькоў вучняў, якія павінны былі ісці ў першы клас школы №15, прычым подпісы збіраліся лёгка, пераважная колькасць бацькоў згаджалася аддаць сваіх дзетак вучыцца на роднай мове, аднак пасля размовы кіраўніцтва школы з бацькамі амаль усе заявы былі адкліканы, і беларускамоўны клас у 1988 навучальным годзе так і не быў створаны.

Рунёўцы вялі працу з маладымі маці, распавядалі ім, як іхнія дзеці будуць жыць у незалежнай Беларусі. Праводзілі збор сродкаў у Фонд міласэрнасці, наладжвалі пры гэтым самадзейныя канцэрты. Прапагандавалі дзейнасць суполкі. Да прыкладу нататка карэспандэнта лідскай газеты “Уперад” М. Майскага ў газеце за 8 ліпеня 1988 года.





***Збор сродкаў у Фонд міласэрнасці***

### “КВІТНЕЙ, МОЙ КРАЙ БЕЛАРУСКІ

*Спытайцеся ў кожнай сасны і бярозкі.*
*Яны вам раскажуць, як даўняй парой*
*Хадзіў тут Вашчыла, Хвясько, Каліноўскі.*
*Вадзілі атрады на подзвіг геройскі,*
*Іх слова, як сонца, стаіць над зямлёй.*

*Так цёпла і замілавана пісаў пра свой край народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка. Нездарма гэтыя радкі яго верша былі вынесены ў эпіграф да гарадскога свята кнігі «Квітнее мой край беларускі», прысвечавага 70-годдзю БССР і Камуністычнай партыі рэспублікі. Гарадское добраахвотнае таварыства аматараў кнігі сумесна з гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмай прапанавалі ўсім аматарам кнігі сабрацца ў парку на адкрытай эстрадзе. Яшчэ задоўга да пачатку мерапрыемства да аўтобуса, дзе быў аргавізаваны продаж кніг, пачалі збірацца людзі. Лічы, на працягу паўтары-дзвюх гадзін за кнігамі рухалася чарга.*

*А ў гэты час слова бярэ старшы бібліёграф цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Тамара Зенюкевіч. Яна прапанавала прысутным агляд сучаснай беларускай літаратуры. Асобную ўвагу спыніла на кнігах, якія паступілі ў бібліятэку нядаўна, і на гістарычных раманах.*

*Затым адбылася сустрэча з паэтамі Лідчыны: Уладзімірам Васько, Міхасём Мельнікам, Тадэвушам Чарнавусам, Пятром Макарэвічам, Валянцінай Казак і Алегам Маной. Намеснік рэдактара газеты «Уперад» У. Васько расказаў аб літаратурным аб'яднанні, што існуе пры рэдакцыі. Т. Чарнавус і М. Мельнік спыніліся на праблемах існавання беларускай мовы. прычынах, якія прывялі да яе заняпаду, заклікалі жыхароў Ліды размаўляць па-беларуску. Ад іх слухачы таксама даведаліся пра* ***суполку гістарычна - культурнага напрамку «Рунь»****, што існуе ў нашым горадзе. У выкаванні гэтых і іншых паэтаў прагучалі вершы. Пятро Макарэвіч прачытаў таксама і пераклады з рускай паэзіі, якімі ён захапляецца..."*

Працягвалася работа па аднаўленні народных святаў. Асабліва ўдалося Купалле 1988 года, на якое прыязджала пісьменніца Данута Бічэль-Загнетава з сябрамі з гарадзенскай «Паходні», і ў якім удзельнічаў ансамбль "Лідчанка". На гэтым Купаллі было ўсё: і вялікае вогнішча, і Князь з Купалінкай, і пошук папарацькветкі, і нячысцікі з ведзьмай, якія спрабавалі скрасці вугалькі з вогнішча.

Неўзабаве пасля Купалля Ліду пакінуў старшыня суполкі "Рунь" Алег Усціновіч. Ён ажаніўся і пераехаў на сталае жыццё ажно ў Хабараўск. У гэты час рунёцы завялі фотаальбом. Адкрываецца ён пажаданнем Алега Ўсціновіча сябрам "Руні":

*"Рунёўцам сённяшнім,*
*Рунёўцам заўтрашнім*
*З вялікай павагай і пажаданнем*
*упартасці, поспехаў і*
*вялікай любові да Беларусі.*
*Жыве Беларусь!*
*10 жніўня 1988 г. м. Ліда"*

Пасля ад'езду Ўсціновіча актыўнасць "Руні" не зменшылася. Новай старшынёй суполкі была абрана **Марыя Саўкевіч**, якая і да гэтага, і пасля была адным з лідараў арганізацыі, генаратарам ідэй і выдатным арганізатарам. *(**Марыя Юзэфаўна Саўкевіч**, 1958 года нараджэння, адукацыя вышэйшая, настаўніца гісторыі Лідскай СШ №6, жыла ў Лідзе па адрасу: вул К. Цэткін, д. 10).*

Арганізоўваліся сустрэчы з настаўнікамі і вучнямі школ горада, праводзіліся краязнаўчыя канферэнцыі і гістарычныя вандроўкі. Суполка цесна супрацоўнічала з адраджэнцкімі суполкамі іншых гарадоў, асабліва з менскай. "Талакой", і сябры "Руні" актыўна ўдзельнічалі амаль што ва ўсіх моладзевых рэспубліканскіх акцыях якіх праводзілася даволі шмат. Пад час гіста-

# КУПАЛЛЕ - 88

## Першае адроджанае Купалле на Лідчыне






рычных вандровак моладзь ішла з бел-чырвона-белымі сцягамі, і калі ставіліся намёты на начлег, то да іх чамусьці заўсёды падыходзілі альбо мясцовае кіраўніцтва, альбо начальнікі мясцовых райаддзелаў міліцыі і заставаліся разам з хлопцамі і дзяўчатамі ля вогнішча да раніцы.

А ў альбом быў упісаны верш.

*Не бачна сонца і цяпла,*
*І лепшы лёс ужо не прыдзе,*
*Але мы рвёмся да святла,*
*Але мы верым - рунь узыдзе!*

*І прага жыць пасля зімы*
*Мацней за ўсё, і як крыніца*
*Мы скінем снегу кайданы,*
*Мы верым - рунь закаласіцца!*

*Паўстане шчыльнаю сцяной,*
*Адчуе моц і прагу волі,*
*І смела ўласнаю рукой*
*Здабудзе сабе лепшай долі.*

*Дык узыходзь жа, "Рунь", смялей!*
*Цябе чакае край забраны!*
*Не бойся хмараў і завей,*
*Не бойся быць закатаванай!*

Вялікую ролю ў рунеўскім жыцці адыгрывала музыка. Самым першым музычным адкрыццём ру-



**Бард Сяргей Чарняк на Купаллі**



**Бард Валера Тузін на Купаллі**



**Уладзімір Круцікаў падчас рунёўскіх вандровак**

нёўцаў стаў, несумненна, Данчык. Далёкі заморскі юнак так шчыра спяваў пра нашу любімую Беларусь, пра "Жалейку Купалы" і "Багдановіча васілёк", што сэрцы замiралі ад хвалявання... Весела, з добрым настроем ездзілі ўсёй суполкай на канцэрт Данчыка ў Вільню. Уразіла знешняя прыгожосць, вытанчанасць спевака. А песні яго прайшлі выпрабаванне часам. Усё з тым жа замілаваннем спяваюцца сёння "Аксамітны летні вечар", "Я не ганю землі чужыя", "Шумныя бярозы" і іншыя.

Былі ў "Руні" і свае песняры. Збіраючыся на паседжанні і абмяркоўваючы штодзённыя праблемы, амаль кожны раз ладзілі спеўкі, развучвалі калядныя, велікодныя песні, вяснянкі. Сяргей Чарняк браў у рукі гітару, і гучалі песні Сокалава-Воюша, Данчыка і іншых беларускіх бардаў. Да вечарыны, прысвечанай творчасці Ф. Багушэвіча, Сяргей падабраў музыку да верша "Ахвяра". Гэтая песня і стала пачаткам яго творчай біяграфіі. Потым з'явіліся песні на словы Я. Купалы, М. Багдановіча, лідскіх паэтаў В. Бачарова, Л. Вінніка, М. Мельніка.

З асабліва шчымлівым пачуцём успамінаем мы Сёння Валерыя Тузіна, песні якога ўпрыгожылі рунёўскае жыццё. Валера любіў народныя песні, і больш не сумныя, а вясёлыя, размашыстыя, такія, як яго любімая "Шынкарачка, у якой можна было на ўвесь моцны голас гукнуць: "Гэй!" асабліва запомніліся ў яго выкананні песні на словы У. Караткевіча. Яны неяк дзіўна супалі – геніяльны беларускі пісьменнік, вядомы ўсім і сціплы інжынер з Лідскага завода "Ізатрон". Валера як ніхто адчуваў мелодыку вершаў Караткевіча, перадаваў у



*Рунёўцы. У цэнтры Валера Тузін*

сваёй музыцы тое глыбокае, важнае, што прымушала слухаць яго з вялікім захапленнем. Няма сёння з намі Валерыя Тузіна, заўчасна пайшоў ён, не дасьпяваўшы сваю жыццёвую песню. На жаль, не захаваліся запісы яго песень. Думаючы аб гэтым, яшчэ раз упэўніваешся ў хуткаплыннасці і незваротнасці чалавечага існавання на зямлі.

На перыяд дзейнасці "Руні" прыпала эпапея змагання за каталіцкія могілкі па вуліцы Энгельса, заміж якіх улады збіраліся зрабіць парк адпачынку з атракцыёнамі. Рашэнні па закрыцці могілак па вул. Энгельса прымаліся два разы: 16 снежня 1960 года і 16 чэрвеня 1983 года. Аднак працэс рэалізацыі іх зацягнуўся. Тым не менш улады горада ад ідэі не адступаліся. Гаркам на чале з першым сакратаром Кудраўцавым вельмі рашуча адстойваў гэты праект. Старшыня гарвыканкаму Сямён Домаш займаў больш памяркоўную пазіцыю. Трэба адзначыць, што шмат хто з жыхароў горада паспеў перазахаваць сваіх родных з гэтых могілак на іншыя яшчэ да пачатку выступленняў «Руні». За астатнія магілы заступіцца не было каму. Сваякі пахаваных там людзей у большасці былі за мяжой. Апошнім рубяжом абароны стала магіла ўдзельніцы паўстання 1863 года Валерыі Цехановіч. Былі прапановы перазахаваць паўстанку, на што многія пагадзіліся, але не "Рунь". Вырашана было не адступаць. На адрас старшыні Лідскага гарвыканкаму Сямёна Домаша быў накіраваны ліст.

*Старшыні гарвыканкама*
*Домашу С.М.*

*Мы члены суполкі гісторыка-культурнага напрамку "Рунь" і клуба аматараў польскай культуры звяртаеся да гарадскіх улад з нагоды хвалюючых нас падзей, звязаных з гістарычнай і культурнай спадчынай нашага народа.*

*Агульнавядома, што 1988 год абвешчаны годам Кастуся Каліноўскага і паўстання 1863 года, таму мы лічым, што у святле гэтай падзеі патрэбна ў нашым горадзе ушанаваць памяць выдатнага сына нашага народа і яго паплечнікаў.*

*На старых каталіцкіх могілках, якія цяпер вырашана рэкульцівіраваць, захавалася магіла удзельніцы паўстання Кастуся Каліноўскага Валерыі Цехановіч. Абавязкова трэба выкарыстаць для стварэння мемарыяльнага комплексу с мэтай захавання гістарычнай памяці нашага народа і выхавання ў маладога пакалення павагі да мінулага. У гэты мемарыяльны комплекс павінны ўвайсці:*

*1. Філіял гарадскога краязнаўчага музея, прысвечаны паўстанню 1863 года, які размясціцца ў памяшканні капліцы.*

*2. Алея Памяці, сэнсавым цэнтрам якой будзе магіла В. Цехановіч. У алею таксама павінны ўвайсці тыя помнікі, якія маюць гістарычныя і архітэктурную каштоўнасць (напрыклад некаторыя магілы польскіх лётчыкаў, якія загінулі у 1943 годзе у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

*Пытанне ўшанавання памяці Кастуся Каліноўскага і паўстання 1863 года мае значэнне не толькі для жыхароў нашага горада, але і для ўсяго беларускага, польскага і літоўскага народаў. Пытанне гэта востра ўздымалася на старонках прэсы: ЛІМ за 29 ліпеня 1988 года № 31, 4 старонка (орган міністэрства культуры і Саюза пісьменнікаў БССР); "Чырвоны штандар" ад 2, 3 жніўня № 178-179 (орган ЦК Кампартыі Літвы).*

*Мы просім разглядзець гэта пытанне неадкладна таму, што работы на могілках ужо пачаліся, і даць пісьмовы адказ.*

Такіх лістоў-зваротаў у выканкам было накіравана ажно тры. Акрамя ліставання з уладамі "Рунь" прымала іншыя меры. У асабліва напружаныя моманты на могілках выстаўляліся пікеты. Пікеты стаялі не толькі днём, але і начамі. Для ўзмацнення ціску на ўладу "Рунь" спланавала мітынг, прысвечаны ўшанаванню памяці паўстанцаў 1863 года і падала адпаведную заяву ў гарвыканкам.

*Старшыні гарвыканкама*
*Домашу С.*
*Клуб гісторыка-культурнага*
*напрамку "Рунь"*

*Заява*

*Просім Вас даць дазвол на правядзення мітынгу.*

*Мэта мітынгу: ушанаванне ў горадзе Лідзе памяці ўдзельнікаў паўстання 1863 года ў сувязі з аб'яўленным годам К. Каліноўскага.*

*Час правядзення 16 жніўня з 18.00 да 22 гадзін.*

*Мейсца правядзення: пляцоўка перад інтарна-*

*там будтрэста №19.*

*Колькасць удзельнікаў: 500 чалавек.*

*Арганізатары мітынгу: Саўкевіч Марыя,*
*пражывае па вул. К. Цэткін, 10.*
*Каранюк Тамара,*
*пражывае па вул. Р. Люксенбург, 30.*
*Ляцецкі Валянцін,*
*пражывае па вул. Перамогі, 15/63.*

Лідскі гарвыканкам гатоў быў адступіць, але гэта няпроста было зрабіць пры ўпартым жаданні гаркаму ўсё-такі знесці могілкі. Аддзел культуры гарвыканкаму неафіцыйна параіў Марыі Саўкевіч знайсці доказы гераічнага ўдзелу Валерыі Цехановіч у паўстанні. Трэба было ехаць у Вільню, у віленскія архівы.

Марыя Саўкевіч паехала ў Вільню. А там нічога не даюць. Літоўцы на той час моцна ахоўвалі свае архівы і ніякіх звестак беларусам не давалі. Дзень у Вільні, другі, трэці - ні з месца. Тады Марыя пайшла да кіраўнічкі аддзела, і тут так супала, што зусім нядаўна гэтая самая кіраўнічка ўдзельнічала ў змаганні за захаванне могілкаў на Росах у Вільні. Марыю дапусцілі ў архівы. Яна шмат накапала па паўстанні Каліноўскага, знайшла каля сотні прозвішчаў жанчын, якія праходзілі па справе, але пра Цехановіч нічога не знайшла.

У гэты час у Ліду прыехаў карэспандэнт ЛіМа Пётра Васілеўскі. Марыі патэлефанавалі ў Вільню: “Тэрмінова прыязджай!” Сабралася сумеснае паседжанне з Таварыствам польскай культуры. Палякі кажуць: “Давайце пераносіць”. Марыя сказала: “Не!”

З’явіўся артыкул у ЛіМе.

Чарговы ліст ад “Руні” быў накіраваны на імя міністра культуры Беларускай ССР.

*Міністру культуры*
*Беларускай ССР*
*т. Міхневічу Ю. М.*

*Мы, удзельнікі лідскага аб’яднання гістарычна-культурнага напрамку “Рунь” і лідскага клуба аматараў польскай культуры звяртаемся да вас з нагоды вельмі хвалюючых і непакоячых нас падзей, якія адбываюцца ў нашым горадзе. Кароткая перадгісторыя.*

*У Лідзе ёсць каталіцкія могілкі, узрост якіх каля 200 гадоў. Пяць год таму гарвыканкам прыняў рашэнне рэкульцівіраваць іх, а на іх мейсцы зрабіць зялёную зону. Усё было б добра, калі б вясною гэтага года польскім клубам на гэтых могілках не была знойдзена магіла Валерыі Цехановіч, якая прымала ўдзел у паўстанні 1863 года. Акрамя гэтай магілы на могілках захавалася капліца, а таксама шмат надмагілляў і помнікаў, якія варта было б захаваць як гістарычныя і архітэктурныя каштоўнасці. Зыходзячы з таго, што 1988 год абвешчаны годам Кастуся Каліноўскага, з таго, што на Беларусі няма ніводнага музея паўстання, што антыгуманна і злачынна было б зносіць магілу паўстанкі ў год, калі святкуецца юбілей паўстання, мы звярнуліся да гарадскіх улад з прапановай:*

*1. У памяшканні капліцы зрабіць музей паўстання 1863 года.*

*2. Зрабіць алею памяці, сэнсавым цэнтрам якой павінна стаць магіла В. Цехановіч.*

*Атрымліваецца мемарыяльны комплекс, вартасць і каштоўнасць якога для горада Ліды, для Беларусі ўвогуле не трэба тлумачыць. Бо сорам нам і так, што не змаглі захаваць усё тое, што было звязана з паўстаннем. Мы зараз галосна гаворым аб памылках, але гэтага мала. Каб іх больш не было – трэба рабіць канкрэтную справу. Але нажаль, гэтага ніяк не могуць зразумець у нашым гарвыканкаме. Не гледзячы на нашыя звароты быў прыняты загад – з 1 жніўня руйнаваць могілкі. Не дапамаглі і артыкулы ў ЛІМе і мясцовай газеце “Уперад”. Толькі пасля таго, як мы трэці раз звярнуліся ў гарвыканкам з гэтай прапановай, было прынята рашэнне: пакінуць магілу В. Цехановіч на месяц. Калі за гэты месяц мы не дакажам, што магіла мае гістарычную каштоўнасць – яна будзе перанесяна польскім клубам на дзейныя могілкі і тым самым яна страціць сваю гістарычную каштоўнасць.*

*Сумна і непрыемна становіцца, калі бачыш, што людзі, надзеленыя ўладай, не бачаць і не разумеюць такіх простых рэчаў. Не будзем паўтараць зараз тыя словы аб гісторыі, памяці, іх важнасці для нашага будучага і будучага нашых нашчадкаў, якія ў апошні час проста запаланілі старонкі друку. Давайце лепей зробім канкрэтную справу. Мы вельмі разлічваем на вашу дапамогу і нагадваем, што да 1 верасня помнік гісторыі нашай жыве, а потым будзе знішчаны.*

*З павагай члены суполкі “Рунь” і лідскага клуба аматараў польскай культуры*

*Старшыня суполкі – М. Ю. Саўкевіч.*

На гэты ліст быў атрыманы адказ з Беларускага фонду культуры ад 1 лістапада 1988 года:

*Старшыні суполкі “Рунь”*
*т. Саўкевіч М.Ю.*

*Паважаная тав. М.Ю. Саўкевіч!*

*У сувязі з Вашым пісьмом у Беларускі фонд культуры старшыня Праўлення фонду звярнуўся ў Лідскі гарвыканкам з прпановай уважліва разгледзець узнятыя пытанні.*

*Як нам паведаміў старшыня Лідскага гарвыканкама, могілкі не ліквідуюцца, астанкі В. Цехановіч не пераносяцца. Прадугледжана правядзенне работ толькі па прыбіранню зныгодненных надмагільных збудаванняў на месцы, адкуль зроблена перазахаванне астанкаў памерлых. Вырашэнне аб практычным выкарыстанні былой капліцы Гарвыканкамам не прымалася. Рэстаўрацыя яе патрабуе значных матэрыяльных сродкаў. Пытанне аб стварэнні музея ў памяшканні былой капліцы вымагае дадатковага вывучэння новых гістарычных дакументаў. У Лідскім краязнаўчым музеі знаходзіцца зараз незначная коль-*

*касць матэрыялаў пра паўстанне 1863 г. на Лідчыне. Толькі пры наяўнасці новых дакументаў экспазіцыя можа быць пашырана. Прадугледжваецца таксама пашырэнне за кошт выкарыстання для гэтых мэтаў адной з вежаў адрэстаўраванага Лідскага замка. Аднак, ідэя стварэння асобнага музея ці філіяла музея ў капліцы – справа вельмі патрэбная і патрабуе увагі.*

*Паважаная тав. М.Ю. Саўкевіч, лічым, што вашы клубы маглі б узяць на сябе стварэнне ініцыятыўнай групы фонду па арганізацыі грамадскасці горада і раёна, з падключэннем гісторыкаў, краязнаўцаў, вучняў, раённага органа друку, каб актывізаваць збор матэрыялаў для музейнай экспазіцыі, правядзеннем суботнікаў па добраўпарадкаванню могілак і іншых гістарычных месцаў горада і раёна арганізацыю розных дабрачынных вечароў і канцэртаў, сродкі ад якіх пойдуць на рэстаўрацыю капліцы. У гэтай вялікай рабоце Вы можаце спадзявацца на ўсебаковую падтрымку Беларускага фонду культуры, яго Гродзенскага абласнога аддзялення. Рэканструкцыю капліцы можа зрабіць каапературыў "Спадчына", створаны пры фондзе.*

*Спадзяемся на вашу энэргію і зацікаўленнасць.*

*Першы намеснік*
*Старшыні Праўлення*
*Беларускага фонду культуры – Л.Н. Валяеў.*

Гэта была перамога.

Падчас барацьбы за могілкі рунёўцы разам з Таварыствам польскай культуры зладзілі не адну талаку, каб прывесці могілкі ў парадак. Наводзіўся парадак і на праваслаўных могілках каля Лідсельмаша.

У ходзе вывучэння падзей паўстання 1863 года па архіўных дакументах Марыя Саўкевіч усвядоміла велізарную ролю, якую адыгралі ў паўстанні Нарбуты і ў першую чаргу - Людвік Нарбут. Тут ужо было мала чытаць архівы. Мясціны, звязаныя з жыццём Нарбутаў былі побач. Без знаёмства з імі абысціся не выпадала. Таму былі здзейснены вандроўкі ў Шаўры, Начу, Дубічы, дзе быў апошні бой Людвіка Нарбута. Былі перагледжаны касцельныя кнігі, запісана, хто, калі і дзе хрысціўся, быў у споведзі, браў шлюб і г.д.

У гэты ж час паралельна з барацьбой за могілкі "Рунь" уступіла ў мэтанакіраванае і настойлівае змаганне за беларускую мову. У Лідскі гаркам партыі быў накіраваны зварот.

**_Зварот_**

*Мы, удзельнікі суполкі гістарычна-культурнага напрамку "Рунь" звяртаемся да партыйнага кіраўніцтва горада Ліды і хочам выказаць сваю заклапочанасць лёсам перабудовы. Выказаць свае меркаванні, унесці канкрэтныя прапановы, бо лічым, што ні адзін сапраўдны грамадзянін і патрыёт не мае права стаяць у баку ад тых падзей, якія захлынулі нашу краіну.*

*Перабудова, якая закранула ўсе бакі нашага*



**_Сябры "Руні" ў Начы каля магілы Тодара Нарбута_**

*грамадства, дала магчымасць у голас гаварыць аб нашых хваробах, дала магчымасць зазірнуць у тыя старонкі нашай гісторыі, каторыя раней лічыліся забароненымі, ці тлумачыліся неправільна. У святле гэтых падзей балюча і востра паўстала пытанне аб нацыянальнай палітыцы. Не для каго зараз не сакрэт, што ў свой час наша кіраўніцтва адышло ад Ленінскіх прынцыпаў вырашэння нацыянальных пытанняў. Вынікам гэтага з'явіліся жудасныя падзеі перыяду культа асобы Сталіна, ды і не меней злачынныя, дзеянні многіх кіраўнікоў у гады застою. Зараз гэтыя памылкі адгукнуліся страшным рэхам у Казахстане і Нагорным Карабаху. Нас, беларусаў, як і многіх іншых, не пашкадавалі ні сталінскія рэпрэсіі, ні брэжнеўскія ружовыя акуляры. У выніку дзейнасці спачатку сапраўдных катаў, затым не меней небяспечных, бесконтрольных бюракратаў зараз перад намі, беларусамі, паўстае пытанне: быць ці не быць беларускаму народу.*

*Тут няма перабольшванняў. Бо калі занядбана мова, калі людзі не ведаюць сваёй гісторыі, калі ўсе арэны запаланіла псеўданародная культура, калі беларускія кнігі пакрываюцца пылам на паліцах – гэта азначае толькі адно – народ набліжаецца да свайго вынішчэння. Далей адступаць ужо няма куды.*

*Таму мы лічым, што нам усім простым рабочым і інтэлігенцыі, камсамольскім і партыйным работнікам трэба разам, талакой узяцца за адраджэння нашай мовы, культуры, гістарычнай памяці нашага народа, вярнуць беларусам іх нацыянальную*

*свядомасьць і гонар. Аб гэтым зраз гаворыцца на ўсіх узроўнях; у газетах, часопісах, на радыё, тэлебачанні, выступаюць і дыскутуюць на гэтых пытаннях літаральна усе пласты грамадскасці: карэнных змен чакаюць ад XIX партыйнай канферэнцыі і пленума па нацыянальнаму пытанню. Так, там вырашыцца многае, але нельга толькі чакаць, трэба дзейнічаць, дзейнічаць актыўна і плённа. І таму прапануем вам план мерапрыемстваў, якія лічым неабходнымі дзеля таго, каб хоць крыху зрушыць з мейсца рашэнне узнятых вышэй праблемаў.*

*Прапановы:*

*1. Адкрыць у горадзе напачатку хаця б адну беларускую школу. Каб рэальна забясьпечыць канстытуцыйнае права выбара мовы, на якой вядзецца выкладанне ў школе. Тым больш, што загад міністра асветы аб адкрыцці беларускіх школ і класаў у гарадах БССР выйшаў яшчэ ў 1987 годзе.*

*2. Перагледзець гандлёвую рэкламу, рэкламу службы побыту і інш., надпісы на крамах, службы побыту і інш. Надпісы на крамах, кавярнях, цырульнях, кінатэатрах і іншых установах павінны быць не толькі на рускай, а і на беларускай мове. А ў некаторых мейсцах і наогул толькі на беларускай.*

*3. Назвы вуліц таксама павінны пісацца на беларускай мове, як гэта зроблена ў сталічным Мінску.*

*4. Дзеля ўшанавання памяці продкаў, якія сваімі імёнамі праславілі нашу Бацькаўшчыну неабходна: перанесці вуліцы Я. Коласа, К. Каліноўскага, Цёткі з ускраін у цэнтр горада, каб яны былі бачны не толькі мясцовым жыхарам, але і гасцям Ліды.*

*5. Утварыць у горадзе этнаграфічны музей, у якім былі б сабраны прадметы побыту, адзення, вырабы і іншыя рэчы жыхароў Лідчыны, а таксама вырабы народных майстроў, якія яшчэ жывуць і працуюць у нашым раёне.*

*У якасці памяшканьня для музея выкарыстаць капліцу на старых польскіх могілках.*

*6. Абнавіць шыльду Л. Нарбуту, якая знаходзіцца на будынку планетарыя і даць дзве тлумачальныя шыльды: на беларускай і рускай мовах.*

*7. Знайсці магчымасць надаць адной з вуліц горада імя Людвіка Нарбута, аднако з кіраўнікоў паўстання К. Каліноўскага.*

*8. Паскорыць работы па рэстаўрацыі Лідскага замка.*

*Прапановы гэтыя былі абмеркаваны на паседжаньні суполкі і зацверджаны адзінагалосна. Спадзяёмся і верым, што гаркам партыі пільным чынам разглядзіць гэтыя прапановы і па кожнай прыме адпаведнае рашэнне.*

*З павагай удзельнікі аб'яднання "Рунь"*

*Подпісы.*

Рунёўцы прапанавалі канкрэтныя назвы для крамаў, кавярняў, цырульняў і шапікаў горада Ліды:

***Назвы крам, кафэ і другіх установаў***

*"Ласунак" – кафэ*
*"Смажанка" – кафэ*
*"Бурштын" – кафэ, магазін*
*"Утульнае" – кафэ*
*"Сустрэча" – кафэ*
*"Беларускія прысмакі" – кафэ, фірменны магазін*
*"Мроя", "Мара" – кафэ, магазін*
*"Агмень" – магазін*
*"Світанак" – кафэ, магазін*
*"Сунічка" – дзіцячы магазін*
*"Сонейка" – дзіцячы магазін, кафэ*
*"Вандроўнік" – спартыўны магазін*
*"Рагнеда" – магазін, кафэ*
*"Чараўніца" – цырульня*
*"Паўлінка" – магазін*
*"Несцерка" – магазін*
*"Вясёлка" – кафэ*
*"Рэха планеты" – кіёск*
*"Сучаснік" – кіёск*

Некаторыя назвы з гэтага спісу з'явіліся пазней у горадзе.

Пункт 6. "Прапановаў..." быў праз некаторы час выкананы. Шыльда ў гонар Людвіка Нарбута, пастаўленая жыхарамі Лідчыны ў 1938 годзе на касцёле Святога



***Шыльда ў гонар Людвіка Нарбута на сцяне планетарыя. Відны абедзве дошкі: польскамоўная арыгінальная і беларускамоўная новая. Здымак зроблены 2.02.1989 г.***

Язэпа пры клештары піяраў да 75-х угодкаў паўстання 1863 года, была ўскрытая. Шыльда была затынкована ў ноч з 17 на 18 верасня 1939 года пры ўваходзе ў горад Чырвонай Арміі з-за апасення, што яна будзе знішчана бальшавікамі. Цяпер тынк з дошкі знялі. Пад польскамоўнай арыгінальнай шыльдай была ўстаноўлена беларускамоўная шыльда, праўда, значна прасцейшая. Рускамоўную шыльду рабіць не сталі, але на гэта ніхто не пакрыўдзіўся.

Аднак шыльды не доўга цешылі вока гараджан. Пасля перадачы планетарыя праваслаўнай царкве было ўсё-такі зроблена тое, чаго не зрабілі бальшавікі, 17 чэрвеня 1996 года прыблізна ў 17.00 шыльды былі выламаны са сцяны. Да здзяйснення гэтага акту вандалізму былі прыцягнуты жаўнеры адной з лідскіх вайсковых частак. На сёння шыльда 1938 года захоўваецца ў Лідзе і чакае на паўторную ўстаноўку, мабыць, у іншым мейсцы.

Не бачачы магчымасці вырашыць моўныя пытанні ў горадзе, збіраліся подпісы і дасылаліся лісты ў Вярхоўны Савет рэспублікі аб наданні статусу дзяржаўнай беларускай мове, і вельмі важна што пераважная колькасць беларусаў гэтыя лісты падпісвала. Шмат палымяных артыкулаў у абарону роднай мовы напісаў у гэты час сябар "Руні" выкладчык педнавучальні Міхась Мельнік. Так 20 жніўня 1988 года ў лідскай газеце ў рубрыцы **"Беларуская мова і мы"** з'явіўся яго вялікі артыкул "Неацэнная спадчына".

**Зварот у Вярхоўны Савет БССР з подпісамі лідзян за дзяржаўнасць беларускай мовы**

### НЕАЦЭННАЯ СПАДЧЫНА

***Родная мова, матчына мова — так ласкава называюць яе ў народзе. На жаль, у нас на Беларусі ў апошні час яна страчвае свае пазіцыі. Патрэбны кардынальныя рашэнні па яе адраджэнню на ўзроўні дзяржаўнасці. Аб гэтай праблеме з трывогай і болем у сэрцы піша ў сваім артыкуле М. Мельнік.***

***Чакаем вашых меркаванняў, думак, канкрэтных прапаноў.***

*Зараз слушна б'ём трывогу ў сувязі з катастрафічным станам Байкала, Ладагі, Палесся... Але яшчэ большая пагроза навісла над адной з крыштальнейшых славянскіх рэк — беларускай мовай. А як вядома, стан мовы — адзін з самых яркіх паказчыкаў развіцця культуры кожнага народа, яго гісторыі, сучаснага жыцця і будучыні.*

*Чаму так здарылася, што беларусы, якія жывуць у сваёй рэспубліцы, адракаюцца ад роднай мовы? Ды таму, што беларуская мова так і не стала дзяржаўнай у практычным значэнні гэтага слова. Чалавек, які заканчвае беларускамоўную школу, нідзе потым не можа прымяніць сваю мову: ні на прадпрыемстве, ні ва ўстанове, ні ў ВНУ. І вось тут трэба ўспомніць мінулае. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя ажывіла працэс нацыянальнага адраджэння беларускага народа. Гэты працэс працягваўся да пачатку 30-х гадоў, і многае было зроблена: беларуская мова сапраўды набыла статус дзяржаўнасці. Але затым рэпрэсіі супраць так званых «нацдэмаўцаў» прывялі да арышту і гібелі многіх дзеячаў нацыянальнай культуры, навукі, асветы. Былі створаны такія ўмовы, што пісаць і гаварыць пабеларуску, асабліва ў гарадах, стала небяспечна. З той пары і пачалі пашырацца нігілістычныя тэндэнцыі адносна нацыянальнай культуры ўвогуле. Пазней бюракраты выдалі ўказ: усе гарадскія школы рэспублікі перавесці на вывучэнне прадметаў толькі на рускай мове. Усіх прадметаў і ва ўсіх гарадскіх школах — ад сталіцы да самага-самага маленькага гарадка, якому б упару звацца ў той час вялікай вёскай.*

*У сваім дакладзе на Х пленуме ЦК КПБ першы сакратар Я. Сакалоў гаварыў аб прынятых мерах па вывучэнню беларускай мовы і літаратуры ў навучальных установах рэспублікі, аб пашыраным прыёме студэнтаў па спецыяльнасці беларуская мова і літаратура.*

*І ў той жа час ён зазначыў, што мы далёкія ад думкі, што ўсё неабходнае ўжо зроблена. І сапраўды, яшчэ рана гаварыць аб нейкіх адчувальных зрухах. Для гэтага неабходны і час, і грунтоўныя змены, і непрымірымасць да ўсяго змрочнага, народжанага перыядам сталінізму, гадамі застою, калі наша мова перастала быць у нармальным штодзённым кругавароце жыцця.*

*І тут па прыклады хадзіць далёка не трэба. Выхоўваць павагу да роднага слова трэба пачынаць з дзіцячага сада. Не раз бываў я ў дашкольных установах нашага горада — і ніколі не чуў на дзіцячых святах беларускай мовы. І наогул тут не знойдзеш ніводнага*

*надпісу па-беларуску. Дык як жа любіць тое, чаго няма? А прайдзіцеся па вуліцах нашай Ліды. Уся рэклама на рускай мове, назвы вуліц таксама. Быццам жывеш у чужым, далёкім горадзе, а не на радзіме.*

*Большасць з нас тыя, чые дзеці сёння ходзяць у школу, у свой час закончылі школы з беларускай мовай і працягвалі вучобу ў тэхнікумах і інстытутах, і ўсё было зразумела, і горшымі ад гэтага не сталі. І вось цяпер, калі мае сын і дачка ходзяць у школу, я вельмі хачу, каб і яны добра ведалі мову Бацькаўшчыны. Ужо з першага класа я даваў ім кніжкі, напісаныя на беларускай мове. Сын-сямікласнік, дачка-шасцікласніца выдатна іх чытаюць. Дык могуць нашы дзеці ці не? Могуць. І павінны. Каб не забыць сваіх вытокаў, каранёў, каб не павіснуць у паветры, не застацца без роднай мовы, гэта значыць, не загінуць нашай шматмільённай беларускай нацыі. Лічу, што ў нашым горадзе павінны прыняць спецыяльную праграму адраджэння роднай мовы. У ёй перш за ўсё прадугледзець перавод часткі дзіцячых садоў і школ у беларускамоўныя. У сярэдніх спецыяльных навучальных установах і ў прафтэхвучылішчах арганізаваць групы з навучаннем на роднай мове. Таксама неабходна выкараніць заганную практыку вызвалення дзяцей ад вывучэння яе ў школе.*

*І яшчэ адно пытанне — падрыхтоўка настаўнікаў пачатковых класаў і выхавацеляў дашкольных устаноў у педвучылішчы. У нас толькі беларуская мова, беларуская савецкая літаратура, беларуская дзіцячая літаратура і методыка вывучэння беларускай мовы выкладаюцца па-беларуску. А педвучылішча лічыцца нацыянальным, яно рыхтуе настаўнікаў галоўным чынам для сельскіх школ, якія працуюць на беларускай мове. Усе прадметы школьнага вучэбнага плана ў вучылішчы вывучаюцца на рускай, а працаваць выпускніку трэба на беларускай. Вядома, што гэта і цяжка, і часта прыводзіць да нежаданых вынікаў. Такім чынам, напрошваецца сам па сабе вывад: трэба рыхтаваць грунтоўна будучых настаўнікаў і выхавацеляў ужо ў сценах вучылішча, а для гэтага хоць бы на першым часе перавесці частку прадметаў на выкладанне на роднай мове. Скажам, матэматыку і методыку матэматыкі, прыродазнаўства, выяўленчае мастацтва, музыку, спевы, грамадазнаўства, гісторыю. Тым больш, што па некаторых з гэтых прадметаў ёсць падручнікі для 9—10 класаў сярэдняй школы з беларускай мовай навучання. Але ж тут патрэбны ініцыятыва і дапамога міністэрства народнай асветы. Найперш — выпуск падручнікаў на беларускай мове для педвучылішчаў, у першую чаргу — курса пачатковай матэматыкі, методыкі выкладання, методык прыродазнаўства, музыкі і выяўленчага мастацтва.*

*У пастанове Х пленума ЦК КПБ сказана: «Імкнуцца да таго, каб кожны жыхар рэспублікі добра ведаў беларускую і рускую мовы, добра валодаў імі». І тут нельга не ўспомніць справядлівыя словы М.С. Гарбачова: «Нават самаму малому народу нельга адмовіць у мове. Бо гэта чалавечая культура ва ўсёй сваёй разнастайнасці, у якой яна дайшла да нас, ва ўсім гэтым шматмоўі, у адзенні, абрадах, знешнім аблічы. Гэта наша агульнае багацце. Хіба ж можна праяўляць да яго няўвагу, дапускаць яго прыніжэнне?»*

*За гады Савецкай улады на беларускай мове напісана шмат выдатных твораў, якія сталі вядомы далёка за межамі Беларусі і Савецкага Саюза. Творы класіка, беларускай літаратуры Янкі Купалы перакладзены на 82 мовы свету. Сусветна вядомымі пісьменнікамі з'яўляюцца Якуб Колас і наш сучаснік Васіль Быкаў...*

*Цёпла, сардэчна сказаў пра беларускую мову яшчэ ў 1842 годзе выдатны польскі паэт, наш зямляк з Навагрудчыны Адам Міцкевіч: «На беларускай мове... гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек: гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Вялікага княства Літоўскага вялікія князі карысталіся ёю для дыпламатычнай перапіскі...»*

*Кожны чалавек павінен добра ведаць сваю родную мову. Паняцце «родная мова» стаіць побач з такімі паняццямі, як «родная маці», «родная зямля», «родны кут», «Радзіма». Яны аднолькава дарагія чалавеку.*

*Так, мы — багатыя. І гэта складае не толькі наш гонар. У найпершай і найбольшай ступені — наш абавязак. Абавязак захаваць для сваіх нашчадкаў наш неацэнны скарб — мову, каб не пакінуць іх у сірочым становішчы сярод цывілізаваных народаў, каб не знікла з жыцця слова «беларус».*

*М. МЕЛЬНІК,*

*выкладчык педагагічнага вучылішча."*



**Рунёўцы. У цэнтры Міхась Мельнік**

Асабліва актыўнымі сябрамі суполкі ў гэты час былі: Тузін Валеры , Чарняк Сяргей, Каранюк Тамара, Судар Алесь, Лапко Рэгіна, Цішук Андрэй, Наталля Стралкова, Мілюць Анатоль і іншыя.

Ініцыятывы “Руні” ў барацьбе за беларускую мову знаходзілі даволі грунтоўную і шырокую падтрымку ў грамадстве. З імі мусілі лічыцца і ўлады. На гэтым этапе меў месца дыялог рунёўцаў не толькі з савецкімі, але і з партыйнымі органамі. І мясцовая прэса не замоўчвала гэтага дыялогу, а даволі станоўча і падрабязна асвятляла яго Гэта відно з артыкула Г. Бараўцова ў лідскай газеце “Ўперад” ад 9 верасня 1988 года, змешчаны пад той жа рубрыкай **“Беларуская мова і мы”.**

***НЕПАРЫЎНАЯ СУВЯЗЬ***
***А НАМ ЖА ТЫ — МАТЧЫНАЙ МОВАЙ БЫЛА***

*Без мовы няма культуры, без культуры няма спадчыны, без спадчыны няма нацыянальнасці. Вось такая непарыўная сувязь. Яна здаўна жыве ў кожным народзе: вялікім і малым.*

*«Нашай мовы крынічныя словы» — трапна ахарактарызаваў спадчыну адзін вядомы беларускі паэт. На жаль, і вялікія крыніцы, якія некалі так шчодра паілі нас сваёй крынічнай вадой, пачалі мутнець 1 высыхаць. Не віруе ўжо сярод нас, так як раней, наша родная беларуская гамонка. Цяжкі адбітак наклалі мінулыя часы — сталінскі культ асобы і застойны перыяд. Некаму тады карцела хутчэй адрапартаваць аб злучэнні культур рускай і беларускай у адну, што, канешне, цягнула за сабой адміранне і мовы.*

*Свой цяжкі адбітак, безумоўна, нанесла і тое, што нашыя мясціны доўгі час знаходзіліся ў адрыве ад Савецкай Беларусі. Збег акалічнасцей, і не толькі вышэйназваных, зрабіў сваю справу.*

*Гэта яшчэ раз пацвердзіла нядаўна прайшоўшая нарада ў гарадскім камітэце партыі. Даўно не было падобнага мерапрыемства. На яе былі запрошаны загадчыкі дзіцячых садоў, дырэктары школ, настаўнікі, якія выкладаюць беларускую мову. І гэта зразумела.*

*— Для таго, каб адрадзіць нашу неацэнную спадчыну, хоць і горка ад гэтага зараз, трэба пачынаць іменна з дзіцячага сада, са школы, — усхвалявана гаварыў сапраўдны прапагандыст беларускага слова, выкладчык педвучылішча **Міхась Мельнік**. — Наша шматпакутная Беларусь, народ якой выхаваны на патрыятычных традыцыях гераічнай мінуўшчыны, страчвае сваю нацыянальную культуру, у прыватнасці, мову. Вось прыклад. У маім мікрараёне Маладзёжным многія бацькі размаўляюць па-беларуску, а сярэдняя школа № 13, у якую ходзяць іх дзеці, руская. Гэта недаравальна. Любоў да роднага краю, да роднай культуры мы павінны прывіваць іменна са школы, з дзіцячага сада.*

*І як магло здарыцца такое, аб чым паведаміла загадчыца дзіцячага сада № 9 абутковай фабрыкі Т.С. Вараб’ёва. Дарэчы сказаць, што гэта дашкольная ўстанова лепшая па методыцы выхавання не толькі ў горадзе. Сюды прыязджаюць па вопыт з многіх куткоў краіны. Сапраўды, ёсць чым пахваліцца тут, ды толькі не далучэннем дзяцей да беларускай мовы, якая родная для большасці жыхароў мікрараёна Касманаўтаў. Адсутнічаюць дапаможнікі, літаратура. А гэта пры жаданні можна ўжо даўно мець. Праблем, як выявілася, асаблівых няма. Проста няўвага і нежаданне.*

*Карпатлівая работа, але будзем спрабаваць — такі быў адказ.*

*Горка чуць і думаць пра такую раўнадушнасць, непавагу да родных нашых вытокаў, нашых каранёў. Такое ж становішча і ў іншых садах. Прыходзіцца толькі чакаць і спадзявацца.*

*Проста і зразумела аб набалелым сказала настаўніца гісторыі сярэдняй школы № 6 **Марыя Юзэфаўна Саўкевіч**:«Цяжка, вядома, адрадзіць тое, што амаль страчана, але калі ёсць жаданне, то абавязкова зробіш. Вельмі дрэнна, канешне, але ў нас выпрацаваўся заганны стэрэатып у нашых бацькоў: ведаць і размаўляць па-беларуску добра, а вось сваё дзіця ў беларускамоўную школу не аддам. Гэта, натуральна, небяспечна. Куды прывядзе нас такая тэндэнцыя, вядома, таму прапаную: неадкладна адкрываць школы з беларускай формай навучання, не чакаць, лакуль нехта дасць, як манную кашу з неба, падручнікі і дапаможнікі. Іх трэба купляць, а што магчыма, тое зрабіць і самім.*

*«Каб гаварыць на беларускай мове, трэба яе ведаць, — з горыччу гаварылі ўсе. — А то што ж атрымліваецца. У праграмах школ на вывучэнне роднай мовы адводзіцца вельмі мала гадзін. Трэба карэнным чынам гэта змяніць, для чаго стварыць савет настаўнікаў, больш настойліва працаваць з бацькамі».*

*Дыскусія прынесла пэўныя зрухі. Актыўную пазіцыю ў гэтай важнай справе павінны таксама заняць партыйныя органы, выканаўчы камітэт народных дэпутатаў, аддзел народнай адукацыі. Настаў час прабуджэння і адраджэння нашага сумлення. нашай годнасці, нашай нацыянальнай культуры. Выхаванне падрастаючага пакалення павінна весціся, як вызначылі XXVII з’езд КПСС, XIX Усесаюзная партканферэнцыя.*

*Няма чаго саромецца свайго роднага, якое ў нас засталося ў спадчыну ад дзядоў і бацькоў. Трэба адкрываць школы на роднай мове, трэба пісаць шыльды па-беларуску, каб не складвалася ўражанне, што калі ты ідзеш па горадзе або вёсцы, цябе праследуе адчуванне, быццам ты не ў Беларусі, а дзесьці ў Смаленскай або Разанскай вобласці.*

*І трэба памятаць, што асабісты прыклад неацэнны. На гэта пытанне была звернута ўвага дырэктара педагагічнага вучылішча М. С. Салаўёва.*

*Пачынаць мы павінны з сябе. Смялей гаварыць і выступаць на роднай мове.*

*Які ж галоўны вывад? Рашано не выслабаняць вучняў ад вывучэння мовы. Што ж - пачатак пакладзены. Хочацца верыць, што гэта дасць добры імпульс.*

У кастрычніку 1988 года адбыліся змены ў кіраўніцтве “Руні”. Марыя Саўкевіч выказала просьбу адысці з першай пазіцыі ў кіраўніцтве суполкай. Сябры пайшлі

ёй насустрач. Новым старшынём "Руні" быў абраны Ўладзімір Круцікаў. *(Уладзімір Уладзіміравіч Круцікаў, 1956 года нараджэння, адукацыя вышэйшая, інжынер.)* Пры гэтым Марыя Саўкевіч працягвала актыўную працу ў суполцы.

Старшыня "Руні" Ўладзімір Круцікаў разам з сябрам суполкі Валяр'янам Пільчуком прысутнічалі на сходзе па стварэнні аргкамітэта Беларускага Народнага Фронту ў кастрычніку І988 года у Чырвоным касцёле ў Менску. Уладзімір Круцікаў успамінае: *"Сход быў прызначаны на 18 гадзін. Аднак да пачатку сходу у залу праз чорны ход прайшло каля 30 чалавек ветэранаў КПСС, якіх прывёў супрацоўнік ЦК КПБ Бузук. На пачатку планавалася стварыць таварыства па ушанаванні памяці ахвяр палітычных рэпрэсій "Мартыралог Беларусі". Зала сабралася поўная, нават месцаў на ўсіх не хапіла, некаторым прыйшлося стаяць. Выступалі Зянон Пазьняк, Васіль Быкаў па пытанні стварэння такога таварыства, гаварылася пра вялікія маштабы рэпрэсій на Беларусі, называліся месцы іншых масавых пахаванняў акрамя Курапат. Потым на трыбуну выйшаў Бузук, які казаў што ніякія таварыствы нам не патрэбны, што партыя сама разбярэцца, дзе тут што да чаго, а прысутным няма чаго хваляваць народ. Пытанне было пастаўлена на галасаванне. Усе прысутныя акрамя групы, што прыйшла з Бузуком прагаласавалі за стварэнне таварыства. Далей выступіў Зянон Пазняк, які абвясціў пра стварэнне аргкамітэту па арганізацыі Беларускага Народнага Фронту. Затым на трыбуну выскачыў Бузук, ён адпіхнуў ад мікрафона Васіля Быкава, які падыходзіў выступаць, і пачаў казаць, што зараз тое, што творыцца ў зале не лезе ні ў якія вароты і з'яўляецца не дэмакратыяй, а самай сапраўднай анархіяй. Далей ён пачаў усіх адпіхваць ад мікрафона. Прыйшлося хлопцам з «Талакі», якія сачылі за парадкам у зале адцясніць Бузука ад мікрафона крыху далей да кута. На заўтра Бузук заявіў у рэспубліканскім друку, што яго быццам бы пабілі і нават падралі на ім пінжак проста пад час выступу ў зале. Пераважная большасць прысутных у зале прагаласавала за стварэнне аргкамітэта."*

Рунёўцы прымалі актыўны ўдзел у сумнавядомым мітынгу на Дзяды 1988 года, які быў разагнаны міліцыяй у Менску. Уладзімір Круцікаў згадвае: *"Я добра памятаю той дзень. Маскоўскія могілкі былі ачэплены міліцыяй яшчэ з вечара за дзень да пачатку мітынга. Міліцыя дзяжурыла на іх усю ноч. Да могілак была прыгнана вялікая колькасць вадамётных машын, прычым нейкіх памятых, відаць недзе яны ўжо ўжываліся, хутчэй за ўсё у Польшчы пры разгоне мітынгаў "Салідарнасці", а таксама вялікіх варанкоў з кратамі і аўтобусаў "Ікарус" з міліцыянтамі. Такога Менск да гэтай пары не бачыў. Пачатак мітынгу быў прызначаны на 10 гадзін раніцы. Менскае метро падвозіла пасажыраў толькі да вуліцы Валадарскага. Далей па тэхнічных прычынах не працавала.*



***19 кастрычніка 1988 года. Ствараецца аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту. Ля мікрафона Васіль Быкаў.***

*Але людзі з кветкамі ў руках усё ішлі і ішлі да ўваходных варот на могілкі, якія былі зачыненыя. Бравы палкоўнік міліцыі заклікаў усіх разыходзіцца, а міліцэйскі ланцуг пачаў адцясняць людзей, якіх сабралася некалькі тысяч, ад варот Маскоўскіх могілак. На што людзі пачалі дружна адказваць: "Фашысты!!! Фашысты!!!" Далей над мітынгоўцамі ўзняліся транспаранты «Ідзём на Курапаты». І людзі. абыйшоўшы ланцуг міліцыі, рушылі па кальцавой дарозе калонай у кірунку Курапатаў. У бок Курапатаў паехала і ўся спецыяльная тэхніка. Вось тут вельмі разумны крок зрабілі арганізатары мітынгу. Пасярод кальцавой дарогі калона раптам звярнула проста ў поле,*



***30 кастрычніка 1988 года. Дзяды. Зянон Пазьняк.***

*дзе і паспеў адбыцца мітынг да пад'езду міліцыянтаў. Мітынг праходзіў так: мітынгоўцы прыселі, а выступоўцы прамаўлялі стоячы. Асабліва запомнілася палымяная прамова Зянона Пазьняка. І ўпершыню над галовамі мітынгоўцаў у Менску пасля доўгага перапынку быў узняты бел-чырвона-белы сцяг. Прыкладна хвілін праз 40 на аўтобусах прыехалі міліцыянты і зшыхтаваўшыся ў ланцуг выцеснілі мітынгоўцаў з дарогі, пасля чаго людзі разышліся. Вынік для ўладаў быў самы нечаканы, абураныя людзі пачалі масава ўступаць у Фронт."*

У гэты ж час, непасрэдна пасля менскіх Дзядоў праводзіліся Дзяды ў Лідзе. Гэта былі першыя Дзяды новага часу ў Лідзе. Артыкул К. Святловай пра гэтую падзею быў надрукаваны ў лідскай газеце "Ўперад" 18 лістапада. 1988 года.

**„ДЗЯДЫ" — ТРАДЫЦЫЯ ПРОДКАЎ**

*Суботнім днём на праваслаўных могілках ля помніка лідскім падпольшчыкам, якія загінулі ў 1944 годзе ад рук фашыстаў, адбыўся мітынг. Прысвечаны ён быў звычаю нашых продкаў — ушанаванню памяці памёршых, які ў народзе называюць «дзяды». Ля помніка сабраліся члены суполкі «Рунь», работнікі гарвыканкома, гаркома камсамола, моладзь, людзі сталага ўзросту.*

*Адкрыла мітынг* ***прадстаўнік клуба аматараў беларускай культуры «Рунь» Марыя Саўкевіч****: «З далёкіх часоў склалася мудрая традыцыя: два разы ў год — вясной і восенню — памінаць усім разам продкаў. Памяць — абавязковая састаўляючая нармальнага чалавечага існавання, рыса, якая выдзяляе чалавека з усяго жывога. Вопыт мінулага вучыць нас: бойцеся людзей, якія жывуць толькі сённяшнім днём. З гэтай нагоды хачу прывесці словы, сказаныя Генеральным сакратаром ЦК КПСС М.С. Гарбачовым: «Без гістарычных каранёў няма народа. Мне здаецца, што гэта асабліва датычыцца нас, беларусаў, бо з гістарычнай памяццю ў нас яшчэ не ўсё добра. Але гэту хваробу — бяспамяцтва — можна лячыць. Таму мы сёння тут і сабраліся, каб памянуць нашых землякоў і папрацаваць на добраўпарадкаванні могілак».*

*Пасля гэтага слова было прадастаўлена* ***Г. Драб****, навуковаму супрацоўніку краязнаўчага музея. Затым пра паэта Валянціна Таўлая, які жыў на Лідчыне з 1939 па 1941 год. расказала выкладчыца індустрыяльнага тэхнікума* ***Т. Каранюк****. Удзельнік Вялікай Айчынйай вайны, былы работнік міліцыі, а зараз пенсіянер* ***А. Кур'ян*** *падзяліўся ўспамінамі пра сваіх таварышаў І. Наскова і А. Стралкоўскага, якія працавалі ў народным камісарыяце ўнутраных спраў у гады станаўлення Савецкай улады на Лідчыне і загінулі ад варожай кулі. Пачулі прысутныя і расказ пра Людвіка Нарбута, які вучыўся ў нашым горадзе ў школе піяраў і быў арганізатарам паўстання 1863—64 гадоў у Лідскім павеце.*

*У канцы мітынгу* ***М. Саўкевіч*** *прапанавала ўшанаваць памяць продкаў-лідчан мінутай маўчання. Затым адбылося ўскладанне кветак на месцы захавання землякоў, і ўсе жадаючыя прынялі ўдзел у работах па добраўпарадкаванню могілак."*

Не гледзячы на менскія падзеі і напружанасць, пачаўшую нарастаць у краіне, "Рунь" працягвала працаваць з вялікай актыўнасцю, што выцякае з артыкула А. Куляша "Імем праўды", надрукаванага ў газеце "Ўперад" за 6 снежня 1988 года.

*"... У нашым горадзе ёсць нефармальнае аб'яднан не "Рунь", якое таксама ставіць перад сабой задачу адраджэння беларускай культуры і беларускай мовы. Цудоўнае імкненне. На мой погляд такія аб'яднанні павінны ўзяць на сябе больш чарнавой работы і, што грэх таіць, пачаць перш з папулярызацыі беларускай мовы сярод насельніцтва. Умела весці нацыянальнае і інтэрнацыянальнае выхаванне. праявіць глыбокую заклапочанасць і ўдзел.*

*Я не асуджаю тавары шаў з "Руні". Зараз вельмі цяжка з'арыентавацца і ўзяць адразу верны шлях. Для гэтага патрэбна карпатлівая, удумлівая, мэтанакіраваная работа. Нельга праяўляць паспешлівасць і тым больш «агрэсіўнасць». Гэта работа не аднаго года. У паспешлівасці можна ўпасці ў экстрэмізм. А гэта ні ў якай меры не будзе садзейнічаць поспеху.*

*Я лічу, што адраджэнне нацыянальнай культуры, мовы. гісторыі, традыцый павінна будавацца на ленінскіх прынцыпах сацыялістычнага інтэрнацыяналізму. Беражліва і клапатліва ахоўваючы гадамі заваяванае."*

На самай справе ніякай агрэсіўнасці ці экстрэмізму ў Лідзе не праглядвалася, усё было адносна спакойна. У сярэдзіне снежня 1988 года сябры "Руні" былі запрошаны на паседжанне аргкамітэту па падрыхтоўцы і святкаванні 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі, які ўзначальваў старшыня гарвыканкаму С.М. Домаш. Сябры "Руні" былі запрошаны ў сувязі з іхнімі шматлікімі запытамі і зваротамі на прадмет таго, што робіцца ў сувязі з 70-годдзем БССР для таго, каб Ліда набыла больш беларускае аблічча. Дыялог з уладамі працягваўся.

Аднак у рэспубліцы сітуацыя была іншая. Пасля стварэння аргкамітэту БНФ, пасля менскіх Дзядоў улады пачалі чыніцць шмат перашкодаў для дзейнасці моладзевых арганізацый. Абзывалі фашыстамі, нацыяналістамі, лілі шмат усялялага бруду на так званыя "нефармальныя" моладзевыя арганізацыі ў рэспубліканскім афіцыйным друку, нават з'езд моладзевых арганізацый (2-гі Вальны сойм ) у сярэдзіне студзеня 1989 г. з мэтай аб'яднання адраджэнцкіх беларускіх суполак у канфедэрацыю прыйшлося праводзіць, у Вільні! Бо ў рэспубліцы даваць залу пад гэтае мерапрыемства было забаронена. Зразумела, літоўцы пайшлі насустрач беларусам і далі залу бясплатна. Сама канферэнцыя прайшла пад знакам неабходнасці яднання ўсіх дэмакратычных нацыянаньна свядомых сілаў.

Дэлегацыя лідскай "Руні" начале са старшынём -






***2-гі Вальны Сойм беларускіх суполак***

Уладзімірам Круцікавым - прыняла самы актыўны ўдзел у Сойме.

Удзел лідскай “Руні” не застаўся незаўважаным у горадзе. 4 лютага 1989 года ў лідскай газеце “Ўперад” з’явіўся артыкул карэспандэнта газеты Тадэвуша Чарнавуса “Што ж адбылося ў Вільнюсе”. Артыкул выйшаў у рубрыцы “Насуперак чуткам”.

***“ШТО Ж АДБЫЛОСЯ Ў ВІЛЬНЮСЕ***

*14—15 студзеня ў Вільнюсе праходзіў з’езд беларускіх самадзейных маладзёжных аб’яднанняў з мэтай стварэння канфедэрацыі беларускіх суполак і абмеркавання яе статута. Размова ішла аб нацыянальна-культурным адраджэнні Беларусі, згуртаванасці пэўнай часткі моладзі для актыўнага ўдзелу ў працэсе перабудовы.. Бо многіх з нашых хлопцаў і дзяўчат цікавяць не надуманыя, а рэальна існуючыя праблемы, якія патрабуюць асэнсавання розных грамадскіх пунктаў гледжанння*

*У з’ездзе прымалі ўдзел і члены лідскай суполкі культурна-гістарычнага напрамку* ***«Рунь»****. Грамадскай актыўнасцю, абвостраным пачуццём болю за лёс сваёй нацыі, удзелам у аднаўленні гістарычных помнікаў «рунёўцы» заслугоўваюць да сябе павагі. Тое, што яны робяць добрую справу, засведчыла таксама і нядаўняя сустрэча аднаго з кіраўнікоў суполкі* ***Марыі Юзэфаўны Саўкевіч****, гісторыка па адукацыі, з работнікамі гаркома партыі.*

*На жаль, па горадзе і раёне распаўсюджваюцца чуткі, што мерапрыемства ў сталіцы Літвы праходзіла пад антысавецкімі лозунгамі. Падобнае заяўляецца не толькі ў кулуарах, але і з некаторых трыбун. Гэтым самым зноў навешваюцца ярлыкі на тых, хто ва ўмовах дэмакратыі выкарыстоўвае плюралізм думак. Катэгарычнае адмаўленне адныммі другіх — вось што не павінна пераважаць у новым мысленні.*

*Скептыкам, якія ўсё ж не хочуць мяняць сваёй думкі, і тым, хто хоча ведаць, што адбылося ў Вільнюсе 14—15 студзеня гэтага года, раім звярнуцца да артыкула «Не знайшлі згоды» ў газеце «Правда» за 17 студзеня г. г. Там ёсць і такія радкі: «Памыліліся тыя, хто чакаў пачуць ад выступаючых нешта з разраду «смажанага». Тонкую грань груба пераступіў усяго адзін прамоўца. Ён адкрыта апусціўся да публічнага цынізму, злоснай апалітычнасці, за што, вобразна кажучы, быў літаральна змецены тымі ж, з кім ехаў у Вільнюс. “Герой” не атрымаўся. Не прыняла моладзь разухабіста-безадказнага рэзанёрства”.”*

Такая пазіцыя газеты “Ўперад” з гэтай нагоды, а таксама і пад увесь час перабудовы добра зразумелая. Рэдактарам газеты ў гэты час быў сябар “Руні”, чалавек нацыянальна-прагрэсіўных поглядаў, Алесь Жалкоўскі, які, праўда, неўзабаве - у гэтым жа 1989 годзе - быў вызвалены ад пасады рэдактара.

А ў краіне пачыналася стварэнне Таварыства беларускай мовы. Загучала ва ўсю моц імя Францішка Скарыны, як аднаго з найвялікшых прадстаўнікоў, як аднаго з сімвалаў беларускай нацыі. 6 красавіка 1989 года падчас сустрэчы са старшынём гарвыканкаму Сямёнам Домашам рунёўцы высунулі ідэю паставіць у Лідзе помнік Францішку Скарыну. І працэс рушыў.





***У майстэрні Валяр’яна Янушкевіча. Макеты помніка Ф. Скарыну***

Павольна, расцягнуўшыся на шэсць гадоў, але рушыў.

Была ўстаноўлена сувязь з маладым тады беларускім скульптарам Валяр'янам Янушкевічам. Дэлегацыя "Руні" наведала майстэрню В. Янушкевіча, пазнаёмілася з макетамі помніка. А ў горадзе пачаліся арганізацыйныя працэсы і перш за ўсё падрыхтоўка грамадскай думкі.

"Рунь" самым шчыльным чынам спрычынілася да арганізацыйнай дзейнасці па стварэнні ТБМ. Яшчэ ў канцы красавіка 1989 года былі абраныя дэлегаты на 1-шы з'езд ТБМ: Міхась Мельнік, Марыя Саўкевіч і Тамара Каранюк.

Разам з тым "Рунь" працягвала традыцыйную для сябе асветніцкую і адраджэнцкую працу, у аснову якой клалася векавечная спадчына нашага народа. У зале, дзе зараз дыскатэка "Геліяс" (інтэрнат будтрэста №19) у красавіку 1989 года было праведзена вялікае фальклорнае свята - агляд беларускіх народных святаў. Будтрэст пазычыў беларускія народныя строі. Рунёўцы правялі вечарыну, па чарзе паказваючы фрагменты







***Агляд святаў***



***Агляд святаў. Вядоўцы Іван Красачка і Тамара Каранюк***





***Агляд святаў***

каляндарных святаў беларусаў: кавалачак Купалля, кавалачак Калядаў і г.д., спявалі песні, частавалі прысутных беларускімі стравамі, пірагамі.

Прыйшла пара адрадзіць народны абрад "Гуканне вясны". Гэты абрад стаў папулярным у многіх месцах Беларусі, і рунёўцы не маглі быць убаку.

Свята арганізоўвала Марыя Саўкевіч з рунёўцамі і вучнямі 6-й школы (колішні клуб "Крывіч"). Строі шылі самі, кроілі простыні, добра дапамагала дзяўчынка Воля Матэйка. Анатоль Мілюць займаўся вогнішчам. У той год гуканне вясны набыло практычна агульнабеларускі размах. Прынамсі яго праводзілі і менскія моладзевыя суполкі. Рунёўцы дапялі да Феліксава, вёскі, якая была можна сказаць скарбонкай беларускага фальклору. Тут яшчэ падчас вайны знакаміты Земавіт Фядэцкі запісаў цэлы зборнік беларускіх народных песняў.

## Гуканне вясны



*Рунёўцы рыхтуюць “Гуканне вясны”*





***Гуканне вясны. На верхнім здымку жанчыны з Феліксава, на ніжнім рунёўцы.***

Рунёўцы спачатку запісалі на магнітафон цыкл песень, а потым пайшлі далей - знайшлі аўтобус і прывезлі гэтых феліксаўскіх жанчын на “Гуканне вясны”.

Ізноў барацьба за беларускамоўныя класы ўжо на новы навучальны год. Барацьба за беларусізацыю касцёла і царквы. Аказваецца дапамога дзіцячаму садку № 30, калектыў якога падтрымлівае ідэю пераходу на беларускую мову.

Рунёўцы вялі інтэнсіўную перапіску з самымі рознымі людзьмі. У архіве “Руні” захоўваецца паштоўка ад Анатоля Сыса, лісты ад Дануты Бічэль-Загнетавай, Славаміра Адамовіча і іншых вядомых дзеячоў нацыянальнага адраджэння.

Быў зроблены вымпел з выявай “Пагоні” і надпісам “Ліда”. Такі вымпел нейкім чынам трапіў у Казахстан у Прыазёрскую беларускую арганізацыю. Выява “Пагоні” была перазнятая і выкарыстоўвалася ў лагатыпе беларускай газеты “Рокаш”, якая выходзіла ў Казахстане ў 1990-1992 гадах, на канвертах арганізацыі. Гэтая выява “Пагоні” знаходзіцца на вокладцы першай кнігі вершаў Станілава Судніка “Пагоня за мову”, якая выйшла ў Казахстане ў 1992 годзе.




***Вымпел з “Пагоняй” і надпісам “Ліда”***

Пасля “Гукання вясны” пачалася падрыхтоўка да “Купалля - 89”. Ужо быў досвед, але прыйшлі новыя людзі, якіх трэба было далучаць да народных скарбаў. Пасылалі хлопцаў у Сялец і Дворышча, каб выбраць лепшае месца, рыхтавалі сцэнар, вучылі купальскія песні, развешвалі аб’явы па горадзе.

Працягваліся рунёўскія вандроўкі. Падчас адной з іх былі наведаны Гудзевічы. Рунёўцы пазнаёміліся з самаадданым змагаром за Беларушчыну Алесем Белакозам, пабылі ў славутым Гудзевіцкім музеі, даве-



***Ля Гудзевіцкага музея***



***Уладзімір Круцікаў і Валера Тузін***

даліся мноства новага з гісторыі Беларусі, прынамсі пабачылі адзіны ў Беларусі глобус на беларускай мове.

24-25 чэрвеня 1989 года дэлегацыя "Руні" прыняла ўдзел ва ўстаноўчым з'ездзе БНФ, і было прынятае рашэнне аб уваходзе суполкі ўсім складам у структуру БНФ. У Вільню паехалі 5 чалавек: Марыя Саўкевіч, Анатоль Мілюць, Алесь Судар, Сяргей Чарняк, Валяр'ян Пільчук. Гэта была лагічная кропка ў дзейнасці "Руні".



***Лідская дэлегацыя на Ўстаноўчым з'ездзе БНФ: Марыя Саўкевіч, Анатоль Мілюць, Алесь Судар, Сяргей Чарняк, Валяр'ян Пільчук.***








***Устаноўчы з'езд БНФ у Вільні, 24 чэрвеня 1989 г.***

27 чэрвеня 1989 года ў Менску прайшоў Устаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Ад "Руні" ў рабоце з'езда прыняў удзел Міхась Мельнік.

Пасля вяртання ў Ліду адбыўся ўстаноўчы сход Лідскай гарадской арганізацыі БНФ "Адраджэньне". Першым старшынём Лідскай гарадской арганізацыі быў абраны старшыня "Руні" Уладзімір Круцікаў.

У наступны перыяд дзейнасць "Руні" цесна пераплятаецца з дзейнасцю Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Былі арганізаваны сустрэчы дэлегатаў Устаноўчага з'езду БНФ з жыхарамі горада.




***Мандат дэлегата ад горада Ліды Марыі Саўкевіч на Ўстаноўчым з'ездзе БНФ***

Пачалася праца па падрыхтоўцы Ўстаноўчай канферэнцыі Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны. Сяброў "Руні" пачалі запрашаць у школы, дзе працягвалася агітацыйная праца за стварэнне беларускіх класаў, а таксама пачаўся працэс ператварэння 15-й школы ў беларускамоўную.

15 снежня ў Менску адбылася канферэнцыя ТБМ, дзе кандыдатамі ў Гарадзенскі абласны Савет ад Ліды былі вылучаны Міхась Мельнік і Аляксандр Сокал.

16 снежня ў Лідзе прайшла Ўстаноўчая канферэнцыя ТБМ імя Ф. Скарыны, у якой "рунёўцы" прынялі самы актыўны ўдзел. З дакладам "Лёс мовы - лёс народа" выступіў Міхась Мельнік ("Рунь"). У спрэчках выступілі: выкладчык педнавучальні Т. Страчынскі, настаўніца СШ №14 С. Канапацкая ("Рунь"), дырэктар СШ №15 А. Сокал, ветэран вайны і працы С. Янец, настаўніца СШ №6 М. Саўкевіч ("Рунь"), загадчык ідэалагічнага аддзела гаркама партыі В. Кучынскі, настаўніца СШ №13 З. Хітрун, навучэнка педнавучальні І. Захарава, адказны сакратар аб'яднанай газеты "Уперад" Т. Чарнавус, каваль завода "Лідсельмаш" І. Гушчынскі ("Рунь"), загадчык ГарАНА А. Мазоўка, мастак А. Судар ("Рунь"), намеснік старшыні рэспубліканскай Рады ТБМ Я. Цумараў.

З пачатку 1990 года "Рунь", Лідская гарадская арганізацыя БНФ "Адраджэньне" і Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны ўцягнуліся ў перадвыбарчую кампанію з агульнай назвай "Саветы - 90". 18 лютага прайшоў перадвыбарчы мітынг на цэнтральнай плошчы.

У сакавіку 1990 г. прайшлі выбары. Сябар "Руні", старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Міхась Мельнік і дырэктар будучай цалкам беларускай СШ №15 г. Ліды сталі дэпутатамі Гарадзенскагаабласнога Савета.

У красавіку "Рунь" правяла вандроўку-пратэст супраць размяшчэння ракетных базаў на тэрыторыі Беларусі. Маршрут прайходзіў цераз Мінойты, Сялец, Гезгалы, Паўднёвы гарадок і завяршыўся мітынгам на цэнтральнай плошчы горада.

У верасні 1990 г. грамадскія арганізацыі Ліды правялі "Свята Скарыны". У гэты час, пераняўшы ініцыятыву ад "Руні", Лідская арганізацыя ТБМ вядзе бесперапыннае змаганне за ўстаноўку ў Лідзе помніка Францішку Скарыну.

З 1991 года грамадскія арганізацыі г. Ліды пачалі святкаваць "Дзень Волі" - 25 сакавіка.

У гэты час паседжанні "Руні" сумяшчаюцца з паседжаннямі арганізацый БНФ і ТБМ. На паседжаннях вырашаюцца пытанні вылучэння дэлегатаў на з'езды БНФ. Так 14 сакавіка 1991 года дэлегатамі на чарговы з'езд БНФ "Адраджэньне" былі вылучаны Уладзімір Круцікаў і Анатоль Мілюць.

2 чэрвеня 1991 года грамадскія арганізацыі г. Ліды правялі святкаванне 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

У жніўні ў Маскве адбыўся путч. Змены ў грамадстве пайшлі хутчэй.

У кастрычніку 1991 года на паседжанні "Руні" было прынята рашэнне аб стварэнні Кардынацыйнай рады дэмакратычных рухаў г. Ліды. Сойм рады быў прызначаны на 10 лістапада, але ён, відавочна, не адбыўся, бо 24 лістапада зноў гаварылі пра Кардынацыйную раду дэмакратычных рухаў г. Ліды, і ад "Руні" ў раду быў вылучаны Сяргей Чарняк.

**Паседжанне 24 лістапада 1991 года** - апошняе ў летапісе "Руні". Роўна праз два тыдні 8 снежня 1991 года не стане Савецкага Саюза.

Пройдзе кароткі час **і пачнуць увасабляцца ў жыццё мары рунёўцаў:** Рэспубліка Беларусь стане цалкам незалежнай, беларуская мова стане дзяржаўнай, бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоня" стануць дзяржаўнымі сімваламі, школы ў Лідзе ў большыні сваёй стануць беларускамоўнымі, Прыпяць абвалоўваць не будуць, ракетныя базы выведуць з Лідчыны і Беларусі, каталіцкія могілкі і магіла Валерыі Цехановіч захаваюцца, помнік Францішку Скарыну паставяць, многія традыцыі, запачаткаваныя "Рунню", стануць агульнагарадскімі.

Самі ж рунёўцы ўвальюцца ў новае беларускае грамадства і будуць працягваць кожны на сваім месцы рабіць усё магчымае для таго, каб Беларусь стала такой, пра якую яны марылі, дзеля якой стваралася "Рунь", тая "Рунь", што трывала і надзейна лягла адной з першых цаглінак у падмурак нашай вольнай Бацькаўшчыны.

***Паводле ўспамінаў Марыі Саўкевіч , Ўладзіміра Круцікава і Тамары Каранюк матэрыял скампанаваў Станіслаў Суднік.***

*Скарыстаны матэрыялы і фотаздымкі з архіву "Руні", які захоўваецца ў Марыі Мацко (Саўкевіч) у Гародні.*

***Матэрыял адобраны да друку на агульным сходзе ветэранаў "Руні" ў 2008 г.***

***Дадатак***

# Летапіс паседжанняў суполкі “Рунь”

***Сакратары: Тамара Каранюк, Святлана Канапацкая***

**26 лютага 1988 г.**

Прысутнічалі: 15 чалавек.

**Тэма паседжання:**

1. Абмеркаванне статута, мэтаў і задачаў суполкі, іх зацверджанне.

2. Абмеркаванне назвы суполкі, яе сімволікі і дэвізу.

Прапанаваны статут суполкі (дадзены вышэй) быў абмеркаваны і зацверджаны адзінагалосна ўсімі сябрамі. Назва суполкі “Рунь” таксама зацверджана адзінагалосна.

Быў абмеркаваны агульны план дзейнасці і зацверджаны, прынята пастанова аб тэрміне правядзення паседжанняў: кожная 2 і 4 серада месяца ў 19.30.

**16 сакавіка 1988 г.**

Прысутнічалі: 10 чалавек.

**Тэма паседжання:** Абмеркаванне матэрыялаў Вальнага сойму беларускіх суполак (Менск, 26-27 снежня 1987 г.)

З матэрыяламі азнаёміў А.Усціновіч. У спрэчках выступілі А.В. Жалкоўскі, С.І. Янец, Т. Кашпар, іншыя.

**Пастанова:** Дзейнасць суполкі накіроўваць згодна прапаноў і пастаноў Вальнага Сойму.

**22 сакавіка 1988 г.**

Прысутнічала: 14 сяброў суполкі і госці.

**Тэма:** Сустрэча з прадстаўнікамі Менскага літаратурнага таварыства “Тутэйшыя”.

Выступіў малады беларускі празаік Л. Федарэнка. Пасля выступу былі прамовы гасцей аб лёсе беларускай мовы, літаратуры. Ад імя суполкі выступала і вяла паседжанне М. Саўкевіч.

Пасля вечара адбылося абмеркаванне дзеянняў, накіраваных на стварэнне ў горадзе беларускіх класаў.

**13 красавіка 1988 г.**

Прысутнічалі: 10 чалавек

**Тэма:** Абмеркаванне плану дзеянняў па стварэнні беларускага класа ў СШ №6.

Былі разгледжаны матэрыялы друку, прысвечаныя гэтай тэме, выпрацавана агульныя плынь дзеянняў. Раздадзены адрасы бацькоў, у якіх дзеці ідуць у 1 клас.

**15 красавіка 1988 г.**

Прысутнічалі: 10 чалавек

**Тэма:** Далейшыя дзеянні па стварэнні беларускага класа.

Былі падлічаны заявы бацькоў, гучалі прапановы аб найлепшых сродках прапаганды неабходнасці беларускага класа ў горадзе.

Абмеркоўвалася магчымасць удзелу суполкі ў ралі-пратэсце “Прыпяць – 88”.

**Пастанова :** Працягваць збор заяваў.

Па ралі: прыкладна 9 чалавек ад суполкі возьмуць удзел ў “Прыпяці-88” 29 красавіка – 2 траўня.

**20 красавіка 1988 г.**

Прысутнічала: 15 чалавек

**Тэма:** Вынікі збору заяваў, падрыхтоўка да ралі. На 20 красавіка мелі 16 заяваў.

**Пастанова:** Разам з працягам збору заяваў звярнуцца да загадчыка гарадзела нар.асветы тав. Мазоўкі з прапановай дапамагчы ў гэтай неабходнай справе.

Па ралі: Ад суполкі прымуць удзел: В. Круцікаў, В. Тузін, А. Усціновіч, Е. Макарэвіч.

Абмеркоўвалася магчымасць удзелу сяброў суполкі ў агульнагарадскім фальклорным савеце. (Ёршвыступ.)

Адбылася размова з карэспандэнтам раённай газеты “Уперад” (Чарнавус).

Абмеркавалі праект аздаблення і ўпрыгожвання пакою суполкі (аўтар В. Матэйка).

**27 красавіка 1988 г.**

Прысутнічала : 18 чалавек.

**Тэма:** Сустрэча з беларускай паэткай Данутай Янаўнай Бічэль – Загнетавай, прадстаўнікамі “Паходні” (Гародня).

Выступілі: Хрысціна Лялько расказала пра сучасную беларускую прозу.

Д.Я. Бічэль-Загнетава мела слова пра сучасную беларускую паэзію.

У размове прыняў удзел П. Макарэвіч, чытаў вершы Разанава.

Бічэль-Загнетава расказала пра трагічны лёс Ларысы Геніюш, чытала свае вершы.

Вечар прайшоў у цікавай размове і быў вельмі карысны для сяброў суполкі.

**18 траўня 1988 г.**

Прысутнічала: 9 чалавек.

**Тэма:** Вынікі вандроўкі (воднае ралі “Прыпяць-88”). Дакладвала Рэгіна. Прысутныя вельмі пашкадавалі, што не былі ў вандроўцы.

**9 чэрвеня 1988 г.**

Прысутнічалі:

**Тэма:** Прыняцце тэрміновых мераў па стварэнні беларускага класа.

Прынята:

1. Ліст ураду;
2. Аб’явы па горадзе;
3. Выступы па мерапрыемствах;
4. Размова з Мазоўкам.

**29 чэрвеня 1988 г.**

Прысутнічала:

**Тэма:**

1. Прыняцце лістоў да старшыні гарвыканкаму наконт шыльды і вуліцы Л. Нарбута.

2. Прыняцце лістоў у гаркам партыі наконт:

- беларускіх школаў і класаў;
- шыльдаў і назваў вуліц і інш.

3.Падрыхтоўка купальскага свята, спеўкі, спеўкі, спеўкі.

**3 жніўня 1988 г.**

На паседжанні прысутнічала 16 чалавек.

Запрошаны члены клуба аматараў польскай культуры.

**Разгледжаны пытанні.**

1. Правядзенне мітынгу, наконт каталіцкіх могілак.

2. На заяўку на правядзенне мітынгу пакуль адмоўлена, заяву забралі.

3. Вырашалася таксама пытанне аб залічэнні капліцы і магілы В. Цеханові ч у спіс помнікаў Беларусі.

Прапановы наконт могілак:

1. Захаваць магілу, стварыць Алею памяці (перанесці да капліцы інш. магілы, якія ўяўляюць гістарычную каштоўнасць магілы польскіх лётчыкаў, дэпутацкі кантроль).

2. Звярнуцца ў інстытут мастацтва этнаграфіі і фальклору з просьбай стварыць камісію па вызначэнні гістарычнай каштоўнасці капліцы і залічыць яе ў спіс помнікаў Беларусі.

3. Звярнуцца з прапановай да гарадскіх улад склікаць тэрміновую сустрэчу з кіраўнікамі.

Польскаму і бел. клубу падрыхтавацца да сустрэчы, выпрацаваць адзіную лінію паводзін.

4. Напісаць пісьмо ў гарвыканкам патрабаваць каб адказалі на тое пісьмо, што ўжо ёсць.

5. Падаць заяўку на мітынг.

Спіс літаратуры, якую трэба выпісаць на 1989 год:

1. ЛіМ;
2. "Чырвоная змена";
3. "Советская Белоруссия";
4. "Ніва" (ПНР, Польшча).

**Што датычыць Нарбута.**

1. Апрацаваць матэрыялы паездкі.

Запісаць – Саўкевіч М., Стралкова І.. Кашпар Т. *(Зроблена.)*

Адрэгаваць -- Каранюк Т.А. *(Зроблена.)*

Надрукаваць -- Лапко Р. *(Зроблена.)*

Фатаграфіі – Шымановіч Б. *(Зроблена.)*

2. Кнігі з касцёла – Саўкевіч М.

3. Другая паездка ў Начу – Судар А. *(Зроблена.)*

4. Звязацца з Цімашэўскім наконт рэстаўрацыі (дапамогі).

**24 жніўня 1988 г.**

Прысутнічала 9 чалавек.

**Тэма:**

1. Афармленне пакоя клуба.
2. Паездка М. Саўкевіч у Менск.
3. Сабраць узносы.

**Вырашылі:**

1. Напісаць ліст у "Гродненскую правду" наконт выдання газеты на беларускай мове. *(3 лісты.)*

2. Кашпар Т. Арганізаваць паход. Дапаможа Чарняк Сяргей Вацлававіч. *(Не зроблена.)*

**31 жніўня 1988 г.**

Прысутнічала 10 чалавек: Чарняк, Кашпар, Лапко, Шымановіч, Судар, Матэйка, Макарэвіч, Пільчук, Саўкевіч.

**Тэма:**

1. Стварыць секцыю Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры. Дамовіцца з БАСФК аб адкрыцці ўніверсітэта (гістарычны і беларускі факультэты). *(Не зроблена.)*

2. 1 верасня прыняць удзел у сходзе гістарычных супалак у г. Лідзе 16.00 (клуб абутковай фабрыкі, Макарэвіч Л., Судар А.) *(Не зроблена.)*

3. Афармленне падпіскі – Каранюк. *(Зроблена.)*

4. Падрыхтоўка вечара, прысвечаннага Караткевічу – Саўкевіч. *(Зроблена.)*

5. Афармленне пакоя клуба (3 жніўня, 15 гадзін – праведзены суботнік, Матэйка В. Пільчук В.)

**7 верасня 1988 г.**

Прысутнічала чалавек.

**Тэма:**

1. Вечар Караткевіча.

Саўкевіч – фільм шукае, дамаўляецца з гасцямі, даручыць Мельніку даклад, мастакам - ілюстрацыі.

Лапко – рыхтуе выставу, пытанні для дыспуту, рыхтуе п'есу для пастаноўкі.

Чарняк – рыхтуе пастаноўку.

Каранюк – шукае вершы, уступнае слова (крыху пра біяграфію).

**14 верасня 1988 г.**

Прысутнічалі: Саўкевіч М., Макарэвіч, Пільчук, Кулеш А.Ф., Матэйка В., Кашпар Т., Мельнік М.І., Лапко, Чарняк С., Каранюк Т.

**Пытанні.**

1. Аб нарадзе выкладчыкаў мовы і літаратуры пры гарвыканкаме.

Вырашылі: напісаць яшчэ адзін ліст у гарвыканкам з просьбай даць пісьмовы адказ. У лісце напісаць: 1. Пра шыльды; 2. Пра ўшанаванне памяці Нарбута; 3. Пра школы; 4. Пра іншыя пытанні. Адказная – Саўкевіч Марыя.

2. Агляд газет і часопісаў ("Ніва").

3. Мерапрыемствы на бліжэйшы час.

**Вырашылі:**

1.Правесці суботнік на польскіх могілках 17.09.88 у 16 гадзін. *(Зроблена.)*

2. Выходзіць на Зянона Пазьняка наконт лідзян, якія маглі загінуць у Курапатах. *(Не зроблена.)*

**21 верасня 1988 г.**

Прысутнічалі: Саўкевіч М., Макарэвіч Л., Лапко Р., Чарняк С., Мельнік М.

З польскага клуба: Колышка А., Хвайніцкі М.

**Пытанні.**

1. Аб захоўванні старых могілак (польскіх і праваслаўных), аб працы на іх.

2. Аб правядзенні свята "Дзяды" 29 верасня. Адказваюць на праваслаўных могілках: Чарняк, Макарэвіч, на польскіх могілках – Саўкевіч М. *(Перанесена на 12 лістапада.)*

3. Агляд прэсы пра рэпрасаваных беларусаў.

4. Знаёмства з зямлякамі: Ларыса Геніюш, І.

Дварчанін. Зборнік артыкулаў і нарысаў "Наднёманскія былі". Выдавецтва "Беларусь".

**Вырашалі:**

1. Правесці свята "Дзяды" 29 верасня на польскіх і праваслаўных могілках.

2. Сабраць подпісы за дзяржаўнасць мовы. *(Не зроблена.)*

**28 верасня 1988 г.**

Прысутнічалі: Саўкевіч М., Кашпар Т., Лапко, Шаўчэнка М.Ю, Чарняк С., Судар А., Макарэвіч Л., Стралкова І., Каранюк Т., Круцікаў У.

1. Фрагменты лекцыі на гістарычную тэму. Круцікаў Уладзімір.

**Вырашылі:**

- прачытаць лекцыю ў розных аудыторыях *(Зроблена.)*

- прапанаваць у газеце "Уперад" адкрыць гістарычную рубрыку, надрукаваць матэрыял у газеце "Уперад".

2. Падрыхтоўка да вечара Караткевіча.

**5 кастрычніка 1988 г.**

На паседжанні прысутнічалі прадстаўнікі гаркаму партыі, абласнога камітэта, а таксама члены суполкі.

1. Пытанні гасцей:

г. Гародня, вул. Савецкая, 4/9. Кадзевіч Людміла Іосіф. Т. 44-24-00

Наталля Анатольеўна Афанасік. Т. 44-22-20.

Паседжанне прайшло ў пустых гаворках з прадстаўнікамі ўлады. Марна, згубілі час і нічога не высветлілі.

**15 кастрычніка 1988 г.**

Прысутнічалі : Кручкова Н., Макарэвіч, Судар А., Стралкова, Лапко, Шаўчэнка, Саўкевіч М., Каранюк, Круцікаў У., Тузін В., Пільчук В., Лук'ян В.

1. Тузін В. пазнаёміў с праграмай дзеяння.

а) Артыкул Зянона Пазьняка "Двухязычие и бюракратизм", дыскусія вакол яго.

б) "Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага з заснавання да канца 15 стагоддзя."

22 кастрычніка: дыскусія аб праблемах двухмоўя, лекцыя Круцікава. *(Зроблена. З лекцыяй выступаў Пільчук.)*

29 кастрычніка: экалагічныя пытанні – Макарэвіч Л. *(Зроблена.)*

5 лістапада – гістарычная лекцыя 2-я частка "Мастацтва Гарадзеншчыны" – Круцікаў.

12 лістапада - Дзяды.

19 лістапада - "Мастацтва Гарадзеншчыны", вечар, прысвечаны ахвярам сталінскіх рэпрэсій.

26 лістапада – вечар Караткевіча.

29 лістапада – прыязджае "Мроя".

**22 кастрычніка 1988 г.** Пашыранае паседжанне.

Ад суполкі прысутнічалі Тузін А., Круцікаў У., Пільчук В., Судар А., Макарэвіч, Каранюк Т., Саўкевіч М., а таксама 13 чалавек.

1. Уступнае слова Саўкевіч М

2. Лекцыя У. Круцікава "Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага ад заснавання да канца 15 стагоддзя".

3. Знаёмства з артыкулам Зянона Пазьняка "Двухмоўе і бюракратыя", В. Пільчук.

На жаль, выступіць па гэтаму пытанню ніхто не адважыўся, акрамя Ларысы Іванаўны.

**29 кастрычніка 1988 г.** Пашыранае паседжанне.

Прысутнічалі: Саўкевіч М., Макарэвіч Л., Пільчук В., Лук'ян В., Судар А., Стралкова І., Круглова Н., Лапко Р., Саша (мастак), а таксама Пашкоў С.І. - лекар санэпідэмстанцыі, Вадэйка І.В. - аматар прыроды і яшчэ 12 чалавек.

**І пытанне.**

1. Макарэвіч Л. пазнаёміла з экалагічнай сітуацыяй у рэспубліцы.

2. Пашкоў С.І. змястоўна, кампетэнтна расказаў аб экалагічнай сітуацыі ў горадзе.

Выступленне выклікала шмат спрэчак і пытанняў. Узнімалася праблема дзіцячых захворванняў у 8 школах забруджвання горада лакафабравым заводам, мясакамбінатам.

3. Вадэйка І.В. – аматар прыроды.

Выступленне было вельмі ўзрушаным эмацыянальным.

Станцыя юных натуралістаў у занядбанні. 25 гектараў лесу было знішчана, калі будаваўся мікрараён "Маладзёжны". Каля зелянгаса ёсць плошча, расце сад, гаспадара няма, ёсць прапанова аддаць станцыі юных натуралістаў. 22 верасня на сесіі гарсавета была прынята праграма "Здароўе", адказны Шобік. Трэба:

1. Надрукаваць яе ў газеце.

2. Узяць пад кантроль выкананнем гэтай праграмы.

Адказны за ахову прыроды Крынене, які не мае ні правоў, ні транспарту.

Узняць пытанне азеленення. Самае лепшае - кустарнікі, невысокія шарападобныя дрэвы, высокія зрэвы. Правесці работу ў час справаздач і выбараў.

**ІІ пытанне.**

Абмеркаванне артыкула "Па праву памяці і сумлення, пад знакам перабудовы".

**Вырашылі:**

1. Экалагічнай секцыі суполкі (Макарэвіч Л.) распрацаваць план работы, уключыць пытанні, узнятыя на паседжанні.

2. Перадрукаваць матэрыялы паседжання наконт Народнага фронту, а затым пазнаёміць са зместам людзей.

**4 лістапада 1988 г.**

Першае паседжанне пасля месяца сустрэч у будтрэсце.

Прысутнічалі: Саўкевіч, Лапко, Стралкова, Каранюк, Шаўчэнка, Лук'ян, Круцікаў, Лук'ян, Матэйка, Валера (мастак), чацвёра новых людзей (Якацук Т. і яшчэ), Мельнік, яшчэ 1 чалавек, Чарняк, Лена Юрыкава.

1. Агляд пошты. Лісты з "Тутэйшых", "Талакі".

Вырашылі: напісаць ліст (Саўкевіч М.), з'ездзіць у в. Пеляса, у в. Салапяцішкі (Саўкевіч М. Каранюк Т. Матэйка В.)

2. Уступнае слова Саўкевіч М. аб Мартыралогу Беларусі, аб яго мэтах і тых задачах, якія стаяць перад

намі ў сувязі з гэтым.

Мельнік М.І. расказаў пра Ларысу Геніюш, Ігната Дварчаніна.

Пільчук В. Алавяданне пра Ластоўскага.

3. Арганізацыйныя пытанні.

**7 студзеня 1989 г.**

Прысутнічалі: Лук'ян В., Саўкевіч М., Чарняк С., Стралкова, Дражына, Макарэвіч Л., Пільчук Вал., Каранюк Т., Матэйка В., Валера, дзяўчаты з рэдакцыі, Судар А.

І пытанне. Дражына Ірына: Падзеі ў Цюмені. Стварэнне Народнага Фронту.

ІІ пытанне. Знаёмства з дакументамі БНФ "Адраджэньне".

**Прапанова.** Вылучыць кандыдатуру ў дэпутаты – Ткачова М.

**28 студзеня 1989 г.**

1. Агульная размова.
2. Рэгіна - агляд ЛіМ.
3. Пра выцечку ў Салапяцішкі.
4. Трэба вырашыць пытанне з газетамі (тэрмінова)
5. Рэгіна займецца Дамейкам.
6. Міхась Іванавіч зробіць выбарку лістоў ва "Ўперад".

Да наступнага сходу скласці праграму – прапанову ад суполкі "Рунь" у ГАРАНА с копіямі – УСІМ.

1. Дапамагаць ствараць новую школу беларускамоўнай.
2. 1-ыя класы ў гэтай школе павінны быць беларускамоўнымі (падручнікі, методыкі).
3. Высветліць пытанні з 9-10 мі класамі на вёсках.

**4 лютага 1989 г.**

1. Удзел у канцэрце да 8 сакавіка (Тузін-сцэнар).
2. Візіт да Ярша (аўторак 16.00 , наконт сцэнара на бел. мове)
3. Артыкулы ў газету пра Пашкевіч і Дамейку – Мельнік.
4. Таўлай. Памяшканне (Саўкевіч).

**18 лютага 1989 г.**

Удзел у вечары:

а) КПЗБ (Кашпар і Саўкевіч);

б) Таўлай (Саўкевіч, Каранюк, Шаўчэнка).

Гістарычная частка – Пільчук, Круцікаў, Саўкевіч, Кашпар.

Мастацкая – Судар А., Матэйка, Хацько, Лук'ян.

Экалагічная – Макарэвіч, Вадэйка.

Фальклорная – Тузін, Стралкова.

Мовы і літаратуры – Мельнік, Каранюк Т.

1. Каляндар усіх свят і памятных дат.
2. Святкаванне юбілею В. Таўлая. Каранюк – рыхтуе матэрыял, пішам паперу аб мемарыяльнай дошцы КПЗБ -- Саўкевіч.
3. Салапяцішкі – Пільчук, Круцікаў
4. Якацук – Міласэрнасць, дабрачынная акцыя.
5. Наконт калгаса імя Жданава, калгас Алаізы Пашкевіч. Мельнік – артыкул, Саўкевіч – школа, Каранюк – пісьмо.
6. Напісаць шыльду на гэтыя дзверы.

**2 сакавіка 1989 г.**

Прысутнічалі: Матэйка В., Судар А., Чарняк С., Лук'ян Б., Варакса А., Каранюк Т., Канапацкая С.М.

**І пытанне.** Работа па адкрыццю школы.

Вырашылі:

1) Выступіць у школах. Тэрміны сустрэч вызначае Чарняк С. Да 9 сакавіка.

Выступаюць групы:

1. Саўкевіч М., Каранюк Т., Судар А.
2. Мельнік М.І., Чарняк С., Макарэвіч Л.

2) Адкрыць курсы беларускай мовы і гісторыі.

Весці будуць Мельнік М.І., Саўкевіч М.

Да 9 сакавіка – зрабіць планы.

**ІІ пытанне** – аб'явы.

**9 сакавіка 1989 г.**

Прысутнічалі: 10 чалавек.

**І. Агляд апошніх папер.**

1. Праграма "Мартыралога Беларусі".
2. "Рэанімова" (суполка імя М. Багдановіча).

**ІІ. Выступленні груп.**

7 школа – красавік;

тэхнікум – Каранюк, Саўкевіч: 15 сакавіка (4 пму), канец красавіка (103 т).

**ІІІ. Арганізацыя курсаў.**

Звязацца з Гародняй, Менскам. Распрацаваць план і праграму – Саўкевіч М.

**IV. Наконт В. Таўлая.**

Дамовіцца с вучнямі, каб выступілі ў сярэдніх школах горада.

**V. Наконт шыльды** – Мікола Шаўчэнка.

**VII. Каліноўскі.** 19 сакавіка – едзем у Вільню.

**23 сакавіка 1989 г.**

Прысутнічалі: Матэйка Вацлаў, Судар Алесь, Тузін Валеры, Саўкевіч Марыя, Казлова Святлана, Цішук.

**І пытанне:** Абмяркаванне Інфармацыйнага бюлетэня №2, і што рабіць далей?

1. Арганізацыйны камітэт: Цішук Андрэй, Пільчук Валера, Саўкевіч Марыя.
2. Агітацыя, стварэнне груп падтрымкі.

Сустрэчы арганізоўвае Чарняк С. Методыку распрацоўвае Чарняк С.

Пятніца ў 18.00 – суботнік.

**25 сакавіка 1989 г.**

Вечар – гаворка пра К. Каліноўскага. Прысутнічалі госці. Рыхтавала М. Саўкевіч, чыталі вершы.

Адзнака – 4.

**30 сакавіка 1989 г.**

Прысутнічалі : 10 чалавек і 6 гасцей.

І. Саўкевіч расказала пра сваю вандроўку ў в. Ганчары, дзе вяла гаворку с бацюшкам наконт вядзення службы па-беларуску. Уздымалася пытанне аб магчымасці для прыхаджан маліцца ў сапраўднай царкве.

ІІ. Школы.

1. Якая школа будзе беларускай? Высветліць якая

школа будзе беларускай -- Каранюк Т., Шаўчэнка М., Казлова С. Спытаць пра спісы, панядзелак, серада – прыёмныя дні. *(Зроблена.)*

2. Вызначыць, хто з настаўнікаў хоча выкладаць па-беларуску, скласці спіс і з ім пайсці да Мазоўкі і патрабаваць.

3. Звязацца з Міхасём Іванавічам.

**6 красавіка 1989 г.**

Прысутнічалі: Саўкевіч М., Лапко Р., Хацько В., Тузін В., Матэйка В., Судар А., Варакса А., Цішук С., Чарняк С., Канапацкая С., Гушчынскі І., Казлова С., Каранюк Т.А., Шаўчэнка М., 8 чалавек гасцей + 1.

І. Інфармацыя Чарняка пра візіт да Мазоўкі.

ІІ. Агляд газет і часопісаў.

ІІІ. Гутарка з Домашам.

Вырашылі:

1) На паседжанні прэзідыюма падняць пытанне аб выкарыстанні сродкаў Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

2) Мастакам – зрабіць праект, тады шукаць грошы.

Прапановы Домаша:

1. Распрацаваць герб горада.

2. Стварыць гісторыю горада.

3. Хто хоча ўступіць у члены КПСС?

4. Спіс людзей, імёнамі якіх можна назваць вуліцы горада.

5. Правядзенне нацыянальных свят.

**13 красавіка 1989 г.**

Прысутнічае 13 чалавек: 10 ад суполкі, гасцей – 3 чал.

І. Скарочаная лекцыя Міхнюка, доктара гістарычных навук "Сталіншчына і яе ўплыў на развіццё грамадства".

ІІ. Агляд газеты "Беларуская трыбуна" (№1).

а) Інтэрвію З.С. Пазняка прадстаўнікам ЦК УЛКСМ.

б) Справы нашых сяброў.

ІІІ. Ратыфікацыя праграмы КБМС.

ІV. Свята "Гуканне вясны".

а) Песні: сувязь с педвучэльняй (Тузін В.);
сувязь з кіраўніцтвам хору будтрэста №19 (Каранюк, Саўкевіч).

б) Запрасіць на "Гуканне вясны" фальклорныя калектывы з в. Феліксава і в. Радзівонішкі.

V. Сустрэча з Сакратам Яновічам, серада – 19.00.

VІ. Дамовіцца з М.І. Мельнікам аб стварэнні нефармальнага аб'яднання настаўнікаў.

**20 красавіка 1989 г.**

Прысутнічала 8 чалавек: Лапко Р., Шаўчэнка М., Канапацкая С., Саўкевіч М, Каранюк Т. і 3 чалавекі гасцей.

І. Літаратурныя навіны. "ЛіМ". П. Панчанка. (Лапко Р.) Агульная спрэчка.

ІІ. Гуканне вясны.

Канапацкая С. пра сустрэчу ў гарвыканкаме.

Дата 14 траўня.

Каштарыс – складае аддзел культуры.

Саўкевіч, Шаўчэнка – звязацца з "Мрояй" зрабіць стужачкі, птушачак і г. д.

Шаўчэнка шукае ў кніжках усё, што датычыць афармлення.

Лук'ян – аб'явы.

ІІІ. Вечар фальклору.

Каранюк Т., Красачка В., Судар А.

ІV. Школа.

Было шмат прапаноў:

1. Выкарыстаць для агітацыі бацькоў, якія вырашылі вучыць дзяцей па-беларуску.

2. Рыхтаваць мітынг.

3. Стварыць агітбрыгады: выступаць у мікраараёнах.

4. Ствараць не адну беларускую школу, а класы ў школах.

5. У аўторак у 15.00 у педвучэльні збіраюцца настаўнікі, якія будуць выкладаць па-беларуску.

6. Схадзіць у ГарАНА наконт агульнагарадскіх курсаў.

7. Ганчар Марыя Канстаніцінаўна працуе ў садку № 30 па-беларуску.

Канкрэтна: Дапамагчы садку № 30 (Мельнік М., Лук'ян, Канапацкая С., Лапко Р.)

**27 красавіка 1989 г.**

Прысутнічалі: Канапацкая С.М., Круцікаў У. Лапко Р., Шаўчэнка М., Стралкова І., Судар А., Саўкевіч М. і інш. - 13 чал.

1. Агляд газет і часопісаў. Абмеркаванне.

2. Агляд літаратуры з Беластока: календары, кніжкі.

3. Гутарка з Леанідам Анацкам з гаркаму камсамолу.

4. Садкі №№ 30, 34.

Садок №30 просіць дапамогі па афармленні:

а) мастакі – дапамогуць;

б) арганізацыя мерапрыемстваў: святы, гульні для гасцей – Шаўчэнка, Лапко, Круцікаў.

5. Кандыдаты на з'езд Таварыства беларускай мовы: 1. Мельнік Міхась Іванавіч; 2. Саўкевіч Марыя Юзэфаўна; 3. Каранюк Тамара Анатольеўна. (Канапацкая С.Н. – даслаць ліст да Ніла Гілевіча).

6. Сцэнар для Гукання вясны:

- сцэнар – Канапацкая бярэ ў Тузіна;

- выклікаць "Мясцовы час" ці Бонда (Саўкевіч).

7. Усе ходзім на спеўкі (у чацвер-аўторак).

8. Лапко Р. – надрукаваць песні.

9. Канапацкая – вядовец Тузін.

Для свята:

Пудзіла зімы – мастакі.

Птушкі выпечаныя - у гарвыканкам і – Канапацкая.

Стужкі бела-чырвона-белыя – Стралкова.

Беларускамоўныя назвы – Міхась Іванавіч.

**4 траўня 1989 г.**

Прысутнічалі: Шаўчэнка М., Круцікаў У., Канапацкая С., Стралкова А., Цішук А. і інш (7чал.).

1. Зрабіць у бліжэйшы час экскурсію ў в. Гудзевічы (музей Белакоза);

2. Даручыць групе прадстаўнікоў "Руні" наведаць дэпутата Кучэйку (Сталкова, Мілюць, Васілеўскі).

3. Распрацаваць у суполцы зварот да насельніцтва

і гарадскіх улад аб адкрыцці беларускай школы ў 1989-90 гг.- Васілеўскі.

4. Правесці "Гуканне вясны" суполкай у Гудзевічах – 21 траўня.

**11 траўня 1989 г.**

Прысутнічалі: Саўкевіч М., Чарняк С., Канапацкая С., Шаўчэнка М., Лапко Р., Саўкевіч Г., Пільчук В., Цішук А., студэнты індустрыяльнага тэхнікума..

I. Зварот.

1. Шмат спрэчак выклікаў ужо надрукаваны праект. Вырашылі адрэдагаваць і прыняць.

Надрукаваць: Лапко 2 экзэмпляры.

2. Пікет. Чарняк, Саўкевіч – змест пікета і дазвол у гарвыканкам.

II. Дэпутат.

Сустрэча с дэпутатам нічога не дала, падтрымкі ад дэпутата чакаць не прыходзіцца.

Вандроўкі:

14 – Саўкевіч, Пільчук, Шаўчэнко, Тузін.

21-- Белакоз – напіша Марыя.

**18 траўня 1989 г.**

Прысутнічалі: Саўкевіч М., Чарняк С., Канапацкая С., Шаўчэнка М., Лапко Р., Саўкевіч Г., Цішук А., Васілеўскі Ч., Мілюць А., госці.

I. Паседжанне вёў Чарняк С. Была прапанова запланаванае пытанне аб падрыхтоўцы да выбараў перанесці.

II. Пытанне аб свяце Гукання вясны

1. Падрыхтаваць вогішча Мілюць Анат., Лапко Юра.

2. Арганізаваць гульні. Праводзяць Лапко Р., Канапацкая С.

3. Выкапаць ямку для стралы.

4. Паведаміць садку.

III. Школы.

1. Пікет – пытанне адкладваецца, бо няма Домаша, адказныя тыя ж.

IV. Паездкі.

28 – Гудзевічы.

1 чэрвеня – Марыя едзе ў Мір і дамаўляецца.

V. Справаздача Судара аб паездцы ў Заслаўе па пытанні на тэму : "Народ і спадчына".

VI. Перадрукаваць гісторыю. Адказны: Чарняк С., Мілюць А.

VII. Ліст да з'езду -- Алесь, Тамара, Рэгіна.

**8 чэрвеня 1989 г.**

Прысутнічалі: Лапко, Саўкевіч, Каранюк, Анатоль, Пільчук, Сяржук, Мікола.

I. Школа на беларускай мове.

1) Патрыхтаваць тэкст звароту (Саўкевіч, Лапко)

2) Дамовіцца з Домашам аб прыёме, падрыхтоўка пікету (мастакі).

3) Зацвердзіць у наступны чацвер.

II. Купалле:

1. Месца Купалля вызначыць (Анатоль і Андрэй едуць у Дворышчы глядзець месца ці ў Сялец). Рыхтуем свята для горада.

2. Падрыхтаваць купальскія песні ў зборніках (Мікола, Тамара). Саўкевіч ідзе ў музнавучальню, дамаўляецца з дзяўчатамі аб спеўках.

2. Падрыхтаваць тэкст аб'яў (Пільчук В.), падрыхтаваць плакат "Купалле (мастакі, Света)

3. Пашукаць гульні, надрукаваць (Саўкевіч, Сяржук едзе ў Менск, па гульні Марыся телефануе Мацкевіч К.)

4. Рыхтуем нацыянальнае адзенне.

**7 верасня 1989 г.**

Прысутнічалі 14 чалавек.

I. Падрыхтоўка да выбараў.

1. Падрыхтоўка ліста па Закону аб выбарах у Вярхоўны Савет. Абмеркаванне Закону (Сяржук Чарняк).

2. Абмеркаванне альтэрнатыўнага праекту Закону аб выбарах, падрыхтаванага БНФ.

3. Прапануем кожнаму сябру даслаць свае меркаванні па Закону ў газету і прыняць удзел у акцыі аб выбарах.

4. Арганізацыя сустрэч с дэлетатамі з'езду БНФ (Ткачоў, Дабравольскі).

Ідуць -- Чарняк Сяргей у Будтрэст

Запрашаем лідэраў БНФ -- Пільчук, Саўкевіч.

Аб'явы рыхтуюць -- Судар А.І.

Тэлефаную я (Каранюк Т.).

5.Адказны за ўсё – Чарняк.

6. Арганізаваць выставу карцін мастакоў.

7. Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты на прадпрымствах.

8. Слухалі М.І. Мельніка наконт арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы ўстаноўчага сходу Таварыства беларускай мовы.

9. Стварыць суполкі на прадпрыемствах па падтрымцы Таварыства беларускай мовы не менш 5-ці чалавек на кожным. Вылучыць дэлегатаў на гарадскі сход ТБМ.

II. Арганізацыя канцэрта – К.Т.

III. Камандзіроўка ў Менск (Анатоль - на канферэнцыю беларускіх суполак).

**12 верасня 1989 г.**

Прысутнічалі 17 чалавек.

1. Арганізацыя сустрэчы з партыйным кіраўніцтвам горада і грамадскасцю камсамольскімі работнікамі (дамаўлемся з Венцюковічам).

2. Пытанні для абмеркавання.

1) Абмеркаванне плана работы.

Падрыхтоўка да адкрыцця 15 школы як беларускамоўнай (апытанне бацькоў, афармленне). Сустрэча з педкалектывам (Наталля Іванаўна) -- Саўкевіч М.Ю. Дзіцячы сад № 33, 35.

2) Правядзенне мітынгу на Дзяды.

3) Прыняцце праекту пастановы па правядзенні мітынгу (перадвыбарнага).

**14 верасня 1989 г.**

Прысутнічалі 7 чалавек

I. Выбары.

II. Арганізацыя сустрэчы з прадстаўнікамі БНФ (Саўкевіч, Чарняк).

III. Вылучэнне кандыдатур на выбары ў мясцовыя саветы.

IV. Арганізацыя ТБМ. Ствараем суполкі.

V. Фінансавая дзейнасць. Адкрываем рахунак у банку. (Мілюць А. Сабраць 30 руб., Саўкевіч М.-- 18

руб.)

VI. Арганізацыя рок-фестывалю (Сяржук).

VII. Канцэрт Данчыка (Саўкевіч).

**21 верасня 1989 г.**

I. Падрыхтоўка да сустрэчы (Саўкевіч).

1. Аб’ява ў г-це “Уперад” – Мілюць А.

2. Каранюк Т. – тэхнікум, педвучэльня, музвучэльня.

3. Стралкова І. – абутковая ф-ка, аўтавакзал.

4. Саўкевіч Г. – з-д “Оптык”.

5. Маўчанаў А. – з-д “Электравырабаў”.

6. Тузін В. – з-д “Конус”.

7. Салянкоў А. – з-д “Харчовых канцэнтратаў”.

8. Чарняк С. -- з-д “Лакафарба” (40,50).

9. Чарняк С., Мілюць А., Судар А. – адказныя за правядзеньне сустрэчы 28 верасня.

10. Канапацкая С. – запрасіць журналіста Чарнавуса.

11. Саўкевіч Г. – кветкі, сімволіка.

12. Тузін В. -- узмацняльнік.

13. Маўчанаў А. – па горадзе.

14. Давыдоўская Р. – бальніца.

II. Рок-фестываль (канец кастрычніка) – семінар. Палац культуры з-да “Оптык”.

III. Фінансавая дзейнасць – Мілюць А.

IV. Выпісаць газеты “Ніва”, “ЛіМ”, “Спадчына” – Саўкевіч М.

**29 лістапада 1989 г.**

I. Вечарына Караткевіча. 3 снежня ў 16.00 у клубе будтрэста.

а) аб’явы (адк. Судар А.І., Красачка); партрэт - Каранюк Т.

б) музыка (для слайдаў - Тузін);

в) вершы Караткевіча (Каранюк Т., Света, Міхась Іванавіч, Саўкевіч);

г) народныя песні (фальклорная група будтрэста);

д) бардаўскія песні (Тузін, Чарняк);

е) продаж літаратуры БНФ;

ж) выступленне пра суполку (Анатоль, Чэсь, Судар А.І.).

II. Саўкевіч пра матэрыялы “Канферэнцыі суполак” (пра месца расстрэлаў у парку Чалюскінцаў). Збор подпісаў для ліста ў газету. Збіраем подпісы, дасылаем у аўторак ліст. Арганізуем пікет у панядзелак (Саўкевіч, Канапацкая, Макарэвіч, Судар А.І.).

III. Помнік Ф. Скарыны. Ліст ад лідскага гарвыканкаму ў аблвыканкам.

IV. Мельнік Міхась Іванавіч аб дзейнасці гарадскога ТБМ. 16 снежня з’езд ТБМ.

V. У гэтую суботу ў 14.30 нас запрашаюць у 15 школу да дырэктара. Пытанне аб пераводзе школы на беларускую мову.

VI. 5 снежня ў 14.00 запрасілі ў 12 школу (ідуць Канапацкая С., Судар А.); 6 снежня ў 14.00 запрасілі за “круглы стол” у 13 школу (ідуць Канапацкая С., Судар А.); 8 снежня ў 17.00 гасцёўня ў 6 школе (тэма пра Ф. Багушэвіча, ідуць Каранюк Т, Чарняк С.); 14 снежня запрасілі ў 4 школу (тэма пра Ф. Багушэвіча, ідзе Каранюк Т.); 15 снежня - вечарына, прысвечаная Ф. Скарыну ў педвучэльні.

VII. Фінансавае пытанне (Анатоль).

VIII. Экалогія (Вадэйка І.В.):

- аб стварэнні гарадской арганізацыі БЭС;
- аб экалагічных пытаннях горада, якія вырашаліся на сесіі гарсавета;
- аб арганізацыі экалагічнага мітынга.

Як праводзіць? Час вылучать на наступнае паседжанне.

IX. Вылучэнне кандыдатаў (Міхась Іванавіч):

15 снежня адбудецца канферэнцыя Таварыства беларускай мовы і там вылучаць кандыдатамі ў Вярхоўны савет БССР Мельніка і Сокала .

**14 снежня 1989 г.**

1. Падрыхтоўка да канферэнцыі ТБМ.

1. Зварот да грамадзян г. Ліды.

2. Абмеркаваць пастанову канферэнцыі ТБМ.

3. Зрабіць герб і знак Скарыны.

4. Рэгіструюць: Ірына Захарава, Света Даніленка, Ліза Фаміна.

5. Прадаюць літаратуру: Ірына Стралкова, Галіна Саўкевіч.

II. Заявы ў беларускія класы.

У нядзелю 16 снежня збіраць заявы ў бацькоў.

**21 снежня 1989 г.**

Падрыхтоўка да выбараў у мясцовыя саветы і Вярхоўны Савет БССР. 28 снежня сустрэча з Саюзам кааператараў, БЭСам, клубам выбаршчыкаў: кандыдаты, праграмы.

**28 снежня 1989 г.**

I. Падрыхтоўка да выбараў у мясцовы Савет (прысутнічалі: прадстаўнікі Саюза кааператараў БЭСа, польскага культурнага Таварыства імя А. Міцкевіча).

Абмяркоўвалі:

1. Перадвыбарчыя платформы: КПСС, БНФ.

Пытанне аб вылучэнні кандыдатаў грамадскіх арганізацый – ці патрэбен рэспубліканскі статус?

Калі мае статус раённы гарадскі, ці можна вылучаць у мясцовыя саветы?

Выбары ад тэрытарыяльнай акругі (павінны быць дадзеныя пашпартоў і г. д.)

2. Абмеркаванне платформы.

Па агульных кірунках: плюралізм палітычны, плюралізм эканамічны, нацыянальнае адраджэнне выказалі свае думкі прадстаўнікі ўсіх чатырох арганізацый, прыйшлі да агульнай высновы.

- прыняць усе пункты платформы за аснову;
- паступіла прапанова па дапрацоўцы сваёй агульнай плятформы;
- камісія па суполцы “Рунь” – Мілюць А., Васілеўскі Ч.;
- ТБМ -- Судар А.;
- ПКТ імя А. Міцкевіча – А. Колышка;
- Саюз кааператараў – Васюкевіч В.М., Качурка Ул.;
- БЭС – Швец Васіль Ніканоравіч, Ус Іосіф Іосіфавіч.

Камісія збіраецца ў аўторак.

II. Устанаўленне сувязяў з прадпрыемствамі:

“Майстэрня” - Судар;

ПМК ОПС - Рахманаў;

ЦРБ – Ус;

Цагельны завод -- Вадэйка;

ВА ЖКГ -- Швец;

Чырвоны крыж, ветэраны, інваліды, жаночыя саветы - Вадэйка;

КЭЧ – Шот, генерал-маёр з Менску;

Лакафарбавы – Мікалай Леанідавіч Вітушка;

Рамзавод – Колышка А.;

З-д “Нёман” – Лебядзевіч;

Сельмаш – Мілюць А.;

БТІ – Васілеўскі Ч.;

Ізатрон – Лапко Ю. (Ульянаў);

Конус – Тузін В.;

СШ № 6, ГарАНА – Саўкевіч М.;

Педнавучальня – Захарава І.;

Вузел сувязі – Каранюк Т.;

З-д “Оптык” – Пільчук В., Агурцоў.

Дэпо -- ?;

СШ № 14 – Канапацкая С.;

Тэхнікум – Чарняк С.;

Абутковая ф-ка – Качурка Ул.;

Музнавучальня – ?;

Малочна-кансервавы завод – Васюкевіч В.М.;

КХП – Матэйка;

Будтрэст №19 – Агурцоў;

ІІІ. Да 4-га вызначыць акругі, прадпрыемствы, кандыдатаў па якіх будзем вылучаць. (Графік правядзення сходаў). Клубу выбаршчыкаў – падрыхтаваць ініцыятыву – Васюкевіч В.Л.

**18 студзеня 1990 г.**

Аб вылучэнні кандыдатаў.

Абмеркаваньне вылучаных кандыдатур.

Пільчуку В. – да чацвярга высветліць наконт друку.

Да наступнага паседжаньня:

- давераныя асобы;
- спіс пытанняў.

**25 студзеня 1990 г.**

Падрыхтоўка да выбараў.

Абмеркаванне агітацыйнага матэрыялу.

Менск – панядзелак.

Вільня – Васюкевіч В.М.

Платформа – 1 тыс. экзэмпл. – 200-400 фармату 500/500.

Улётка БНФ – 400 экз.

Дадзеныя па акладах – 500 экз.

Агітацыйныя лістоўкі тых, хто балатуецца ў Вярх. Савет. (Д., У. – па 500 экз. Б. – 100 экз.)

**1 лютага 1990 г.**

Прысутнічалі: 17 чалавек, прадстаўнікі ад грамадскага камітэту па выбарах.

Сваім досведам аб вылуч. кандыдатаў падзяліўся прадстаўнік Іўеўскай суполкі .

Пытанне аб передвыбарнай агітацыі (улёткі – на наступным тыдні). Платформа.

Падрыхтаваць улёткі на Баранаву В.П., Даўлюда А.Ул.

Вызначыць кола сяброў, які прааналізуюць афіцыйную праграму.

1 гр. Швец Вас. Міканоравіч, Васюкевіч Віктар Міхайлавіч, Сліўкін Валеры Васільевіч, Папкоў Сяргей В. (экалагічн. пытанні);

2 гр. З-д “Нёман” Лебядзевіч Анатоль, Станевіч Уладзімір.

Вырашылі: 3.01. запрасіць Бейзаровіч і Авер’янава на 14 гадзін на суполку.

Увага!<br>18 лютага у 13.00 на плошчы,<br>адбудзеца передвыбарны мітынг.<br>Грамадзянскі камітэт за дэмакратычны выбары<br>“Саветы-90”

**22 лютага 1990 г.**

Саўкевіч Марыя падвяла вынікі мітынгу. Паставіла задачу: падрыхтавацца да мітынгу як рыхтуюцца гаркам партыі і ветэраны.

Неабходна падрыхтавацца да выступленняў. Выцягнуць факты аб працэнтах зносу Дома піянераў, станцыі юнатаў.

Васілеўскі Часлаў – прапанова – ўзяць у яго матэрыял аб гэтым. Неабходна зрабіць, як кандыдат Бейзараў.

Як прарвацца да мікрафона?

Падрыхтаваць лозунгі: “Дайце слова Саветам – 90”, “Партия - ум, честь и совесть нашей эпохи”, “Слава КПСС!”, “Народ і партыя адзіны”.

Запісваць усё, што будуць гаварыць партыйцы.

Выступаюць: Судар, Бейзараў, Папкоў, Шаўчэнка.

Васюкевіч зачытаў адказ камуністаў горада на передвыбарчую платформу гаркаму партыі.

Задача – улавіць момант, каб зачытаць гэта.

Прапанова: кожнаму прадстаўніку ўзяць акругу.

**12 красавіка 1990 г.**

Прысутнічалі – 19 чалавек.

**Пытанні:**

1. Вандроўка канфедэрацыі моладзевых суполак.
2. Выбары ў мясцовыя Саветы.
3. Канапацкая С:

Мэты: Пратэст супраць размяшчэння ракетных баз на тэрыторыі Беларусі.

Мяршрут : 4 дні – 3 дні.

Сялец (29 у 13.00) - 7 км - Беліца - мітынг з насельніцтвам - пікеты ля базы - 5 км - Гезгалы - мітынг з насельніцтвам вёскі - Мінойты - мітынг у Мінойтах, начлег - Яцукі – 17 км – на цягніку па чыгунцы -Паўднёвы гарадок – цэнтр горада - мітынг - 2 траўня на мітынг.

Заява на мітынг. Месца каля замка або ў парку адпачынку. Адказныя: Шаўчэнка Мік., Пільчук Валера.

Распрацоўка маршруту, і даслаць усё ў Менск - Канапацкая Света, Лапко Рэгіна.

Экалагічная інфармацыя: Папкоў, Сосна – Канапацкая С.

Плакаты і сімвалы (Судар А.І.).

Вандроўка: Шаўчэнка – сякерка, кацялок.

**30 жніўня 1990 г.**

Першае паседжанне.

1. Свята Скарыны, праводзіцца ў верасні.

Помнік Скарыны (Міхась Іванавіч) на помнік пералічана 10 тысяч. Некаторыя арганізацыі, супраць пабудовы помніка. ТБМ падпісала пагадненне, што

помнік каштуе 72 тыс. Мы не звярталіся да гарадскіх уладаў па грошы.

Абласное таварыства аховы помнікаў абяцала пералічыць 10 тыс. у гэтым годзе і 10 тыс. у наступным. Абкам культуры абяцае 500 руб., Таварыства аматараў каля 2 тыс. Паабяцалі райкам і гаркам камсамолу, шклозавод "Нёман" (2 сакр. Герасімовіч).

Паабяцаў "Імпульс", НТТМ, саюз кааператараў, (Васюкевіч). Створаны прафсаюз кааператыва. Працуюць над тым, каб сабраць грошы:

Лапко Р.І. – шклозавод "Нёман";

Каранюк Т. – НТТМ (Ус);

Канапацкая С. – 2 сакр гаркаму і 1 сакр. райкаму;

Чарняк Сяргей – кааператары;

Шаўчэнка М. – Сельмаш (Бубен).

Міхась Іванавіч – абласныя арганізацыі (абкам культуры, аматары кнігі, аховы помнікаў)

2.Канапацкая СМ павінна даведацца пра тое як будуць распаўсюджвацца білеты па сістэме адукацыі. Сяргей ідзе ў Аддзел культуры і бярэ білеты, Чарняк распаўсюджвае ў тэхнікуме.

3. Мітынг прысвечаны святу Скарыны - пачатку верасня на кастрычнік - на 7 кастрычніка на 12.00.

4. Міхась Іванавіч запрашае Цумарава, Януш-кевіча, Мальца, Янчука, Бічэль-Загнетаву, бацюшку Мікалая.

5. Едзем на святкаванні ў Палацку і Менску. 10-га едзем я, Мікола і Міхась Іванавіч.

6. Шаўчэнка запрашае святара (Чарняўскага ці Матусевіча).

За машыну адказваюць Чарняк Сяргей і Зоева.

Рэклама мітынгу – Алесь Іванавіч Судар.

Артыкул у газету – Чарняк Сяргей.

Выступ па радыё – Міхась Іванавіч.

**5 снежня 1990 г.**

Уступнае слова (7хв.) – Каранюк Т. (Гісторыя беларускай мовы).

Вершы – Мікола Гусоўскі "Песня пра зубра" (Канапацкая С.М.), Ян Чачот (Каранюк Т.).

Песня на сл. Багушэвіча.

М. Багдановіч (Судар А.І.).

Песні на сл. Караткевіча.

Расказ пра эміграцкую літаратуру – песні Данчыка. Песні на сл. А. Санько, С. Сокалава-Воюша.

**14 снежня 1990 г.**

Паседжанне № 58. Прысутнічалі 9 чалавек.

**Пытанні:** Аб праведзенні канферэнцыі БНФ – вылучэнне дэлегатаў.

Накіраваць на практычны семінар БНФ у Менску 21 снежня сябраў суполкі: Алеся Судара, Уладзіміра Круцікава.

**28 лютага 1991 г.**

Прысутнічалі 5 асоб.

**Пытанне:** Падрыхтоўка да свята 25 сакавіка.

Вырашылі:

1. Зала – Чарняк С.
2. Госці – Круцікаў Ў.
3. Канцэрт – Тузін В.
4. Аб'явы.
5. Сцягі – Стралкова І.

**14 сакавіка 1991 г.**

**Пытанні:** 1. Статут БНФ – абмеркаванне.

Вылучэнне делегатаў на з'езд БНФ.

Правядзенне Дня Волі.

Вырашылі: Заўвагі на Статуту БНФ абагульніць і даслаць у аргкамітэт з'езду. Чарняк.

На з'езд БНФ вылучыць:

Круцікава Уладзіміра,

Мілюця Анатоля Іванавіча.

**18 красавіка 1991 г.**

Пытанні:

Складкі : Вырашылі збіраць штомесяц альбо 1 раз у квартал агульную суму (9 руб.)

У Раду БНФ пералічаць 20% кожны квартал з агульнай сумы.

Святкаванне юбілею М. Багдановіча – 2 чэрвеня.

Вырашылі: арганізаваць выставу – продаж альбо аўкцыён (Ус А.). Чарняк С., Тузін В. праспяваюць песню, Круцікаў У. дамовіца наконт значкоў.

**22 верасня 1991 г.**

Прысутнічалі: Круцікаў, Лапко, Чарняк, Канапацкая.

**Пытанні:**

1.Распаўсюджванне 6-га нумара "Навін Адраджэння" – 100 асобнікаў: Круцікаў – 20; Лапко – 10; Канапацкая – 10.

2. Забяспечванне рэкламы г-ы "НА".

3. Дзень паседжання - 13 кастрычніка.

Пытанні:

1. Агляд эканамічна-палітычнага становішча – Круцікаў.

2. Дзяржаўная сімволіка – Лапко, Канапацкая.

3. Вылучэнне дэлегата на канферэнцыю БНФ.

**13 кастрычніка 1991 г.**

Прысутнічалі: Круцікаў, Лазарэвіч, Канапацкая, Каранюк, Саўкевіч, Чарняк, Мельнік.

**Пытанні:**

Падрыхтоўка да Сойму Каарданацыйнай рады дэмакратычных рухаў г. Ліды.

Вырашылі надрукаваць запрашэнні на Сойм: дэпутацкаму клубу, польскаму таварыству, экалагічнаму саюзу, саюзу "Чарнобыль", БСДГ, Сялянскай партыі, гарстрайкаму, ТБМ.

Адказныя: Мельнік, Чарняк.

Правесці Сойм 10 лістапада.

Запрасіць З. Пазьняка да ўдзелу ў працы Сойму.

**24 лістапада 1991 г.**

Прысутнічалі: Круцікаў, Чарняк, Мілюць, Лазарэвіч, Пільчук.

**Пытанні:**

1. Фінансавая справаздача – Мілюць.

2. Вылучэнне ў КРДР г. Ліды прадстаўнікоў суполкі "Рунь".

Вырашылі:

1. Зацвердзіць фінансавую справаздачу сп. Мілюця.

2. Вылучыць у КРДР г. Ліды ад суполкі "Рунь" сп. Чарняка С.

*(Арыгінал "Летапісу..." захоўваецца ў Лідзе ў Тамары Чарняк (Каранюк).*

***М. Ф. Герасімовіч***

# ШКЛОЗАВОД "НЁМАН"

## Кароткі агляд станаўлення і развіцця

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**НА РАЗДАРОЖЖЫ**

Ужо зусім побач было выпрабаванне больш цяжкае.

У 1991 годзе распаўся Савецкі Саюз. Гэта быў наймацнейшы ўдар па жыццядзейнасці завода.

Абвешчаны "парад суверэнітэтаў" рэспубалік былога Саюза прывёў да разрыву эканамічных сувязяў, якія даўно склаліся. Для завода гэта азначала страту пастаўшчыкоў сыравіны, якія знаходзіліся, у асноўным, у Расіі, Украіне і Казахстане, і большасці спажыўцоў яго прадукцыі.

З усталяваннем межаў рэзка ўзрос час знаходжання тавараў у дарозе. Ускладніліся разлікі. Да гэтага неабходна дадаць імклівы рост цэнаў на прыродны газ, электраэнергію, сыравінныя матэрыялы, запасныя часткі, метал і інструменты, што прывяло да рэзкага павелічэння выдаткаў на вытворчасць. Уведзеныя падаткі на дададзеную вартасць, акцызны падатак і мытныя зборы ўнеслі ў гэта свой значны ўклад. З-за росту неплацяжоў пагоршыўся фінансавы стан завода.

Як гаворыцца, у адзін момант завод апынуўся ў нязвыклай для сябе сітуацыі. Маючы сталы дэфіцыт кадраў на працягу ўсяго перыяду рэканструкцыі, ён раптам сам становіцца крыніцай спараджэння лішніх людзей, а прадукцыя з разраду дэфіцытнай паступова пераходзіць у мала запатрабаваную. У гэта верыцца яшчэ з цяжкасцю, і нягоды, якія абрынуліся, успрымаюцца як часовае непаразуменне, якое вельмі хутка будзе ўрэгулявана.

Спецыялісты і арганізатары вытворчасці актыўна шукаюць шляхі зніжэння выдаткаў за кошт укаранення новай тэхнікі і тэхналогій. У 1991 годзе былі набытыя тры робаты фірмы "Нокія" з сістэмамі кіравання "Сфера-36" і скамплектаваны тры робататэхнічныя комплексы для нанясення алмазнай грані на вырабы з крышталю. Да гэтага заводам выкарыстоўваліся паўаўтаматы фірмы "Кутчар" (Нямеччына) і УПС-17 (Вугоршчына) для дэкаравання дробных вырабаў простымі малюнкамі. А скамплектаваныя РТК валодалі значна большымі магчымасцямі і ўключалі ў сябе дзве асноўныя сістэмы - кіраўнічую і выканаўчую.

Сістэма кіравання грунтуецца на мікрапрацэсарнай тэхніцы і ўтрымоўвае адзін цэнтральны працэсар і па адным кіраўніку на кожны шарнір робата. Дысплей, клавіятура і пульт кіравання забяспечваюць аператыўнае інфармацыйна-кіраўнічае вядзенне працэсу дэкаравання, а таксама выкарыстоўваюцца пры распрацоўцы праграм і навучанні робата іх выконваць.

Выканаўчая сістэма складаецца з робата і шліфавальнага станка САГ-3 з абразіўным інструментам, а таксама з захопных прыстасаванняў, назапашвальных прылад і праграмнага забеспячэння.

Трымальнік да рукі робата далучаецца праз фланец, а выраб у трымальніку замацоўваецца з дапамогай вакууму.

Распрацоўка праграмы і навучанне робата ажыццяўляецца па ўзоры, выробленым ручной нарэзкай.



***Робататэхналагічны комплекс (РТК)***
1 - сістэма кіравання; 2 - прамысловы робат;
3 - трымальнік; 4 - шліфавальны станок САГ-3.

"Навучанне" робата ўключае:

- наданне вырабу патрэбнай арыентацыі (лініі рэзання павінны знаходзіцца ў плоскасці круга, каб не дапусціць заваленасці грані);
- запамінанне каардынат пачатковай, прамежкавых і канчатковай кропак адрэзкаў, на якія падзеленая траекторыя перамяшчэння нарыхтоўкі;
- заданне глыбіні рэзання, уключэнне станка САГ і карэктыроўка каардынат кропак для забеспячэння збежнасці канцоў граняў - падаўжэнне або пакарочванне іх, а таксама забеспячэнне скрыжавання на адной глыбіні.

Уся паверхня выраба дзеліцца на вызначаны лік зон, кожная з якіх утрымоўвае ўсе элементы малюнка.

Каб ухіліць негатыўны ўплыў адхіленняў у памерах, распрацавана адмысловая праграма аўтаматычнага абмеру вырабаў па базавых узроўнях з адначасовай карэктыроўкай каардынат базавых кропак, у якасці якіх выбіраюцца кропкі пачатку і канца асноўных ліній малюнка, іх скрыжавання або збежнасці, цэнтры размяшчэння асобных дробных элементаў і г.д. Для кожнага малюнка выбіраюцца свае базавыя ўзроўні і размешчаныя ў іх базавыя кропкі. Акрамя гэтага



***Элементы дэкору на вазах для кветак***
а - I-VII базавыя ўзроўні абмеру вазы;
1-19 - паслядоўнасць нанясення элементаў малюнка;
б - 1-VI - базавыя ўзроўні абмеру вазы;
1-21 - паслядоўнасць нанясення элементаў малюнка



***Вазы для кветак з аўтаматычнай нарэзкай алмазнай грані паводле а) і б)***

ажыццяўляецца абмер па вонкавай паверхні дна для карэктыроўкі вышыні размяшчэння малюнка.

Паслядоўнасць нанясення элементаў пранумаравана на малюнку. Яна выбіраецца з умовы найменшага перамяшчэння рукі пры пераходзе ад аднаго элемента да іншага.

Пры распрацоўцы малюнка неабходна зыходзіць з таго, што ўсе элементы павінны выконвацца шліфавальным кругам аднаго тыпапамеру.

Найбольшая эфектыўнасць атрымліваецца пры нарэзцы граняў складанай траекторыі, якую цяжка ўзнаўляць уручную.

Пры выкарыстанні робататэхнікі ў 2,0-2,5 разы зніжаецца ўдзельны выдатак алмазнага інструмента, значна скарачаецца выдатак кіслот пры хімічнай паліроўцы за кошт высокай чысціні грані, узрастае прадукцыйнасць працы (адзін аператар на тры РТК), павышаецца культура вытворчасці, ухіляюцца перадумовы да прафесійных захворванняў і забяспечваюцца ўмовы для бесперапыннага працоўнага цыклу.

Дапамогу ў мантажы РТК, распрацоўцы першай праграмы і навучанні персаналу аказваў Карбоўскі У.П. (НВА “Робат”, г. Мінск). У далейшым распрацоўкай праграм і наладкай РТК у розныя гады займаліся Салавей А.І., Бухцінаў І.У. і Гірыновіч А.М., а аператарамі працавалі Рудзяк У.І. і Шпарко Ю.С.

РТК працавалі надзейна і эфектыўна.

Нажаль, у 2001 годзе прыйшлося адмовіцца ад іх выкарыстання з-за немагчымасці набыць запчасткі для замены знасіўшыхся дэталяў у сувязі з пагаршэннем фінансавага стану завода. Але гэта была сапраўдная сучасная тэхналогія вытворчасці, да якой завод яшчэ абавязкова вернецца.

Якасці выпусканай прадукцыі на заводзе заўсёды надавалася адмысловая ўвага. У дасягненні гэтай мэты актыўна ўдзельнічаюць усе функцыянальныя падраздзяленні, кіраўнікі цэхаў, тэхнолагі, майстры і начальнікі зменаў, але адмысловае месца тут належыць работнікам аддзела тэхнічнага кантролю, якія ажыццяўляюць візуальны і інструментальны кантроль вырабаў на адпаведнасць патрабаванням дзейных стандартаў на завяршальнай стадыі кожнай перапрацоўкі. На працягу многіх гадоў АТК узначальвала Валянціна Лявонцьеўна Аўраменкава. Праца аддзела шматпланавая і нараўне з высокай тэхнічнай падрыхтоўкай кіраўніка прадугледжвае таксама наяўнасць такіх рыс характару як арганізаванасць, патрабавальнасць і зычлівасць, якія былі ў поўнай меры ёй уласцівыя. Асабліва важным з’яўляецца захаванне ўзаемнага паважлівага стаўлення паміж кантралёрам і брыгадай, не дапускаючы патуранняў і саступак, але і не злоўжываючы сваім становішчам. Гэтаму В.Л. Аўраменкава настойліва навучала сваіх падапечных.

У дасканаласці валодаючы тэхналогіяй вытворчасці, яна накіроўвала працу аддзела не толькі на выяўленне дэфектаў, але і на аператыўную інфармацыю брыгад аб магчымых прычынах іх з’яўлення.

Валянціна Лявонцьеўна актыўна ўдзельнічала ў правядзенні штогадовых спаборніцтваў на званне “Лепшы па прафесіі” сярод шліфоўшчыкаў, што мела важнае значэнне, як для павышэння іх прафесійнага майстэрства, так і якасці прадукцыі ў цэлым.

У 1997 годзе Аўраменкава В.Л. пайшла на пенсію з пасады намесніка дырэктара завода па якасці прадукцыі, прапрацаваўшы на заводзе больш за 37 гадоў.

За вялікі асабісты ўклад па павелічэнні заводам выпуску тавараў народнага спажывання і павышэнне эфектыўнасці вытворчасці Аўраменкава В.Л. узнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі “За працоўную доблесць”, і “За доблесную працу”, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Для павелічэння разнастайнасці форм выраблянай прадукцыі ў 1992 годзе была закуплена па імпарце

(Фінляндыя) устаноўка цэнтрабежнага фармавання. Яе асваенне вялося ў цэху выпрацоўкі №1, і ў ім актыўна ўдзельнічалі Курачкін П.П., Петракова Я.С., Шаль Р.Ф., Кардаш М.М. Асноўны асартымент - талеры, вазы для сервіроўкі стала, рассейвальнікі.

Нягледзячы на цяжкасці, 1991 і 1992 гады завод прайшоў практычна без страт. Праўда, у кастрычніку 1992 г. была спыненая печ-спадарожнік для варэння бэзавага накладнога шкла ў корпусе №3. Але ў гэтым яшчэ не бачылася фатальнай непазбежнасці скарачэння вытворчасці - бо яшчэ зусім нядаўна ўсім была так патрэбная прадукцыя завода.

Але з кожным месяцам напруга нарастае. Растуць неплацяжы. Перыядычна праводзімыя ўзаемазалікі на нейкі час паляпшалі становішча, але праходзіла 5-10 дзён і цяжкасці вярталіся.

Дырэктар завода Пашук М.Ф. сумесна з галоўнымі спецыялістамі і іншымі працаўнікамі прымалі пасільныя меры па стабілізацыі становішча. Але да сярэдзіны 1993 года абвал стаў настолькі моцным, што справіцца з ім без страт на асобна ўзятым прадпрыемстве магчымасці не было.

Каб хоць неяк змякчаць становішча, было прынята рашэнне па спыненні працы нізкарэнтабельных печаў з улікам колькасці занятых там працоўных. Паколькі завод з'яўляецца горадаўтваральным прадпрыемствам, і іншых вытворчасцяў у горадзе няма, то, натуральна, што скарачэнне персаналу наўпрост вяло да з'яўлення беспрацоўных і ўзнікнення сацыяльнай напружанасці, чаго нельга было дапусціць. Таму ў першую чаргу спыняліся печы з меншым лікам працоўных, каб лягчэй вырашалася пытанне іх працаўладкавання на печах, што застаюцца ў працы, або на іншых участках, а працаўнікі, якія дасягнулі пенсійнага ўзросту, адпраўляліся на заслужаны адпачынак.

У чэрвені, верасні, кастрычніку і лістападзе 1993 года паслядоўна былі спыненыя чатыры шкловарныя печы, і першай з іх спынялася 14-гаршковая печ, як найбольш затратная. Спыненне печы механізаванай выпрацоўкі прасованых вырабаў у корпусе №4 было праведзена, як па прычыне неабходнасці абсалютнага скарачэння выдатку сыравінных матэрыялаў, так і ў сувязі з невялікай колькасцю персаналу, які працаваў там. А лістападаўскае спыненне працы дзвюх машыналіній, на якіх да гэтага часу выпрацоўваліся розныя шклянкі для напояў, была звязаная з фізічным зносам уведзенага ў эксплуатацыю яшчэ ў 1975 годзе шклофармавальнага абсталявання. З-за адсутнасці да яго запасных частак адходы па заганах фармавання і на іншых аперацыях дасягалі 50% і вышэй.

Спыненне электрапечы для варкі малочнага шкла было выклікана, як неплацяжамі за пастаўленыя рассейвальнікі, так і неабходнасцю абсалютнага скарачэння спажыванай электраэнергіі.

Персанал спыненых печаў часткова быў пераразмеркаваны на печы, якія заставаліся ў рабоце, часткова накіраваны на іншыя ўчасткі, а, дасягнуўшыя пенсійнага ўзросту, адпраўленыя на пенсію.

Завод працягваў працаваць, але напруга не спадала. Працягвалі расці неплацяжы. Завод набліжаўся да крызіснай сітуацыі. Галопны рост цэнаў на энерганосьбіты, за якія цяжка было разлічвацца, пагражаў поўным спыненнем вытворчасці.

У снежні 1994 года з-за сістэматычных неплацяжоў асноўнымі спажыўцамі за пастаўленыя рассейвальнікі прыйшлося спыніць яшчэ адну печ, на якой вялося іх механізаванае фармаванне - нядаўна зманціраваная і асвоеная лінія фірмы Лінднер па іх вытворчасці апынулася не пры справе.

Трэба адзначыць, што ў гэты цяжкі час завод не прастаяў ні аднаго дня з-за адсутнасці сыравінных матэрыялаў. Заслуга ў гэтым належыць аператыўнай мэтанакіраванай працы Жыгалы А.Л., Вольскага З.У., Смаляка Ў.І., Казловай Г.І., Конюха Ў.М., Урбановіча З.П. і іншых.

У студзені 1995 года пайшоў на пенсію дырэктар завода Пашук М.Ф. Ён прыбыў на завод маладым спецыялістам пасля заканчэння Беларускага палітэхнічнага інстытута ў 1957 годзе. Працаваў на розных участках, а апошнія 14 гадоў узначальваў калектыў. Пры ім прайшоў увесь працэс рэканструкцыі завода. Працуючы галоўным інжынерам, актыўна ўдзельнічаў у асваенні ўводзімых вытворчых магутнасцяў, укараненні новых тэхналогій, абнаўленні асартыменту, асваенні новых відаў прадукцыі. Ужо на пасадзе дырэктара арганізацыйна і тэхнічна забяспечыў пераход у сціслыя тэрміны на выпуск прадукцыі ў адпаведнасці з праводзімай у краіне кампаніяй барацьбы за цвярозасць, а пасля распаду Савецкага Саюза прымаў пасільныя меры па падтрымцы працы завода. За высокія дасягненні па павелічэнні выпуску тавараў народнага спажывання ўзнагароджаны ордэнамі "Дружбы народаў" і "Знак пашаны", юбілейным медалём "За доблесную працу. У адзначэнне 100-годдзя з дня нараджэння Ў.І.Леніна" і ўганараваны званнем "Лаўрэат прэміі СМ СССР 1978 года" за паспяховае асваенне ліній механізаванай вытворчасці шклавырабаў.

Новым дырэктарам быў прызначаны Жыгала Анатоль Лявонцьевіч, які да гэтага шмат гадоў працаваў намеснікам дырэктара па камерцыйных пытаннях.

Фінансавае становішча завода працягвала пагаршацца. Расла напруга з аплатай за энерганосьбіты. Таму ў студзені прыйшлося спыніць малагабарытную ванную печ для варэння селенавага лалу, а ў траўні - ванныя печы №9 і №14 адпаведна ў карпусах №3 і №4.

Спыненне печаў, вядома, наўпрост скарачала спажыванне сыравінных матэрыялаў і паліўна-энергетычных рэсурсаў. Але з кожным спыненнем усё цяжэй станавілася працаўладкоўваць пакінутых без справы працаўнікоў. Ды і нельга чакаць паляпшэння, калі менш працаваць.

Новаму дырэктару сумесна са спецыялістамі розных звёнаў вытворчасці і кіравання трэба было спыніць спад вытворчасці і стабілізаваць сітуацыю. І першым этапам да гэтага стала карпатлівая аналітычная праца па ўсіх кірунках: арганізацыйным, тэхнічным і фінансавым, каб выпрацаваць пэўныя мерапрыемствы, а затым планамерна і паслядоўна ажыццяўляць іх на справе, адпаведна зменлівым умовам і магчымасцям.

Адным з першых крокаў стаў сістэматычны

перагляд асартыменту выпусканай прадукцыі ў адпаведнасці з попытам. Прыйшлося значна скараціць выпуск буйных вырабаў, замяніўшы іх дробнымі і сярэднімі, для чаго на працягу 1995-1997 г.г. было праведзена перанавучанне шэрагу брыгад на выпуск хадавога асартыменту.

Стала надавацца павышаная ўвага рытмічнасці выпуску прадукцыі, як па аб'ёме, так і ў асартыменце. Гэты паказчык стаў адным з асноўных пры налічэнні прэміяльных выплат па выніках працы за месяц.

Для сталага вывучэння попыту на выпусканую прадукцыю была арганізаваная служба маркетынгу.

Завод пачаў рэгулярна ўдзельнічаць у працы міжнародных вясновых і восеньскіх кірмашоў у Нямеччыне, каб адчуваць асноўныя кірункі дызайну гатункавага посуду. Была праведзеная адпаведная праца па стварэнні ўмоў для размяшчэння большай колькасці брыгад на дзейных печах з мэтай павышэння эфектыўнасці іх працы. Акрамя таго, была распрацаваная сістэма часовага пераводу брыгад са спыненай на рамонт шкловарнай печы на дзейную ў дадзены перыяд на час адпачынку сталых брыгад, якія працуюць там, што дадатна адбілася на паніжэнні спажывання энергарэсурсаў і іншых матэрыяльных выдаткаў. Стала вялася праца па павышэнні кваліфікацыі кадраў з мэтай павелічэння ўдзельнай вагі працоўных вядучых прафесій і шэраг іншых мерапрыемстваў.

У 1995-1998 г.г. быў выкананы шэраг тэхнічных мерапрыемстваў, накіраваных на падвышэнне эфектыўнасці вытворчасці.

Дапамога інжынерна-тэхнічным працаўнікам у пошуках эфектыўных рашэнняў стала аказвалі работнікі тэхнічнай бібліятэкі, у якой у розныя гады працавалі Петарсан М.М., Чылек Э.М., Каравайка М.П., а ў апошні час Кумпяк Т.І. Бо менавіта ў бібліятэках знаходзяцца і назапашваюцца перыядычныя выданні і манаграфіі, якія змяшчаюць звесткі аб тэхнічным прагрэсе, таму на набыццё падобных выданняў кіраўніцтва завода накіроўвала неабходныя сродкі.

Атрымала шырокае распаўсюджванне тэхналогія гарачай адрэзкі каптурыка вырабаў адразу пасля іх фармавання. Першапачаткова гэта шклянкі розных ёмістасцяў, а затым вырабы дыяметрам да 250 мм і больш.

Усё неабходнае абсталяванне было сканструявана і выраблена ўласнымі сіламі. Пры працы выкарыстоўваецца прыродны газ і кісларод. Для забеспячэння іх рацыянальнага выдаткоўвання ўжытыя электрамагнітныя клапаны, якія поўнасцю перакрываюць іх падачу пры раскрыванні гарэлкі акрамя адключэння запальніка. Замяняючы пяць аперацый пры апрацоўцы краю па традыцыйнай тэхналогіі, новая ў разліку на 1000 шт. шклянак дазваляе зэканоміць: прыродны газ - 16 нм3, сціснутае паветра - 180 нм3, вада -1,5м3, электраэнергія - 29 квт/гадзін, а таксама знізіць страты ад бою і браку з-за скарачэнні ліку аперацый. У распрацоўцы і вырабе абсталявання і ўкараненні дадзенай тэхналогіі актыўна ўдзельнічалі Рунец Б.Б., Пракапеня Н.А., Круглік А.І., Герасімовіч М.Ф., Цецярук А.І., Урбан А.Е., Ядлоўскі А.П., Вазняк Ю.В., Лецка П.П., Курачкін П.П., Шаль С.Ф., Махнач М.Н., Салянкоў А.П., Макарэвіч Ф.С., Харунжы Ў.М., Пшыгодская А.П., Весялуха М.К., Шапель В.П., Ігнаткова Н.М., Кашко А.У., Анацкі А.Г., Міхайлаў У.М., Зубкоў У.Д., Сенатар І.С., Бельскі Я.А., Грыпіч У.С.

Атрымала далейшае развіццё пры выпрацоўцы вырабаў з крышталю тэхналогія фармавання ножкі складанай канфігурацыі па метадзе падпрасоўкі, якая дазволіла значна пашырыць магчымасці творчай фантазіі мастака пры распрацоўцы новых вырабаў. Хутка асвоілі дадзеную тэхналогію брыгады Крывапуста Ў.А., Шайпука К.У., Мурына Л.І., Міхневіча С.У., Курачкіна Ў.П., Чуйко Т.У., Смаляка С.К., Стракоўскага Ў.У. і інш.

У 1996 г. былі набытыя па імпарце і пачалі шырока скарыстоўвацца нізкатэмпературныя фарбы для дэкаравання шклавырабаў. Усяго за 1997 г. з іх выкарыстаннем было дэкаравана 626,1 тыс. шт. вырабаў, а эканамічны эфект пры гэтым склаў 173,3 млн. руб. у дзейных цэнах. Адпрацоўкай аптымальных тэхналагічных параметраў іх замацавання займаліся Ганчарэнка В.М., Рунец Я. А., Сенчурына Л. С.

Упершыню ў айчыннай практыцы была засвоена і ўкаранёна тэхналогія дэкаравання крыштальных вырабаў золатам у спалучэнні з алмазнай гранню.

Для рынку гэта было прывабнай навінкай, і вырабы карысталіся павышаным попытам. Адпрацоўкай тэхналогіі замацавання золата займаліся Воўкава В.М., Рунец Я.А., Сычэўская Л.І., Ганчарэнка В.М., Марушка С.М. і працаўнікі цэхаў выпрацоўкі №3 і апрацоўкі.

У 1995-1998 гг. была засвоеная і атрымала шырокае распаўсюджванне тэхналогія фармавання вырабаў з ужываннем каляровай шклопудры, якая забяспечвае магчымасць выкарыстання яе шырокай каляровай гамы пры вытворчасці вырабаў рознага прызначэння. Практычна гэта быў новы кірунак у вытворчасці гатункавага посуду. Яе хутка асвоілі брыгады Пухоўскага І.М., Шыманскага М.Я., Багінскага Ў.Р., Сянько Ў.Г., Міхайлава Ў.Б., Куляша К.К., Грынько Ю.Г., Спадара Г.Г, Куляша С.К., Казёл У.У., Лінкевіча Г.Б. і інш.

У гэты час на заходнім рынку карысталіся добрым попытам камбінаваныя вырабы, якія спалучаюць бескаляровае і каляровае шкло. Для арганізацыі іх выпуску былі канструктыўна распрацаваны і пабудаваны дзве малагабарытныя шкловарныя печы на 2 гаршкі кожная, праведзена пераабсталяванне працоўных месцаў і падрыхтаваныя кадры для ўсёй тэхналагічнай лініі іх вытворчасці. Нараўне з іншымі мерапрыемствамі гэта дазволіла ў 1997 годзе паставіць у краіны далёкага замежжа прадукцыі ў памеры 11,2% ад яе агульнага выпуску заводам.

У 1996-1997 гг. засвоеная тэхналогія вытворчасці шэрагу вырабаў па метадзе склейвання з двух частак. Вялікая іх частка пастаўляецца на экспарт.

У 1997 годзе выкананы вялікі аб'ём работ па змяненні канструкцыі вырабатачнага басейна печы крышталю ў цэху выпрацоўкі №3 з мэтай забеспячэння ўмоў для добрага асераднення шкломасы і магчымасці аўтаномнага рэгулявання тэмпературы ў кожным працоўным аддзяленні ў адпаведнасці з асартыментам



***Ванная печ крышталю ў корпусе №5 пасля рэканструкцыі***

вырабаў.

Мінулы час паказаў высокую эфектыўнасць дадзенай працы і ў наступныя гады яна была праведзеная на іншых печах: 1998 год - крыштальная печ цэха апрацоўкі; 2001 год - печ бесколернага шкла ў корпусе №4. У яе ажыццяўленні прымалі актыўны ўдзел Рунец Б.Б., Трубач П.У., Пракапеня М.А., Рунец Л. А., Сарокін М.Д., Кетрык А.У., Кісляк П.П., Ганчарэнка М.І., Урбановіч І.П., Махнач М.Н., Цецярук А.П., Урбан А.У., Ядлоўскі А.П., Вазняк Ю.У., Багмут У.А., Жынко С.М., Бондар У.А., Ігнаткоў П.І., Шалль С.Ф., Сушчэўскі У.І., Рудзяк У.І., Сянюта Л.У., Шыман У.І.

З мэтай павышэння эфектыўнасці выкарыстання абразіўных кругоў з сінтэтычных алмазаў у 1996 годзе пачалі ўкараняць тэхналогію іх электраэразійнай праўкі. Яе сутнасць складаецца ў разбурэнні ўтварыўшагася засальвання рабочай паверхні і ўскрыцці новых пластоў алмазных зерняў пад уздзеяннем электрычных разрадаў і спадарожнай ім высокай тэмпературы, што дасягаецца выкарыстаннем генератара імпульсаў, які пераўтварае аднафазны ток прамысловай частаты і напругі ў уніпалярны ток імпульсаў, рэгуляваных амплітуды і частаты. Адзін генератар забяспечвае магчымасць электраэразійнай праўкі на 10-15 станках. Праўка праводзіцца пры рабочай хуткасці круга і той жа колькасці астуджальнай вады і займае 10-15 сек на адзін бок рэжучага краю круга А2П.

Дадзеная тэхналогія з'яўляецца вельмі эфектыўнай для ўхілення радыяльнага біцця круга, якое ўзнікае ад нераўнамернага зносу рабочай паверхні або па іншых прычынах і не павінна перавышаць 0,03 мм, а таксама для аднаўлення геаметрычнай формы профілю.

Укараненне электраэразійнай праўкі на ўсіх канвеерных лініях дэкаравання крышталю дазволіла значна скараціць выдатак шліфавальных брускоў, а таксама падвысіць прадукцыйнасць працы пры нанясенні алмазнай грані як за лік скарачэння выдаткаў часу на праўку, так і фармаванні добра развітога рэжучага. рэльефу працоўнай паверхні круга.

Над вырабам неабходнага абсталявання, уладкаваннем месцаў праўкі і адпрацоўкай яе параметраў непасрэдна працавалі Раманцаў І.М., Жынко С.М., Усцюжанін Б.У., Сычэўская Л.І., Смаляк Т.А., Бычко М.М. пры актыўным садзейнічанні начальнікаў цэхаў выпрацоўкі №3 і №4 і цэха апрацоўкі.

У гэтыя гады праводзіцца вялікая праца па ачыстцы дымавых газаў шкловарных печаў крышталю ад свінцаўтрымальных злучэнняў з выкарыстаннем касетных фільтраў тыпу ФКІ-280С у камплекце з цеплаўтылізатарамі тыпу ВГА. Утрыманне пылу на ўваходзе ў фільтр - да 128 мг/нм3, а на выхадзе - да 7мг/нм3, г.зн. ступень ачысткі - 92,5%.

Хімічны склад уловліванай аэразолі: PbO - 58-66%; SiO2 - 0,4 -0,6%, ZnO - 0,7-0,9%; B2O3 - 4,5- 6,6%, Na2O - 0,2-0,4%: K2O - 4,6 -7,6%: K2CO3 - 1,5- 2,6%, NO3 - 1,3-2,5%, ППП -18-20%, а яе грансклад: часціцы да 0,05мкм - 16-20%; 0,05- 0,5мкм- 60 -70%; 0,5-20мкм - 12-18% і больш за 20мкм - 2-5%.

Штогадзінная колькасць утылізаванай пры гэтым цеплыні на адной устаноўцы ВГА раўназначна атрымоўванаму ад спальвання 20нм3 прыроднага газу. Сістэмы ачысткі зманціраваныя на трох печах варкі крышталю. Наладку і кантроль за іх працай вядуць Салаўёў Ф.Л., Лукашэвіч Ю.А., Макарэвіч М.М., Саладоўнікава Л.П., Шыман Л.М.

Як ужо згадвалася раней, у 1997-1999 гг. за кошт крэдытаў былі набытыя па імпарце дзве ўстаноўкі хімічнай паліроўкі фірмы Нойтра і дзве дазіравальныя лініі падрыхтоўкі шыхты з кампутарным кіраваннем працэсамі адпаведна паліроўкі і шыхтавання. Іх выкарыстанне спрыяльна адбілася на паніжэнні выдаткаў матэрыяльных і энергетычных рэсурсаў у вытворчасці шклавырабаў.

Усяго ж на працягу 1995-1999 гг. штогод укаранялася ад 15 да 25 розных мерапрыемстваў, накіраваных на стабілізацыю працы завода. Гэта дазволіла ўжо ў 1996 г. забяспечыць тэмп росту таварнай прадукцыі ў памеры 114,8%, у 1997 г. - 111,2%, у 1998 г. - 115,9% і 1999 г. - 107,5% адпаведна да папярэдніх гадоў. Ужо ў 1996 годзе завод выйшаў на ўзровень вытворчасці 1991года.

Нармалізавалася фінансавае становішча. Была поўнасцю пагашаная адтэрмінаваная раней запазычанасць за прыродны газ і своечасова аплачвалася бягучае спажыванне энерганосьбітаў. Па стане на 1.01.1998 г. завод не меў запазычанасці па плацяжах у бюджэт і па заработнай плаце.

У гэты ж перыяд былі атрыманы першыя сертыфікаты адпаведнасці і паходжання на выпусканую прадукцыю, а таксама прызы і ўзнагароды розных міжнародных арганізацый, у т. л. у 1995 годзе прыз '"Арка Еўропы "Залатая Зорка" (Мадрыд), а ў 2001г.




*Сертыфікат "Арка Еўропы"*

завод стаў лаўрэатам конкурсу "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь на рынках Расійскай Федэрацыі" па праграме "100 лепшых тавараў Расіі" (набор вырабаў №6413: чарка, фужэр, куфель, шампанка). У атрыманым у 1995 г. сертыфікаце, у прыватнасці, гаварылася, што ён выдадзены заводу "за невымерны ўклад у дзелавы свет, высокае становішча і прафесіяналізм, за адзнаку ў агульным іміджы і якасці". Больш падрабязна аб гэтых і іншых узнагародах прадукцыі - у дадатку .№ 15.

У 1999 годзе была зробленая спроба асвоіць вытворчасць парфумернай тары з выкарыстаннем паўаўтамата ВШМ. Але пакольні яе выпуск першапачаткова быў арыентаваны толькі на аднаго спажыўца, далей доследных партый справа не пайшла, а ў 2002 годзе наогул была прыпынена.

За 1999 год было выраблена прадукцыі на суму 4095,3 млрд. руб. у бягучых коштах, выпуск у натуральным выразе склаў 26,8 млн. шт., у т.л. 7,8 млн. шт. - вырабы з крышталю, а прыбытак ад рэалізацыі - 520,3 млрд. руб.

Добрымі вынікамі ў працы сустракалі трэцяе тысячагоддзе брыгады Барташэвіч П.І., Шыманскага С.Я., Бранкоўскага С.Ч., Лінкевіча Г.Б., Ігнатовіча Л.У., Аляшкевіча С.Г., Чарняўскага І.Ф., Кетрыка А.А., Данейкі Ў.М., Шкляра Ў.А., Казлова А.Я., Лапаць Л.С., Ігнатчыка А.М., Несцера А.У., Ігнатковай С.С., Рахмана Ю.М., Юрцэвіча Ў.І., Кашко А.С., Шавель.А.У., Стома М.А., Паўлоўскага А.Я., Кротава Г.У., Чарнікевіча Ў.М., Кіраля С.У., Зубовіча С.А., Лабінскага Я.Л., Багінскага Ў.Р. і многіх іншых.

Свае веды, энергію і досвед у забеспячэнні добрых вытворчых і эканамічных паказчыкаў працы завода стала ўносяць галоўныя спецыялісты, начальнікі цэхаў, аддзелаў, служб і іншыя адмыслоўцы. Гэта Рунец Б.Б., Трубач П.У., Сокал Г.І., Сямёнава Т.І., Пракапеня М.А., Ганчарэнка М.І., Махнач М.М., Мядзведзь А.У. Барысаў У.Т. Самахвалаў У.Д., Курачкін П.П., Шаль Р.Ф., Лецка П.П., Сямёнаў У.У., Кісляк П.П., Сарокін М.Д., Шаль С.Ф., Шыман У.І., Бондар У.А., Ігнаткоў П.І., Кіеня Л.А., Пашкоўскі М.С., Чхала Т.У., Кісляк Л.І., Воўк У.П., Пагодскі У.М., Сечка Э.А., Казак С.Ф., Драздоў М.Ф., Кохан І.М., Пазняк С.П., Міхалькевіч М.Н., Радчанка Г.М., Мяглова Л.М., Мурахвер У.С., Кушнярова С.С., Герасімовіч М.Ф., Круглік А.І., Шылін І.Я., Лапата Г.І., Вольскі З.У., Урбановіч І.П., Сарокіна А.М., Фядотава С.М., Русакевіч Э.П., Сушчэўскі У.І., Родзевіч І.А., Яшына Г.У., Шаль В.К., Табенка Л.А., Пагодская Н.М., Салаўёў Ф.Л., Цецярук А.І., Сянюта Т.Я.,Урбан А.У., Вініцкі Ю.Г.

У рэальных умовах, якія склаліся да гэтага часу, становішча завода можна было ацаніць як стабільнае.

Але 2000-ы год паднёс нечаканы сюрпрыз, які адмоўна адбіўся на фінансавым становішчы. Хоць ён і быў завершаны з тэмпам росту вытворчасці 102,8% да 1999 году ў супастаўных коштах і з прыбыткам ад рэалізацыі ў суме 570,3 млн. руб., але выдаткі на 1 руб. таварнай прадукцыі склалі 100,88 кап (дадатак №20). У выніку праведзенага рэгулявання і аптымізацыі плацяжоў у бюджэт і змянення методыкі разліку памераў ПДВ яны ўзраслі на 1967,5 млн. руб., а ў фонд сацыяльнай абароны - на 786,3 млн. руб. у параўнанні з 1999 годам. Знайсці нейкае вельмі эфектыўнае рашэнне, якое дазваляе за лік прыбытку кампенсаваць узрослыя плацяжы ў сціснутыя тэрміны і пры адсутнасці вольных сродкаў было практычна немагчыма - бо да гэтага часу наяўныя рэзервы, якія не патрабуюць укладання сродкаў, ужо былі вычарпаныя. А рост плацяжоў аказаўся сапраўды вельмі рэзкім. Калі ў 1999 годзе з кожнага выгандлёванага рубля ў бюджэт адбіралася 27,9 кап., то ў 2000 г. - 37,09 кап. Гэта быў сапраўдны накаўт, ад якога завод і па гэты дзень не можа акрыяць.

Нарастаюць цяжкасці з набыццём самых неабходных матэрыялаў і інструментаў, з разлікамі за энерганосьбіты і выплатай заработнай платы. У ліпені 2001 года ў сувязі з паніжэннем пакупальніцкага попыту на вырабы з крышталю, а таксама з мэтай абсалютнага скарачэння спажывання энергарэсурсаў і сыравінных матэрыялаў была спынена электрапеч варкі крыштальнага шкла ў корпусе №4. Увесь персанал, звязаны з фармаваннем вырабаў, быў працаўладкаваны на дзейных печах, шліфоўшчыкі і іншыя спецыялісты ў большасці пераведзены на іншыя ўчасткі, а дасягнуўшыя пенсійнага ўзросту - адпраўлены на пенсію.

2001 год завод скончыў з мінусовай рэнтабельнасцю ў памеры 1,2% і стратамі ў суме 449,6 млн. руб. пры тэмпах росту вытворчасці тавараў народнага спажывання 100,3% у супастаўных коштах і 102,7% у натуральным выразе.

Фінансавае становішча завода працягвае пагаршацца. Нарастае напруга ў разліках з бюджэтам, пастаўшчыкамі сыравінных матэрыялаў і за энерганосьбіты. Паездкі на кірмашы і гандлёвыя прадпрыемствы ў розных рэгіёнах Расійскай Федэрацыі не

прыносілі жаданага выніку - астаткі гатовай прадукцыі на складзе за 2001 год узраслі на 593,1 млн. руб.

2002 год не прынёс якія-небудзь змяненняў у сітуацыю. Плацяжы ў бюджэт і пазабюджэтныя фонды ўзраслі да 39,7 кап. з кожнага выгандлёванага рубля. Не маючы сродкаў і часу для правядзення тэхнічных мерапрыемстваў, здольных у адпаведнай меры аздаровіць становішча, у канцы ліпеня 2002 года пераходзіць на іншую працу дырэктар завода Жыгала А.Л.

Ён прыйшоў на завод у 1964 годзе і пачаў працаваць старэйшым таваразнаўцам у аддзеле матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, а з 1967 года - намеснік начальніка аддзела. У 1971 годзе прызначаны начальнікам АМТЗ, а ў 1979 г. - намеснікам дырэктара па камерцыйных пытаннях. Добра зарэкамендаваў сябе ў арганізацыі своечасовага забеспячэння дзейнай вытворчасці і аб'ектаў, якія будаваліся, неабходнымі матэрыяламі, абсталяваннем і камплектуючымі, наладжваючы і падтрымліваючы доўгачасовыя сувязі, як з пастаўшчыкамі, так і са спажыўцамі прадукцыі завода.

Узначаліўшы завод у студзені 1995 года, здолеў арганізаваць працу спецыялістаў і калектыву ў цэлым па пераадоленні спаду вытворчасці і ўжо ў 1996 годзе завод дасягнуў узроўню 1991 года. Добра разумеючы значэнне новай тэхнікі і перадавой тэхналогіі ў забеспячэнні стабільнай працы, ініцыяваў выкарыстанне нізкатэмпературных фарбаў, укараненне сучаснага абсталявання з кампутарным кіраваннем працэсамі шыхтавання і хімічнай паліроўкі, падтрымаў укараненне камбінаванага дэкаравання вырабаў з крышталю алмазнай гранню ў спалучэнні з золатам, рэканструкцыю шкловарных печаў крышталю і шэраг іншых мерапрыемстваў.

Жыгала Анатоль Лявонцьевіч мае ўрадавыя ўзнагароды Рэспублікі Беларусь, неаднаразова абіраўся дэпутатам раённага і абласнога Саветаў, з'яўляецца "Заслужаным работнікам прамысловасці Рэспублікі Беларусь".



***Лаўрэат конкурсу "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь на рынку Расійскай Федэрацыі" у 2001 г.:***
*Камплект для сервіроўкі стала, зав. ном. 6413: фужэр для чырвонага віна, чарка для белага віна, фужэр для шампанскага, бакал для шампанскага, чарка для брэндзі. (Аўтар камплекту Ткачова Е.У.)*

Новым дырэктарам завода быў прызначаны Рунец Браніслаў Браніслававіч, які з 1985 года працаваў галоўным інжынерам.

Добра разумеючы цяжкасці, у якіх апынуўся завод, ён імкнецца актывізаваць працу па іх пераадоленні.

Ужо ў верасні 2002 г. завод выбіраецца ў якасці аб'екта даследавання па распрацоўцы сумеснага праекту ПРААН і дэпартамента па занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь "Развіццё дыялогу па прадухіленні росту беспрацоўя і беднаты пры рэструктурызацыі горадаўтваральных прадпрыемстваў". У распрацаваных метадычных рэкамендацыях сфармуляваны агульныя прынцыпы правядзення работ па дадзенай тэме, якія будуць садзейнічаць прыняццю эфектыўных рашэнняў у кожным асобнай выпадку з улікам фактычнага становішча спраў на прадпрыемстве. У іх аснове - павышэнне адказнасці кожнага працаўніка за выконваны ўчастак працы; удасканаленне структуры кіравання, планавання, маркетынгу і збыту; а таксама ўкараненне перадавых тэхналогій і новых відаў прадукцыі. Для іх рэалізацыі неабходна адшукваць фінансавыя сродкі, што з'яўляецца адной з найскладаных задач на дадзены перыяд. Аб сапраўднай эфектыўнасці прапанаваных мерапрыемстваў можна будзе меркаваць, зыходзячы з таго, як будзе вырашаная галоўная задача - забеспячэнне занятасці працаздольнага насельніцтва горада.

На прафсаюзнай канферэнцыі, якая праходзіла ў сакавіку 2003 года было прынята рашэнне прасіць Міністэрства архітэктуры і будаўніцтвы дазволіць правядзенне акцыянавання завода ў бягучым годзе, на што і была атрымана прынцыповая згода. Створанай працоўнай групай ужо падрыхтаваны ўсе неабходныя для гэтага матэрыялы. Само па сабе акцыянаванне, вядома, нічога не зменіць, але яно павялічвае магчымасць прыцягнення пабочнага фундатара. Вядома, завод зведае адпаведныя структурныя змяненні. Хутчэй за ўсё, сыйдуць у муніцыпальную ўласнасць або да іншых гаспадароў Палац культуры, прафілакторый.

Магчыма, будзе вылучаны ў асобнае прадпрыемства цэх металаформаў. Верагоднасць вылучыцца маюць дапаможныя цэхі і ўчасткі, напрыклад, аўтатранспартны або карданажны. Іншая справа, што для гэтага спатрэбіцца знайсці зацікаўленага прадпрымальніка з дастатковым стартавым капіталам, здольнага забяспечыць патрэбнасці завода ў паслугах і вырабах, атрымоўваных ад дадзеных падраздзяленняў.

Праз нейкі час будзе выведзена з эксплуатацыі пячное аддзяленне корпуса №1 - неабходна заручыцца заключэннем экспертызы аб магчымай працягласці тэрміну службы жалезабетонных ферм у рэальных тэмпературных умовах.

У залежнасці ад выбранага віду новай прадукцыі будзе перапрафіляваны на яе вытворчасць корпус №3 або корпус №4. Бо яшчэ далёка не вычарпаны асартыментны пералік шкляных вырабаў для камплек-

тавання рэстаранаў і кавярняў, падарункавага і сувенірнага асартыменту. Варта дэталёва вывучыць магчымасці арганізацыі вытворчасці гарачатрывалага посуду, розных рассейвальнікаў для вулічнага асвятлення, шкла да асвятляльных прыбораў трактароў і аўтамабіляў, розных відаў ахоўнага шкла да сродкаў сігналізацыі і па іншых кірунках.

Пры разглядзе прапаноў па рэструктурызацыі вытворчасці заўсёды была вялікая спакуса замест вырабу гатункавага посуду арганізаваць на частцы вытворчых магутнасцяў выпуск найпростых вырабаў тэхнічнага прызначэння тыпу пенашкла, шклаваты, плёнкавых гатункаў шкла і г.д. Але гэта азначала б, што ў канцы канцоў сыйдуць на “не” тыя прафесійныя навыкі рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў, якія былі назапашаныя за больш чым стогадовую збіральную практыку гатункавага гутніцтва і замест шкляной “вясёлкі”, якой неаднаразова захапляліся чальцы міжнароднага журы, будзе нязвыклая для “Нёмана” аднастайная шэрая маса ізаляцыйнага матэрыялу, а ў атмасферу ў дапаўненне да злучэнняў цяжкіх металаў і фтарыдаў дададуцца сінтэтычныя смолы і мірыяды найтонкіх шкляных парушынак, якія не самым лепшым чынам паўплываюць на здароўе жыхароў горада, трапляючы ў дыхальныя шляхі. І тады ўжо ад дадатковых выдаткаў на набыццё лекаў не абыйсціся.

Мясцовыя кіраўнікі завода на сабе адчувалі гэтую адказнасць, што і служыла стрымлівальным фактарам у пошуку рацыянальных шляхоў стабілізацыі яго працы. І як мы бачылі вышэй, гэтыя шляхі заўсёды знайходзіліся ў плоскасці традыцыйнага асартыменту і перадавых матэрыяла- і энергазахавальных тэхналогій.

Толькі паспяхова выбраны варыянт вытворчасці новай прадукцыі здольны кампенсаваць страты, якія ўжо склаліся, і не дапусціць новых. Калі гэта будзе зроблена з удзелам пабочнага фундатара, то гэтая вытворчасць можа быць вылучана ў асобнае прадпрыемства з утварэннем юрыдычнай асобы.

Астатнія ж вытворчыя магутнасці будуць удасканальвацца арганізацыйна і тэхнічна на вытворчасці традыцыйнага для завода асартыменту прадукцыі.

Акрамя краін СНД, прадукцыя завода штогод пастаўляецца ў розных колькасцях у 12-15 краін далёкага замежжа. Прыкладам доўгатэрміновага ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва можна назваць фірму “Дзюмонт” (Нідэрланды), з якой завод звязаны ўжо каля 10 гадоў. Абяцае быць перспектыўным супрацоўніцтва з фірмай “Сандра Рыч” (Нямеччына), якая праяўляе вялікую цікавасць да асартыменту выпраблянай заводам прадукцыі.

Завод даражыць сувязямі, якія ўсталяваліся, бо актыўны ўдзел на заходнім рынку дазваляе стала адчуваць кан’юнктуру і аператыўна адклікацца на яго запыты.

Перад калектывам пастаўленая задача ўжо ў 2004 годзе забяспечыць 30% выручкі ад рэалізацыі прадукцыі ў далёкае замежжа ад яе агульнага аб’ёму. Вынікі ўдзелу ў жніВеньскім кірмашы ў г. Франкфурт-на-Майне даюць для гэтага важкія падставы. Шляхамі дасягнення дадзенай мэты з’яўляецца шматпланавая праца па паляпшэнні колеру шкла, укараненне сродкаў механізацыі пры фармаванні вырабаў, сталая праца па павышэнні кваліфікацыі персаналу і паступовы пераход на больш канструктыўна дасканалыя шкловарныя печы і высакаякасныя вогнеўпоры для іх муроўкі.

Да аднаго з крокаў па ўмацаванні фінансавага становішча завода можна аднесці ажыццёўленую адмову ад бартэру.

Заслугоўвае ўвагі праведзеная праца па выкарыстанні адходаў вытворчасці, у прыватнасці, для атрымання крэмнефтарыдаў з мэтай іх наступнага ўжывання ў шкловарэнні.

За гады працы завод неаднаразова аказваўся ў цяжкіх сітуацыях, але заўсёды годна выходзіў з іх. Так будзе і на гэты раз. Бо з часам вызначыцца рацыянальны памер плацяжоў у бюджэт і пазабюджэтныя фонды, у сапраўднасці адбудзецца пераход да энергазахавальных тэхналогій, належнае месца зойме аўтаматызацыя вытворчых працэсаў і кіравання, узрасце пакупніцкая здольнасць насельніцтва, а разнастайны асартымент вырабаў бытавога і дэкаратыўнага прызначэння шырокай каляровай гамы зноў будзе высокаканкурэнтаздольны і шырока запатрабаваны.

І праз 120 гадоў “шкляная казка” прыносіць радасць людзям, гэтак жа як некалі і яе заснавальніку ў першыя гады ажыццяўлення “крыштальнай мары”.

*2002 - 2003 гг.*

***Дадатак №20***

## ХАРАКТАРЫСТЫКА І ПАКАЗЧЫКІ ПРАЦЫ ЗАВОДА ЗА 2000 ГОД

| | |
|---|---|
| 1. Плошча тэрыторый: | |
| - вытворчая плошча | 16,3 га |
| - палі фільтравання | 14,3 га |
| - шламавыя плошчы | 15,2 га |
| - peравалачная база (г. Ліда) | 2,8 га |
| 2. Колькасць асноўных цэхаў | 7 |
| 3. Колькасць дапаможных цэхаў, участкаў і служб | 24 |
| 4. Колькасць асноўных печаў, якія працуюць, | 7 шт. |
| з іх: а) газаполымевыя | 6 шт. |
| б) электрычныя з газаполымевым падагрэвам вырабатачнага аддзялення | 1 шт. |
| 5. Колькасць печаў-спадарожнікаў, якія працуюць, | 3 шт. |
| з іх: а) двухгаршковыя | 2шт. (па адной да ванных печаў №1 і №3) |
| б) малагабарытная ванная | 1 шт. (да ваннай печы №5) |

6. Спажыванне за год:

| | |
|---|---|
| а) сыравінныя матэрыялы, усяго | 9 630 т |
| у т.л.: | |
| пясок кварцавы | 5426 т |
| мел кавалкавы | 865 т |
| сода кальцыяваная | 761 т |
| паташ | 1085 т |
| салетра натрыевая | 139 т |
| салетра каліевая | 189 т |
| сульфат натрыю | 41 т |
| сурык свінцовы | 919 т |
| барый вуглякіслы | 83 т |
| борная кіслата | 76 т |
| бялілы цынкавыя | 33 т |
| мыш’яку трохвокіс | 10,1 т |
| б) прыродны газ | 27754 т.нм3 |
| в) электраэнергія | 19115 т.квт./гадзіна |
| г) цеплаэнергія | 31903 Гкал |
| д) сціснутае паветра | 21600 т.нм3 |
| е) вада | 1849 т.м3 |
| 7. Спіскавая колькасць працоўных на 31.12.2000г., | 4838 чал. |
| з іх: | |
| а) прамыслова-вытворчы персанал | 4628 чал. |
| б) непрамысловая група | 210 чал. |

**Паказчыкі працы завода**

| № | Найменне паказчыкаў | Адзінка вымярэння | К-сць |
|---|---|---|---|
| 1 | Тавары народнага спажывання ў дзейных цэнах, усяго | млн. руб. | 11305,8 |
| | у т. л. а) гатункавы посуд | млн. руб. | 11055,4 |
| | з яго крышталь | млн. руб. | 5544,0 |
| | б) рассейвальнікі | млн. руб. | 250,4 |
| 2. | Гатункавы посуд у натуральным выразе, усяго | т. шт. | 25371 |
| | у т. л. а) з бескаляровага шкла | т. шт. | 17514 |
| | з яго: выдзіманы | т. шт. | 17209 |
| | прасованы | т. шт. | 305 |
| | б) з крышталю | т. шт. | 7857 |
| | з яго: выдзіманы | т. шт. | 7285 |
| | прасованы з дапрацоўкай | т. шт. | 572 |
| 3. | Рассейвальнікі | т. шт. | 487 |
| 4. | Чыгуннае ліццё | тн | 278,3 |
| 5. | Сталёвае ліццё | тн | 3,0 |
| 6. | Таварная прадукцыя ў дзейных цэнах | млн. руб. | 9702,2 |
| 7. | Выручка ад рэалізацыі прадукцыі | млн. руб. | 11989,0 |
| 8. | Рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі | % | 6,3 |
| 9. | Балансавы прыбытак | млн. руб. | 198,0 |
| 10. | Вага гатовай прадукцыі | тн | 6294 |
| | у т.л. крышталь | тн | 2642 |
| 11. | Асваенне новых відаў вырабаў | шт. наймен. | 298 |
| 12. | Сярэднеспіскавая колькасць працоўных | чал. | 4562 |
| | у т.л. ППП | чал. | 4268 |
| | з іх: рабочыя | чал. | 3907 |
| | службоўцы | чал. | 361 |
| 13. | Сярэднемесячная зарплата аднаго працоўнага | руб. | 65130 |
| | у т.л. за снежань | руб. | 76198 |
| 14. | Балансавы кошт асноўных фондаў | млн. руб. | 26755,5 |
| | у т.л. | | |
| | а ) вытворчая сфера | млн. руб. | 22223,0 |
| | з іх: будынкі | млн. руб. | 12921,5 |
| | пабудовы | млн. руб. | 1849,0 |
| | перадаткавыя прылады | млн. руб. | 515,7 |
| | сілавыя машыны | млн. руб. | 379,4 |
| | рабочыя машыны | млн. руб. | 5607,5 |
| | транспарт | млн. руб. | 390,5 |
| | вымяральныя сродкі | млн. руб. | 302,4 |
| | вылічальная тэхніка | млн. руб. | 97,1 |
| | іншыя | млн. руб. | 159,9 |
| | б) невытворчая сфера | млн. руб. | 3832,7 |
| | в) сфера іншых галін | млн. руб. | 699,8 |
| 15. | Ступень зношанасці асноўных фондаў | % | 50,97 |
| | у т.л. актыўнай часткі | % | 82,58 |
| 16. | Ступень загрузкі магутнасці | % | 78,5 |
| 17. | Прадукцыйнасць працы | т.р./чал. | 1556,6 |
| 18. | Экспарт прадукцыі | тыс.дол. ЗША | 5471,5 |
| 19. | Імпарт (сыравіна, энерганосьбіты і г.д.) | | 4050,5 |
| 20. | Структура выдаткаў на вытворчасць: | | |
| | - сыравіна і матэрыялы | % | 27,0 |
| | - работы і паслугі вытворчага характару | % | 1,1 |
| | - паліва | % | 11,2 |
| | - электраэнергія | % | 5,4 |
| | - іншыя матэрыяльныя выдаткі | % | 0,2 |
| | **Разам** матэрыяльныя выдаткі | % | 44,9 |
| | выдаткі на аплату працы | % | 32,0 |
| | адлічэнні на сацыяльныя патрэбы | % | 12,4 |
| | амартызацыя | % | 1,6 |
| | іншыя выдаткі | % | 9,1 |
| | **Усяго** | % | 100,0 |
| 21. | Плацяжы ў бюджэт і ў небюджэтныя фонды | млн.руб. | 4155,6 |

Тэмп росту вытворчасці да 1999 году ў супастаўных коштах склаў 102,8%.

Дзейныя вытворчыя магутнасці завода забяспечваюць поўную занятасць працаздольнага насельніцтва горада.

Плацяжы ў бюджэт узраслі на 1967,9 млн.руб., а ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва - на 786,3 млн.руб. у параўнанні з 1999 годам.

Адгрузка прадукцыі па рэгiёнах ад агульнага яе аб’ёму склала:

Рэспубліка Беларусь - 60,0 %
краіны СНД - 23,2 %
краіны далёкага замежжа - 16,8 %

Асноўнымі пакупнікамі з краін далёкага замежжа з’яўляюцца фірмы Нямеччыны, Нідэрландаў, Грэцыі, Францыі і Прыбалтыкі, а ўсяго прадукцыя завода адпраўлялася ў 18 краін.





**КРЫНІЦЫ ІНФАРМАЦЫІ**

1. М.М.Яніцкая "Беларускае мастацкае шкло", XIX - пачатак XXст.; Мінск, "Навука і тэхніка", 1984 г.

2. Исторический архив Республики Литва (F - 382; Ар-1, М-1883-1884; В-1183; L -3). г. Вильнюс, 1972 г.

3. "Технология стекла", т. 1, под редакцией И.И. Китайгородского; Госиздат "Легкой промышленности", Москва - 1939 - Ленинград.

4. "Стеклянное производство" (из серии "Техническая энциклопедия") под редакцией Д.И. Менделеева; Санкт-Петербург; издание товарищества "Общественная польза", 1864 г.

5. Исторический архив Республики Литва (ф. 380, оп. 101, д. 1873; л. 4), г. Вильнюс, 1980 г.;

6. Указатель фабрик и заводов Европейской России; составили П.А. Орлов и С.Г. Будагов; С-Петербург; 1894 г.

7. Дакументы і матэрыялы па гісторыі. Беларусі; Том 2 (1772-1903г.г.), выдавецтва Акадэміі навук БССР; Мінск, 1949 г. (пад рэдакцыяй акадэміка Н.М. Нікольскага і ст.навуковых работнікаў Д.А. Дудкова., І.Ф. Лочмеля)

8. Исторический архив Республики Литва (ф. 389 оп. 1, д. 930), г. Вильнюс, 1980 г.

9. Э. Дамур "Стекло" (перевод с французского под редакцией инженера И.С. Шур); Укргизместпром, г. Киев, 1935 г.

10. Национальный исторический архив Беларуси "Перечень фабрик и заводов", 1897 г., г. Минск.

11. «Памятная книжка Виленской губернии на 1902 г.», г. Вильно, 1902 г.

12. "Список фабрик и заводов Российской империи" под редакцией Варзара; 1903 г.

13 Д.Б. Гинзбург "Газогенераторы и газовое хозяйство в стекольной и керамической промышленности". Промстройиздат, г. Москва, 1948 г.

14. М.Ф. Жаврид "Белорусское стекло", издательство «Наука и техника», Минск, 1969 г.



15. "Список фабрик и заводов Российской империи" под редакцией Варзара, 1912 г.

16. Pawel Banas. Szklo Huty "Nieman", Muzeum Mazowiezkie w Plocku, 1984.

17. Н.Н. Качалов. "Стекло", издательство Академии наук СССР, Москва, 1959 г.

18. И.А.Безбородов "Очерки по истории русского стеклоделия", Промстройиздат, Москва, 1952 г.

19. Бюллетень "Технико-экономические показатели работы заводов сортовой посуды и тарного стекла за 1983 год", г. Гусь-Хрустальный, 1984 г., выпуск 37.

20. Н.Ф.Герасимович "Огневая отрезка колпачка изделий в горячем состоянии", "Стекло и керамика", 1998 г., № 12; "Использование робототехники для декорирования хрустальных изделий", "Стекло и керамика", 2000 г., №2.

# Незвычайны талент

## *70 гадоў Уладзіміру Мельнікаву*

Уладзімір Мельнікаў нарадзіўся 9-га кастрычніка 1938 года ў г. Краснагвардзейску Ленінградскай вобласці. Яго бацька Сяргей Іванавіч у той час курсант Гатчынскага авіяцыйнага вучылішча, пасля афіцэр, які храбра змагаўся на франтах Іспаніі і загінуў у 1944 годзе на Першым Беларускім фронце. Маці мастака Ніна Андрэеўна была дачкою вядомага на Віцебшчыне народнага лекара Андрэя Прышчапёнка, нарадзілася ў шматдзетнай сям'і (сем дачок) у вёсцы Заполле Полацкага раёна. Па расказах маці прадзед быў заможным землеўласнікам, трымаў чацвёра выязных коней. Рэшткі падмурка былой яго сядзібы захаваліся ў вёсцы Мігуліна дагэтуль.

У час вайны разам з маці Ўладзімір эвакуяваўся ў сяло Васкрасенскае да бацькавых бацькоў, што на Разаншчыне (Расія). Мясціны тут славіліся сваёй прыгажосцю і вядомасцю. За 30 кіламетраў ад сяла знаходзілася сядзіба Льва Талстога, а крыху далей — вёска Сяргея Ясеніна.

Аб жыцці ў с. Васкрасенскім у Валодзі засталіся адрывачныя ўспаміны. Яны іншы раз усплывалі як каляровыя фотаздымкі. Помніцца сад..., дрэвы..., вуллі..., злыя пчолы..., яны раіліся. Ён паспрачаўся з хлапчукамі, што прабяжыць праз сад... Бабка Матрона знайшла ўнука пад вечар у бульбяніку. Ён ляжаў без памяці ў градках. "Зямля яго адцягнула", - сказала бабка. Пасля рака... Дзядзька Вася з дрынам у вадзе... Кошыкі рыбы... Сонечнае зацменне... Кавалак шкла ў сажы... Рыканне кароў, выццё сабак... Ураган... Бачыў, як за дарогай жалезны дах хлебапякарні раптам падняўся і закуляўся па зямлі. А яшчэ адхон і белы конь. Шмат гадоў бачыў потым гэтага каня ў сваіх снах. Ён імкліва імчаўся па адхону. Неяк пляменніца маці Ліда задумала з'ездзіць у суседняе сяло і ўзяла іх з сабою. Вёска — побач, конь — рахманы. І паехалі. Але цётцы раптам перад вёскай захацелася праехаць з ветрыкам. Сцёбнула кабылу пугай. На бяду, аглоблі аказаліся кароткімі, ногі жывёліны пачалі біцца аб передок. Ашалеўшы ад болю, кабыла панесла. Ратуючы сына, маці шпурнула хлапчука ў куст і скочыла сама. Маці з сынам абышліся драпінамі, а Ліда пацярпела... Потым прыезд бацькі... Запомніўся сонным у форме... Асабліва чамусьці запомнілася карычневая партупея... Потым зноў палутарка... Лёгкае воблака пылу... І ўсё... Потым бясконцая калона салдат... Яны ішлі праз сяло... Нейкі афіцэр раптам падняў Валодзю на рукі і прыціснуў так, што яму стала балюча...

У 1944 годзе пасля вызвалення Беларусі маці прывезла сына да бацькоў у Заполле, а сама ўладкавалася на работу ў вёску Баравуха-1 Полацкага раёна, дзе размясцілася вайсковая залога, там паўторна выйшла замуж. Потым Літва, Коўня, куды пераводзяць па службе айчыма, а калі той выйшаў у адстаўку, маці ўгаварыла сям'ю пераехаць у Полацк, дзе жыла яе старэйшая сястра. Менавіта тут, у Полацку, прайшлі лепшыя гады будучага мастака. Гэты старажытны і прыгожы горад вельмі многае значыць у ягоным жыцці: тут знайшлі вечны спачын дзяды і прадзеды, сваякі, тут магіла маці.



***Уладзімір Мельнікаў. Аўтапартрэт.***

За жыццё Ўладзіміру давялося шмат дзе пабываць і шмат чаго ўбачыць. Жыў у Літве і Эстоніі, бываў у Карпатах і Закарпацці, Калінінградзе, Львове, Рызе, Сімферопалі, пісаў пейзажы Азоўскіх лiманаў і Ялцінскіх берагоў, хадзіў па музеях Масквы і Ленінграда, захапляўся краявідамі Арэнбурга.

Маляваць Валодзя пачаў рана. Спачатку дапамагаў айчым, потым наведваў студыю пры Ковенскім мастацка-прамысловым тэхнікуме, затым паступіў у Талінскі мастацкі інстытут на вячэрняе аддзяленне па спецыяльным распараджэнні Палітаддзела Чырванасцяжнага Балтыйскага флоту. Уладзімір Мельнікаў тады праходзіў тэрміновую службу авіямеханікам на Талінскай авіяцыйнай базе. Як старанны і дысцыплінаваны спецыяліст 1-га класа карыстаўся ўсеагульнай павагай, таму камандзіру часткі адразу далі адпаведны дазвол.

Пасля службы застаўся працаваць на базе вольнанаёмным, каб працягваць вучобу. Але здараецца прыкры выпадак, які крута мяняе лёс. Яго адлічваюць з інстытута за бойку, у якой ён не прымаў удзел.

Ля сцен інстытута адбываецца сутычка паміж "вячэрнікамі" і "дзённікамі". Уладзімір спрабуе разняць задзіракаў. Падобнае здаралася не ўпершыню, але на гэты раз сярод пабітых эстонцаў аказаўся сынок уплывовага чыноўніка. Сярод адлічаных аказаўся і Валодзя.

Гэта быў цяжкі ўдар. Валодзя кідае ўсё і вяртаецца ў Полацк з цвёрдым намерам назаўсёды выкрасліць жывапіс са свайго жыцця. Гэтак працягвалася 25 гадоў.

Памяняў некалькі прафесій. Працаваў памочнікам майстра на Полацкім заводзе "Шкловалакно", літаратурным супрацоўнікам Лідскай газеты "Уперад". Тут, як ні дзіўна, у Мельнікава праявіўся талент журналіста і апавядальніка. Яго артыкулы, замалёўкі, фельетоны друкуюцца ў абласных, рэспубліканскіх і ўсесаюзных выданнях. Газеты "Гродзенская праўда", "Звязда", "Знамя юности", "Літаратура і мастацтва", часопіс "Вожык" з радасцю друкуюць матэрыялы лідскага журналіста. Аб літаратурных здольнасцях маладога журналіста высока адзываецца пісьменнік Васіль Быкаў. Прыходзіць вядомасць. Раёнка прымае ўдзел у Рэспубліканскім конкурсе сярод раённых газет на лепшае асвятленне аховы прыроды і навакольнага асяроддзя. У рэдакцыі гэтую тэму асвятляе Уладзімір Мельнікаў, і газета на працягу трох гадоў заваёўвае Дыпломы 3, 2 і 1 ступеняў.

Здаецца, юнак знайшоў сваё месца пад сонцам. Але... Поспехі Мельнікава не падабаюцца некаторым калегам па газеце, і здольны журналіст пераходзіць на працу ў Лідскі райвыканкам на пасаду інструктара, потым працуе майстрам вытворчага навучання ў Лідскім індустрыяльным тэхнікуме. І піша артыкулы ў розныя газеты. Атрымлівае пасведчанне пазаштатнага супрацоўніка "Гродзенскай праўды". З галоўным рэдактарам гэтай газеты А. Богушам у яго даверлівыя адносіны, і ён нават прапануе Ул. Мельнікаву месца штатнага супрацоўніка.

Гады бягуць...

Уладзімір усё часцей пазірае на мальберт, які стаіць у куце пакоя. Нехта вельмі справядліва сказаў: лёс не падманеш. Пасля ваганняў і роздуму Мельнікаў бярэ ў рукі пэндзаль. Ад невытлумачанага хвалявання дрыжаць пальцы, здаецца, што ўсё забыта, пайшло прэч. Аднак першая работа - аўтапапртрэт - настолькі ўражвае, што самому здаецца чыстай выпадковасцю. А калі ў 1991 годзе адкрываецца абласная выстава прафесійных мастакоў Гарадзеншчыны "Гродна - Лімож - 91", вязе свае карціны. Іх усяго чатыры. Поспех у Гародні быў нечаканы: значыць, ён не "закапаў" свой талент. Цяпер трэба вярнуць страчанае. Працуе, не ведаючы ні сну, ні адпачынку. Днём ён выкладчык выяўленчага мастацтва ў СШ №14 з архітэктурна-мастацкім ухілам, а з вечара да раніцы — жывапісец. Так на працягу больш, чым 15 гадоў. Неаднойчы сардэчныя прыступы кідалі на бальнічны ложак, але гэта ўжо не магло спыніць мастака. Выставы адбываюцца адна за адной. Пра яго пішуць, паказваюць па тэлебачанні. За 17 гадоў майстар стварыў дзесяткі палотнаў, якія прынеслі Мельнікаву папулярнасць. Яго партрэтная галярэя — унікальная з'ява ў сучасным выяўленчым мастацтве. Сярод цудоўных партрэтаў — партрэты Ніла Гілевіча, Вольгі Іпатавай, Анатоля Ярмоленкі, Уладзіміра Мулявіна, Віктара Вуячыча, Ігара Лучанка, Валянціна Таўлая, Ганны Радзько, Барыса Кіта, Мітрапаліта Філарэта, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі і многія іншыя. У 1993 годзе Ул. Мельнікаў напісаў партрэт "жалезнай ледзі". Сёння гэтая работа знаходзіцца ў Англіі ў прыватнай калекцыі баранэсы М. Тэтчар.

Партрэт - асноўны жанр, у якім працуе Мельнікаў. І найболын цяжкі. Тут асабліва ярка раскрываецца дараванне майстра. Мастак выдатна валодае ўсімі тэхнічнымі сродкамі, бліскуча передае не толькі знешняе падабенства з натурай, але і раскрывае індывідуальныя рысы чалавека. Вось што пісала "Народная газета" ў артыкуле "Псіхолаг з пэндзлем у руках": *"Ніякі фотаздымак не заменіць стары добры партрэт. Фатаграфія - нават мастацкая - толькі спыняе імгненні жыцця, а на карціне быццам бы зліваецца ўнутраны свет двух людзей: майстра, які піша партрэт, і таго чалавека, якога, "пераносячы" на палатно, спрабуе разгадаць творца..."* Гэта выстава "Партрэт на рубяжы тысячагоддзяў" адбылася ў 2004 годзе ў Менску ў старадаўнім асабняку Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Не магу не нагадаць словы заслужанага дзеяча мастацтваў, лаўрэата Дзяржаўная прэміі "За духоўнае адраджэнне" Яўгена Ждана: *"Мельнікаў - незвычайна таленавіты партрэтыст, гэта мастак-псіхолаг, мастак- аналітык. Я не ведаю ў краіне роўнага яму"*.

За 17 гадоў творчага жыцця Мельнікава адбылося болей дваццаці выстаў у Лідзе, Гародні, Наваградку, Менску, Віцебску і Полацку. Ужо гэты факт сам па сабе ўнікальны.

У 2004 годзе Ул. Мельнікаў напісаў праблемны артыкул "Бляск і галеча Лідскага замка", які быў апублікаваны ў "Гродзенскай праўдзе" і ў рэспубліканскай газеце "Культура". Гэты артыкул яшчэ раз прыцягнуў увагу грамадскасці да пытання рэстаўрацыі замка.

Што датычыць выстаў:

1994 год - удзельнік і арганізатар выставы аб'яднання "Лідзяне". Менск. Палац мастацтваў.

1999 год - удзельнік Рэспубліканскай выставы беларускага партрэта "Пад белымі крыламі". Менск. Палац мастацтваў.

2001 год — персанальная выстава. Менск. Дом дружбы і культурных сувязяў з зарубежнымі краінамі.

2002 год - персанальная выстава "Людзі маёй Беларусі". Полацк. Цэнтр нацыянальных культур і рамёстваў.

2004 год - персанальная выстава, прысвечаная памяці Уладзіміра Мулявіна. Менск. Дом дружбы.

2005 год - Рэспубліканская выстава беларускіх мастакоў "Восень -2005". Менск. Палац мастацтваў.

2007 год - удзельнік 16 Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Мастацкі вернісаж". Віцебск.

Выставы Уладзіміра Мельнікава, як правіла, праходзілі пры вялікай колькасці людзей і сродкаў масавай інфармацыі. Напрыклад, выставу ў Доме дружбы дапамагалі арганізаваць супрацоўнікі Таварыства дружбы і Беларускі Саюз кампазітараў пры непасрэдным удзеле народнага артыста Беларусі Ігара Лучанка. У кнізе водгукаў вядомы кампазітар пакінуў такія словы: *"Дзякуў за Культуру, дзякуй за Талент! З павагай Лучанок"*. Імёны ўсіх, хто пакінуў свае аўтографы ў кнізе водгукаў за гэтыя гады, пералічыць проста немагчыма. Скажу, што там ёсць першыя асобы дзяржавы, члены Парламента, розных міністэрстваў і прадстаўніцтваў, сярод іх вучоныя, пісьменнікі, паэты, студэнты, прадстаўнікі пасольстваў Англіі, Кітая, Арменіі, а таксама прадстаўнікі з турыстычных дэлегацый многіх краін свету. Сёння імя беларускага мастака Уладзіміра Мельнікава вядома знатакам



У. Мельнікаў. **Зрынуты дэман.**. *Палатно, алей. 104х66. 1993 г.*



У. Мельнікаў. **Полацк. Над вечным спакоем.**. *Палатно, алей. 74х52. 1990 г.*



У. Мельнікаў. **Партрэт народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча.**. *Палатно, алей. 84х60. 1996 г.*



У. Мельнікаў. **Партрэт народнага артыста Беларусі Анатоля Ярмоленкі.**. *Палатно, алей. 73х58. 1996 г.*

жывапісу ў ЗША, Канадзе, Германіі, Швецыі, Польшчы, Эстоніі, Расіі, Англіі і інш. Работы Мельнікава захоўваюцца ў самых прэстыжных музеях нашай краіны. Партрэты Віктара Вуячыча і Ігара Лучанка знаходзяцца



У. Мельнікаў. **Партрэт Заслужанай артысткі Беларусі Ганны Радзько.**. *Палатно, алей. 71 х 59. 1995 г.*

ў Менскім дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. Партрэт Уладзіміра Мулявіна знайшоў сваё месца ў музеі Ул. Мулявіна пры Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Восем карцін - у Гарадзенскім дзяржаўным гістарычна - археалагічным музеі, сярод іх партрэты Ніла Гілевіча, Вольгі Іпатавай, Івана Карэнды, члена-карэспандэнта Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, прафесара Андрэя Майсяёнка і інш. У Наваградскім Доме-музеі Адама Міцкевіча знаходзіцца палатно пейзажнага плану, а ў Наваградскім краязнаўчым музеі - партрэт сусветна вядомага вучонага, наваградчаніна Барыса Кіта. Партрэт Мітрапаліта Філарэта размясціўся ў пакоях Свята-Успенскага жыровіцкага манастыра. У Віцебскім абласным абласным краязнаўчым музеі, дзе сабраны экспанаты з усёй краіны і з-за мяжы, ёсць работы і нашага лідзяніна. Гэта партрэт вядомага пісьменніка і старшыні Рэспубліканскага дзіцячага фонда Уладзіміра Ліпскага і аўтапартрэт самога мастака. Ну і апошняя па часе грандыёзная работа Уладзіміра Мельнікава - партрэт кампазітара Канстанціна Горскага, ураджэнца Ліды, сябра П. Чайкоўскага, дырэктара Тыфліскай і Харкаўскай опер, аўтара першай класічнай беларускай оперы на лібрэта У. Сыракомлі "Маргер". Партрэт, на шчасце, не выпусціў з рук Лідскі гістарычна-мастацкі музей.

Асабліва памятныя мастаку выставы на Віцебшчыне. Пра іх ён марыў многія гады. Віцебск дарагі Уладзіміру, як і Полацк. Дацэнт Віцебскага мединстытута кафедры ваенна-палявой хірургіі Васіль Жалязняк выратаваў цела юнака, а студэнтка таго ж інстытута Аня Лебедзева - душу. Ён беражліва захоўвае вобразы гэтых людзей.

Сустрэлі віцябляне нашага земляка з асаблівай

гасціннасцю. На адкрыццё выставы прыехаў Уладзімір Ліпскі, сабраліся мясцовыя мастакі, выкладчыкі школ мастацтваў, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі і святарства. Трансляцыя па Віцебскім тэлебачанні цягнулася каля гадзіны.

У Мельнікава завязаліся сяброўскія адносіны з супрацоўнікамі гэтага музея. Па іх запрашэнні мастак прыняў удзел у фестывалі мастацтваў. Напісаў для музея гістарычную карціну "Віцебск у І9 стагоддзі". Пасля Віцебска выстава адбылася ў Полацку. Гэтаму гораду мастак прысвяціў тры цудоўныя палатны: "На рацэ дзяцінства", "Над вечным спакоем", "Поўня на Дзвіне". Дзве карціны сталі набыткам Цэнтральнай.Полацкай бібліятэкі, а карціна "Над вечным спакоем" заняла годнае месца ў Сафійскім саборы, дзе праходзяць Міжнародныя канцэрты і фестывалі арганнай музыкі.

У 1992 годзе пры СШ №14 г. Ліды Ул. Мельнікаў стзарыў школьнае творчае аб'яднанне "Лідзяне", у склад якога ўваходзілі вучні і іх настаўнікі.Работы выстаўлялі ўсе разам. Такое ў практыцы не існавала нідзе і ніколі. Пасля ўжо па тыпу "Лідзян" пачалі ствараццa аб'яднанні ў многіх гарадах нашай краіны. Выставы аб'яднання з вялікім поспехам праходзілі ў Лідзе, Гародні, Менску. Сябры аб'яднання прымалі ўдзел у рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах дзіцячай і юнацкай творчасці, станавіліся лаўрэатамі. Найбольшы поспех на долю "Лідзян" выпаў у 1994 годзе. У сталіцу Беларусі аб'яднанне прывезла болей за 300 твораў мастацтва. Дзейсную дапамогу аказалі намеснік Міністра культуры і друку Іван Карэнда, адказны сакратар Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Васіль Вільтоўскі, а таксама Лідская гарадская арганізацыя ТБМ (старшыня Міхась Мельнік) і іншыя грамадскія арганізацыі Ліды, гарадскія ўлады.

Аб'яднанне ўзнагароджваюць Граматай Беларускага фонду культуры. Дзесяткі дзяцей заахвочваюцца дыпломамі, падарункамі Міністэрства адукацыі і навукі. На выставе прысутнічалі вядомыя пісьменнікі, мастакі, артысты, вучоныя, члены ўраду. Уладзіміру Сяргеевічу Мельнікаву ўручаецца Грамата Беларускага фонду культуры, яго лепшая вучаніца Іна Карней атрымлівае Дыплом І ступені, а Рэспубліканскі дзіцячы фонд прысуджае ёй спецыяльную стыпендыю. Пасля восьмага класа І. Карней паспяхова здае экзамен у Менскі мастацкі ліцэй, а па заканчэнні яго паступае ў Акадэмію мастацтваў і таксама выдатна яе заканчвае. Вучні Ул. Мельнікава неаднаразова былі лаўрэатамі Міжнародных конкурсаў, многія ўжо самі сталі выкладчыкамі выяўленчага мастацтва. Неабходна адзначыць, што паспяхова вучыцца яшчэ адна выхаванка Ул. Мельнікава Наташа Сабакіна. Пасля школы яна паступіла ў Балтыйскі ўніверсітэт Міжнародных адносін у Санкт-Пецярбургу на факультэт кампутарнай графікі.

За поспехі ў педагагічнай дзейнасці Уладзімір Сяргеевіч Мельнікаў узнагароджаны Ганаровымі граматамі Гарадзенскага абласнога ўпраўлення адукацыі (1993, 2003 гг.), Ганаровай граматай аддзела культуры Лідскага райвыканкаму (2006 г.), Ганаровай граматай Лідскага гістарычна-мастацкага музея (2006 г.). Мае падзячны ліст ад былога прэм'ер-міністра Велікабрытаніі Маргарэт Тэтчар, Патрыяршага экзарха Усея Беларусі Мітрапаліта Філарэта, Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі, ад Міністэрства культуры за поспехі ў галіне выяўленчага мастацтва ўзнагароджаны каштоўным падарункам.

Ул. Мельнікаў адным з першых творчых людзей горада ўзняў пытанне пра стварэнне ў Лідзе школы мастацтваў, дзе б маглі навучацца адораныя дзеці.

Зараз, калі, дзякуючы інтэрнэту, тэхнічныя магчымасці пашырыліся, з работамі Ул. Мельнікава можна пазнаёміцца практычна ў любым пункце планеты, зайшоўшы на яго асабісты сайт www.melnikov.in

У 2008 годзе шэсць работ беларускага мастака былі прадстаўлены на адным з буйнейшых у Еўропе Міжнародных аўкцыёнаў у Лондане (Англія).

З 70-годдзем мастака павіншавалі сябры і знаёмыя, а таксама: творчы калектыў ансамбля "Сябры, супрацоўнікі музея У. Мулявіна, кампазітар Ігар Лучанок, пісьменнік У. Ліпскі, супрацоўнікі музеяў Віцебска і Полацка... А яшчэ мастак атрымаў віншаванне з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.


Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

Администрация Президента Республики Беларусь

6 октября 2008 г. № 15/4-1184

*Мельнікаву У.С.*
*вул. Катлярэўскага, д. 18,*
*корп.2, кв.25 231300, г.Ліда,*
*Гарадзенская вобласць*

*Паважаны Ўладзімір Сяргеевіч!*

*Ад усёй душы віншую Вас з 70-годдзем з дня нараджэння.*

*Сваёй шматграннай творчай, грамадскай і педагагічнай дзейнасцю Вы заваявалі велізарны аўтарытэт у нашай краіне і за мяжой.*

*Ваша партрэтная галерэя - унікальная з'ява ў сучасным выяўленчым мастацтве, стала знакам шырокага прызнання Вашых выбітных заслуг мастака і грамадзяніна.*

*Вялікую вядомасць Вам прынесла серыя гарадскіх, раённых, рэспубліканскіх і міжнародных выстаў Вашых твораў.*

*Хай і ў далейшым Ваша дзейнасць на карысць беларускага мастацтва будзе гэтак жа яркай, насычанай і плённай.*

*Жадаю Вам дужага здароўя, жыццёвага і творчага даўгалецця, невычэрпнага натхнення, бадзёрасці і аптымізму.*

*З павагай,*
*Намеснік Кіраўніка Адміністрацыі*
*Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*
*Н. Петкевіч.*

У Лідскім раённым палацы культуры прайшоў творчы вечар У. Мельнікава, дзе прысутныя побач са словамі павагі і падзякі выказалі пажаданні, каб мастак зрабіў для Ліды і Беларусі яшчэ, як мага больш. І мастак абяцае. У яго творчых планах на пачатак патрэты Вайдылы і Марыі Альгердаўны. То поспехаў яму.

**Міхась Мельнік.**

***Уладзімір Мельнікаў***

# УЗНАГАРОДА

*апавяданне*

Прачнуўся Колька рана. Доўга ляжаў, накрыўшыся з галавой, успамінаючы падзеі апошніх дзён. Нешта трывожнае паволі ўпаўзала ў яго дзіцячую душу.

У пакоі панавала дрымотная цішыня. Манатонна цікалі ходзікі. Залацісты прамень сонца, наўскасяк, прарэзаў пакой, высвяціўшы шырокае лісце фікуса. З кухні даносіўся звон посуду, і пад коўдру запаўзаў духмяны пах.

- Коля, уставай, - раздаўся з кухні голас маці, - табе ўжо пара ў школу. Не чакай, каб я цябе сцягнула. Мне сёння таксама трэба на працу крыху раней.

Колька ад нечаканасці тузануўся і глыбей залез пад коўдру. Уставаць яму рашуча не хвцелася. У яго, раптам, мільганула дураслівая думка. Ён ускочыў, перабурыў пасцель, нырнуў у далёкі канец вялікага салдацкага ложка, залез пад прасціну, згарнуўся там ваверчанём і замёр.

- Табе колькі раз трэба паўтараць! Зараз жа ўставай, інакш учыню халодны душ, - раззлавалася маці.

Колька маўчаў. Маці рашуча падышла да пасцелі і скінула коўдру. Пасцель была пустая.

- Божа, дзе ты? - войкнула маці, спалохана мацаючы рукамі. Нарэшце рукі яе намацалі маленькі кашчавы камячок, які радасна, па-шчанячу, завішчаў.

- Ліханька ты маё гарапашнае, - засмяялася маці. - Госпадзі, ну хто скажа, што ты ўжо пяцікласнік. Худзенькі, маленькі, як верабейка. І кармлю я цябе, а ўсё адны костачкі. - У яе вялікіх сініх вачах было гэтулькі цеплыні і ласкі, што Колька адчуў іх усім сваім целам. У ім раптам заварушылася нешта крыўдлівае і плаксівае. Ён ледзь не расплакаўся, але перадужаў сябе і выслізнуў на падлогу.

- Затое, бачыш, якія мускулы, - пакрыўджана вымавіў Колька, згінаючы ў локці руку.

- Добра, я пажартавала, - пагадзілася маці, хаваючы ўсмешку. - Ідзі мыйся, хлопцы, напэўна, ужо зачакаліся цябе. - І яна лёгенька падапхнула сына.

Дажоўваючы на хаду, Колька выскачыў на двор і спыніўся здзіўлены. Ярка свяціла сакавіцкае сонца. Прамяні пераліваліся, нібы хвалі, і ўсё вакол купалася і танула ў вясёлкавым ззянні. Снег амаль растаў, ад чорных праталін зямлі празрыстай імгой падымалася пара. Сцягнутыя ранішнім марозікам лужыны зіхацелі так, што было балюча вачам. Чыстае, свежае паветра ўлівалася ў лёгкія, напаўняючы цела здароўем і радасцю. Гучна гарлапанілі вераб'і, а на тэлеграфным слупе, трапечучы крыламі, заліваўся шпак.

- Ур-р-а! - Загарлапаніў Колька і, размахваючы над галавой партфелем, панёсся да ракі…

Сяброў заўважыў здалёк. Яны стаялі на высокім беразе Нёмана і глядзелі туды, дзе ў прамянях ранішняга сонца прарэзаліся абрысы горада.

- Прывітанне! - крыкнуў Колька, са шчаслівай усмешкай працягваючы кожнаму руку. Але сябрукі сустрэлі таварыша без адмысловага ажыўлення, ніхто нават не спытаў, чаму ён сёння спазніўся. Кольку гэта пакрыўдзіла.

- Лёд хутка кранецца, - сказаў Алька, як бы між іншым і, абярнуўшыся да Колькі, спытаў:

- Глядзець прыйдзеш? Толькі не спазняйся.

- А калі ён кранецца? - усё яшчэ крыўдзячыся спытаў Колька.

- Можа, заўтра… А можа, уначы.

- Вось бы як пазалетась, - вымавіў Генка, - ізноў самалёты бамбавалі б ледзяны затор…

- Бачылі вы яго! - здзівіўся Толік. - Табе-то што, тваю хату тады не затапіла. А ты ведаеш, тады паўгорада заліло па самыя дахі. Людзі ледзь не патанулі. Мой татка з салдатамі на амфібіях іх ратаваў.

- Не хлусі! - перабіў Алік, - затапіла, але не па самыя дахі. І ніхто не патануў.

- Ну і што? - не здаваўся Толік, - маглі б, калі б не мой татка…

- Што ты ўсё са сваім таткам, - пакрыўдзіўся Генка. - Не ён адзін ратаваў, зразумеў!..

- Добра. Не сварыцеся, - прымірэнча сказаў Алік. - Пайшлі ў школу.

- Можа, не пойдзем? - нечакана прапанаваў Генка. - Неахвота сёння ісці ў школу.

- Годзе балабоіць! Пайшлі! - секанўў рукой паветра Алька і рашуча закрочыў да моста.

Хлопцы зрушыліся за важаком. Ішлі моўчкі. Толькі Толік нешта бубніў сабе пад нос ды збіваў нагамі камякі бруднага снегу.

Раптам з супрацьлеглага берага ранішнюю цішыню разарваў магутны гудок. Яму адклікнуўся другі, трэці… І над горадам, раздзіраючы душу, паплыло натужлівае цягучае выццё, якое запоўніла сабой увесь абшар. Яно ледзяніла мазгі, у жылах стыла кроў, здавалася неба абарвецца на зямлю, згасне сонца і наступіць канец свету. Хлопцы з усіх ног кінуліся да моста. Да яго было ледзь больш за кіламетар, але прабеглі хлапчукі гэтую адлегласць на адным дыханні. Жудаснае выццё гналася за імі да самай будкі, што стаяла перад уваходам на мост, дзе дзяжурылі ахоўнікі. Колька са здзіўленнем заўважыў, што сёння тут незвычайна ціха і пуста.

Не відаць было і іх даўняга знаёмца Міколы. Хлопцы перавялі дух і паціху прашмыгнулі міма ахоўніка, які стаяў да іх спіной.

Шмат раз хадзіў па гэтым мосце Колька, але ўсякі раз, калі нага ступала на хісткія дошкі, яго ахопліваў незразумелы страх. Да вайны тут стаяў вялікі жалезабетонны мост, але немцы, адыходзячы, падарвалі яго, і засталіся толькі бетонныя слупы, якія ўсе чамусьці называлі быкамі. Некалькі гадоў яны сіратліва тырчалі з вады, і, каб патрапіць у цэнтр горада, трэба было шукаць лодачніка. Потым сюды прыгналі сапёраў, і яны стварылі часовае збудаванне, якое складалася з дошак і цэлай сістэмы рознакаліберных тросаў. Здалёк мост нагадваў карабель з ветразямі, што невядома як засеў папярок ракі. Нават пры слабым ветры сістэма прыходзіла ў рух: разгойдвалася ва ўсіх кірунках. Ахова прапускала людзей праз мост па адным чалавеку, выконваючы вызначаны інтэрвал. Але хлапчукі парушалі інструкцыю самым нахабным чынам. Абмінуўшы будку, яны зрываліся, як з прывязі, і несліся па хісткіх дошках з лямантам

і крыкам. Альбо ўхапіўшыся за тросы, пачыналі разгойдваць мост. Ахова ганяла хлопцаў, і не дай бог, калі некага лавілі, выходзіў з будкі, трымаючыся рукамі за мяккае месца.

Мост быў адзінай артэрыяй, якая звязвала ўскраіну з цэнтрам. У будні, а асабліва па святах, тут было ажыўлена, як на вялікім кірмашы. Прадавалася літаральна ўсё: самаробнае мыла, соль, запалкі, іголкі, гузікі і запальніцы з вінтовачных гільзаў. Гандлявалі грушамі-дзічкамі і цукеркамі хатняй вытворчасці - ірыскамі. На рубель іх выходзіла аж дзесяць штук. Гэты тавар у хлопцаў быў самым хадавым і замяняў грошы. На ірыскі абменьваліся сцізорыкі, рагаткі, афіцэрскія кукарды, пагоны і іншыя рэчы. Ірыскі цаніліся за іх незвычайныя ўласцівасці. Яе, напрыклад, нельга было з'есці адразу, як звычайны цукерак. Ірыску можна было смактаць, жаваць хоць цэлы дзень, або заціснуўшы ў зубах, расцягваць як гуму. Але часцей за ўсё ірыскі станавіліся прадметам розыгрышу пачаткоўцаў. Патрапіў на вуду і Колька. Здарылася гэта на ўроку батанікі. Неяк Колькаў сусед па парце Борка Вераб'ёў па мянушцы Сава, выцягнуў з кішэні ірыску і прапанаваў Кольку.

- Частуйся. Ты такога яшчэ не спрабаваў. Толькі спачатку пажуй, каб мяккая стала, потым заціснi зубамі і смакчы. Яна тады вельмі салодкая.

- Сардэлька заўважыць, - шэптам адказаў Колька, - я лепш потым, на перапынку…

-Не заўважыць, бяры, а то яна ў кішэні ўжо растала.

Не падазраючы падвоху, Колька ўзяў цёмна-карычневую плітку, падобную на шакалад,

І пачаў жаваць, пазіраючы на настаўніцу.

- Усё, разжаваў? - нечакана гучна спытаў Борка.

Колька матнуў галавой, здзіўлена вытарашчыўшы вочы на суседа.

- Чым вы тут займаецеся? - падышла настаўніца да хлопцаў. - Я даўно назіраю за вамі. У чым справа, Вераб'ёў?

- Гэта не я, Зоя Іванаўна, гэта ўсё ён.., - залепятаў Вераб'ёў, гледзячы на настаўніцу.

- Званароў, зараз жа ўстань і паўтары тое, што я гаварыла, - злосна тупнула ножкай Сардэлька. Мянушкай Зою Іванаўну ўзнагародзілі вучні. Гэта была маленькая, тоўсценькая жанчына з пухленькімі дзіцячымі ручкамі. Вясёлая, няўрымслівая і лагодная. Сардэлькай звалі яе не толькі дзеці, але і настаўнікі. Зоя Іванаўна ведала пра гэта, але ні на кога не сердавала.

Колька ўстаў, хацеў сказаць, што ён не вінаваты, але не змог. Рот не адкрываўся. Званароў з жахам адчуў, як зубы склеіліся. Клейкая маса мёртвай хваткай трымала сківіцу.

- Адказвай! Я чакаю! - сердавала Сардэлька. - Ці не чуеш пытання!?

Колька стаяў апусціўшы галаву, твар яго гарэў. Счырванелі нават вушы. Ён быў разгублены і злы.

- Ён… ён, - крывіўся Вераб'ёў. Ён і-рыс-ку жаваў…

- Ах, вось як! На маім уроку!.. Гэта нахабства… Я такога… Званароў - табе два і выйдзі прэч!

Клас выдыхнуўся стогнам-рогатам.

… Розная публіка збіралася на мосце. Жабракі, п'янтосы, цыганы, бязрукія і бязногія салдаты. Колька цураўся гэтых людзей. Яны здаваліся яму з іншага саету, чамусьці было перад імі ніякавата і сорамна, таму абыходзіў ляжаўшыя на зямлі ірваныя шапкі і зашмальцаваныя картузы. І ні разу не кінуў манету. Не, не грошай было шкада, не мог прымусіць сябе падаць міласціну даросламу чалавеку, які глядзеў на яго знізу ўверх. Але выпадак усё ж звёў яго з чалавекам на мосце.

Неяк у канцы лета сярод усяго гэтага прымільгаўшагася litanashorстага кагалу з'явіўся новы інвалід. Салдат гадоў дваццаці трох без абедзвюх ног. Бялявы, блакітнавокі, з прыемнай усмешкай на твары. Хлопцы адразу заўважылі яго. Ён прыкметна адрозніваўся ад астатніх інвалідаў. Быў заўсёды выгалены, прычэсаны, старэнькая гімнасцёрка напрасаваная, а на грудзях пазвоньвалі медалі. Прыязджаў салдат на драўлянай калясцы з шарыка-падшыпнікамі замест колаў. Калі ён ехаў, упіраючыся драўлянымі калодкамі ў зямлю, каляска выдавала такі грукат, нібы па бруку рухалася калона танкаў.

Садзіўся салдат у баку ад усіх, гандляваў іголкамі і запальніцамі. Часам граў на трохрадцы. Хлопцы ў такія дні дадому не спяшаліся, слухалі франтавыя песні. Голас у выканаўца быў моцны і меладычны. Людзі спыняліся, слухалі, хтосьці кідаў скамечаны рубель, іншыя адыходзілі, выціраючы вочы. Хлопцы дбайна сачылі за тым, хто колькі даваў салдату, і калі ім здавалася мала, абураліся. Салдат хлопцаў таксама запрыкмеціў і неяк раз падклікаў да сабе. Дастаў з кішэні грошы, папрасіў купіць папяросаў. Ад грошай хлопцы рашуча адмовіліся, але просьбу выканалі з радасцю.

- Дзякуй, хлопчыкі, - усміхнуўся салдат, распячатваючы пачак. - Ну, што, браткі-славяне, запалім?

Хлопцы закруцілі галовамі. Салдат засмяяўся.

- Гэта я так… Ведаю, што не паліце. Благая звычка, а мне без гэтага ніяк нельга. Дзякуй за выручку. А гэта ад мяне на памяць, сам рабіў, не падвядзе, - і ён працягнуў Кольку, які стаяў бліжэй усіх, сапраўдную франтавую запальніцу. У таго аж дух захапіла.

- Цябе як клікаць, салдат.

- Колям, - ледзь чутно адказаў Званароў, не ведаючы браць або не браць падарунак.

- Выходзіць, мы з табой цёзкі, - узрадаваўся салдат. - Гэта добра… Ды ты бяры, не губляйся.. Бацькі ва ўсіх жывыя?

- У мяне ёсць, у іх няма, - за ўсіх адказаў Толік. - У Колькі ёсць, але не родны.

- Айчым, значыць… Ну нічога, браткі-славяне, не тужыце. Жывыя будзем - не памром. Салдат узяў гармонік, нахіліўся вухам да мяхоў, потым ускінуў галаву і па-блазенску забіяцка крыкнуў: - А ну, браткі, давай, - і рвануў мяхі…

Так вось пачалося гэтае незвычайнае сяброўства хлопцаў з былым палкавым выведнікам, кавалерам шматлікіх франтавых узнагарод. З той пары хлопцы сустракаліся з Міколам амаль кожны дзень. Дзяліліся радасцямі і няўдачамі. Але сёння Мікола чамусьці не прыехаў на сваёй таратайцы, як ён жартам зваў каляску.

- Можа, захварэў? - выказаў здагадку Алік, калі хлопцы амаль прайшлі мост.

- Чаго ён будзе хварэць? - здзівіўся Генка. - Ён жа салдат, а салдаты загартаваныя. І шынель у яго… Ён, ведаеш, які цёплы…

- Ты яго насіў ці што? - агрызнуўся Алька - Пасядзеў б сам на зямлі, тады і гаварыў.

- Давайце яму дапаможам, - сказаў Колька і

